# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае*
*свайго мінулага,*
*не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

**№ 1 ( 41 )** **СТУДЗЕНЬ - САКАВІК** **2008 г.**


# ЛІДЗЕ-685





***Карусь Каганец***, **беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч, працаваў у Лідзе на будаўніцтве чыгункі. Напісаў тут першы беларускі буквар новага часу "Беларускі лемантар" (выдадзены ў 1906 г.)**

Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні



# Лідскі Летапісец



Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1 ( 41 ) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2008 г.

## У НУМАРЫ:



*На першай старонцы выкладкі на шчыце фотакарціна Ігара Пешахонава.*



**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас:**
**Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1342 ад 27.03.2007 г.**

ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ
**Валеры Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

РЭДАКТАР
**Станіслаў Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231293, Лідскі р-н,
в. Даліна
E-mail: naszaslowa@tut.by

**Наклад 350 асобнікаў**
**11 друк. аркушаў**

Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.
Замова № 12
Часопіс падпісаны да друку 30. 03. 2008 г.

Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес.- 1740 руб.
індывід. 6 мес.- 3480 руб.
Кошт у розніцу: вольны

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

# КРОНІКА ЛІДЫ

***(Здымкі Л. Лапшыной, С. Судніка)***





***Узнагароджанне футбалістаў ФК "Ліда" ў Лідскім райвыканкаме***

У 2007 годзе футбольны клуб "Ліда" вярнуўся ў 1-ю лігу чэмпіяната Беларусі. Па выніках чэмпіянату ФК "Ліда" заняў 2-е месца.



***Валеры Радзевіч***



***Сяргей Яновіч***

Спарцменам Лідчыны 2007 года прызнаны **Валеры Радзевіч**, які заваяваў бронзу на чэмпіянаце Еўропы па акадэмічным веславанні. Трэнерам 2007 года прызнаны **Сяргей Яновіч**, першы трэнер В. Радзевіча.

У 2007 годзе Лідская цэнтральная раённая бібліятэка імя Янкі Купалы і Дзітвянская сельская бібліятэка ў серыі "Славутыя землякі" выдалі краязнаўчыя бібліядайджэсты **"Ігнат Дамейка"** і **"Хрысціна Лялько"**.










У 2007 годзе ў Лідзе выйшла кніга **“Dla wspolnego dobra”** прысвечаная 15-годдзю ГА “Таварыства польскай культуры на Лідчыне”.
Укладальнік кнігі Аляксандр Колышка.
*Кніга выдадзена на польскай мове.*




У 2007 годзе выйшла кніга Ірэны Стасевіч-Ясюковай **“Станіслаў Роек (1908-1996)”**. Кніга прысвечана жыццю і душпастарскай дзейнасці пробашча Лідскага фарнага касцёла ксендза Станіслава Роека.
*Кніга выдадзена на польскай і беларускай мовах.*




У 2007 годзе Лідскі райвыканкам выдаў кнігу **“III-я региональная презентация-выставка “ЛИДА-РЕГИОН” в документах и материалах”**




*Выступаюць "Шкляры"*

20 снежня 2007 г. рашэннем калегіі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь народнаму вакальна-інструментальнаму ансамблю "Шкляры" Палаца культуры ААТ "Шклозавод "Нёман" прысвоена званне "Заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь"





ГАНАРОВАЯ ГРАМАТА

За лепшую публікацыю ў часопісе "Маладосць" у намінацыі "Проза" за 2007 год і плённую дзейнасць у развіцці беларускай літаратуры і мастацтва **лідскі пісьменнік Алесь Хітрун** узнагароджаны ганаровай граматай Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва"



*Самая эфектыўная навучальная ўстанова горада - гімназія № 1*

У студзені 2008 года прызёрамі абласных прадметных алімпіядаў сталі 58 лідзян. Трэці год падрад Лідскі раён па гэтаму паказчыку лепшы ў вобласці.

***Лепшыя школы:***

*гімназія № 1 - 25 прызавых месцаў;*
*СШ № 16 - 9 прызавых месцаў;*
*ліцэй № 1 - 4 прызавыя месцы;*
*СШ № 11 - 4 прызавыя месцы.*




У пачатку 2008 года Лідскі райвыканкам выдаў праспект “Лідчына шматнацыянальная”





*«W-Z Orchestra» Змітра Вайцюшкевіча выступае ў Страсбургу*

10–13 сакавіка ў Страсбургу ў рамках чарговай сесіі Еўрапарламента прайшлі мерапрыемствы ў гонар 90-годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі пад назовам «Беларускі тыдзень». Праграма ўключала паказ фільма рэжысёра Юр’я Хашчавацкага «Плошча», выставы мастакоў Алеся Марачкіна і Рыгора Сітніцы, фатографаў Ігара Крашэўскага і Адама Тухлінскага, выступ гурта «W-Z Orkestra» **Змітра Вайцюшкевіча** (родам з г. Бярозаўкі Лідскага раёна).

У сакавіку 2008 г. у фінале раённанага этапу 5-га абласнога конкурсу “Галасы гісторыі”
1-е месца заняла Дакудаўская СШ,
2-е -- СШ № 4,
3-е -- СШ № 1.



*Каманда Дакудаўскай СШ*

# Лідчына ў 2007 годзе

## Выступ старшыні Лідскага райвыканкаму А.П. Худыка на ўрачыстым сходзе 29.02.2008 г. па падвядзенні вынікаў працы Лідскага раёна за 2007 г.



Паважаныя ўдзельнікі сходу!
Дарагія ветэраны працы!

Сёння мы традыцыйна, падвядзём вынікі працы за год, адзначым узнагародамі працу лепшых калектываў і працаўнікоў раёна, а таксама азначым шляхі далейшага развіцця .

Лідчына мае высокі эканамічны і духоўны патэнцыял, і найпершая наша задача складаецца ў тым, каб, умацаваўшы яго, выкарыстаць нашы дасягненні на карысць жыхароў раёна.

За апошнія 4 гады дасягнута адпаведная стабільнасць працы рэальнага сектара экономікі і сацыяльнай сферы. У аб’яднаным раёне забяспечана цеснае ўзаемадзеянне прамысловых, перапрацоўчых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Праведзеная рэарганізацыя апошніх, аптымізаваныя ўстановы сацыяльнай сферы. Вынік зробленага - рост прамысловай вытворчасці ў 1,6 раза, экспарту - у 2 разы. У эканоміку раёна інвеставана каля 740 мільярдаў рублёў.

Ажыццявіць усе планы магчыма толькі пры ўмове стабільнай працы рэальнага сектара эканомікі, таму нашы галоўныя статэгічныя прыярытэты ляжаць у эканамічнай плоскасці.

Мы сур’ёзна працуем над павышэннем канкурэнтаздольнасці галін экономікі на аснове тэхналагічнага пераўзбраення вытворчасцяў, укараняем навукаёмістыя рэсурсазберагальныя тэхналогіі.

Выконваючы Дырэктыву № 3 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнкі “Эканомія і ашчаднасць - галоўныя фактары эканамічнай бяспекі”, выканкам працаваў над скарачэннем затратнага механізму. Гэтай працай мы займаліся ўжо не адзін год, і паказчык па энергазахаванні ў нас штогод складаў: 2005 г. - (-17,8%), 2006 г. - (-23,0%), 2007 г. - (-17,0%).

У адпаведнасці з даручэннем Прэм’ер-міністра Рэспублікі Беларусь Сідорскага С.С. у 2007 годзе Лідскаму раёну прысвоены статус дэманстрацыйнай зоны высокай энергаэфектыўнасці. Прынятыя сур’ёзныя арганізацыйныя меры па эканоміі і рацыянальным выкарыстанні паліўна-энергетычных рэсурсаў.

У 2007 годзе спажыванне раёнам энерганосьбітаў скарацілася на 6,8% або амаль на 30 тыс. тон умоўнага паліва ў параўнанні з 2006 годам. Эканомія 5,0 млрд. рублёў, што складае паўмесячны аб’ём спажывання раёнам энергарэсурсаў.

На працягу трох гадоў раён тройчы наведваў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнка па такіх значных пытаннях як выкананне Праграмы адраджэння сяла, сельгасмашынабудаванне, работы горадаўтваральных прадпрыемстваў, установ аховы здароўя. Дзякуючы гэтаму ў раёне рэалізаваныя шматлікія праекты.

Распрацавана праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця горада Бярозаўка, мерапрыемствы якой уключаныя ў дзяржаўную комплексную праграму развіцця рэгіёнаў, малых і сярэдніх гарадскіх паселішчаў на 2007-2010 гады.

Пры садзейнічанні аблвыканкаму і асабіста губернатара Ўладзіміра Ягоравіча падпісаны Ўказы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь “Аб мерах дзяржаўнай падтрымкі Адкрытага акцыянернага таварыства “Шклозавод “Нёман”. Адпаведныя дзяржаўныя прэферэнцыі атрымлівалі і іншыя прадпрыемствы.

Увесь комплекс мер дазволіў з шасці даведзеных прамысловай галіне паказчыкаў на 2007 год выканаць пяць. Дапушчана абгрунтаванае перавышэнне імпарту.

Выраблена прадукцыі ў фактычных цэнах на суму 979 млрд. рублёў. Тэмп росту ў супастаўных цэнах - 110,7% пры прагнозе 110,5%. Атрымана 88,4 млрд. рублёў прыбытку ад рэалізацыі прадукцыі, чысты прыбытак склаў 43,8 млрд. рублёў, рэнтабельнасць рэалізаванай прадукцыі - 10,2%. Выканана заданне па росце заработнай платы.

З 38 прадпрыемстваў 32, або 84,2% перавысілі

ўзровень мінулага года.

Паказчыкі выкананы за кошт:

- росту прадукцыйнасці працы на 11% пры захаванні колькасці працоўных у прамысловым комплексе;

- павелічэння загрузкі вытворчых магутнасцяў на 6%;

- засваення новых відаў прадукцыі, якія дасягнулі 20% у аб'ёмах вытворчасці;

- паніжэння на 5% спажывання паліўна-энергетычных рэсурсаў. Энергаёмістасць прамысловай прадукцыі скарацілася на 14,4%.

Сертыфікавана 81% усёй выпрацаванай прадукцыі, што на 11% вышэй за сярэднеабласны ўзровень.

Па стане на 1 студзеня бягучага года 22 прадпрыемствы раёна сертыфікавалі сваю прадукцыю на адпаведнасць міжнародным і еўрапейскім стандартам.

Летась сталі лаўрэатамі Прэміі Ўраду Рэспублікі Беларусь за дасягненні ў вобласці якасці "Мінойтаўскі рамонтны завод" (дырэктар Дзікевіч Антон Паўлавіч), "Лідахлебапрадукт" (дырэктар Яськоў Валянцін Іванавіч), сумеснае прадпрыемства "Бел-Пласт Інтэрнэшнл" (дырэктар Вялікін Анатоль Леанідавіч).

Уганараваны прэміяй Гарадзенскага аблвыканкаму за дасягненні ў вобласці якасці "Мінойтаўскі рамонтны завод" (дырэктар Дзікевіч Антон Паўлавіч). Аб якасці плугоў, якія выпускаюцца прадпрыемствам, гавораць таксама і іншыя ўзнагароды, атрыманыя ў 2007 годзе: дыплом на выставе "Агрaпрам-2007" у г. Варонежы, дыплом і медаль за распрацоўку і ўкараненне новых узораў тэхнікі і абсталявання на Міжнароднай спецыялізаванай выставе "Белагра-2007", залаты медаль за ўкараненне ў сельскагаспадарчую вытворчасць плуга паўнавеснага на выставе-дэманстрацыі "Дзень Расійскага поля".

Летась прамысловымі арганізацыямі выраблена новай прадукцыі на суму 192 млрд. рублёў.

Прыкметна праца па засваенні і вытворчасці новых відаў прадукцыі "Лідсельмаша", заводаў "Ізатрон", "Каскада", "Лідабудматэрыялаў".

За два гады працы на пасадзе генеральнага дырэктара "Лідсельмаша" Юры Эдуардавіч Вашкевіч здолеў вызначыць дакладны кірунак развіцця калектыву. Засвоена вытворчасць зернесушыльных комплексаў, касілак дыскавых па сусветных тэхналогіях, машын для працы ў лясной і камунальнай гаспадарках. У канцы бягучага года "Лідсельмаш" плануе запусціць "завод у заводзе" па выпуску радыятараў. Гэтая прадукцыя можа прынесці прадпрыемству дадаткова 41 мільярд рублёў у год.

Актыўна працуюць нашы прадпрыемствы на знешнім рынку. У 2006 годзе ўпершыню была перавышана 100 мільённая мяжа па экспарце ў даляравым выразе. Ужо ў 2007 годзе сума знешнегандлёвага абароту дасягнула 287 млн. даляраў або 132,4%. Атрымана дадатнае знешнегандлёвае сальда - 3,7 млн. даляраў. Экспартавана прадукцыі на суму 145,5 млн. даляраў або 123,7% да ўзроўню 2006 года. Перавыканана прагнознае заданне на 9,2 адсоткавых пунктаў.

Пастаўкі тавараў у краіны далёкага замежжа ўзраслі на 25,3%, у краіны СНД - на 23,2%, у тым ліку ў Расію на 14,6%.

Нарасцілі аб'ём экспарту: "Лакафарба", малочна-кансервавы камбінат, шклозавод "Нёман", "Белтэкс-Оптык", ліцейна-механічны завод. Расце ўдзельная вага ў экспарце раёна "Лідсельмаша" і "Лідаграпраммаша".

Пацвярджаюць свой экспартны патэнцыял прадпрыемствы, удзельнічаючы ў рэспубліканскіх і міжнародных выставах.

"Лідсельмаш", "Мінойтаўскі рэмзавод" атрымалі дыпломы за ўкараненне новых тэхналогій і якасць прадукцыі на выставе "Залатая восень " у Маскве.

"Лідахлебапрадукт" - дыплом на прафесійным конкурсе "Брэнд года".

"Лакафарба" - лаўрэат конкурсу "Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь на рынку Расійскай Федэрацыі".

Прадукцыя мясакамбіната прызнаная лепшай на выставах "Высокія тэхналогіі, інавацыі, інвестыцыі" у Санкт-Пецярбурзе і "Беларуская якасць" у Маскве.

Шклозавод "Нёман" узнагароджаны прызам міжнароднай канвенцыі па якасці ў Маскве.

Сухое малако і вяршкі малочна-кансервавага камбіната адзначаны залатымі і срэбнымі медалямі на выставах у Санкт-Пецярбурзе і Маскве.

Прадукцыя "Лідскае піва" атрымала залаты медаль на выставах "Белэкспа", "Сочы-2007".

"Бел-Пласт Інтэрнэшнл" з'яўляецца пераможцам рэспубліканскіх і міжнародных выстаў "Лепшы экспарцёр года", "Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь", "Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь на рынку Расійскай Федэрацыі", "Лепшы прадпрымальнік года", "Залаты арэх", "Расупакоўка" і "Бытхімэкспа" у Маскве, "Інтэрбытхім", "Свет упакоўкі".

Комплексны стэнд "Прамысловы комплекс Лідскага рэгіёна" экспанаваўся на выставах у Латвіі (Рыга), у Азербайджане (Баку), у Літве (Вільня).

Штогод у раёне праводзяцца выставы "Ліда-рэгіён". У 2007 годзе ў ёй прынялі ўдзел больш за 60 арганізацый раёна розных форм уласнасці. Наведалі выставу прадстаўнікі каля 20-ці краін. Праведзены міжнародны эканамічны форум на тэму "Устойлівае эканамічнае развіццё асобных тэрыторый: новыя магчымасці для бізнэсу і інвестыцый".

У прамысловасці раёна вядзецца актыўнае тэхнічнае пераўзбраенне. Сума інвестыцый у галіну за 2004-2007 гады склала больш за 110,0 млн. дол. ЗША і ўзрасла амаль у 4 разы. Аб'ём інвестыцый у 2007 годзе склаў 115,1 млрд. рублёў і павялічыўся ў 2,0 разы ў параўнанні з 2006 годам.

У адпаведнасці з дзяржаўнымі праграмамі праводзіцца рэканструкцыя і мадэрнізацыя вытворчасці шклозавода "Нёман". Рэалізуюцца праекты па тэхнічным пераўзбраенні на "Лакафарбе", малочна-кансервавым камбінаце, абутковай фабрыцы, мясакамбінаце, доследным заводзе "Нёман".

На "Лідабудматэрыялах" у 2007 годзе наладжана вытворчасць драўняных паліўных гранул (пелетаў), з адыходаў дрэваапрацоўчай вытворчасці.

Працягваюць тэхпераўзбраенне "Лідскае піва",

“Лідахлебапрадукт” і іншыя.

У раёне не першы год вядзецца праца па стварэнні новых і мадэрнізацыі дзейных вытворчасцяў на аснове ўкаранення інавацыйных тэхналогій. У гэтым пытанні мы актыўна супрацоўнічаем з Акадэміяй Навук. У розныя дзяржаўныя праграмы інавацыйнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2007-2010 гады ўключаныя малочна-кансервавы камбінат, заводы “Оптык” і “Ізатрон”, ліцейна-механічны завод, “Лакафарба”.

Мінулы год адзначаны шэрагам зрухаў у рашэнні праблем занятасці насельніцтва.

Створаныя новыя працоўныя месцы, аказвалася фінансавая дапамога ў выглядзе субсідый для арганізацыі прадпрымальніцкай дзейнасці.

Узровень беспрацоўя скараціўся з 1,42% да 1,23%.

У раёне развіваюцца прадпрыемствы з замежным капіталам.

У 2007 годзе на абутковай фабрыцы пачаў працаваць філіял вядомага літоўскага прадпрыемства па пашыву адзення для спорту і адпачынку “Аўдзімас”. Арганізавана вытворчасць па пашыву жаночай вопраткі “Канчанін і К”, адкрыта літоўскае прадпрыемства “Берыматэкс”, замежнае прыватнае вытворчае ўнітарнае прадпрыемства “Лідскі керамзітавы завод”. Беларуска-літоўскае прадпрыемства “Хелія” арганізавала вытворчасць па перапрацоўцы драўніны, паспяхова працуе беларуска-літоўскае прадпрыемства “Фудпак”.

Важным статэгічным кірункам застаецца развіццё аграпрамысловага комплексу і сацыяльнае адраджэнне сяла ў рамках Дзяржаўнай праграмы, разлічанай на 2005-2010 гады.

За 2007 год 13-цю сельскагаспадарчымі арганізацыямі раёна, у якіх працуе больш за 4 тысячы чалавек, выраблена валавой прадукцыі на суму больш за 71 мільярд рублёў, тэмп росту да 2006 года склаў 106,2%. Вытворчасць прадукцыі раслінаводства павялічылася на 13,4%, прадукцыі жывёлагадоўлі на 2,1%.

Найбольшы рост валавой прадукцыі атрыманы сельгаспрадпрыемствамі: “Крупаўскае”, “Лідскі”, “Пескаўцы”.

Асаблівая ўвага надаецца ўмацаванню і развіццю вытворчага патэнцыялу аграпрамысловага комплексу. Інвеставана ў сельскагаспадарчыя прад-прыемствы 24 мільярды рублёў.

У галіны жывёлагадоўлі вядзецца стварэнне малочных ферм новага пакалення.

У 2007 годзе валавая вытворчасць малака па раёне склала больш за сорак пяць тысяч тон. Ад адной каровы надоена звыш 4 тысяч кг малака, што на 59 кг больш чым у 2006 годзе.

Слоў падзякі заслугоўваюць загадчыкі і жывёлаводы малочна-таварных ферм: “Філіпкі” сельгаспрадпрыемства “Бердаўка-агра”, загадчыца Дагаева Тацяна Мікалаеўна, дзе надоена ад 1 каровы 5593 кг малака, што на 592 кг больш, чым у леташні перыяд. Ферма “Крыніцы” эксперыментальнай базы “Ніва” - 5755 кг, - загадчык Мікутайцiс Станіслаў Мар’янавіч. Ферма “Паперня” СКК “Світанак-Мыто” - 5072 кг, загадчыца Палейчык Яніна Аляксандраўна. Ферма “Новае стагоддзе” сельгаспрадпрыемства “Мажэйкава” - 7321 кг, загадчыца Сяргеева Святлана Іванаўна.

Сёння хачу адзначыць лепшых даярак: Горбаль Алену Феліксаўну - ферма “Мігуны” , якая надаіла 6140 кг малака ад адной каровы, Баравік Яніну Браніславаўну - ферма “Янцавічы” Лідскай птушкафабрыкі - 5846 кг, Будзевіч Яніну Антонаўну і Хартановіч Святлану Іванаўну - ферма “Роўбы” Мажэйкава - 5444 кг.

Высокія паказчыкі дасягнуты на фермах па дагадоўванні і адкорму буйной рагатай жывёлы: на ферме “Тарнова” сельгаспрадпрыемства “Мажэйкава”, сярэднесутачная прывага на дагадоўванні маладняку склала 800 грамаў - загадчыца Буйко Марыя Station-славаўна. На ферме “Мыто” сельгаспрадпрыемства “Світанак-Мыто” - 744 грамы - загадчыца Рачко Таіса Іванаўна. Ферма “Гуды” сельгаспрадпрыемства “Лідскі” - сярэднесутачная прывага 646 грамаў, загадчык Багдан Франц Адамавіч.

Раёнам надаецца ўвага вытворчасці збожжа. Збожжавыя і зернебабовыя займалі каля 23,5 тысяч гектараў або 55 адсоткаў у структуры ворыва. Пад ураджай 2008 года пашыраны пасяўныя плошчы азімых пшаніцы і трыцікале, як больш стабільных па ўраджайнасці.

Усе збожжавыя і зернебабовыя культуры пасеяныя насеннем раяніраваных перспектыўных гатункаў, у тым ліку насення вышэйшых і першай рэпрадукцыі высеяна каля 60 %.

Забяспечылі выкананне дзяржаўнай замовы па збожжы 5 гаспадарак: “Крупаўскае”, “Лідскі”, “Світанак-Мыто”, “Пескаўцы”, “Ніва”.

Усе сельскагаспадарчыя арганізацыі рэнтабельныя, узраслі іх грашовыя прыбыткі. Атрымана 5,7 мільярдаў рублёў чыстага прыбытку. Гэтаму спрыяла дзяржаўная падтрымка і прыманыя меры па тэхнічным пераабсталяванні і мадэрнізацыі.

Набыта 60 адзінак сельскагаспадарчай тэхнікі.

Паводле Дзяржаўнай праграмы адраджэння і развіцця вёскі на 2005-2010 гады, у раёне пабудавана 75 кватэр. Выкананы работы па ўладкаванні аграгарадкоў: Дворышча, Ёдкі, Лайкоўшчына, Ганчары на суму 18,5 мільярдаў рублёў.

Аптымізуецца сацыяльная інфраструктура на вёсцы. У трох населеных пунктах установы адукацыі рэарганізаваныя ў вучэбна-педагагічныя комплексы “дзіцячы сад - сярэдняя школа”, дзіцячы сад у вёсцы Голдаве рэарганізаваны ў сямейны дзіцячы сад. Для падвозу вучняў у сельскай мясцовасці маецца 12 аўтобусаў, у тым ліку 4 набыта ў 2007 годзе.

У аграгарадках Лідчыны 4 фельчарска-акушэрскія пункты пераабсталяваны і прыведзены ў адпаведнасць з санітарна-тэхнічнымі і супрацьпажарнымі нормамі.

Кампутарызавана 8 сельскіх бібліятэк. Адчыненыя новыя класы акардэона, баяна ў аграгарадку Дворышча.

Новы статус культурна-адпачынкавага цэнтра атрымаў Мінойтаўскі цэнтральны Дом культуры, бібліятэка-цэнтр сямейнага вольнага часу - Ваверская сельская бібліятэка.

У аграгарадках створана 5 сацыяльных пунктаў абслугоўвання насельніцтва. 15 дамоў сацыяльных паслуг адчынена ў маланаселеных і аддаленых вёсках, куды па графіку ажыццяўляецца выезд адмыслоўцаў для аказання дапамогі грамадзянам, якія жывуць у нястачы, і сем'ям.

Выконваюцца работы па будаўніцтве і рэканструкцыі аб'ектаў фізічнай культуры і спорту. У 2007 годзе адбылася спартакіяда сярод сельскіх жыхароў па 10 відах спорту. У ёй прынялі ўдзел 12 каманд.

Жыхары раёна годнаацэньваюць высілкі ўлады, якая імкнецца наблізіць якасць жыцця сельскага насельніцтва да гарадскіх умоў.

За 2007 год у раёне на аб'ектах вытворчага і невытворчага прызначэння асвоена 290 млрд. рублёў, што ў паўтара разы больш, чым летась.

Забеспячэнне насельніцтва жыллём у 2007 годзе заставалася адным з ключавых прыярытэтаў сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны.

У 2007 году пабудавана 354 кватэры агульным пляцам 56390 м2. Уведзеныя 4 жыллёва-будаўнічыя кааператывы і сацыяльны дом.

Аб'ём інвестыцый у будаўнічы комплекс склаў каля 70 млрд. рублёў. Тэмп росту 139%. Прадпрыемствамі на абнаўленне асноўных фондаў выкарыстанае больш за 6 мільярдаў рублёў.

Аб'ём падрадных прац, выкананых уласнымі сіламі будаўнічымі арганізацыямі, склаў 132,2 млрд. рублёў, гэта 122% у супастаўных коштах да 2006 года. Уведзеныя ў эксплуатацыю 2 аб'екта вытворчага прызначэння на "Ліпласце" і "Лакафарбе". Высокія тэмпы будаўніцтва робяць прафесію будаўніка асабліва запатрабаванай. І хоць падрыхтоўку такіх адмыслоўцаў пачалі і наш каледж, а таксама ліцэй, арганізацыі маюць вострую патрэбнасць у дасведчаных кваліфікаваных кадрах.

Сярод тых, каго ўшаноўваем сёння, дарожна-будаўнічае кіраванне №24 дырэктар Шырокі Генрых Эдвардавіч, Іваноўскі Віктар Рышардавіч - муляр Будкомплекса, Глінскі Вячаслаў Яўгенавіч - прараб Белсантэхмантажа, Перавера Ўладзімір Іванавіч - кіроўца аўтамабіля дарожна-будаўнічай калоны №72 і многія-многія іншыя.

Жыллёва-камунальная служба ў 2007 годзе спрацавала бясстратна. План па прыбытках перавыкананы і склаў 131,5% да ўзроўню 2006 года. Атрымана прыбытку ад рэалізацыі прадукцыі, работ, паслуг на суму 2,9 млрд. рублёў. Рэнтабельнасць склала 5,8%. Ажыццёўлена добраўпарадкаванне тэрыторый на суму каля мільярда рублёў. У жыллёва-камунальнай гаспадарцы працуе нямала людзей, якія з усёй адказнасцю ставяцца да сваёй працы, робячы наша жыццё ўтульней і камфортней. Сярод тых, хто прысутнічае ў гэтай зале: Зварко Алена Фабіянаўна, начальнік цэха санітарнай ачысткі дарожна-эксплуатацыйнай вытворчасці, Янцэвіч Часлаў Станіслававіч, слесар-рамонтнік вадаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі, Бажэнаў Вячаслаў Сяргеевіч, начальнік аддзела бягучага і капітальнага рамонту жылфонду, Грос Віктар Віктаравіч, машыніст-кранаўшчык вытворчасці камунальных кацельняў і цеплавых сетак.

Вамі і высілкамі вашых калегаў раён падтрымлівае імідж чыстага і дагледжанага рэгіёна. Дзякуй вам за гэта.

Нямала зроблена калектывамі раённых вузлоў электрычнай і паштовай сувязі. Забяспечваюцца сацыяльныя стандарты ў гэтай сферы.

Вытворчая дзейнасць працоўных калектываў напроста звязаная з працай транспартнікаў. Рэнтабельнасць у галіны вырасла з 7,5% да 11,5%.

Грузавымі транспартнымі арганізацыямі перавезена 525,4 тысяч тон грузаў.

Забяспечана выкананне задання па перавозцы пасажыраў транспартам агульнага карыстання аўтапаркам №2. За год перавезена больш за 29 млн пасажыраў або 101% да мінулага году. На гарадскіх маршрутах працуе 40 аўтобусаў у суткі. За 2007 год набыта 11 новых пасажырскіх аўтобусаў.

Карыстаюцца попытам у насельніцтва і экспрэсныя маршруты, якія абслугоўваюцца перавозчыкамі недзяржаўнай формы ўласнасці. Працуе 10 гарадскіх, 11 прыгарадных і 3 міжгародных маршруты.

Усе цэнтральныя сядзібы гаспадарак і цэнтры сельскіх Саветаў ахоплены пасажырскім транспартам з абавязковым выкананнем рэйсаў аўтобусаў не меней 4 дзён у тыдзень і па 2 абарачэнні ў дзень.

Паспяхова працавалі 4 калектывы чыгуначнага транспарту.

Дзякуючы своечасоваму і якаснаму правядзенню ўсіх відаў рамонтных работ, Лідская дыстанцыя каляі забяспечвае бяспеку руху цягнікоў.

У 2007 годдзе лакаматыўнае дэпо (начальнік Альшэўскі Сяргей Аляксандравіч) стала Лаўрэатам прэміі Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта за дасягненне высокіх вынікаў у забеспячэнні якасці выраблянай прадукцыі і ўкараненні высокаэфектыўных метадаў кіравання якасцю.

Пры ўсёй важнасці і выключнай неабходнасці кожнай галіны эканомікі, гандаль займае адмысловае месца. Яна вызначае стан эканамічнага жыцця грамадства.

У раёне працуе 521 крама, 154 аб'екты грамадскага харчавання, 4 гандлёвыя цэнтры, 7 рынкаў.

Аб'ём рознічнага таваразвароту праз усе каналы рэалізацыі за 2007 год у фактычных цэнах склаў 515,2 млрд. рублёў, тэмп росту 113,4% пры прагнозе на год 110,0%. Удзельная вага рэалізацыі тавараў айчыннай вытворчасці ў агульным аб'ёме таваразвароту займае 84,6%.

За 2007 год праведзена 62 выставы-продажы, 9 кірмашоў, 8 распродажаў тавараў па паніжаных цэнах,

дзе прададзена тавараў на суму звыш 850 млн. рублёў.

На развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы прадпрыемствамі гандлю і грамадскага харчавання раёна накіравана каля 8 млрд. рублёў.

202 суб'екты гаспадарання і 184 індывідуальныя прадпрымальнікі аказваюць бытавыя паслугі насельніцтву раёна. За 2007 год аказана бытавых паслуг на 18,7 млрд. рублёў, тэмп росту ў супастаўных коштах склаў 130%.

За 2007 год у раёне праз усе каналы рэалізацыі аказана платных паслуг на суму 96,2 млрд. рублёў, тэмп росту 108,0% пры даведзеным заданні 106,0%.

Па выніках працы галін эканомікі раёна атрымана 64,3 млрд. рублёў чыстага прыбытку, што на 16,2 працэнта больш, чым у 2006 годзе. Хачу заўважыць, што за 4 гады чысты прыбытак павялічыўся ў 39 раз. У выніку неаднаразова ўдакладняўся бюджэт раёна. У 2005 г. - на 6,8 млрд. рублёў, у 2006 г.- на 7,1 млрд. рублёў, у 2007 г.- на 13,8 млрд. рублёў.

Гэтыя сродкі накіроўваюцца ў тым ліку і на аказанне адраснай сацыяльнай дапамогі, ахову мацярынства і дзяцінства, адукацыю, фізкультуру і спорт, жыллёвае будаўніцтва.

Аказаная матэрыяльная дапамога амаль 3,5 тысячам пенсіянераў на суму каля 160 млн. рублёў.

Асобным кірункам сацыяльнай палітыкі выступае адукацыя, як важны фактар рашэння шэрагу задач сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі.

У 2007 годзе пашырэла сетка дашкольных устаноў. Зараз у раёне налічаецца 6 вучэбна-педагагічных комплексаў, 3 дашкольныя цэнтры развіцця дзіцяці, 7 санаторных дашкольных устаноў, 2 адмысловыя дзіцячыя ўстановы.

У 2007 годзе 82% навучэнцаў былі ахопленыя рознымі відамі дыферэнцыяванага навучання. Адкрыта 39 гімназічных і ліцэйскіх, 206 профільных класаў.

Паступілі ў ВНУ 51% выпускнікоў (у 2006 годзе - 47%).

Важным паказчыкам якасці адукацыі з'яўляюцца перамогі нашых школьнікаў на алімпіядах. 19 прызавых месцаў на рэспубліканскіх і 61 - на абласных занялі дзеці раёна. У 2007 годзе выпускнік гімназіі №1 горада Ліды, Шапавалаў Станіслаў, заваяваў бронзавы медаль на міжнароднай алімпіядзе па матэматыцы.

Наш раён трэці год запар утрымлівае першынство па гэтай пазіцыі ў вобласці.

2007 год быў абвешчаны Годам дзіцяці, што паслужыла падставай для прыняцця дадатковых мер па абароне інтарэсаў і законных правоў дзяцей, іх гарманічнага развіцця. Пачаў працу ў новым будынку "Цэнтр творчасці дзяцей і юнацтва".

Дзякуючы суладнай працы ўсіх структурных падраздзяленняў раёна, на 37% паніжаная злачыннасць сярод непаўнагадовых.

У раёне створаныя ўмовы для духоўнага і культурнага ўдасканалення моладзі. Сёння маладыя лідзяне могуць не толькі гартавацца і развівацца фізічна, але і прымнажаць свой інтэлектуальны патэнцыял.

У 2007 годзе развівалася спецыялізаваная медыцынская дапамога. Адзін з галоўных прыярытэтаў аховы здароўя - ахова здароўя маці і дзіцяці. У горадзе ўведзены ў эксплуатацыю акушэрскі корпус. За год прынята каля 2 тысяч родаў.

Жыхары раёна ўдзячныя загадчыку хірургічнага аддзялення раённай лякарні Гушча Валерыю Іванавічу, лекару-тэрапеўту Кашко Ірыне Паўлаўне, лекару станцыі хуткай дапамогі Мацюкевічу Вячаславу Іванавічу, загадчыку медычнай амбулаторыі Кароткаму Віктару Віктаравічу за прафесійную медыцынскую дапамогу.

Радуюць поспехі нашых спартоўцаў, якія занялі прызавыя месцы на першынстве свету і чэмпіянаце Еўропы па акадэмічным веславанні і па гарадошнаму спорту. Праводзілася праца па прыцягненні вучнёўскай моладзі, працаўнікоў і чальцоў іх сем'яў да рэгулярных заняткаў фізічнай культурай і спортам. Праведзена 97 спартова-масавых мерапрыемстваў.

Вялікую ролю ў захаванні і прымнажэнні традыцый беларускага народа іграе сфера культуры.

Творчыя калектывы мастацкай самадзейнасці раёна сталі лаўрэатамі і дыпламантамі рэспубліканскіх і міжнародных фэстаў. За творчы рост, майстэрства і прафесіяналізм вакальна-інструментальны ансабль "Шкляры" (кіраўнік Андрэй Барыла) уганараваны званнем "Заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь".

"За творчыя дасягненні ў сферы культуры і мастацтваў" у намінацыі "рэжысёр года" за актыўную творчую дзейнасць і высокі ўзровень правядзення культурна-масавых мерапрыемстваў дырэктару раённага дома культуры Тур Ірыне Эдуардаўне прысуджана прэмія імя А. І. Дубко Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта.

Дзякуючы прынятым мерам па прафілактыцы злачынстваў і правапарушэнняў, Лідскі раённы аддзел унутраных спраў знізіў узровень злачыннасці на тэрыторыі раёна і раскрыў практычна ўсё злачынствы, якія маюць грамадскі рэзананс.

Супрацоўнікі Лідскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях не дапусцілі буйных аварый тэхнагеннага характару, якія маглі б парушыць функцыянаванне аб'ектаў эканомікі і ўмовы пражывання насельніцтва. З 136 аддзелаў рэспублікі, Лідскі аддзел МНС заняў 24 месца.

Па выніках года 206 штурмавая авіяцыйная база прызнаная лепшай сярод вайсковых частак і ўзнагароджаная пераходзячым вымпелам Вайсковай рады Вайскова-Паветраных Сілаў і войскаў Супрацьпаветранай абароны.

Першасная арганізацыя грамадскага аб'яднання Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі 206 штурмавой авіяцыйнай базы прызнана лепшай ва Ўзброеных Сілах Рэспублікі Беларусь і ўзнагароджана

пераходзячым вымпелам.

Лідскі памежны атрад працуе пад дэвізам: "Дзяржаўная мяжа павінна быць зручнай для законапаслухмяных грамадзян і непераадольнай для тых, хто спрабуе перасекчы яе з парушэннем усталяваных заканадаўствам правілаў".

Прафесіяналізм журналістаў "Лідскай газеты" адзначаны перамогамі на абласных і рэспубліканскіх конкурсах у 2007 годзе. Першую прэмію і дыплом першай ступені ўручыў Міністр абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўнік Леанід Мальцаў "Лідскай газеце" за асвятленне пытанняў развіцця Ўзброеных Сіл Беларусі.

На трэцім рэспубліканскім конкурсе "Тэлевяршыня" адмысловы прыз журы "За творчы і прафесійны рост" прысуджаны Лідскаму тэлерадыёаб'яднанню.

Поспехі раёна абумоўлены высокакваліфікаваным корпусам кіраўнікоў і адмыслоўцаў, здольных на сучасным узроўні вырашаць любыя пастаўленыя задачы.

Адпаведны ўклад у працу калектываў уносяць намеснікі кіраўнікоў па ідэалагічнай працы, старшыні прафсаюзных камітэтаў, іншых грамадскіх арганізацый.

Але галоўнай дзейнай асобай усіх вытворчых новаўвядзенняў і ідэалагічных працэсаў з'яўляюцца кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый. Як прыклад бачання перспектыў развіцця прадпрыемства і пісьменных падыходаў у фармаванні сістэмы ідэалагічнай працы ў калектыве - дырэктар шклозавода "Нёман" Ігар Міхайлавіч Бацян. Найважная задача - гэта ідэалагічнае забеспячэнне праграм сацыяльна-эканамічнага развіцця. Таму вялікая ўвага надаецца інфармаванню кожнага працаўніка прадпрыемства аб працы кіраўнічага апарата, стварэнне ўмоў для прафесійнага росту, узмацненне матывацыі да прадукцыйнай працы кожнага чальца калектыву.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Даведзеныя прагнозныя заданні на 2008 год досыць напружаныя і, каб іх выканаць, неабходна прыкласці максімум высілкаў і забяспечыць эфектыўную працу.

Укараненне энерга- і рэсурсазберагальных тэхналогій, паніжэнне выдаткаў - наша стратэгія. Досыць сказаць, што на гэтыя мерапрыемствы будзе выдаткавана больш за 23,0 млрд. рублёў. Гадавы эканамічны эфект складзе 27,1 тыс. тон умоўнага паліва або 8,2 млрд. рублёў.

У эканоміку раёна мяркуецца інвеставаць каля 320 мільярдаў рублёў. Гэта тэхнічнае пераабсталяванне рэальнага сектара эканомікі, будаўніцтва жылля, добраўпарадкаванне тэрыторый.

Прырост прамысловай вытворчасці ў 2008 годзе будзе ажыццяўляцца за лік падвышэння эфектыўнасці вытворчасці: укаранення энерга-і рэсурсазберагальных тэхналогій, паніжэння выдаткаў, ліквідацыі стратнасці, падвышэння рэнтабельнасці і канкурэнтаздольнасці прадукцыі.

Кіраванню сельскай гаспадаркі і харчавання, кіраўнікам сельскагаспадарчых прадпрыемстваў варта змяніць стаўленне да арганізацыі працы, павысіць дысцыпліну, навучыцца супастаўляць прыбыткі ад рэалізацыі прадукцыі з выдаткамі на яе вытворчасць.

Працаваць над павышэннем урадлівасці палёў і культуры земляробства. Як бачна, пагодныя ўмовы аднолькавыя для ўсіх, а вынік - розны. Значыць, справа не толькі ў надвор'і.

Вытворчасць збожжа па-ранейшаму застаецца прыярытэтным, і павелічэнне яе аб'ёмаў можна дасягнуць за лік падвышэння прадуктыўнасці кожнага гектара. Сёлета нам неабходна атрымаць не меней за 32 цэнтнеры збожжа з гектара шляхам укаранення інтэнсіўных тэхналогій і новых гатункаў, выключаючы страты пры жніве. Захаваць і палепшыць урадлівасць глебаў за лік эфектыўнага выкарыстання арганічных і мінеральных угнаенняў, вапнавых матэрыялаў.

Што датычыцца жывёлагадоўчай галіны, то сёлета патрабуецца яе забяспечыць збалансаванымі па рацыёне кармамі ўласнай вытворчасці. Пасяўныя плошчы кукурузы ў 2008 годзе будуць павялічаны да 6,5 тысяч гектараў.

Неабходна выконваць тэхналогію ўтрымання і перавысіць дасягнутыя паказчыкі па прывагах і надоях. Актывізаваць працу па тэхнічным пераабсталяванні, мадэрнізацыі, рэканструкцыі жывёлагадоўчых фермаў, абнаўленні машынна-трактарнага парку, уладкаванні аграгарадкоў Тарнова, Крупава, Гуды.

У 2007 годзе будаўнічай галіной не забяспечана заданне па ўводзе жылля. Ёсць аб'ектыўныя і суб'ектыўныя прычыны: несвоечасовасць падачы праектна-каштарыснай дакументацыі, дэфіцыт кваліфікаваных рабочых-будаўнікоў, нерытмічнасць пастаўкі будматэрыялаў.

У 2008 годзе ў будаўнічым комплексе прадугледжваецца выкарыстанне інвестыцый на жыллёвае будаўніцтва, абнаўленне парку будаўнічых машын, ліквідацыя звышнарматыўнага незавершанага будаўніцтва. У раёне прадугледжваецца ўвесці ў эксплуатацыю 59 тысяч квадратных метраў жылля, у тым ліку 65 кватэр у сельскай мясцовасці.

Выканаць планавыя паказчыкі будаўнічай галіны магчыма пры ўмове суладнай працы ўсіх удзельнікаў будаўнічага працэсу: заказчыкаў, падрадчыкаў, праектных арганізацый. У перспектыве - выпрацоўваць стратэгію выканання з 2011 года пастаўленай Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнкам задачы - уводзіць 1метр кв. жылля ў разліку на 1 жыхара рэгіёна.

Напружаная праграма па добраўпарадкаванні маецца быць у сувязі з святкаваннем юбілею горада - 685 гадоў з дня заснавання. Плануецца значныя аб'ёмы работ па рамонце фасадаў адміністрацыйных будынкаў і жылых дамоў, рэканструкцыя вуліц і колцавых развязак.

Пачаліся работы па будаўніцтве ў Лідзе лёдавага палаца. Неабходна завяршыць рэканструкцыю гарадскога стадыёна, прапрацоўваць пытанне выпрацоўкі праектна-каштарыснай дакументацыі на будаўніцтва ў Лідзе ўніверсальнага спартовага комплексу, куды

ўвайшлі б лёгкаатлетычны манеж, зала для гульнявых відаў спорту і зала цяжкай атлетыкі. А ў горадзе Бярозаўцы - басейна.

У 2008 годзе неабходна паляпшаць культуру абслугоўвання пакупнікоў, правесці перавод крам на метад самаабслугоўвання, замену гандлёва-тэхналагічнага абсталявання.

Пры актыўным уладкаванні сельскіх агульнаадукацыйных школ патрабуюць капітальнага рамонту вядомая ва ўсёй рэспубліцы сваімі дасягненнямі гімназія і ліцэй, гісторыя існавання якога налічае больш за сто гадоў.

З улікам меркаванняў і пажаданняў жыхароў раёна неабходна наладжваць сваю працу ў сферы паслуг, асабліва ў ахове здароўя, культуры, спорце.

У 2008 годзе прыярытэтнай задачай аховы здароўя раёна з’яўляецца забеспячэнне кваліфікаванай, даступнай і якаснай медыцынскай дапамогі насельніцтву. Плануецца адкрыць аддзяленне паталогіі сасудаў галаўнога мозгу, правесці рэканструкцыю тэрапеўтычнага корпуса Бярозаўскай гарлякарні, выканаць рамонт фасада раённай паліклінікі.

У шырокай прапагандзе здаровага ладу жыцця насельніцтва запатрабуецца актыўны ўдзел працоўных калектываў і грамадскіх аб’яднанняў.

Трэба больш актыўна вырашаць пытанні абсталявання спартовых будынкаў па месцы жыхарства, набыцця спортінвентару.

Дзяржавай многае робіцца для таго, каб грамадзянам нашай краіны жылося камфортна і шчасліва. Аднак для чалавека самае галоўнае - гэтае здароўе. Таму 2008 год абвешчаны ў Рэспубліцы Беларусь Годам здароўя. Дужая сям’я, здаровыя дзеці і бацькі - гэта здаровая нацыя і квітнеючая краіна.

Стварэнню неабходных умоў для далейшага фармавання ў грамадстве здаровага ладу жыцця будзе спрыяць рашэнне асноўных задач сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь у 2008 годзе, якія вызначаны ў зацверджаных Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнка найважных параметрах прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2008 год, Асноўных кірунках грашова-крэдытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь на 2008 год і дзяржбюджэце на 2008 год.

Як падкрэсліў Кіраўнік дзяржавы, 2008 год - ключавы ў рэалізацыі пяцігадовай праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны.

Праца кожнага на сваім працоўным месцы павінна быць накіравана на безумоўнае выкананне заданняў 2008 года, што патрабуе дысцыпліны, найжорсткага рэжыму эканоміі і высокай адказнасці кадраў на ўсіх узроўнях кіравання. Ад гэтага залежыць, як будзем жыць мы самі, як будзе развівацца наша прадпрыемства, якім стане дабрабыт народа і нашай Айчыны.

Жадаю ўсім вам паспяхова справіцца ў 2008 годзе з усімі пастаўленымі задачамі.

Здароўя вам, шчасця, дабрабыту.

# Лідскі раён у 2007 г.




***У пачатку 2008 года выйшаў паўнаколерны буклет, які ў папулярнай форме прэзентуе Лідскі раён па стану на 2007 год.***

“Лідскі раён - адзін з самых буйных на Беларусі. На плошчы 157 тысяч гектараў у 276 населеных пунктах жыве больш за 135 тысяч чалавек, у тым ліку ў горадзе Лідзе - больш за 95 тысяч, у горадзе Бярозаўцы - каля 12 тысяч, а ў сельскай мясцовасці - амаль 28 тысяч чалавек.

Шматвектарнасць прамысловага сектара, рознапланавыя магчымасці будаўнічага комплексу, спецыялізацыя сельскагаспадарчай вытворчасці надаюць эканоміцы раёна самадастатковасць і поспех у працэсах інтэграцыі, субкантрактацыі, пасоўванні на рынкі іншых дзяржаў. Больш за 30 адсоткаў аб’ёму выраблянай у раёне прадукцыі рэалізуецца за межамі Беларусі. На працягу шэрагу гадоў захоўваецца дадатным знешнегандлёвае сальда.

Зручнае геаграфічнае размяшчэнне, развітая транспартная сетка, наяўнасць прафесійных кадраў спрыяюць пашырэнню сферы вытворчасці і прадпрымальніцтва, актыўнаму прыцягненню інвестыцый.

Існая інфраструктура, яе развіццё і аптымізацыя робяць раён камфортным для жыцця.

Раён унікальны па шматлікіх пазіцыях. Маецца больш за 100 устаноў адукацыі і 70 устаноў культуры. Самая буйная - Лідскі каледж - філіял Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы, дзе навучаецца каля 3 тысяч студэнтаў. Таксама ёсць 2 прафесійна - тэхнічных ліцэі і 3 вучэльні, у тым ліку музычная вучэльня.

Лідчына - гэта раён з шматвяковай гісторыяй, устоянымі традыцыямі і культурай. Захаваліся 12 помнікаў гісторыі, культуры і архітэктуры. Наш гонар - Лідскі замак XIV стагоддзя.

Лідскі край багаты на маляўнічыя куткі прыроды. Біялагічны заказнік рэспубліканскага значэння “Дакудаўскі”, гідралагічны заказнік “Бярэзіна”, парк “Гарні”, рэкі і азёры, санаторый “Вясёлка”, сядзібы агратурызму ствараюць спрыяльныя ўмовы для адпачынку.”

# Кроніка Лідскі гістарычны каляндар айкумены

## студзень - сакавік

**1508 год, 2 лютага.** Князь Міхаіл Глінскі падняў рокаш супраць Вялікага князя літоўскага, рускага і жамойцкага Жыгімонта. Ракашанам удалося захапіць Гародню, спроба ўзяць Вільню была адбітая. Глінскія адʼехалі ў Маскву.

**1588 год, 28 студзеня.** Кароль і Вялікі князь Жыгімонт III Ваза зацвердзіў Трэці Статут ВКЛ.

***Трэці Статут ВКЛ.***

*Статут ВКЛ 1588 г. ствараўся амаль 20 гадоў, абмяркоўваўся на павятовых сойміках і агульных соймах. У аснову законаў былі пакладзеныя хрысціянскія прынцыпы. Статут абʼяўляў ВКЛ самастойнай дзяржавай са сваім Вялікім князем, Радай і Соймам. У адрозненне ад Першага і Другога Статутаў прызнаваў смяротнае пакаранне за забойства простага чалавека; абараняліся правы жанчыны, ад крымінальнай адказнасці вызваляліся 16-гадовыя і псіхічныя хворыя. Прапаведаваўся прынцып верацярпімасці. Прырода падлягала дзяржаўнай ахове.*

*Статут ВКЛ 1588 г. атрымаў шырокую еўрапейскую вядомасць. Ён быў перакладзены на польскую, нямецкую, лацінскую, французскую мовы, выкарыстоўваўся ў Маскоўскай Русі пры падрыхтоўцы Саборнага ўлажэння 1649 г., у судах Эстоніі і Латвіі. Дзейнічаў чвэрць тысячагоддзя да 1840 г.*



***Статут ВКЛ, 1588 г***

*Зацвердзіў Статут 1588 г. польскі кароль Жыгімонт III Ваза. Ён жа праз два гады падпісаў прывілей на магдэбургскае права для Ліды.*

***Зацвярджэнне Статута ВКЛ Жыгімонтам Вазай - баявік найвышэйшай пробы.***

*12 снежня 1586 г. у Гародні памёр кароль Стэфан Баторы. 30 ліпеня 1587 г. пачаўся элекцыйны сойм. Былі выстаўле-ныя тры кандыдатуры. Рускі цар Хведар Іванавіч - сын Івана Грознага, Гедзімінавіч у восьмым пакаленні, унук ліцьвінкі Алены Глінскай; Максіміліян - аўстрыйскі эрцгерцаг і Жыгімонт Ваза - сын Кацярыны Ягелонкі і шведскага караля Вазы. Пасля доўгага і разлютаванага абмеркавання кандыдатур выбарнікі падзяліліся на два варожыя лагеры. Прымас Кароны Кранкоўскі 17 жніўня абвясціў, што выбар маскоўскай і аўстрыйскай кандыдатур немагчымы. 19 жніўня ў лагеры Замойскага вылучылі шведа. Прымас пацвердзіў выбар. 21 жніўня ліцьвіны апратэставалі элекцыю і дэманстратыўна пакінулі сойм. 22 жніўня ў лагеры Збароўскіх каралём абвясцілі Максіміліяна. Стала відавочным, што без крыві не абыйдзецца. Ліцьвінская дэлегацыя адбыла ў Вільню, пакінуўшы ў Кракаве канцлера Яна Глябовіча і падканцлера Льва Сапегу.*

*24 студзеня 1588 г. у Сілезіі пад мястэчкам Бычына пазмагаліся войскі эрцгерцага Максіміліяна і палякаў пад камандаваннем*



***Леў Сапега, падканцлер ВКЛ на час прыняцця Статута ВКЛ.***

*Партрэт выкананы пасля 1621 г. Мастак Вільгельм Хондзій.*



***Канцлер Астафей Валовіч, які разам з Львом Сапегам распрацоўваў Статут.***

*Замойскага. Войскі прыхільнікаў Жыгімонта Вазы перамаглі і ўзялі ў палон Максіміліяна.*

*25-26 студзеня ліцвінская эстафета на конях нясецца праз усю Польшчу з весткай аб перамозе Замойскага. 27 студзеня Глябовіч і Сапега атрымліваюць вестку аб перамозе прыхільнікаў Жыгімонта Вазы. У іх распараджэнні 36 гадзін. Яны аб'яўляюць ультыматум. Калі Жыгімонт і каранацыйны сойм не прымаюць умоў ліцьвінаў, яны пакідаюць сойм. Жыгімонт, які яшчэ не ведае пра перамогу сваіх войскаў, згаджаецца на ўмовы ліцьвінаў: прызнае перамір'е з Масковіяй, абяцае перадаць палову Лівоніі ВКЛ і без вывучэння і абмеркавання 28 студзеня падпісвае Статут. У гэты ж дзень ліцьвінская пасольства прыносіць клятву Жыгімонту Вазе як Вялікаму князю літоўскаму. Увечар палякі атрымліваюць вестку аб перамозе пад Бычына ... Але справа зроблена - Статут зацверджаны каралём.*

*У той жа год Статут быў выдадзены. Павалілася ўся, створаная палякамі, сістэма дзяржаўнага паглынання ВКЛ, прынятая ў 1569 г. у Любліне.*

**1658 год, 2 лютага.** Павятовы соймік у Мыто ўстанавіў надзвычайны парадак вядзення спраў па крымінальных злачынствах.

**1708 год, 15 студзеня.** Пётр І прыбыў у Здзенцыёлы (Дзенцел, Здзецеле, Дзятлава), тут на зімовых кватэрах размясціліся галоўныя сілы рускага войска, якімі камандаваў Меншыкаў.

**1708 год, люты.** Шведскія войскі па дарозе на Смаргонь у чарговы раз разрабавалі Лідчыну паднепасрэдным кіраўніцтвам шведскага караля Карла XII.

**1708 год, 20 студзеня.** Пётр І у Жалудку, праездам на Гародню.

**1838 год, 7 студзеня.** У Лідзе праведзеныя выбары кагальных, рабіна, дэпутата кватэрнай камісіі, навукоўца, старасты і скарбніка. У спісах кандыдатаў згадваюцца Беніямінавіч, Беркавічы, Борухавіч, Вінаград, Епштэйн, Зорухавіч, Ілютавічы, Калмановіч, Камянецкія, Каплун, Кажэўнік, Левінта, Ліпшыц, Мееравіч, Мейлхавіч, Маўчацкі, Мураванскі, Ноткавіч, Падольскі, Пупко, Радунскі, Файншрайбер, Файнштэйбер. Пры выбарах кагальных старшынаў больш за ўсіх галасоў атрымалі: Абрам Ізраелавіч Маўчацкі (63 белыя шары, 26 чорных) і Хаім-Груна Ноткавіч Пупко (62/27). Рабінам вылучылі Мэйлера (Элімеліха) Гіршавіча Камянецкага, дэпутатам кватэрнай камісіі - Гірша Еліяшавіча Падольскага, навукоўцам - Абрама Беркавіча Каплуна, старастам - Юдэля Шмуйлавіча Камянецкага, скарбнікам - Герша Шлёмавіча Файнштэйбера *(НГАБ у г. Гародні. Фонд 2, вопіс 3, арк.12-13)*.

**1848 год, 29 студзеня.** З'явіўся рамачны штэмпель з надпісам "ЛІДА", захаваўся на лістах Лідскага дабрачыннага Самсона Брэна ў прыходскія цэрквы.

**1888 год, 1 студзеня.** Млын на р. Лідзейцы, які належаў саборнай царкве, перададзеная па кантракце ў 12-гадовае арэнднае трыманне мешчаніну мястэчка Шчучын габрэю Гіршу Палячку з штогадовай платай у 500 рублёў.

**1898 год, 1 студзеня.** ***185-ты рэзервовы Лідскі полк*** названы ***172-гім пя-хотным Лідскім палком***.

**1908 год, канец сту-дзеня.** Аднавіла працу Віленская група РСДРП якая распаўсюджвала свой уплыў на Ашмянскі, Лідскі, Вілейскі і Дзісненскі паветы Беларусі. *("Сацыял-дэмакрат" № 39, сакавік 1909 г.)*

**1918 год, 16 лютага.** Літоўская Тарыба выступіла з заявай аб аднаўленні дзяржаўнасці Літвы (абвясціла незалежнасць). Нацыянальнае свята незалежнасці. Лідскі павет уключаўся ў склад Літвы.

**1918 год, 1 сакавіка.** Лідскі пяхотны полк расфармаваны па рашэнні Савецкага ўраду.

**3 сакавіка.** Складзена Берасцейская мірная дамова Савецкай Расіі з Нямеччынай, Аўстра-Вугоршчынай, Балгарыяй і Турцыяй. Па дамове Ўкраіна і Фінляндыя




***172-гі Лідскі пяхотны полк на пляцы (Ліда, Паўночны гарадок)***




***Імператар Нямеччыны кайзер Вільгельм ІІ у Лідзе (дата пакуль не вызначана)***

прызнаваліся самастойнымі дзяржавамі. Ад Расіі адлучаліся Літва, Курляндыя, Ліфляндыя, Эстляндыя і частка Беларусі па лініі Двінск-Свянцяны-Ліда-Пружаны-Бярэсце.

**1918 г. 23 сакавіка.** Імператар Нямеччыны Вільгельм ІІ (германскі кайзер) прызнаў незалежнасць Літвы, абяцаў ёй абарону і дапамогу.

**1928 год.** Арганізаваны клуб "Барацьба".

**1928 год, 2 сакавіка.** Масавыя арышты ў Лідзе, арыштаваныя 36 чалавек, сярод іх А. Штрыхер. Ануляваныя левыя спісы.

**1928 год, 4 сакавіка.** На ўсеагульных выбарах у Сойм вялікая колькасць выбарнікаў Лідскай акругі дэманстратыўна прагаласавала за ануляваныя спісы кампартыі. Вынікі выбараў адмененыя.

**1938 год, 19 сакавіка.** Паміж Літвой і Рэччу Паспалітай усталяваныя дыпламатычныя адносіны.

**1938 год.** Рашэннем Выканкаму Камінтэрна камуністычная партыя Польшчы распушчана, рашэнне гэтае распаўсюджвалася на КПЗБ і КПЗУ.

**1948 год, 1 студзеня.** У лідскае аддзяленне хуткай дапамогі атрыманая першая санітарная машына ГАЗ- 55.

**1948 год, 11 студзеня.** Выбары ў мясцовыя саветы дэпутатаў працоўных.

**1948 год, 24 сакавіка.** На хутары Дамейкі ліквідавана тэрарыстычная група Букаткі.

**1958 год, 1 студзеня.** У Лідзе 3824 вучні, з іх 219 не паспяваюць.

**1958 год, 5 студзеня .** У газеце "Уперад" апублікаваныя сацыялістычныя абавязальніцтвы калгасаў і саўгасаў.

**1958 год, 18 студзеня.** Апублікаваныя спісы першых калгаснікаў, узнагароджаных па Лідскім раёне ордэнамі ***Працоўнага Чырвонага Сцяга*** і ***Знак Пашаны***. Узнагароджаны 11 чалавек, у т.л.першы сакратар райкама партыі Радзюк Т. С., старшыня калгасу Сліўкін В.К., брыгадзіры Ашмяна А.А., Калясінскі С.А., даярка Майсак П.Л,

свінарка Васора А.А., брыгадзіры Кавльскі П.П., Шайдура І.П., звенявыя Клышко З.А і Баран В.Я., камбайнёр Карабан В.І.

**1958 год, 5 сакавіка.** Старшыні і брыгадзіры калгасаў правялі экскурсію ў калгас "Запаветы Ільіча".

**1958 год, 16 сакавіка.** Выбары ў ВС СССР. Абраныя Аляксандр Канстанцінавіч Равяшка, начальнік зборачнага цэха завода "Лідсельмаш", нараджэнец в. Гпнчары і Аляксей Ільіч Золаў, сакратар ЦК КПБ, намеснік старшыні Савета Міністраў.

**1958 год, сакавік.** На малочна-кансервавым заводзе вылучаны цэх па выпуску кісламалочнай прадукцыі і марожанага. Завод перададзены ў падначаленне Кіраванню мясной і малочнай прамысловасці пры Савеце народнай гаспадаркі БССР.

Здадзены ў эксплуатацыю жылы дом № 28 па вул. Савецкай.



*Вул. Савецкая, дом № 28*

**1968 год, 24-25 лютага.** У горадзе праведзена свята "Снежны фэст". Святочная інтэрмедыя. Катанне на санкавых цягніках, народных арэлях, паветраных каруселях, фінскіх санках, ваенізаваная гульня "Узяцце снежнай цвердзі", дастань прыз, бег у мяшках, бег на адной лыжы, рыбаловы, перацягванне каната. Святочны феерверк. Масавыя гульні, конкурсы, карагоды, цікавыя спаборніцтвы. Святочны гандаль. Продаж кніг, часопісаў. Латарэя. Духавыя аркестры. У замку духавы аркестр, танцы на лёдзе, карагоды, масавыя гульні. У нядзелю - спальванне пудзіла зімы, дэман-страцыя кінафільмаў, уручэнне прызоў, фе-ерверк. Станіслаў Гегал дастаў галоўны прыз са слупа, нацёртага парафінам.

**1978 год, студзень.** Адчыненая зуба-пратэзная паліклініка на вул. Перамогі.



*Зубапратэзная паліклініка на вул. Перамогі*

**1978 год.** На 15 прамысловых прад-прыемствах горада працуюць 17 тысяч чалавек, за 1977 г. выраблена больш за 200 найменняў вырабаў на агульную суму 365,9 млн. рублёў.

У 14 гарадскіх сярэдніх школах навучаюцца 13 тысяч школьнікаў, у 26 дашкольных установах - 4 тысячы дзяцей, 3 лякарні, 2 паліклінікі, больш за 200 лекараў, 4460 камуністаў.

**1978 год.** Прынята рашэнне аб стварэнні жураві-навага заказніка пад Дакудавам.

Расфармаваны калгас імя Свярдлова, яго землі падзеленыя паміж саўгасам "Лідскі" і калгасам імя Мічурына. Расфармаваны калгас імя Калініна, яго землі перададзеныя саўгасу "Малое Мажэйкава" і калгасу "Сцяг Саветаў".

У Лідскім раёне адчыніліся 20 крамаў на даму.

**1988 год.** Домабудаўнічы камбінат ператвораны ў вытворчае аб'яднанне "Лідабудканструкцыя" пастановай Гарадзенскага аблсельбуда. У аб'яднанні больш за 1000 працоўных.

**1998 год, 2 студзеня.** Леанід Віннік выпусціў кнігу вершаў "Мелодии печального дождя".

**1998 год, 17 студзеня.** Здадзены ў эксплуатацыю новы будынак пажарнага дэпо на вул. Перамогі.

**1998 год, 27 студзеня.** У Лідскай друкарні выйшла кніга вершаў Пятра Макарэвіча "Злітак".

# Лідскія юбіляры 2008 года

**НАРБУТ Даніэль** у манастве Казімір, афіцыйна **Казімір** (3.01.1738 - 17.03.1807) нарадзіўся ў Крупе (Крупава) Лідскага павету ў "сям'і Казіміра Нарбута, мечніка літоўскага з Крупы".

Вучыўся ў Шчучыне ў піярскай школе, затым у Любяшоўскім навіцыяце і ў піярскім калегіюме ў Дубровіцы, з 1759 г. у піярскім калегіюме ў Вільні, і каля 4 гадоў у піярскай вучэльні ў Рыме.



***Казімір (Даніэль) Нарбут***

У 1764 г. вярнуўся на радзіму. Прызначаны прафесарам і прэфектам піярскага калегіюма ў Дубровіцы. Пасля жыў у Вільні, чытаў лекцыі па філасофіі, быў прэфектам піярскай друкарні

У 1769 г. выдаў у Вільні падручнік па логіцы - "Логіка або навука разважання і меркаваня аб прадметах навукі" на польскай мове. Аўтар курсу "Эклектычная філасофія" на лацінскай. Перавёў з французскай на польскую кнігу "Ваенная навука прускага караля для яго генералаў" (1771). У прадмове да яе выказаў сваё захапленне грамадзянскімі мерапрыемствамі, што ажыццяўляліся ў тагачаснай Рэчы Паспалітай, у прыватнасці будаўніцтвам Пінскага канала. Як член Адукацыйнай камісіі, займаўся рэформай школьнай адукацыі ў РП. Член Таварыства па складанні элементарных кніг, напісаў два раздзелы для школьнага статуту парафіяльных школ і палажэнне " Аб інспектаванні школ". Выступаў за вызваленне філасофіі ад схаластыкі і багаслоўя, за развіццё навукі. Крытыкаваў сістэму адукацыі ў езуіцкіх акадэміях і калегіюмах, выступаў за свецкую сістэму адукацыі.

Мысляр - асветнік. Прадстаўнік эклектычнага кірунку ў філасофіі.

Пробашч лідскі ў 1784-1786 гг.

Пахаваны ва ўніяцкай царкве ў Радзівонішках. Магіла не захавалася. *(Пяткевіч А.)*

**ВІТАЖЭНЕЦ Стэфан Баляслававіч** (15.01.1908, Ліда - 30.12.1994, Варшава).

***Вітажэнцы*** герба Равіч - старажытны шляхецкі род Лідскага павету, які валодаў буйной зямельнай нерухомасцю ў радунскай, тракельскай, калясніцкай, жырмунскай, эйшышскай і нацкай парафіях.



**Стэфан Вітажэнец**

Бацька Стэфана - сакратар маршалка павятовага дваранства, у 20-30 сакратар магістрата. Баляслаў Вітажэнец у 20-я гады на вуліцы Сувальскай пабудаваў пышную трохпавярховую вілу ў стылі кан-структывізму. Да нядаўняга часу гэта быў лепшы дом у горадзе, у пасляваенныя гады ў ім атрымлівалі кватэры толькі першыя сакратары гаркаму і райкаму і старшыні гарвыканкаму.

Стэфан у 1929 г. скончыў Лідскую дзяржаўную гімназію імя гетмана Хадкевіча на вул. 3 траўня (цяпер Ленінская), а затым школу падхарунжых лётнага рэзерву (1930), Цэнтр падрыхтоўкі афіцэраў авіяцыі ў Дэнбліне (1932), курсы вышэйшага пілатажу пры Лётнай школе ў Грудзензе (1933). Служыў інструктарам у Лётнай школе да 1939 г.

Удзельнік Другой Сусветнай вайны. Здзейсніў 208 баявых вылетаў. За два месяцы паветранай бітвы над Вялікабрытаніяй збіў 5 нямецкіх самалётаў, адным з іх кіраваў нямецкі ас Хорст Тэтзен. Камандаваў эскадрылляй, дывізіёнам, знішчальным крылом. Скончыў вайну падпалкоўнікам.

У 1945 г. быў камендантам Школы пачатковага пілатажу, затым два гады да расфармавання камандаваў Другім польскім знішчальным крылом. У 1948 г вярнуўся ў Польшчу, пасяліўся з бацькамі ў Лодзі. У 1957 г. ізноў быў прызваны ў Польскае Войска. Служыў у апараце камандавання Паветраных Сілаў, 9 гадоў быў камендантам Цэнтра падрыхтоўкі лётчыкаў у Модліне.

Узнагароджаны ордэнам Віртуці Мілітары, Ганаровым Лётным Крыжом Вялікабрытаніі, Крыжом срэбным Ордэна Віртуці Мілітары, трохразова Крыжом за доблесць, Крыжом Баявых Дзеянняў на Захадзе.

У 1968 г. у званні палкоўніка выйшаў на пенсію. Доўгія гады ўзначальваў Саюз польскіх лётчыкаў.

Памёр 30 снежня 1994 г. Пахаваны ў Варшаве на могілках у Павонзках сярод вайсковых лётчыкаў.

Пасмяротна ўзнагароджаны Камандорскім крыжом з Зоркай Ордэна Адраджэння Польшчы.

Правёў у паветры 4238 гадзін, лётаў на 31 тыпе самалётаў.

Адзіны з лётчыкаў чалец Капітулы Ордэра Віртуці Мілітары. *(Сліўкін В.В.)*

**ЖАЛКОЎСКІ Аляксандр Васільевіч** нарадзіўся 1.03.1933 г. у в. Сасновы Бор (да перайменавання - Цёмнае Балота) Шчучынскага раёна. Працаваў адказным сакратаром Васілішкаўскай раённай газеты (1950 г.), рэдактарам Воранаўскай (1961-1962 г.) і Мастоўскай (1965-1969 гг.) раённых газет. У Лідзе з 1962 г. Быў рэдактарам Лідскай газеты "Уперад" у 1969-89 гг. Наступныя гады працаваў уласным карэспандэнтам абласной газеты "Гродзенская праўда". Лаўрэат прэмій творчых конкурсаў, узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР і ганаровым знакам "2000 год Хрысціянству". Сябар Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ з дня заснавання. Аўтар шматлікіх артыкулаў публіцыстычнага і краязнаўчага характару, у тым ліку сталы карэспандэнт газеты "Наша слова". Адзін з стваральнікаў лідскай кнігі "Памяць".

*(Пра А.В. Жалкоўскага чытайце на ст. 82-88.)*



***Жалкоўскі А.В.***

**СТРАЛЮК Мар'ян Іванавіч** (6.01.1938 -25.08.2000). Нарадзіўся ў в. Мохавічы Лідскага павету. Скончыў Белагрудскую сямігодку, Лідскую СШ № 2 (1956, энергетычны факультэт БПІ (1961). Майстар элетралабараторыі на Полацкай ЦЭЦ № 2. Скончыў аспірантуру БПІ пры кафедры электрастанцыі. Кандыдат тэхнічных навук (1966). З 1966 па 1988 гг. - асістэнт, старэйшы выкладчык кафедры "Электрычныя станцыі", намеснік дэкана, дэкан энергетычнага факультэта БПІ. У 1985 г абараніў доктарскую дысертацыю. Прарэктар па навуковай працы БПІ - БДПА (1988-2000) і галоўны рэдактар навукова-тэхнічнага часопіса " Энергетыка - Весткі вышэйшых вучэбных установ і энергетычных аб'яднанняў СНД". Шматлікія яго распрацоўкі адносяцца да тэорыі і практыкі даследавання электрычнай устойлівасці токаправодных канструкцый. Асабліва значны ўклад ён унёс у распрацоўку тэорыі дынамікі гнуткіх правадоў пад дзеяннем электрадынамічных сіл ад токаў кароткага замыкання і кліматычных фактараў. Складзеныя на аснове гэтай тэорыі алгарытмы і пакеты кампутарных праграм шырока выкарыстоўваюцца ў Беларусі, Расіі, Паўднёвай Карэі і інш краінах пры праектаванні токаводных канструкцый павышанай надзейнасці з скарочанымі габарытамі. Яны значна танейшыя.

Прафесар (1987), член-карэспандэнт НАН Беларусі (1989), акадэмік міжнароднай акадэміі навук вышэйшай школы (1993), заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1999), ганаровы энергетык (1995). Кіраваў больш за 30 навукова-даследчымі праектамі і праграмамі, шэрагам важных гаспадарчых дамоў па стварэнні аптымальных рэжымаў электразабеспячэння, у тым ліку Жлобінскага металургічнага камбіната. Намеснік старшыні экспертнай рады па праблемах энергетыкі галоўнага кіравання навукова-даследчых прац Дзяржадукацыі СССР, навуковы кіраўнік першай міжвнуўскай праграмы фундаментальных даследаванняў па энергетыцы "Прыярытэт". Падрыхтаваў 10 кандыдатаў і доктара тэхнічных навук. Старшыня спецыялізаванай рады па прысуджэнні навуковых ступеняў, намеснік старшыні фонду фундаментальных даследаванняў РБ. 120 публікацый у айчынных і замежных навукова-тэхнічных часопісах і выданнях. Яму належаць тры вынаходствы. Узнагароджаны медалём "За працоўную адзнаку", Ганаровай граматай МП РБ. *(У.А. Сарока.)*



***Стралюк М.І.***

# *Лёсам Лідчыны крануўся*

## 140 гадоў з дня нараджэння Каруся Каганца

***Кастравіцкі Казімір Рафаіл Карлавіч (29.01(10.02) 1868 , Табольск - 20.05.1918), ён жа Каганец Карусь, К.К., Будзімір, К.Шашаль працаваў дзесятнікам у Лідзе на будаўніцтве чыгункі Балагое-Сядлец у 1905 г., сям'я жыла ў Лідзе да 1906 г. Грамадскі дзеяч, беларускі паэт, празаік, драматург, дзіцячы пісьменнік, аўтар першых беларускіх падручнікаў, перакладнік, навуковец- мовазнавец, фальклярыст, мастак і скульптар. Рукапісы ў Нацыянальнай бібліятэцы, цэнтральным дзяржаўным архіве, музеі літаратуры і мастацтва, у бібліятэцы АН Літвы. Яго родны брат лекар Амброзі Кастравіцкі жыў у Лідзе і на ст. Курган, пахаваны ў Белагрудзе.***

Лёс прыгатаваў гэтаму чалавеку выпрабаванні непасільныя. Ліцьвінскі шляхціц гербу "Байбуза", гарбаты з чатырохгадовага веку.

**Кастравіцкія** - старажытны разгалінаваны шляхочы род Беларусі. Іван Кастравіцкі - праваслаўны шляхціц, скарбнік Мсціслаўскага павету 15 ст. Яго ўнук Сцяпан Кастравіцкі перайшоў у каталіцкую веру. Пераехалі на Гарадзеншчыну - жылі ў Кастровічах. Перабраліся на Меншчыну. У 1834 г прылічаныя да дваран Менскай губерні. Род бяднеў. Бацька Каруся Карл Самуілавіч (1814-1874) у сярэдзіне 19-га стагоддзя валодаў толькі фальваркам Навасёлкі на Койданаўшчыне, 6 сялянскіх двароў жылі на правах чыншавікоў. Маці Алена Тадэвушаўна са Свентарыцкіх (Свентаржэцкіх) (1835 -) з багатай сям'і з-пад Слупкоў скончыла Віленскі інстытут. Карлу было 40 (1854) і ён быў гарбаты. Алёне 19 гадоў.



*Карусь Каганец*

Нарадзіўся Карусь Каганец у Табольску. Бацька і бліжэйшыя родзічы Каруся прынялі актыўны ўдзел у паўстанні Кастуся Каліноўскага 1863-1864 гадоў. Пасля задушэння паўстання іх частка родавага маёнтка Навасёлкі (Менскі павет) была секвестравана, а яны сасланыя ў Сібір. У Табольску Карл служыў. Яго сын ужо з дзяцінства, рос у ссылцы, а больш таго, нарадзіўся сасланым.

У 1874 сям'і дазволена вярнуцца ў Беларусь, жылі ў в. Засулле каля Стоўбцаў. Там неўзабаве (у 60-гадовым веку) памёр бацька Каганца. Сям'і не ставала сродкаў для існавання. Маці засталася з 4 дзецьмі. Калі малому Казіку споўнілася 6 год ён, пачапіўшы торбу на плячо, пайшоў у пастушкі і да 11 гадоў прыглядаў за жывёлай. У слоту, у спёку, будучы Каганец разам з навакольнай прыродай, і менавіта таму ў яго творчасці так шмат замалёвак роднай старонкі. Маці, каб выратаваць сям'ю, узяла ў прымы селяніна Кардзецкага, ад якога нарадзіла яшчэ траіх дзяцей. З Засулля сям'я пераехала ў Прымагілле пад Койданава, дзе сястра маці аддала ёй дзве валокі зямлі, якія належалі ўласна Алене і не былі секвестраваны (Юцкі, Прымагілле, Яцкі). Зажылі лепш. Паводле Ластоўскага "мелі дваровую службу, пякарню".

Але Казік - гарбатае, нялюбае дзіця, напаўсірата, нікому не патрэбны. Сыйшоў з дому і наняўся ў суседнім павеце пасвіць статак. Сябраваў з сялянскімі дзецьмі.

Казімір вельмі імкнуўся атрымаць веды, таму з дзяцінства займаўся самаадукацыяй, а пасля вучыўся ў Менскай гарадской вучэльні, грошы ў сям'і знайшліся. У 1890-х гадах вучыўся ў Маскоўскай вучэльні жывапісу, скульптуры і дойлідства, дзе ўразіў прафесуру, стварыўшы надзвычай псіхалагічны скульптурны партрэт цара Івана Жахлівага. Аднак на завяршэнне адукацыі грошай не хапіла.

У 1893 годзе Казімір Кастравіцкі пачынае літаратурную дзейнасць. З'яўляюцца псеўданімы. Імя ў псеўданіме "Карусь Каганец" узята ў памяць бацькі. Карлаў у Беларусі заўсёды звалі Карусямі. Прозвішча - даніна тагачаснай модзе на гучныя, але народныя назвіскі. Каганец - прымітыўная сялянская свяцільня. Паэт збіраўся свяціць народу. І свяціў, пакуль мог.

У 1899 годзе, у 30 гадоў, Каганец ажаніўся па каханні з Ганнай Пракаповіч (? -1934, Масква) і асеў ва ўрочышчы Лісія Норы каля Прымагілля. Жыў у хатцы без сенцаў з уваходам праз стайню. У 1901 г служыць у Менскай гарбатнай, у сакавіку 1902 звальняюць, тры месяцы ў мастацкай майстэрні ў Рызе. У канцы 1902 эканом у Менскам таварыстве дабрачыннасці - 2 гады. Арганізуе беларускі хор і аркестр. Да 1905 г. у сям'і было двое дзяцей. Зямлі было небагата, і тая пясчаная

неўрадлівая, і таму ён падпрацоўваў у розных месцах, у тым ліку і будаваў чыгунку ў Лідзе. Каганец, як мы бачым вельмі, часта змяняў месца жыхарства. Гэта выклікана тым, што ён браў удзел у рэвалюцыйным руху, і таму знайсці працу было цяжка. У 1890 - пачатак 1900 года публікаваў апрацоўкі народных паданняў у газетах "Минский листок" і "Северо-Западный край".

У 1902 годзе Каганец разам з Антонам і Іванам Луцкевічамі, Алесем Бурбісам, Элаізай Пашкевіч (Цёткай), Вацлавам Ластоўскім стварае Беларускую Рэвалюцыйную Партыю, якая са снежня 1903 года змяніла назву на Беларускую Сацыялістычную Грамату (БСГ). Беларуская Сацыялістычная Грамада стала першай беларускай партыяй, якая мела рэальныя сілы, друкаваныя выданні "Наша Доля" і "Наша Ніва". Карусь Каганец быў кіраўніком Рады БСГ. У 1904 годзе ён распрацаваў праект газеты "Палесьсе". У сакавіку 1905 удзельнічаў у І сялянскім з'ездзе Беларусі.

Падчас рэвалюцыі 1905 г. Каганец якраз працаваў дзесятнікам у Лідзе на будаўніцтве чыгункі Балагое - Сядлец. Прывёз сюды жонку і двое дзяцей Янку і Мірона. 18 снежня 1905 г. Карусь Каганец разам са Сцяпанам Багушэвічам паехалі ды Каганцовых братоў пад Койданава і сабралі там шматлюдны мітынг. Назаўтра 19 снежня іх арыштавалі. Да 16 траўня 1906 знаходзіўся ў Менскай турме, сядзеў там 5 месяцаў пад следствам. Па хадатайніцтве сваякоў і сяброў быў адпушчаны да суда на парукі. Пасля выхаду з турмы К. Каганец жыў у Менску з сям'ёй. С. Багушэвіч быў прызнаны хворым на тыфус, суд над ім і Каганцом адкладаўся да 1910 г. З гэтага часу ў Каганца пачаўся новы перыяд вольных заробкаў.

У траўні 1906 года заснавана першае беларускае легальнае выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца». Ініцыятарам стварэння на кааператыўных асновах гэтай выдавецкай суполкі лічыцца выкладчык Пецярбургскага ўніверсітэта Браніслаў Эпімах-Шыпіла, вакол якога аб'ядналася група беларускіх інтэлігентаў, што жылі ў сталіцы імперыі. Узначаліў і напачатку фінансаваў таварыства адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальна-вызвольнага руху лідзянін Вацлаў Іваноўскі. Першы параграф статута суполкі сведчыў пра яе асветніцкія мэты: «Таварыства ўстанаўляецца для таго, каб друкаваць і шырыць памеж людзёў ксёнжкі беларускія і ўсё, што датычэ Беларусі».

Сваю дзейнасць суполка распачала з выдання беларускіх падручнікаў. Першай выпушчанай у свет кнігаю стаў «Беларускі лемантар», аўтарам якога быў Карусь Каганец. Лемантар - першая спроба стварыць ілюстраваны дзіцячы падручнік, калі яшчэ не было ні беларускіх школ, ні беларускай дзіцячай кнігі. У 1906 г. вышлі адразу тры беларускія лемантары ў выдавецтве "Загляне сонца і ў наша ваконца": "Беларускі лемантар, або Першая навука чытання" Каруся Каганца, следам выйшлі "Першае чытанне для дзетак беларусаў" і "Гасцінец для малых дзетак" Цёткі, а ў выдавецтве Пянткоўскага выйшла скарочанае перавыданне "Элементажа для добрых дзетак-католікаў" лацініцай пабеларуску. У лемантары Каруся Каганца было 19 малюнкаў, лічыцца, што яны належалі самому аўтару. Малюнкі былі просценькімі - карова, баба, бот, маці, тын, лён, рыба, заяц - але менавіта яны сталі першым узорам аздаблення дзіцячай кнігі на Беларусі.Лемантар - сапраўдная аўтарская кніга.

Такім чынам пачатак беларускай адукацыі цалкам замыкаецца на лідзян: **Вацлаў Іваноўскі** - фінансаваў і ўзначальваў выдавецтва, **Карусь Каганец - пісаў "Беларускі лемантар..." якраз у 1905 годзе ў Лідзе**, **Алаіза Пашкевіч (Цётка)** - стварыла наступны пасля лемантара падручнік «Першае чытанне для дзетак беларусаў».

У пачатку 1908 года Карусь Каганец - ляснічы на Ігуменшчыне ў графа Патоцкага, пад восень яго пераводзяць у Дулебы. У верасні губляе службу і, пакінуўшы сям'ю ў Бярэзіне (нарадзіліся яшчэ дзве дачкі Галіна і Мілена), едзе ў Вільню. Усю зіму 1909 -10 працуе ў рамеснай школе пры касцёле Св. Стэфана стварае драўлянае ўкрыжаванне Хрыста і "Моднага шляхцюка" - бытавую камедыю ў адным дзеянні. Выдадзеная ў 1910 г. накладам у 400 асобнікаў.

Пра Каруся Каганца ў Вільні згадвае Мікола Шыла: *"У канцы 1909 ці пачатку 1910 года (добра не памятаю) у Вільню прыехаў Карусь Каганец. Прыехаў ён як і заўсёды хадзіў, у кажушку і беларускай світцы. Світка была падпяразаная рэменем, на якім вісеў прывязаны да раменьчыка нож і шабалтас. Спакойная, зраўнаважаная гутарка яго рабіла моцнае ўражанне. Ягоны выгляд — малы рост, і горб, вялікая галава з пасівеўшай бародкай і жывымі, пранiклiвымі вачыма — цягнуў да сябе кожнага. Пасяліўся К. Каганец у мяне, на Набярэжнай, каля шпіталя Св. Якуба. З гэтага дня кожны вольны вечар Я. Купала праводзіў у гутарках у нас. На якія толькі тэмы не ішла размова: літаратура, і тэатр, і малярства (К. Каганец у поўным значэнні гэтага слова быў маляр і скульптар), але кожная тэма зводзілася на нашае беларускае жыццё і ягоныя праблемы.*

*У гэтым часе адбываліся рэпетыцыі да рыхтаванае беларускае вечарынкі. У праграме — п'еса М. Крапіўніцкага "Па рэвізіі", хор пад дырыжыраваннем кампазітара Л. Рагоўскага і беларускія танцы пад кіраўніцтвам І. Буйніцкага. Хоць Я. Купала ўдзелу не прымаў, бо ўжо збіраўся ехаць у Піцер на курсы Чарняева, але без ягонай прысутнасці не адбылася ніводная рэпетыцыя ці спеўка.*

*— Эх, братка, як добра выходзіць! Шкада, што еду. Але, дасць Бог, пабачу і я. Дзядзька Карусь,— гаварыў ён К. Каганцу, — трэба пісаць свае арыгінальныя п'есы. Пазычаць добра, ды пазычанае заўсёды трэба аддаваць... Няхай лепш у нас пазычаюць.*

*Праз некалькі дзён пасля гэтага мы гуртам правялі яго на станцыю. Ехаў ён у Піцер, каб, як ён сам казаў, вучыцца, як найбольш прынесці карысці і славы нашаму народу."*

2 красавіка 1910 года Карусь Каганец па справе 1905 года быў асуджаны Віленскай судовай палатай на год зняволення і змешчаны ў Менскую турму. Сядзеў там некаторы час з Якубам Коласам. У турме здароўе Каруся Каганца вельмі пагоршылася... Пасля вызвалення ў 1911 г. з турмы Каганец жыве ў Менску ў сваёй сястры Мані,дзе пачаў вельмі хутка згараць ад хваробы, але як ён жадаў яшчэ жыць, яшчэ тварыць. Два гады перабіваўся выпадковымі заробкамі пакуль не атрымаў

працу эканома ў фальварку Жартай (Жортаў) каля Багданава ў Копаця ўвесну 1912 г., дзе і праслужыў апошнія 6 гадоў жыцця.

У звязку з тым, што "Наша ніва" была выдавецкім органам БСГ, Карусь Каганец друкаваў у ёй свае думкі, роздумы. Асобным выданнем выйшаў вадэвіль "Модны шляхцюк", які карыстаўся вялікай папулярнасцю. "Модны шляхцюк" быў адным з першых твораў нацыянальнага тэатральнага рэпэртуару.

Старшынстваваў на з'ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый у Менску 25-27 сакавіка 1917, дзе абмяркоўваўся далейшы лёс краю

20 траўня 1918 года памёр ад запалення лёгкіх у Прымагіллі, у брата па маці. Пахаваны ў в. Навасёлкі.

На яго пахаванне ні жонка, ні дзеці прыехаць не змаглі. У 1988 г на магіле пастаўлены помнік.

Паводле ўспамінаў з усімі гаварыў толькі пабеларуску. *"Быў вельмі культурныя, але трохі сумасшэдшы чалавек: хадзіў у кажуху і ботах і гаварыў па- мужыцку. Мог жыць па-людску, але ўсё пападаўся за падбухторванне сялян"*.

Сын Янка стаў капітанам далёкага плавання. Мірон загінуў у 1919 годзе. Дачка Галіна, скончыўшы Горы-Горацкую акадэмію, выйшла замуж і з'ехала ў Маскву.

Імем Каруся Каганца назана сельскагаспадарчае прадпрыемства ў Стаўпецкім раёне, у якое ўваходзіць вёска Засулле.

Рашэннем Менскага гарадскога выканаўчага камітэта ад 30 ліпеня 2004 г. № 1520 новай вуліцы УМД-8 у мікрараёне Лошыца-4, 5, 6 ад вуліцы Уладзіслава Сыракомлі да вуліцы РМ-7 нададзена імя беларускага паэта, драматурга, публіцыста і мастака Каруся Каганца (Казіміра Кастравіцкага) і надалей пастаноўлена называць яе: "Вуліца імя Каруся Каганца (Улица имени Каруся Каганца)".



*Магіла К. Каганца ў Навасёлках, Дзяржынскага р-на*

**Творчы даробак**

Карусь Каганец markup рознабакова арыентаваны сялянскі інтэлігент-культурнік першай хвалі беларускага адраджэння. Калі Багушэвіч - духоўны правадыр і настаўнік, то Карусь Каганец - настаўнік-практык, які пасеяў збожжа нацыянальнай свядомасці. Быў чалавекам шырокіх творчых інтарэсаў займаўся многімі галінамі мастацтва і навукі і ў кожнай з іх пакінуў даволі прыкметны для таго часу след.

Вучоны - мовазнавец, фалькларыст і этнограф, жывапісец, графік і скульптар. Займаўся разьбярствам па дрэве і слановай косці. Рагоўскі Л. паклаў на музыку яго верш "О Божэ, спасе наш". М. Багдановіч прысвяціў яму верш:

Змоўк пясняр, затаіў свае песні,
Ён іх болей ужо не пяе,
Але рвуцца яны, і калісь на прадвесні
Лёд халодны ў душы пад напорам іх трэсне,
І струёй лынуць вершы з яе.

Гэтак часам уходзіць у зямлю крыніца,
Дзесь у нетрах таемна бяжыць,
Але мусіць урэшце на волю прабіцца,
Шмат яшчэ па зямлі будзе ліцца-каціцца
І радзімаму краю служыць.

**Літаратура.**

Самыя раннія з яго твораў, якія дайшлі , датуюцца 1893 г. Артыкулы, апрацоўкі народных легенд. Пры жыцці выйшлі "Беларускі лемантар (1906) і вадэвіль "Модныя шляхцюк" (1910, 1918), вершы і апавяданні у газетах. Затым асобныя творы друкаваліся ў 1919-28 гг., і перапынак да 1961 г.

Пакінуў шмат казак, апавяданняў. Ластоўскі пісаў: "Другога такога знаўца псіхікі і побыту беларусаў, як Каганец, беларусы дагэтуль не маюць паміж свае інтэлігенцыі"

Проза, паэзія, драматургія, публіцыстыка. Большасць твораў маюць легендарны каларыт. Паэзія пераважна публіцыстычная "За родную краіну, звычай і мову, За гонар груддзю ставайце. "Модны шляхцюк" карыстаўся вялікай папулярнасцю быў адным з першых твораў нацыянальна-тэатральнага рэпэртуару. Ставіўся ў Лідскім павеце дзесяткі разоў. Як толькі недзе з'яўлялася невялікая група моладзі з цікавасцю да тэатральных пастановак, дык адразу ставілі.

**Мовазнаўства.**

Многа ўвагі адаваў Карусь Каганец вывучэнню і навуковай распрацоўцы беларускай мовы. Беларуская мова для яго - ключ для ўсіх славянскіх моў.

Ніводнай мовазнаўчай працы Карусь Каганец пры жыцці не апублікаваў і нават поўнасцю не завяршыў. Дайшлі чарнавыя паперы. Карусь Каганец цікавіўся графікай, правапісам, лексікаграфіяй і граматыкай.

Карусь Каганец - пачынальнік мэтанакіраванай апрацоўкі беларускай навуковай тэрміналогіі. Шэраг граматычных, прапанаваных у лемантары тэрмінаў замацаваліся ў нацыянальным беларускім мовазнаў-

стве як агульнапрынятыя: **літара, склад, кропка, двукроп'е, клічнік, пытальнік.**

Карусь Каганец верыў у будучыню беларускай мовы і ў меру сваіх здольнасцяў і прафесійнай падрыхтаванасці займаўся яе навуковай распрацоўкай.

**Выяўленчае мастацтва.**

Карусь Каганец ўспрымаецца сёння як паэт і драматург, аўтар п'есы "Модныя шляхцюк". Але ў 1920 -я гады сучаснікі лічылі Каганца піянерам новага самабытнага нацыянальнага беларускага мастацтва, менавіта яго творчасць паклала пачатак беларускаму выяўленчаму мастацтву 20-га ст. Калі ў галіне літаратурнай ён быў адным з першых, то ў галіне мастацкай - адзіным, бадай, і выключным пачынальнікам новага беларускага мастацтва.

У краязнаўчым часопісе "Наш край" былі надрукаваныя 8 малюнкаў найболей распаўсюджаных на Беларусі дрэў: дуб магучы, хвойка-матка, елка -удавіца, клён кудравы, ясень светлы, граб-дзядзька, зляканая асіна, белагрудая дзявіца-бярозка.

Вось край лесу дуб магучы
Сваё голле прасцірае,
Так сказаў бы, не іначай
Той лес веццем абнімае,
Як бы бацька свае дзеткі.
За плячыма яго ўсталі:
Хвойка-матка, ель удавіца.
Клён кудравы, ясень светлы,
І граб –дзядзька, і ільміца.
І арэшнік ўгору пнецца,
І зляканая асіна,
Як бы вінна, ўся трасецца…
Вербалоз між іх ўтуліўся,
Як бы хоча памаліцца
У лясной да прахалодзі,
А на дуба спазірае
Белагрудая дзявіца-
У свежай зеляні бярозка.
Доўгі косы разбірае.

Карусь Каганец упершыню ўвёў у беларускую графіку матывы, якія надалей будуць успрымацца, як традыцыйна беларускія, нацыянальныя. Гэта быў першы крок у развіцці беларускай графікі. Выкарыстоўваў аловак, пяро, туш, алей.

Частка рукапіснай спадчыны К. Каганца пасля яго смерці трапіла да Я. Лёсіка, які апублікаваў яе ў "Беларусі" (1919) і "Вольным сцягу" (1921). Вялікая частка спадчыны К. Каганца загінула ў гады апошняй вайны.

**Карусь Каганец памёр у Беларускай Народнай Рэспубліцы, і назаўжды застаўся грамадзянінам БНР.**

Ён спачыў каля Навасёлак (зараз Дзяржынскі р-н). А праз колькі гадоў у Навасёлкаўскую школу пайшоў другі вялікі беларус - Мікола Ермаловіч, які стварыў новую канцэпцыю гісторыі Беларусі.

***Валеры Сліўкін,***
***Станіслаў Суднік.***

**Карусь Каганец**

# Што кажух, то не вата

Давялося раз зімой гарадскому панічу паехаць у двор на імяніны.

Прыехаўшы па чыгунцы на станцыю, ён пайшоў на сяло, што ад станцыі за паўвярсты было; каб падводу наняць, бо яшчэ трэба было вёрстаў з чатырнаццаць канём ехаць. Вось зайшоў ён у адну хату, а там якраз абедаць садзіліся. Ён зняў шапку і кажа:

- Дзень добры!

- Дзень добры! - адказваюць.

- Ці не завезлі б мяне туды і туды?

- Чаму ж не, можна, - кажа гаспадар, пагадаўшы.

- А колькі ж хочаце за хурманку?

- Аб цане то мы змяркуемся, а цяпер сядзьце, капусты сербаніце, бо да таго двара няблізка.

- Дзякую! Я ўжо гарбату піў.

- Ну, як воля ваша.

Гаспадар, пад'еўшы, не спяшаючы, закурыў люльку, сказаў цану, катора панічу проці гарадскіх паказалася зусім малой, але ён з тым не пахваліўся: і яму грош, знаць, не дарма даецца. Пасля гаспадар апрануў кажух, надзеў шапку і пайшоў запрагаць. Запрогшы каня, прыйшоў у хату і, зняўшы з жэрдзі кажуха, дае яго падпрануць панічу; але паніч не адважыўся апрануць мужыцкага кажуха і кажа:

- Дзякую! У мяне паліто на ваце.

- Ну, як воля ваша, - кажа гаспадар. Аднак жа як ішлі садзіцца ехаць, то гаспадар узяў з сабой кажуха ў запас.

Вот яны едуць. Спачатку панічу цёпла паказалася, але, праехаўшы вёрстаў пяць, бачыць гаспадар, што паніч стаў корчыцца, каўнер настаўляць, шапку на вушы нацягваць і носам сёрбаць. Гаспадар і пытае:

- А можа кажух, паніч, надзенеш?

- Не! Дзякую.

Едуць далей.

Праехалі яшчэ вярсты са дзве, бачыць гаспадар, што паніча сталі дрыжыкі прабіраць, і пытае:

- А можа кажух, паніч, надзенеш?

- А добра, бо штось халаднавата.

Даў яму кажуха апрануць і едуць далей. Ужо і да двара блізка, ажно бачыць гаспадар, што паніч неяк бледнаваты; дык пытае ў яго:

- А што, панічу, не сцюдзёна цяпер?

- О, не! Цяпер цёпла.

- А можа паніч есці хоча?

- О, і дужа хачу.

- А што, панічу: што кажух, то не вата, а што капуста, то не гарбата? Але пацярпі, паніч, хвіліну, незабавам прыедзем! - І паказаў яму пугаўём на той двор, каторы ўжо відаць было.

*1911 г.*

# Расстрэльныя лёсы беларусаў

Іншы раз і бяссонніца бывае рэч карысная.. Неяк у адну такую ноч пачаў гартаць патрапілую мне ў рукі дакументальную кнігу Л. Маракова “Ахвяры і карнікі”. Перагортваючы старонку за старонкай, на памяць прыйшло пытанне: ці не знайду я тут імя свайго крэўнага, што ў канцы 20-х ці пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя, шукаючы паратунку ад пераследу польскіх уладаў, уцёк у Савецкі Саюз, пасля недзе бясследна знік? Як вядома, у той час у СССР ішло “паляванне” на рознага роду шпіёнаў, дыверсантаў, здраднікаў Радзімы ды іншых “ворагаў народа” і злоўмыснікаў.

Аб падзеях таго часу ў прэзідэнцкім архіве Расійскай Федэрацыі захоўваецца шмат дакументаў, у тым ліку, “Списки лиц, подлежащих суду военной коллегии Верховного Суда СССР” , датаваныя 7 верасня 1937 года і падпісанныя І. Сталіным, В. Молатавым, Л. Кагановічам, К. Варашылавым, І.М. Яжовым, а таксама ад 15 верасня 1937 года, падпісанныя І. Сталіным, В. Молатавым і начальнікам 8-га аддзела ГУДБ СССР старшым маёрам (армейскае званне генерал) дзяржбяспекі У. Цасарскім. У іх былі ўнесены тысячы жыхароў Беларусі, якія падлягалі гэтаму суду, а працей – знішчэнню. Па першаму спісу ва ўнутраннай турме НКВД у Менску было расстраляна 103 чалавекі. У другім – іх многія тысячы. Расстрэльная машына працавала бездакорна, нават без выхадных. У нядзелю 20 лютага 1938 года была расстраляна 141 асоба. Калі канвеер карнікаў працаваў круглыя суткі без перапынку, то кожныя 10 хвілін развітваўся з жыццём 1 чалавек! Менавіта ў другім спісе я і знайшоў свайго сваяка.

Гаворка тут ідзе пра дваюраднага брата маёй маці, былога жыхара вёскі Сялец Лідскага раёна, Шэшку Іосіфа Сільвестравіча. На старонцы 156 кнігі запіс: “Шашко Іосіф Сільвестравіч (1902), навуковец, аграном, педагог. Арыштаваны 28.8.37. Асуджаны 20.10.37.” Расстраляны ва ўнутраннай турме НКВД БССР 10 лістапада 1937 года.

Некаторая недакладнасць у напісанні прозвішча ***Шашко*** замест ***Шэшка*** - вынік недаклатнага перакладу з беларускай мовы на рускую ці наадварот.

Да арышту ён працаваў выкладчыкам Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, меў навуковую ступень кандыдата сельгаснавук. Яго абвінавацілі ва ўдзеле ў нейкай антыдзяржаўнай арганізацыі – “Саюзе вызвалення Беларусі”*, які, быццам, дзейнічаў у Горацкай сельгасакадэміі. За гэта ж адбываў турэмнае пакаранне вядомы беларускі вучоны, акадэмік, Г.І. Гарэцкі **.

У той дзень 10 лістапада былі расстраляны 16 чалавек: 9 калгаснікаў, 2 навукоўцы, 1 рабочы, 1 рабочы дзяржслужбы, 1 аднаасобнік і два чалавекі невядомай прафесіі і роду занятку.

Такі ж лёс ледзь не напаткаў і яшчэ аднаго сваяка – роднага брата маёй маці, а майго дзядзьку - Шэшку Юльяна Якаўлевіча. Польскія ўлады прысудзілі яго да пакарання смерцю. Але здзейсніўся цуд – зняволены ўцёк з-пад варты і таксама пабег, як мага, у СССР. А там яго толькі і чакалі: за каўнер і, як польскага шпіёна, пагналі ў канцлагер ГУЛАГу ў Іркуцкай вобласці ў Сібіры. Але і там уцёк. Ледзь прытомнага знайшлі яго ў тайзе мясцовыя жыхары. Не выдалі, адагрэлі, прытулілі, і пачалі жыць усе разам. Шмат гадоў пражыў пад чужым прозвішчам. І толькі пасля вайны стаў, як сёння кажуць, “лігітымным” грамадзянінам Расіі.

Зараз жыве там ягоная другая сям’я – сын і дачка. Адна дачка памерла, адна жыве ў горадзе Краснадары. З імі ў мяне наладзіліся добрыя і ўстойлівыя сувязі: абмен лістамі, тэлеграмамі, тэлефоннымі перамовамі.

Усё б нішто, каб злы лёс, бы той Дамоклаў меч, не працягваў вісець над галовамі гэтай сям’і і ўсяго роду.

У чэрвені 1941 года пачалася Вялікая Айчынная вайна. У Сялец прыйшлі нямецка-фашысцкія захопнікі. Па нечым брудным даносе арыштавалі бацьку Іосіфа – Шэшку Сільвестра -- і 23 ліпеня 1941 года разам з іншымі аднавяскоўцамі расстралялі.

Здаецца неверагодным, каб такое магло здарыцца. Ён жа быў усяго толькі калгаснікам нядаўна створанага калгаса. Працаваў калгасным пастухом, меў старэчы ўзрост, дрэнна бачыў (на адно вока быў сляпы). Не быў ні камуністам, ні іх прыхільнікам. Хутчэй наадварот.***

Навісла пагроза жыццю і малодшага сына Сільвестра – Канстанціна. Напярэдадні вайны ён толькі што скончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя (тады гэтая навучальная ўстанова насіла такое імя). А да гэтага вучыўся разам з былым міністрам асветы БССР М. Г. Мінкевічам у беларускай гімназіі ў Вільні. У той час гэта быў адзіны жыхар у Сяльцы і ў наваколлі, які меў вышэйшую адукацыю. Сярод аднавяскоўцаў і сялян навакольных вёсак карыстаўся надзвычайнай павагай. Мо гэта і дапамагло ў крытычную хвіліну застацца жывым.

“Паляванне” на яго адкрылі партызаны польскай Арміі Краёвай. У дзень Вялікадня 1944 года, калі было арыштавана і расстраляна акаўцамі шмат маладых хлопцаў з вёскі Сялец і з іншых, яму цудам удалося схавацца і перажыць час акупацыі далёка ад роднага дому. А калі вярнуўся дадому пасля вызвалення, стаў вельмі “жаданым суразмоўцам” НКВД.

У асабістых гутарках шмат хто з маіх апанентаў, як з боку пракамуністычнай арыентацыі, так і прыхільнікаў АК (апошнія асабліва агрэсіўна), кажуць: не трэба варушыць мінулае. Усё прайшло, і пра яго пара забыцца. Маўляў, гісторыя не паўтараецца. А ці так гэта насамрэч? Напрыклад, Марк Твэн некалі казаў: у свеце няма нічога такога, што не магло б здарыцца. Уся сама гісторыя, як сукупнасць падзей мінуўшчыны, паўтарыцца, натуральна, не можа, але асобныя падзеі і здарэнні ў змененым стане ў залежнасці ад часу паўтараюцца ў не менш жудасным выглядзе, прыкладаў таму мноства.

Ці не была паўторам "Крышталёвая ноч" у фашысцкай Германіі 4 лістапада 1938 года, калі гітлераўцы ўчынілі па ўсёй краіне пагром яўрэяў, "Варфаламееўскай ночы" 24 жніўня 1572 года ў Францыі, у час якой каталікі і пратэстанты вынішчалі адзін другога, і стаўшая імем намінальным?

Ці не паўтарыў Гітлер у ХХ стагоддзі "досвед" уладароў Венецыянскай Рэспублікі (зараз – Італія) XIV-XV стагоддзяў, ствараючы жудасныя гета? Назва "гета" мае італьянскае паходжанне, і ўпершыню яно было створана ў Венецыі.

Ці не паўтарылі сваімі дзеяннямі гісторыю інквізіцыі Гітлер са Сталіным: першы вынішчаючы камуністаў і іх ідэялогію, другі, адпаведна, - антыкамуністаў? Па размаху сваіх дзеянняў яны кожны паасобку пераўзышлі вядомага іспанскага інквізітара Тарксвемаду, які за 17 гадоў знішчыў 111511 ерэтыкоў. Гітлер і Сталін кожны паасобку загубілі мільёны душ!

Не! Памятаць пра мінуўшчыну трэба. Мала таго, праз увесь час трэба нагадваць аб ёй сваім нашчадкам. Бо мінуўшчына – базіс, фундамент будучыні. А я вельмі б не хацеў, каб нашы нашчадкі і цэлыя пакаленні жылі ў сваім новым доме ці, нават, хатцы, пабудаваных на падмурку, прасякнутым крывёю продкаў, каб ніколі нічога падобнага, не магло б паўтарыцца.

Тэрор улады мае і іншы бок. Ён небяспечны яшчэ і тым, што вынішчае лепшую, больш актыўную і дзеяздольную частку нацыі. Каб яе адрадзіць, спатрэбіцца шмат часу. Апроч таго, гэта наносіць грамадству непапраўную маральна-псіхалагічную шкоду. Ці не таму мы сёння такія інертныя?

**Заўвага.**

Аб дзікунстве працы энкэвэдысцкага чалавекагубчага канвеера сведчыць наступнае. Працавалі сталінскія чэкісты мэтанакіравана і рупліва. Талькі з 19 жніўня па 30 снежня 1937 года ў перыяд "крывавага тунэля" ва ўнутраннай турме НКВД у Менску было забіта (расстраляна) 2196 чалавек. Або кожны дзень расстрэльвалі па 16-17 асобаў!

Нават выхадныя і святы для іх былі "рабочымі днямі". Так. 7 лістапада 1938 года і 8 лістапада 1937 года, у дзень гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі расстралялі 3 асуджаных (конюха, шаўца, аднаасобніка)! У дзень свята жанчын 8 сакавіка 1938 года расстралялі 5 жанчын (3 калгасніцы, 1 дамашнюю гаспадыню, 1 аднаасобніцу)!

Усё гэта рабілася пад злавесным грыфам "за" Сталіна і яго падручных. Аб гэтым яскрава сведчаць дакументы. А нам усё яшчэ да сённяшняга часу ўбіваюць, маўляў, "ён нічога не ведаў, што рабілася па-за Крамлём". Ведаў, даваў на гэта дазвол!

***Анатоль Кулеш.***

* **«САЮЗ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ»** («СВБ»), справа ў 1930 ДПУ БССР супраць бел. нац. інтэлігенцыі, якая абвінавачвалася ў нацыянал-дэмакратызме, контррэвалюцыйнай і антысав. дзейнасці; першы масавы паліт. пазасудовы працэс у БССР. Вясной—летам 1930 было арыштавана 108 дзеячаў навукі і культуры Беларусі, у тл. 25 былых членаў партыі бел. эсэраў: акадэмікі Бел. АН В.Ю. Ластоўскі, Я.Ю. Лёсік, С.М. Некрашэвіч, праф. А.А. Смоліч, наркамы земляробства (Дз.Ф.Прышчэпаў) і асветы (А.В. Баліцкі), пісьменнікі М. Гарэцкі, У. Дубоўка, Я. Пушча і інш. Кіраўніком арг-цыі «СВБ» быў «прызначаны» ДПУ БССР Ластоўскі, у склад яе кіраўніцтва «ўведзены» І.І.Краскоўскі, Я.Купала, Лёсік, Некрашэвіч, Смоліч, АЛ.Цвікевіч і інш. Паводле пастановы калегіі АДПУ СССР ад 18.3.1931 Прышчэпаў, Баліцкі, нам. наркамзема А.Ф. Адамовіч і П.В. Ільючонак, справа якіх, як камуністаў, у снеж. 1930 была выдзелена ў асобную, прыгавораны да 10 гадоў канцлагераў. Астатнія 86 чал. пастановай калегіі АДПУ ад 10.4.1931 асуджаны на розныя тэрміны зняволення: 8 чал. (Я.І. Бядрыцкі, П.Я. Жаўрыд, М.І.Каспяровіч, І.І.Цвікевіч і інш.) на 5 гадоў, П.М.Біндзюк — на 3 гады папраўча-працоўных лагераў, астатнія — на 5 гадоў высылкі ў аддаленыя раёны Сав. Саюза. А. Гурло быў асуджаны на 5 гадоў высылкі ўмоўна. Усе арыштаваныя абвінавачваліся ў тым, што «з'ядналіся членамі контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі «Саюз адраджэння Беларусі» («САБ»), у далейшым перайменаванай у «Саюз вызвалення Беларусі» («СВБ»)... Па ўзгадненні з Палітбюро ЦК ВКП(б) і АДПУ СССР рыхтаваўся адкрыты судовы працэс па справе «СВБ», аналагічны таму, які быў праведзены ў 1930 над укр. нац. інтэлігенцыяй па т.зв. справе «Спілка визволення України». Але ў ходзе яго падрыхтоўкі выявілася, што на папярэднім следстве ўдалося прымусіць прызнаць сваю «віну» толькі 25 чал. Больш за 40 чал. адмові-ліся ад усякіх абвінавачанняў, а каля 20 чал. прызналіся часткова.

Усе, хто праходзіў па справе «СВБ» і выжыў пасля першага працэсу, зноў арыштаваны ў 1937-41 за ранейшыя «злачынствы», большасць з іх расстраляны ці загінулі ў канцлагерах.

** **Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія** трапіла пад рэпрэсіі разам з іншымі ВНУ краіны. Сярод арыштаваных у розныя гады:

**Выкладчыкі:**

Яўген Аляксееў (прафесар), Максім Гарэцкі (загадчык кафедры), Гаўрыла Гарэцкі, Сцяпан Журык (прафесар), Сцяпан Мельнік, Паўліна Мядзёлка (працавалі у 1920-я г.),

Веніямін Аксельрод, Іван Антонаў (дацэнт), Аляксандр Анцыповіч, Анастасія Апалько, Якаў Афанасьеў (прафесар), Аляксей Башкевіч, Аўгуст Берзін (дацэнт), Піліп Вашчавоз, Савелій Гарбачоў, Юры Гаўрук, Віктар Горскі, Канстанцін Загорскі, Фёдар Курынны, Карл Лебярэхт, Леанід Малякоў (прафесар), Ісак Марэк, Рыгор Мінаеў, Яўген Мячынскі, Карл Петэрсон (дацэнт), Барыс Саноцкі, Іван Старасоцкі, Сяргей Фамін, **Іосіф Шашко**, Андрэй Шліпенбах (у 1930-я г.), Мікалай Байер (у 1940-я г.).

**Студэнты:**

Міхаіл Ганчарык - вучыўся да 1924,

Мікалай Галадзед - вучыўся, верагодна, у пачатку 1920-х г.,

Іван Тачыцкі- скончыў вучобу ў 1925,

Уладзімір Бабраўніцкі - вучыўся з 1925 да 1929,

Васіль Каваль, Сцяпан Піліпчык - вуч-ся ў 1920-я г.,

Іван Маўчанаў - вучыўся ў канцы 1920-х - пачатку 1930-х г. (?),

Лэйзар Брангітэйн (Бранштэйн?), Уладзімір Валасенка, Рыгор Вішнякоў, Пётр Гашпар, Дзмітрый Громаў, Ніна Груша, Аляксандр Грыцкоў, Іван Закурдаеў, Пётр Кротаў, Міхаіл Лапіцкі, Сямён Левітан, Віктар Мальцаў, браты Валянцін і Міхаіл Некрашэвічы, Гяршон Палей, Марыя Прэс, Мікалай Пятроў, Мікалай Раманаў, Мікалай Савіцкі, Давыд Шапіра - вучыліся ў 1930-я г.,

Яўген Гурскі - вучыўся да 1950 г.

*** **Шэшка Сільвестр Іванавіч** (1873 г.н., в. Сялец). Удзельнік Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Супрацоўнічаў з рэдакцыяй заходне-беларускага часопіса "Шлях моладзі" (выдаваўся ў 1929-39 гг.).

# Двойчы асірацелыя

Ад жалезнай машыны бальшавіцкага людажэрства схавацца было немагчыма нідзе. Нават у Сібіры. Бяда знайшла сям'ю беларускай вясковай жанчыны **Клейды Веры Мікалаеўны** і там. Паслухайце ўспаміны яе дачок Надзі і Валі. Праз жорны карных устаноў прайшлі тысячы тысяч да іх падобных.

**Яны ўспамінаюць.**

**Гусар (Каламыцкая) Надзея Уладзіміраўна,** 1934 г.н.: *"Сваё ранняе дзяцінства я практычна не памятаю. Ведаю, што мы з сястрою знаходзіліся нейкі час у дзіцячым доме г. Навасібірска, а магчыма г. Бердска. Помню, як вясною 1941 г. нас прывезла супрацоўніца дзіцячага дома ў в. Сялец па хадайніцтву дзядзькі Мікалая Мікалаевіча Клейды.*

*Бацькі нашы вырашылі выехаць у Сібір на пастаяннае месца пражывання. У Навасібірску жылі браты таты: родны і дваюрадны. Першым у канцы дваццатых гадоў паехаў тата, Уладзімір Аляксандравіч Каламыцкі. Чаму адзін – не ведаю. Магчыма, цяжка было паехаць, таму што Беларусь часткова знаходзілася пад Польшчаю.*



**Каламыцкі Ўладзімір Аляксандравіч (1895 - 1944)**

*Мама, Каламыцкая Вера Міхайлаўна, спрабавала выехаць пазней, але не змагла. Яе затрымалі на памежжы каля Негарэлага. Клапаціцца аб дакументах на выезд было доўга і дорага. Дапамагалі родзічы. Усе цяжкасці былі пераадолены і бацькі злучыліся. Бацька працаваў машыністам, а мама сястрой міласэрнасці.*



**Каламыцкая (Клейда) Вера Мікалаеўна (1902 - ?)**

*Па расказах дзядзькі таты, Сямёна Каламыцкага (ён тады таксама з жонкаю жыў у Сібіры ў г. Бердску), бацькі нашы пасля злучэння жылі добра і ў дастатку. Нават была ў нас хатняя работніца. Дарэчы, Сямён Каламыцкі з жонкаю пасля вайны прыехалі ў Беларусь і ў г. Лідзе купілі дом. Прыязджалі да нас і вельмі прасілі нашу бабулю і дзядзьку Андрэя Клейду (дзядзькі Колі ўжо не было ў жывых) мяне ўдачарыць (яны былі бяздзетныя). Бабуля і дзядзька Андрэй далі згоду. Бабуля прывезла мяне ў Ліду, але праз тыдзень яна прыехала наведаць мяне і забрала дахаты. Ёй штосьці не спадабалася. На гэты час я закончыла 4 класы ў Сяльцы. Вярнулася зноў у сваю школу і вучылася да заканчэння 7 класа, жывучы ў сям'і дзядзькі Андрэя. Бабулі ўжо не было ў жывых.*



**Гусар (Каламыцкая) Надзея Ўладзіміраўна (1934 г.н, фота 1980 г.)**

*Я прыгадвала вышэй, што ў Навасібірску жыў татаў дваюрадны брат. Яго з сям'ёй пасля вайны перавялі ў Маскву. Яны з жонкаю былі дактарамі, пазней сын з нявесткай таксама працавалі дактарамі. Дык вось, дзядзька Віця – Віктар Пятровіч Грышкевіч – дапамог сястры і мне атрымаць спецыяльнасці. Тады Віктар Пятровіч быў пры значнай пасадзе. Спачатку паехала сястра Валянціна ў Ленінград і атрымала спецыяльнасць оптыка па вытворчасці акуляраў. Я пасля заканчэння Сялецкай школы таксама паехала і атрымала спецыяльнасць таваразнаўца медыцынскага інструментарыя і абсталявання.*



**Клейда Мікалай Мікалаевіч (1910 - 1944, фота 1939 г.)**



**Клейда Андрэй Мікалаевіч (1912 - 1988, фота 1939 г.)**

*Пасля заканчэння навучання мяне накіравалі ў Менск на працу. Працуючы і паступова набываючы навыкі і досвед рухалася наперад па службе. Апошні час працавала загадчыцай аддзела."*

Старэйшая сястра Надзеі, Валянціна Ўладзіміраўна, звярталася ў розныя ўстановы, каб даведацца праўду аб гібелі бацькоў. Вытрымка з ліста ў Навасібірскі абласны Савет народных дэпутатаў і камісію па забяспячэнні правоў і інтарэсаў ахвяраў палітычных рэпрэсій паслядоўна паказвае пакуты, што вынесла сям’я Уладзімра Каламыцкага.



***Каламыцкая Валянціна Ўладзіміраўна (1931-1999, фота 1980 г.)***

*“Я, Каламыцкая Валянціна Уладзіміраўна, нарадзілася ў 1931 г. у г. Топкі Кемераўскай вобласці. Мая сястра Каламыцкая Надзея Уладзіміраўна (па мужу Гусар) – у 1934 г. на ст. Інская (у былом Эйхе) Новасібірская вобласці.*

*Мы з сястрой з’яўляемся ахварамі палітычных рэпрэсій 1937 г., напішу болей падрабязна. Мой бацька Каламыцкі Уладзімір Аляксандравіч 1895 г.н. ураджэнец в. Ганцавічы Ганчарскай воласці Лідскага павету Віленскай губерні. На дзень арышту працаваў машыністам у дэпо ст. Купіна. Мая мама Каламыцкая Вера Мікалаеўна 1902 г.н. уражэнка в. Сялец Ганчарскай воласці Лідскага павету Віленскай губерні.*

РСФСР

СВИДЕТЕЛЬСТВО О СМЕРТИ

II-АЯ № 123930

Гр. Коломыцкий
Владимир Александрович
умер(ла) 6 декабря 1944 года тысяча девятьсот сорок четвертого
возраст 49 лет
Причина смерти Паралич сердечной мышцы
о чём в книге записей актов гражданского состояния о смерти 19 63 года сентября месяца 20 числа
произведена соответствующая запись за № 22.
Место смерти: город, селение В. Заплюсские
район ______ область, край,
республика ______
Место регистрации Новороссийск ЗАГС
4 ноября 1963.
Заведующий бюро записей актов гражданского состояния [подпись]

***Пасведчанне аб смерці Каламыцкага Ўладзіміра Аляксандравіча ў снежні 1944 года.***

ВОЕННЫЙ ТРИБУНАЛ
СИБИРСКОГО ВОЕННОГО ОКРУГА

„19“ июля 1961 г.
№ 379-60/972-ж
г. Новосибирск, Гоголя, 10

Исп. вх. №______

КОЛОМЫЦКОЙ Валентине Владимировне
Краснодарский край, гор. Новороссийск, ул. Пархоменко, 42.

СПРАВКА

Дело по обвинению КОЛОМЫЦКОГО Владимира Александровича, 1895 года рождения, до ареста, т.е. до 9 ноября 1937 года работавшего машинистом в депо ст. Купино, Омской железной дороги, пересмотрено военным трибуналом Сибирского военного округа 17 мая 1960 года.

Постановление от 16 декабря 1937 года в отношении КОЛОМЫЦКОГО В.А. отменено, дело производством прекращено.

КОЛОМЫЦКИЙ Владимир Александрович по настоящему делу полностью реабилитирован.



ПРЕДСЕДАТЕЛЬ ВОЕННОГО ТРИБУНАЛА
ПОЛКОВНИК ЮСТИЦИИ -
/В.ШАЛАГИНОВ/

Исп. Демакова.
Отп. Кейль.
18.07.61 г.

Заказ 357

***Даведка аб рэабілітацыі Каламыцкага Ўладзіміра Аляксандравіча 17 траўня 1960 года.***

*Падчас арышту бацькі мама знаходзілася у Томскай бальніцы на лячэнні. Па спецыяльнасці яна была медыцынскай сястрой. Тады мне было 6,5 гадоў. А сястры 3,5 гады. Мы засталіся пад апекай хатняй гаспадыні. Пасля выхаду з бальніцы мама сабралася ехаць у Маскву да Крупскай Н.К. хадайнічаць за свайго мужа. Паехала і прапала.*

*Пасля нейкага часу, доўгага бедства, бадзяння і галадання нас з сястрою забралі ў Навасібірскі дзіцячы прыёмнік. Аднойчы мяне з сястрою павезлі ў нейкую ўстанову. Доўга вялі па калідорах і прывялі ў прыгожы кабінет з мяккай карычневай канапай і пісьмовым сталом з зялёным сукном.*

*Мы крышку пасядзелі і тут прывялі нашу маму. Яе цяжка было пазнаць: абстрыжана, у салдатскіх камашах, моцна замучана. Я заўсёды бачыла яе прыгожай і акуратна адзетай. Мама плакала і абдымала нас. Прасіла і ўмаляла мяне запомніць адрас яе сваякоў, якія жылі ў Лідскім павеце. Больш мы маму сваю не бачылі.*

МИНИСТЕРСТВО БЕЗОПАСНОСТИ РОССИЙСКОЙ ФЕДЕРАЦИИ
УПРАВЛЕНИЕ по Новосибирской области
14 сентября 1993 года
№ 4/II-II932
г. Новосибирск

СПРАВКА

По материалам архивного следственного дела на день ареста 22 августа 1937 года в составе семьи Коломыцкого Владимира Александровича значились: жена Вера Николаевна 1902 года рождения, дочери – Валентина 7 лет и Надежда 3 лет.

Начальник подразделения М.Л.Лукашевич

**Даведка аб складзе сям'і Каламыцкага Ўладзіміра Аляксандравіча.**

**Даведка аб прызнанні пацярпелай ад палітычных рэпрэсій Гусар Надзеі Ўладзіміраўны**

*Нас хацелі з сястрою разлучыць з-за розніцы ўзросту. Але мы заўсёды так плакалі, што нас пакідалі разам. Я запомніла словы мамы, якая прасіла, каб мы не згубіліся з сястрою. Так мы пражылі да 1941 г., мяне неаднойчы пыталіся, якія ў нас ёсць сваякі, і дзе яны жывуць. Я помніла мамін наказ і адрас, які яна назвала падчас нашага апошняга спаткання.*

*У 1941 г. дзесьці ў сакавіку, групу дзяцей павезлі з дзіцячага дома да сваякоў. Так мы трапілі ў Беларусь на ст. Нёман Лідскага раёна Гарадзенскай вобласці да маміных родных братоў Мікалая і Андрэя Клейдаў. Пачалася вайна. У 1944 г. дзядзька Мікалй Мікалаевіч Клейда, які ўзяў апеку над намі, быў забіты нацыяналістамі за сувязь з партызанамі. Мы зноў у другі раз засталіся сіротамі.*

*Пасля выяўлення культу Сталіна мне рэкамендавалі шукаць сваіх бацькоў. Я пісала ў Навасібірскую пракуратуру і гарвыканкам у надзеі адшукаць тату і маму, або атрымаць аб іх якія-небудзь звескі. Пра тату мне прыслалі даведку аб рэабілітацыі. Пра маму ніякіх звестак да гэтага часу не маю. Дзе і што з ёю сталася, так і не даведалася і згубіла надзею, што-небудзь даведацца. Цяпер маю толькі даведку ад начальніка аддзела УУС Цярэшчанкі, што адшукваная В.М. Каламыцкая ў раёнах, вобласці і г. Навасібірску пражываючай не значыцца. Па дадзеных ЗАГСаў г. Навасібірска ў ліку памерлых 1940-1950 гг. не значыцца. Атрымаўшы даведку аб рэабілітацыі бацькі, мне выдалі пасведчанне аб яго смерці і дзве месячныя зарплаты бацькі па ранейшаму майму жыхарству. Калі нам з сястрою прызначана згодна новых законаў такая кампенсацыя, тады прашу нам яе пераслаць. Нашы адрасы прыкладаю да ліста.*

*Яшчэ звяртаюся да Вас з просьбай выслаць нам даведкі аб рэабілітацыі для прад'яўлення на атрыманне ільгот, як дзецям рэпрэсаваных бацькоў."*

Яшчэ колькі старонак звыклага беларускага лёсу яшчэ дзвюх беларусак. Родных бацькоў знішчылі саветы, прыёмнага бацьку забілі акаўцы. А яны выраслі, жыццё пражылі, і на светлых добрых тварах ні крыўды, ні злосці.

***Мікола Дзікевіч, в. Сялец.***

# Старшыня Рады БНР Язэп Сажыч служыў на Лідчыне

**Язэп Сажыч** (05.09.1917, в. Гарадзечна, сёння Наваградскі р-н — 19.11.2007, Эн-Арбар, Мічыган, ЗША), грамадскі дзеяч, вайсковец. У часе нямецка-польскай вайны 1939 г. трапіў у нямецкі палон. Пазней вярнуўся ў Беларусь, дзе браў удзел у арганізацыі беларускіх вайсковых адзінак. **У 1943 годзе ў якасці камандзіра Лідскай роты Беларускага батальёна аховы чыгунак служыў у Лідзе.** Ад 1944 г. — на эміграцыі. У1950 г. скончыў Марбурскі ўніверсітэт (Нямеччына) з дыпломам лекара і выехаў у ЗША. Стаў адным з заснавальнікаў аддзелу Беларуска-амерыканскага задзіночаньня ў штаце Мічыган. Ад 1953 г. — сябра Рады БНР. Заснаваў аддзел Згуртавання беларускіх ветэранаў у Дэтройце, выконваў абавязкі сакратара ў справах ветэранаў пры Радзе БНР. У 1982—1997 гг. — Старшыня Рады БНР. У сакавіку 1993 г. браў удзел у святкаванні 75-й гадавіны незалежнасці ў Менску. **Прыязджаў у Ліду**. Пад Лідай жыве ўнучаты пляменнік Язэпа Сажыча Сяргей Сажыч з сям'ёй. Пахаваны Язэп Сажыч на беларускім могільніку ў Іст-Брансвіку (Нью-Джэрсі, ЗША).



## *Беларускі батальён аховы чыгунак (Bahnschutz) 1942-1944(5)*

У канцы верасня 1942 года дырэкцыя чыгункі ў Менску звярнулася праз генеральны камісарыят Беларусі да доктара Ермачэнкі які з'яўляўся камендантам БСА (Беларуская Самаабарона) з запытам, ці мог бы ён арганізаваць Беларускі батальён для аховы чыгунак. Умовы, якія паставіла дырэкцыя, з беларускага пункта гледжання былі прымальныя. Д-р Ермачэнка пагадзіўся арганізаваць батальён.

На пасаду камандзіра батальёна быў прызначаны капітан Ф. Кушаль - выканаўца абавязкаў галоўнага рэферэнта БСА. На той момант арганізаваць батальён было не цяжка, таму што ўжо існавала сетка пунктаў для прызыву ў БСА, і былі выпушчаны два афіцэрскія і ўнтэр-афіцэрскія курсы. Кадры былі гатовыя.

Тыднем пазней прайшлі перамовы з прадстаўнікамі Bahnschutz (ахова чыгунак) адзін з якіх быў камандзірам Bahnschutz Беларусі спадар Штрымке (Schtrimke). Вырашаліся дадатковыя ўмовы і тэхніка арганізацыі батальёна. Францішак Кушаль адзначаў, што падчас гэтай сустрэчы немцы былі вельмі падатлівымі і ўсе, пастаўленыя беларускімі прадстаўнікамі ўмовы, прынялі. Ужо на наступны дзень былі дадзеныя распараджэнні акруговым рэферэнтам БСА аб прызыве дабраахвотнікаў у батальён аховы чыгунак, а Ф. Кушаль пачаў інспектаваць казармы, прыгатаваныя для раскватаравання аддзелаў батальёна па Беларусі.

Пры перамовах са Штрымке было ўстаноўлена наступнае размяшчэнне батальёна: 1 рота ў Менску, 1 рота ў Стоўбцах, 1 рота ў Баранавічах, **1 рота ў Лідзе**, 1 рота ў м. Круглае Глыбоцкай акругі. Акрамя таго, у Менску павінна была быць арганізаваная ўнтэр-афіцэрская школа з мэтай падрыхтоўкі кадраў для пашырэння аховы чыгунак. На дадзеным этапе патрабавалася набраць 800 чалавек, кожная рота праходзіла чатырохтыднёвую перападрыхтоўку і пасля гэтага магла выкарыстоўвацца на чыгунцы.

Неўзабаве пачалі прыбываць дабраахвотнікі. Першая партыя прыбыла ў Менск з Слоніма, дзе і пачала фармавацца першая рота. Камандзірам быў прызначаны лейтэнант Зміцер Чайкоўскі, рота пачала навучанне з снежня 1942 г. Услед за Менскай ротай пачала арганізоўвацца рота ў Баранавічах, камандзірам якой быў прызначаны лейтэнант Барбарыч. Увогуле, арганізацыя батальёна ішла вельмі добра.

Са слоў сучаснікаў, калі ў гэтым пераканалася нямецкае камандаванне, яго стаўленне да беларусаў дыяметральна змянілася. Першае што яны абвясцілі, было тое, што камандзір батальёна будзе прызначацца ад Штрымке, а з беларускай боку яму спатрэбіцца толькі афіцэр для сувязі. Д-р Ермачэнка быў змушаны

пагадзіцца, і афіцэрам для сувязі быў прызначаны капітан артылерыі Віталь Мікула.

У лютым была арганізаваная рота **ў Лідзе**, камандзірам якой быў прызначаны лейтэнант **Язэп Сажыч.**

Тым часам Менская рота скончыла навучанне і была падзелена групамі на розныя станцыі для аховы чыгункі. Гэтыя групы не перавышалі памеру аднаго аддзялення і размяшчаліся на асноўных вузлавых станцыях. Такім чынам першая група была накіравана ў Полацк пад камандаваннем лейтэнанта Маслава, другая размяшчалася ў м. Унеча пад Арлом і апошняя заставалася ў Менску. На месца выбылых у Менскую роту пачалі набірацца новыя кандыдаты.

Баранавіцкая рота была гэтак жа падзелена на групы і накіравана ў Палессе, магутная група была размешчаная ў Калінкавічах, дзе стала вяла барацьбу з партызанамі, якія знаходзіліся ў Палескіх лясах.

Апошняй ротай якая скончыла навучанне была **Лідская** - яна была падзеленая на дробныя групы накіраваныя на асобныя адрэзкі чыгункі.

Да вясны 1943 года колькасць дабраахвотнікаў у батальёне дасягнула 1000 чалавек. Усе чыгункі на тэрыторыі Беларусі ад Арла да Берасця і ад Полацка да Калінкавічаў мелі беларускую ахову. Адной з асноўных яе задач была барацьба з савецкімі і польскімі партызанамі.

Пазней практычна ўсіх беларускіх афіцэраў замянілі нямецкімі, пакінуўшы беларускага афіцэра толькі ў якасці прапагандыста, ім быў **лейтэнант Язэп Сажыч.**

Аж да эвакуацыі ў 1944 годзе батальён выконваў свае абавязкі. Ён быў пераведзены ў прырэйнскую вобласць, дзе службоўцы былі выкарыстаныя як рабочая сіла на чыгунках, частка пазней улілася ў 1-ю Беларускую штурмавую брыгаду СС.

Батальён забяспечваўся са складоў чыгуначнай паліцыі (Bahnschutzpolizei) у Менску. Службоўцы яго насілі стандартную сінюю нямецкую ўніформу паліцыі аховы чыгунак, але з беларускімі пятліцамі і кукардамі, зацверджанымі пазней і для Беларускай Краёвай Абароны, пагоны і званні былі нямецкімі. Узбраенне ў батальёне было па статуце таксама нямецкае, але тып узбраення больш залежаў ад аддаленасці рот ад Менска напрыклад, па ўспамінах сучаснікаў у службоўцаў **Лідскай роты** на ўзбраенні былі савецкія кулямёты Дзегцярова ДП-27 і вінтоўкі Мосіна. А ў Менску выдаваліся і нямецкія ўзоры.



***Афіцэр Беларускага батальёна аховы чыгунак***

***Язэп Сажыч***

# СПРАВУ СВАЮ МЫ РАБІЛІ ШЧЫРА, САМААДДАНА, САМААХВЯРНА

Зусім гадка стала — ужо пад «дзевяностку» падыходжу. Фізічна я вельмі слабы, але, дзякуй Богу, мазгаўня трохі працуе. Не прапіў поўнасцю (смяецца). У кантакце з іншымі беларусамі, цікаўлюся падзеямі, чытаю нашы газеты («Беларуса», «Нашу Ніву»), хачу яшчэ нешта зрабіць для Бацькаўшчыны. Гэтым і трымаемся. Мяне, Барыса Рагулю і Ўладзіміра Набагеза мая нябожчыца жонка колісь назвала «трыма беларускімі мушкецёрамі». Надта падобны ў нас лёс: усе з Наваградскай акругі, скончылі адну гімназію, потым сталі афіцэрамі і, урэшце, — дактарамі. Да гэтых часоў разам трымаемся. Хаця Барыс, на жаль, ужо зусім слабы . Нябожчык Аляксандар Стагановіч — пасол у польскім Сойме — ахрысціў нас «наваградскай мафіяй». З трох «мафіёзі» я — найстарэйшы…

Ляжу часта ў ложку, і ўспаміны ў галаве страшэнна круцяцца: хоць кнігу выдавай. Мушу імі з Вамі падзяліцца.

Нарадзіўся 5 верасня 1917 г. у вёсцы Гарадэчна. Гадаваўся ў страшэннай беднаце: бацька памёр, калі мне было два годзікі (мамачка расказвала, што ён любіў мяне больш за ўсё на свеце), і маленькі хлопчык мусіў зрабіцца гаспадаром — араць, касіць. У сем-восем гадоў я стаў у хаце лідарам: як скажу, так і мусіць быць!

Калі мама злавалася, называла мяне «праклятым бальшавіком». «Чырвоных», як і палякаў, ніколі не паважала.

Мая маці, Вера Дарашэвіч, была для бацькі Сымона, які вярнуўся з заробкаў у ЗША, другой жонкай. Калі памерла першая, на бацькавых руках засталіся трое дзетак. А мамачка, зусім маладая тады жанчына, да шлюбу працавала ў Гарадэчна ў цёткі. Была яна чалавекам амаль непісьменным, але вельмі інтэлігентным, разумным.

Братка, ты не ўяўляеш, як мы з мамачкай любілі адно аднаго. Ужо апынуўшыся на вайне, перад апошняй атакай быў упэўнены, што мяне заб'юць. Смерці не баяўся, страшыўся аднаго: што мама не перажыве страты сыночка...

* * *

Калі споўнілася 14 гадоў, здарылася падзея, якая моцна паўплывала на мой лёс. Кашу ля рэчкі сена, пад'язджае брычка з войтам Сокалам: «Хадзі вучыцца, ты здольны хлопец». Я кажу: «Дык гэта грошай вялікіх каштуе». А ён: «Нічога, я ведаю дырэктара Ціханоўскага, прыходзь да мяне ў гміну». Войт мне выпісаў пасведчанне, перахрысціў і кажа: «Сынку, хадзі вучыся, але не давярай ніякай савецкай прапагандзе!» Пасля таго як зачынілі беларускую гімназію, перайшоў у навагрaдскую польскую гімназію, плаціў толькі 25 працэнтаў ад сумы. Я быў найбяднейшы з усіх хлопцаў. За гады навучання ў гімназіях не знайшоў магчымасці купіць аніводнай кнігі — пазычаў у багацейшых сяброў. Гімназія мела лінгвістычную скіраванасць, шмат вучылі на памяць. Я перапісваў на паперку і, ідучы дадому (дзесяць кіламетраў штодня), вучыў на памяць. І цяпер шмат лацінскамоўных твораў памятаю. Здараецца, як пачнем з Набагезам дэкламаваць па чарзе...

Відавочна, таму, што ў дзяцінстве галадаў, цяпер магу ні ў чым сабе не адмаўляць: хачу — ем сала, хачу — селядзец. Уявіце: дзесяць гадоў пешшу хадзіў з Гарадэчна ў Навагрaдак і назад. А гэта дзесяць кіламетраў кожны дзень. Чатыры кіламетры ішоў босы, а пад горад надзяваў чаравічкі, вось так, братка. На прыгарадку жылі Мазуры — бацькі маёй жонкі. Матка яе была стараверка, з сям'і Кашталянавых, паходзіла ад вялікіх расейскіх магнатаў. І калі я пачаў сустракацца з яе дачкой Варай, яна казала: «Што, я аддам сваю дачку за гэтага батрака? Што ў яго за гены?»

У гімназіі я быў неблагім матэматыкам, хацеў ісці на інжынера. І тут у Навагрaдак прысылаюць маладых украінскіх святароў, што скончылі ў Варшаве тэалогію. Быў такі святар Скрыпнік, ён мяне ўвесь час апякаў. Аднойчы ён кажа мне: «Ну што думаеш рабіць далей?» Паступаць ва ўніверсітэт было не па сілах фінансава. Скрыпнік націскаў, каб я ішоў на тэалогію: «Вам, беларусам, патрэбны адукаваныя патрыёты-святары». Рэлігію я паважаў, але разам з тым страшна любіў войска. Вучыцца вайсковай справе? Але ж куды цябе палякі прапусцяць?..

* * *

Пачалася Другая Сусветная вайна. На фронце я зрабіўся героем: кідалі ў цяжкія абставіны, і я неяк з іх вылазіў. Камандзір дывізіі, таксама беларус, Мікалай Болтуць называў мяне «беларускім ільвом». Пяць разоў хадзіў у атаку — быў камандзірам левага флангу. У час апошняй атакі паднімаю пісталет і крычу: «Хлопцы, за мною!» А кулямёт як трахне — добра мяне прасёк. Ляжу, гляджу на рану і думаю: усё, заб'юць немцы. Аказалася, што яны добра ратавалі афіцэраў, — адразу мяне паднялі з зямлі і адвезлі ў амбулянс. Нямецкі маёр, малады хірург, зрабіў рэнтген, пагладзіў па галаве і кажа: «Юнге, ты шчаслівы! Косць не закранута, мы цябе вылечым». Лячылі мяне ў вялікім ваенным шпіталі ў Лодзі.

Якраз тады саветы дамовіліся з Гітлерам: Нямеччына выпускае дадому беларусаў і ўкраінцаў, а СССР — г. зв. «фольксдойчаў», палякаў нямецкага паходжання. Я скарыстаў гэтую магчымасць, уцёк са шпіталю і пайшоў дадому, у Гарадэчна.

Нашая хатка стаяла на цэнтральнай вуліцы. Стаіць мая мамачка, прыглядаецца да хлопцаў у шынялёх. Падыходзіць да яе адзін, з суседняй вёскі: «Што, бабушка, сынка чакаеш? Выбачай, сам бачыў — палёг твой сынок у баі». Божачкі, а я ж адзін сынок у мамачкі.

Наша сям'я належала да наваградскага сабора святога Мікалая, настаяцелям там быў Мікалай Гарбацэвіч. Я добра яго ведаў, нават кадзіла падаваў. Мамачка, канешне, адразу пабегла да яго. Зрабілі па мне вялікую паніхіду, усе плакалі, спяваў хор — пра гэта я пазней даведаўся. І вось прабіраюся агародамі дадому, а мамачка стаіць і набірае ў калодзежы ваду. Убачыла мяне і адразу ж, самлеўшы, упала: «Дзеці, глядзіце, што робіцца!» Думала, што прывіда ўбачыла.

Ужо ў Нямеччыне я спаткаў беларускага дзеяча Васіля Плескача, які ў французскай зоне акупацыі працаваў дырэктарам польскай школы. У 1948 г. у яго нарадзіўся сын, і Васіль папрасіў, каб я стаў хрышчоным бацькам. Прыязджаю на хрэсьбіны ў Швэнінген. Гляджу — Гарбацэвіч, божачкі ты мой! Той вочы вытарашчыў, падбег да мяне, цалуе і кажа: «Выбачай, родненькі. Я ж паніхіду па табе ўжо справіў. Вер, доўгім будзе тваё жыццё». Я асабіста прасіў Быкава апісаць гэты выпадак, аднак спадар Васіль адказаў: «Выбачай, даражэнькі, я не магу апісаць тое, што сам не перажыў».

* * *

Вярнуўся ў Гарадэчна. І тут сустракаю аднаго са сваіх таварышаў па гімназіі, а ён быў камсамольцам: «Юзік, хавайся. Табе тут не месца. Уцякай!» Выпісаў пасведчанне, у якім было сказана наступнае: «Сажич Иосиф Семенович, бедняк, направляется на учебу». І я паехаў у Львоў, праціснуўся ва ўніверсітэт, на ўліковаэканамічны факультэт. Зрабіў тры семестры, стаў выдатнікам. Між іншага, у Львове ў тыя часы апынулася шмат беларусаў: пасля таго як Вільню аддалі літоўцам,

Віленскі ўніверсітэт перавялі на літоўскую мову. Парасейску ў Львове ніхто не размаўляў — расейцаў галічане не шанавалі. Калі прыехаў у Львоў, на нацыяналізм не «хварэў». І мае калегі-студэнты, адданыя галіцкія патрыёты, уцягнулі мяне ў «бандэраўцы». Я сваімі вачыма бачыў, як на Галоўным рынку Львова было аб'яўлена аб стварэнні незалежнай дзяржавы, самаўраду. Якая весялосць пачалася, якое свята! А калі немцы заявілі, што Галіцыя — гэта частка Аўстрыі, — галічане пайшлі ў падполле. Была ўтворана Украінская паўстанчая армія, якая змагалася і з камуністамі, і з фашыстамі. Я таксама быў звязаны з гэтай арганізацыяй, з'яўляўся камандзірам у адной з вёсак. Потым мне далі харчовую краму, і ў Беларусь я паехаў самы апошні, бо мусіў забяспечваць харчамі ўсіх хто ад'язджаў.

Слухай, браток, нацыяналістам я стаў менавіта ў Львове. Калі жылі пад палякамі, пра незалежнасць і не марылі: нейкія правы, аўтаномія і ўсё. А ў сяле пад Львовам бачу: дзяўчаты выцягваюць з-пад куфраў нацыянальныя «жоўта-блакітныя» сцягі, усе спяваюць, святкуюць — нацыянальны ўздым каласальны. Божа, думаю, а ў нас што?.. Украінцы мяне пытаюць, якія сцяг і гімн у Беларусі, а я чырванею — не ведаю... Нават вусаты селянін-украінец, калі пачуў адказ, адкуль я прыехаў, сказаў: «Дык ты ж ліцьвін!» Гэта мяне страшэнна ўзварушыла.

* * *

Але мусіў вярнуцца ў Наваградак, дзе ўсё апанавалі палякі, якія здавалі беларусаў немцам: ён, ён і ён — камуністы, і справа скончана... Стаўленне немцаў да нас было рознае: шмат было і добрага, і благога. Напрыклад, галоўны камісар Вільгельм Кубэ зрабіўся сябрам беларусаў, стараўся нам дапамагчы. Велізарная праблема крылася ў тым, што не ведалі, каму давяраць, а каму — не. Сярод нас, беларускіх нацыяналістаў, былі людзі, завербаваныя саветамі. Таму паводзіць сябе трэба было надта асцярожна. Лічу, што галоўным лідарам беларусаў тых часоў, нашым правадыром, быў Радаслаў Астроўскі — здольны, адукаваны, рашучы, сапраўдны шляхціц. Я быў на яго пахаванні ў ЗША, аддаў апошнюю даніну павагі гэтаму выдатнаму дзеячу.

Ратаваць суайчыннікаў ад немцаў і палякаў пачаў на Наваградчыне Барыс Рагуля, які вырваўся з палону і засеў у гэбітскамісарыяце. Барыс, як спаткаў мяне, адразу прапанаваў: будзеш камісарам паліцыі па цэлай Наваградскай акрузе. Але, пабыўшы ў Львове, я адрэзаў: «Ніякага супрацоўніцтва з немцамі! Дай мне войска — пайду ў войска».

Рагуля ўвесь час недзе матаўся: то ў Менск паедзе, то ў Вільню. Жылі мы ў адной хаце, і аднойчы ноччу, а другой гадзіне, прылятае Барыс, запальвае святло і кідае мне пачак папер: «На табе тваё войска!» Тады немцы далі дазвол утварыць Самаахову: адчынялася афіцэрская школа перашкалення ў Менску, у кожнай акрузе — падафіцэрскія школы і ў кожным раёне — батальёны. Да самай раніцы святкавалі падзею: выпілі, браток ты мой, добра.

Мяне прызначылі камандзірам падафіцэрскай школы ў Наваградку. Пад маім кіраўніцтвам было чалавек дзвесце. Немцы паглядзелі, з якой адданасцю хлопцы вучыліся, і спалохаліся. Выдалі загад, паводле якога гэтыя кадры мусілі выкарыстоўвацца для дапаможных аддзелаў. Напрыклад, была створана лясная самаахова. Раптам мяне ў Менск выклікае Франц Кушаль і інфармуе, што немцы даюць дазвол утварыць чыгуначны батальён. Цікава, што Кушаль мяне спаткаў ужо ў чыгуначнай уніформе. У ранзе палкоўніка мяне тады сустрэў князь Святаполк-Мірскі . Я быў супраць гэтай працы, аднак мне адказалі: «Сажыч, вы ёсць афіцэр, таму — ніякіх дыскусій». Я мусіў узяць 50 хлопцаў са сваёй школы ў Наваградку і ехаць **у Ліду.** Батальён не быў беларускай ваеннай адзінкай: я цягам шасці месяцаў школіў жаўнераў, і пасля іх накіроўвалі на ахову станцый. Мы мелі кулямёты, гранаты, вострую зброю. Нас апранулі ў сінюю нямецкую чыгуначную ўніформу, на шапках была нашыта «Пагоня», а на каўнярах — ярылаўскія крыжы.

Аднойчы на адной са станцыяў здарыўся такі інцыдэнт: жаўнер Слонімскі абяззброіў немцаў, забраў колькі хлопцаў і пайшоў у чырвоную партызанку. Двое хлопцаў, якія баяліся нямецкага расстрэлу, прыбеглі да мяне, і я іх накіраваў у Нямеччыну. А Слонімскі паехаў у тыл, бульбу абіраць.

* * *

Калі Барыс Рагуля арганізаваў у Наваградку швадрон, я туды не трапіў: мяне накіроўвалі з аднаго месца ў другое: Маладзечна, Стоўбцы... У кожным я меў па 200—300 хлопцаў для вучобы. У суме я перашколіў каля 2500 жаўнераў.

Браток, ты б ведаў, як мяне любілі хлопцы! Чаму? Бо ўмеў расказваць: сяду ды пачну апавядаць пра свае ваенныя прыгоды, а маладыя жаўнеры ажно раты параскрываюць.

Гадаваў іх у патрыятычным рэчышчы, рабіў заклікі хапаць зброю і бараніць Бацькаўшчыну. Мала хто ведае, што я з'яўляюся аўтарам некалькіх знакамітых вайсковых песень, падбіраў да іх мелодыі. Пад бел-чырвона-белымі сцягамі, з «Пагонямі» мае хлопцы маршыравалі і спявалі патрыятычныя песні. Лішнім будзе казаць, што размаўлялі мы толькі па-беларуску. А цяпер хтосьці ўяўляе сабе, каб лейтэнант беларускай арміі загаварыў на роднай мове?.. Дарэчы, я вывез з Баранавічаў апошні цягнік, а з ім — 300 чалавек. Усе палескія станцыі ўжо пазаймалі саветы.

На ІІ Усебеларускім кангрэсе ў Менску я меў ахоўныя функцыі: з двума пісталетамі, гранатамі дзяжурыў на балконе. Туды мяне асабіста накіраваў Усевалад Родзька. Калі б здарыўся нейкі сабатаж ці з савецкага, ці з нямецкага боку, я быў гатовы страляць ці кідаць у злачынцаў гранаты.

* * *

За мяжой закінулі нас ажно ў Саарбрукен, што знаходзіўся ў французскай зоне акупацыі. Родзька, які

кіраваў Беларускай Незалежніцкай Партыяй, гэты вялікі канспіратар, даў мне загад перайсці да французаў. Раптам у Саарбрукен прыязджае маёр Барыс Рагуля і забірае мяне ў Берлін, адкуль мы накіраваліся ва Ўсходнюю Прусію. Там быў ужо створаны беларускі дэсантны батальён «Дальвіц».

Колькі я там спаткаў знаёмых хлопцаў — не пералічыць! Кажу Рагулю: «Я ж нічога ў гэтай справе не разумею». На што генерал Міхал Вітушка, які пры сустрэчы па-бацькоўску мяне расцалаваў, адказаў: «Не хвалюйся. Я ўсё вазьму на сябе».

Дарэчы, дэсантаваць у Беларусь мусіў Рагуля, аднак ён ужо меў сям'ю. Па адной з версіяў, у 1944-м дэсантаваў Вітушка, які нібыта быў забіты ў баі з савецкім войскам. Паводле іншых, яму ўдалося схавацца дзесьці на Захадзе. Апынуўшыся зноў у Берліне, тры дні сядзеў у начальніка галоўнага ваеннага ўпраўлення БЦР Канстанціна Езавітава, рабіў справаздачы. Потым Рагуля засунуў мяне ў Баварыю, дзе я зрабіўся камандзірам афіцэрскай школы. Працую, адказна раблю справу — і раптам немцы прысылаюць нейкага свайго афіцэра, які мусіў пераняць мае функцыі. Хлопцы распачалі бунт, а мяне пасадзілі пад хатні арышт і хацелі расстраляць. Але з дапамогай Рагулі, які ўсюды, дзе б ні быў, ствараў на прысутных цудоўнае ўражанне, мяне вызвалілі ды накіравалі ў нямецкую школу афіцэраў пад Ростак, у зямлю Мэкленбург.

* * *

Пасля вайны многія беларусы, якія перабіраліся ў ЗША, з той нагоды, што тым ці іншым чынам былі далучаны да немцаў, баяліся праблем. Яўрэі зрабілі так, што нас пачалі называць нямецкімі калабарантамі. А я нічога не баяўся, бо ведаў: мая біяграфія чыстая. Ніколі, ніводнага разу мяне не вінавацілі, што я быццам зрабіў штосьці благое для свайго народу. Калі даваў нямецкаму журналісту інтэрвію, сказаў наступнае: «З чортам кроўю падпішу дамоўленасць, каб толькі яны далі мне зброю, і я змог бы бараніць Беларусь».

Скончыўшы медыцынскі факультэт Марбурскага ўніверсітэта, на ваенным караблі накіраваліся з жонкай у ЗША. Шчыра кажучы, хацеў ехаць у Аргентыну ці Аўстралію, аднак жонка, у якой у ЗША жыў дзядзька, настаяла.

Цікавая размова адбылася, калі мы ўжо заходзілі на карабель. Правяральшчык глядзіць у мой пашпарт і кажа: «Хто Вы па нацыянальнасці?» — «Беларус». Той здзіўляецца: «Дык беларусы ж сталіся вольным народам, вяртайцеся на радзіму». Я не губляюся: «А я камуністаў не люблю». Мне ў лоб: «Ты што, — фашыст?» — «Чаму ж, я — дэмакрат». Той зарагатаў: «Тады, канешне, праходзь — будзеш у ЗША за нашую дэмакратычную партыю галасаваць». У той час пры ўладзе былі рэспубліканцы...

У Амерыцы я працаваў па спецыяльнасці — доктарам-анестазіёлагам. Дачка Гелена нарадзілася, калі я яшчэ быў студэнтам у Нямеччыне. А сын Юзік з'явіўся на свет, калі мне было 44 гады! Я хацеў, каб ён таксама стаў лекарам, аднак сын выбраў іншы шлях — святарскі. Цяпер Юзік — знакаміты тэолаг, як місіянер нават да Беларусі дабраўся. Праўда, пратэстант.

Ёсць у мяне ўнукі, якіх я страшэнна люблю. У Фларыду перабраўся 15 гадоў назад: тут цудоўны клімат, цеплыня, мора. Дачка кажа, каб вяртаўся назад: «Буду цябе даглядаць». Аднак я і сам рады яшчэ даю, дый прызвычаіўся да Фларыды.

Прыехаўшы ў Дэтройт, адразу ж працягнулі нацыянальную справу. Мая жонка, якая раптоўна памерла ад раку, калі ёй было трохі больш за 50 гадоў, таксама была палымянай патрыёткай Бацькаўшчыны. Як і ўся яе інтэлігентная сям'я. Дарэчы, яе сястра яшчэ жыве ў Дэтройце, яна замужам за доктарам-беларусам Жывікам. Ведаеш, чалавеча, калі б я не быў у Дэтройце, ніхто б там не ведаў, што такое Беларусь, і хто такія беларусы. Справу сваю мы рабілі шчыра, самаадданна, самаахвярна. Менавіта я заснаваў у Дэтройце праваслаўную парафію Святога Духа. Потым царкву напаткала бяда. Пра раскол у беларускім царкоўным жыцці сказана-пісана шмат, таму спыняць на ім увагу не буду. Скажу адно: я заўсёды падтрымліваў беларускую аўтакефалію. Яна, а не вуніяцтва, мусіць быць нашай нацыянальнай рэлігіяй. Дарэчы, мяне хацелі высвяціць на святара, асабліва пасля смерці жонкі. Высвяціўся б — мог разлічваць стаць япіскапам. Але ўмяшаліся справы палітычныя, і я сказаў «выбачайце». І добра, бо я не веру ў Святую Тройцу...

Шчыра кажучы, я не збіраўся займацца палітыкай. Аднак у 1982 г. мяне нечакана абралі на пасаду старшыні Рады БНР. Хоць былы старшыня Вінцэнт Жук-Грышкевіч мяне не любіў, галасы за мяне падалі 70 % дэлегатаў. Раней Жук-Грышкевіч зрабіў мяне сакратаром па справах ветэранаў, заўсёды казаў, што палітычна я — няпісьменны.

Пісьменны, няпісьменны, але ж кіраваў 15 гадоў. Час майго кіравання хтосьці ахрысціў «брэжнеўскім застоем», але, паверце, гэта хлусня. Калі сыходзіў, галасаваў супраць цяперашняй старшыні Івонкі Сурвілы, і яна пра гэта ведае — хацеў, каб маё месца заняў Рагуля. Калі яе выбралі, я сказаў: «Івонка, будзеш нашай Маргарэт Тэтчар». Лічу, што яна добра кіруе справамі: усюды піша, прамаўляе. Сваім найвялікшым дасягненнем я лічу візіт на Радзіму ў 1993 г., калі святкаваліся 75-я ўгодкі БНР. Ніколі не забуду гэтага гістарычнага моманту: я раблю прамову перад трыма тысячамі чалавек, усе скандуюць «Жыве Беларусь!» — і ў мяне цякуць слёзы... Ездзіў тады і ў Вільню, дзе адбыўся заклад магілы братоў Луцкевічаў. І ў Беларусі, і ў Літве за мной бегала прэса, усё пытала пра БНР. Я адказваў коратка: «Калі б не БНР, не было б БССР. Калі б не было БССР, не было б незалежнай Беларусі». Вось так, братка. Спаткаўся з нашымі адметнымі дзеячамі. Напрыклад, з Пятром Краўчанкам у добрым рэстаране пілі каньяк, з мітрапалітам Філарэтам. Апошні, дарэчы, абяцаў, што з цягам часу абавязкова пяройдзе на беларускую мову... Антыбеларускасць — страшэннае гора сучаснай Беларусі. Лукашэнка — хітры і здольны палітык. І сярод апазіцыі я сёння не бачу такіх жа здольных ды хітрых. Але ж, нягледзячы ні на што, Беларусь мусіць адрадзіцца.

***М. Ф. Герасімовіч***

# ШКЛОЗАВОД “НЁМАН”

## Кароткі агляд станаўлення і развіцця

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**ПА ШЛЯХУ ПАШЫРЭННЯ І РЭКАНСТРУКЦЫІ**

З уз’яднаннем заходніх і ўсходніх абласцей Беларусі ў адзіную рэспубліку шклозавод “Нёман” быў нацыяналізаваны.

Што сабой уяўляла забудовы пляцоўкі завода і пасёлка да гэтага часу, відаць на сітуацыйным плане, узятым з генплана завода, прыкладзенага да тэхнічнага пашпарта, па стане на сакавік 1941 г.

Асноўныя і дапаможныя вытворчыя будынкі і будынкі завода на гэты час:

- памяшканне гуты, якое ўключае аддзяленне падрыхтоўкі сыравінных матэрыялаў і іх шыхтаванне, а таксама аддзяленне варэння шкломасы, фармавання і адпалу вырабаў і іх першасную апрацоўку і сартаванне;
- два памяшканні дэкаравання вырабаў, з іх так званая старая шліфоўня з аддзяленнем жывапісу, якое прымыкае да кацельні, і новая шліфоўня;
- памяшканне па вырабу шкловарачных гаршкоў і вогнетрывалага прыпасу;
- блок газагенератарнай станцыі з механічным на вугалі і дрывяным газагенератарамі і электрастанцыяй з газавым рухавіком;
- асобныя памяшканні фармавой і кузні;
- тартак;
- склады гатовай прадукцыі, сыравінных і дапаможных матэрыялаў і кіслот;
- аўтагараж;
- паравознае дэпо і разгалінаваная па ўсёй тэрыторыі завода вузкакалейная чыгунка, а таксама пракладзеная вузкая каляя да станцыі Нёман з размешчанымі там складскімі пляцоўкамі і памяшканнямі.

Адносна завода пасёлак размяшчаўся з улікам ружы вятроў. На плане праглядаецца яго спарадкаваная забудова. Нараўне з раней згаданымі аб’ектамі, такімі як касцёл, дом апекі маці і дзіцяці, сямігадовая школа, тут былі дом асветы, стадыён, рынак і пляц.

***Сітуацыйны план завода і пасёлка, 1941 г.***

Славутасць пасёлка - невялікі парк з рэдка сустраканымі для дадзенай мясцовасці дэкаратыўнымі дрэвамі і дзве аранжарэі.

Завод працягваў працаваць у новых умовах, вырабляючы гатункавы посуд, лямпавае шкло, ізалятары і іншую прадукцыю.

Але мірная праца працягвалася нядоўга. 22 чэрвеня 1941 года фашысцкая Нямеччына напала на Савецкі Саюз, і неўзабаве мясцовасць аказалася акупаванай немцамі.

Вызваленне наступіла толькі 9 ліпеня 1944 года. Вялікая частка мужчынскага насельніцтва пасёлка была мабілізаваная ў шэрагі Чырвонай Арміі, а пазасталыя разам з жанчынамі і падлеткамі аднаўлялі завод.

Да канца 1944 года была ўведзена ў эксплуатацыю адна 10-ці гаршковая печ, бо яна была менш разбураная ў параўнанні з іншымі печамі, а таксама мелася ў запасе некаторая колькасць шкловарных гаршкоў. Пачаўся выраб, у асноўным, ліставога шкла так званым “халяўным спосабам”, як для ўласных патрэб, так і для жылля працоўных, а таксама лямпавага шкла і найпростага гаспадарчага посуду з выкарыстаннем ручных прэсаў. У 1944 годзе было выпушчана прадукцыі на 265 тыс. руб.

Першым дырэктарам пасля выгнання акупантаў быў некаторы час Брыль Ян Міхайлавіч, са жніўня 1944 г. - Крэнь Васіль Іосіфавіч, а галоўным інжынерам - Шаль Станіслаў Германавіч.

У сувязі з ваеннымі стратамі неабходна было вырашаць пытанне камплектавання завода кваліфікаванымі кадрамі. Таму ўлетку 1945 года ў Смаленскую вобласць на шклозавод “Чырвоны сцяг”, які быў поўнасцю разбураны і не падлягаў аднаўленню, быў камандзіраваны Сцефановіч Казімір Андрэевіч з задачай запрасіць пераехаць у Бярозаўку яго былых працаўнікоў. У выніку праведзенай агітацыі пераехалі 245 чалавек дарослых і дзяцей.

У 1945 годзе колькасць працоўных на заводзе склала 393 чалавекі, у т.л. прамыслова-вытворчы персанал - 370 чалавек, з іх рабочых - 327, ІТР і службоўцаў - 43 чалавекі. Усяго было выраблена прадукцыі на 3074 тыс. рублёў, у т.л.больш за 20 тыс.м2 ліставога шкла.

Першыя пасляваенныя гады былі асабліва цяжкімі. Бракавала сыравінных матэрыялаў, асабліва шчолачных, і вогнеўпораў; былі перабоі з палівам; цяжка даставаўся кожны кілаграм металу для вырабу найпростых прылад і для іншых вытворчых патрэбаў. Вельмі часта працоўным прыходзілася спускацца з варштата і адыходзіць ад шліфавальных станкоў, каб расчысціць ад снежных намецяў вузкакалейную дарогу або нарыхтаваць дровы для газагенератараў.

Але гэта былі гады вялікага працоўнага запалу, дзякуючы якому паспяхова ішло аднаўленне і развіццё завода і з года ў год нарошчваліся аб’ёмы выпуску валавай прадукцыі.

У 1946 годзе пачала працаваць ванная печ з ботамі на 10 працоўных варштатаў і малая ванная печ перыядычнага дзеяння на 2 варштаты для вырабу ізалятараў. Аб’ём вытворчасці ў параўнанні з 1945 годам узрос амаль на 90% і склаў 5833 тыс. руб. У якасці паліва было выдаткавана 12804 м3 дроў. Запрацавала сілавая станцыя і было выраблена 213,1 тыс.квт/гадзін электраэнергіі.

Начальнікамі сілавой станцыі ў розныя гады былі Брыль У.П., Фядотаў С.Ф. і Рагоўскі М.У.

У памяшканні “новай шліфоўні” абсталяваны механічны цэх па вырабу і рамонту металаформаў, інструменту, абсталявання і запасных частак. У якасці крыніцы электраэнергіі выкарыстоўвалася ўстаноўленая тут жа паравая машына. У 1957 г. у цэху было 4 такарныя, 2 габлявальныя і 2 свідравальныя станкі, а таксама газа- і электразварачныя апараты.

У 1948 годзе на заводзе ўжо працуе 690 чалавек, з іх ППП - 667, у т.л. рабочых - 622, а ІТР і службоўцаў - 45 чалавек.

Яркім пацверджаннем вялікага імкнення кожнага ўнесці асабісты працоўны ўклад у найхутчэйшае аднаўленне разбуранай вайной гаспадаркі з’яўляецца тое, што ўжо да 1 студзеня 1949 года 23 працаўнікі завода выканалі план першай пасляваеннай пяцігодкі. Сярод іх Вайцюшкевіч А.І., Валеўскі М.І., Палубінскі Я.М., Каламыцкі І.І., Казлоўскі Ў.А., Аўраменкаў А.А., Тарашкевіч У.К., Шэўчык Ф.І., Міхайлава А.Ф., Шыліна О.С, Ракаўская Е.З., Стукачова М.П., Казлоўская І.Е., Суворына Е.А., Меляшэнкава А.Я., Мяркулаў А.Ф., Дудэк І.Ф., Мяркулава Я.І., Касцюкевіч А.І., Каламыцкі Л.І., Курыла А.У., Скобля А.І., Тарашкевіч І.К.

У 1945 годзе на базе завода была арганізавана двухгадовая рамесная вучэльня для падрыхтоўкі працоўных вядучых прафесій - выдзімальнік і шліфоўшчык. За гады яе працы было падрыхтавана 270 чалавек.

Пасля выпускнікі вучэльні Аўраменкаў А.А., Аўраменкаў У.А., Жаваранкаў М.С., Баравікоў П.А., Іваноў М.У., Кротаў У.П., Каралёў М.М., Казлоўскі Ў.А., Мяркулаў А.Ф. .Мітрафанаў А.П,, Сямёнава І.М., Пятрэнка І.Г. Трубянкоў У.К. узначалілі брыгады, а Афанасенкаў Л.Я., Жукаў М.Ф. і Мітрафанаў І.Ф. сталі начальнікамі зменаў.

Дырэктарам рамеснай вучэльні быў Шатаў Іван Максімавіч.

Працягваюцца работы па аднаўленні вытворчых аб’ектаў і павелічэнні прадукцыйнасці шкловарных печаў. 10-ці гаршковая печ перабудоўваецца на 12-ці гаршковую. Нараўне з варкай каляровых гатункаў шкла для фармавання вырабаў, афарбаваных у масе, пачынаецца варка накладных з арганізацыяй вытворчасці вырабаў з наколерам. У першую чаргу гэта селенавы лал (рубін), малочнае і жоўтае шкло, рэцэптура якіх прыведзеная ў ніжэйпададзенай табліцы (тут і ў далейшым - у разліку на сухія матэрыялы). *(Табліца 1.)*

Накладное шкло (ў асноўным, селенавы лал і толькі зрэдку жоўтае і малочнае) варыцца ў адным гаршку, а ў двух суседніх - бясколернае. Склад бясколернага шкла да накладных адрозніваўся ад бесколернага для ваннай печы павышаным зместам аксіду калія.

У астатніх 9 гаршках - каляровыя гатункі шкла (ружалін, сапфір, смарагд, блакітнае і т.д.).

У 1952 годзе на гэтай жа печы пачалі варыць

***Табліца 1.***

| Найменне матэрыялаў | Адз. вым. | Бясколернае для гаршковай печы да накладаў | Накладныя гатункі шкла | | | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Селенавы лал | жоўтае | малочнае | |
| Пясок кварцавы | кг | 80,0 | 60,0 | 40,0 | 20,0 | 1. Вільготнасць матэрыялаў, падрыхтаваных да шыхтавання: пясок - 0,5-0,9% мел - 8,0-12,8% сульфат натрыю - 6,9-23,8% салетра натрыевая -1,9-2,5%.. 2. Асноўнасць: сода кальцыяваная - 87,0-92,0%; паташ -75,0-86,0% |
| Сода кальцыяванная | кг | 25,6 | 20,9 | 7,8 | 6,5 | |
| Мел | кг | 11,0 | - | 0,2 | 1,9 | |
| Паташ | кг | 7,7 | 4,7 | 6,9 | 0,4 | |
| Салетра натрыевая | кг | 1,2 | - | - | - | |
| Сульфат натрыю | кг | 1,9 | - | - | - | |
| Бура тэхнічная | кг | - | 4,8 | 4,5 | - | |
| Цынкавыя бялілы | кг | - | 8,5 | 3,1 | - | |
| Сярністы кадмій | кг | - | 1,1 | 0,8 | - | |
| Селен | кг | - | 0,47 | 0,04 | - | |
| Крыяліт | кг | - | - | 0,76 | 3,7 | |

свінцовы крышталь з 18% утрыманнем PbO спачатку ў адным гаршку, а ў 1955 годзе іх стала ўжо тры, у т.л. два- для фармавання выдзіманых вырабаў і адзін - для прасаваных.

Праведзеная ў 1951 годзе рэканструкцыя ваннай печы дазволіла павялічыць колькасць працоўных варштатаў з 10 да 12 штук.

У 1953 годзе была пабудаваная доследная гаршковая печ, якая затым была перабудаваная спачатку на 6-ці, а затым 8-мі гаршковую печ, на якой пасля і была сканцэнтравана вытворчасць накладных вырабаў.

Калектыў завода разумеў, што неабходна не толькі адрадзіць дасягненні мінулых гадоў, але і пайсці далей, пашыраючы каляровую гаму, асартымент і тыпы выкарыстоўваных гатункаў шкла. І гэтае разуменне пацвярджалася практычнымі справамі.

Да ўжо згаданых накладных гатункаў шкла тыпу селенавы лал, малочнае і жоўтае дадаюцца медны лал, кобальтавае, бэзавае, зялёнае і блакітнае.

Для варкі меднага лалу выкарыстоўвалася шыхта, складзеная па наступным рэцэпце: пясок кварцавы -30 кг, сода кальцыяваная - 6,9 кг, мел - 4,8 кг, паташ - 6,9 кг, закіс медзі - 0,9 кг; вокіс волава - 0,45кг і вінны камень - 0,25 кг. Варка праводзілася ў аднаўленчым асяроддзі.

Адмысловага падыходу патрабуе варка зялёнага шкла для накладу, бо пры гэтым неабходна ўвядзенне адносна вялікай колькасці злучэнняў хрому, якія дрэнна рашчыняюцца ў шкле. Каб пазбегнуць так званых “чорных кропак” на паверхні гатовых вырабаў, для афарбоўвання выкарыстоўвалася фрыта наступнага складу: пясок кварцавы - 50 кг, сода кальцыяваная - 70 кг, мел - 12,5 кг, бура тэхнічная - 15 кг, хромпік натрыевы - 15 кг. Звараная фрыта вылівалася ў ваду, гранулявалася, высушвалася, здрабнялася і ўводзілася ў шыхту для зялёнага накладнога шкла, якая складалася па наступным рэцэпце: пясок кварцавы - 80 кг, сода кальцыяваная - 22,4 кг, мел - 14,5 кг, паташ - 1,5 кг, салетра натрыевая - 1,1 кг, сульфат натрыю - 2,6 кг і фрыта - 12,3 кг.

Даволі часта варыцца шкло для імітацыі малахіту. З яго выраблялiся розныя вырабы з шырокай гранню і дэкаратыўныя элементы.

Для атрымання малахіту выкарысталі шыхту двух складаў *(Табліца 2.)*:

***Табліца 2.***

| Найменне матэрыялаў | Адз. вым. | I | II |
|---|---|---|---|
| Пясок кварцавы | кг | 70,5 | 51,7 |
| Сода кальцыяваная | кг | 20,0 | 5,6 |
| Мел | кг | 15,9 | 13,7 |
| Паташ | кг | 7,6 | 8,4 |
| Салетра натрыевая | кг | 1,6 | 3,5 |
| Крыяліт | кг | 2,8 | 19,5 |
| Каалін | кг | - | 11, 9 |
| Вокіс медзі | кг | 1,4 | 2,8 |
| Хромпік натрыевы | кг | 1,94 | 1,94 |

Спачатку праварвалася шыхта I, пасля чаго ў гаршок засыпалі шыхту II. Гатовае шкло не бурлілі, а злёгку перамешвалі бандазіей.

Варыцца залаты лал, аметыст, каляровы крышталь.

У 1958-1959 гг. праведзена шэраг варак з выкарыстаннем у якасці фарбавальніка злучэнняў урану.

На ваннай печы перыядычнага дзеяння выкарыстоўваўся нават “плаваючы” тыгель, у якім варылася малочнае, бэзавае і іншыя гатункі шкла, што давала

магчымасць дадатковай вытворчасці гатункавага посуду.

З пазіцый сённяшняга дня можна толькі захапляцца тымі поспехамі, якія былі дасягнутыя ў 50-ыя годы. Не маючы ўстойлівага энергазабеспячэння, стала адчуваючы цяжкасці з забеспячэннем сыравіннымі матэрыяламі, металапрадукцыяй і будматэрыяламі, у сцесненых вытворчых умовах і пры слаба ўладкаваным побыце калектыў завода з года ў год нарошчваў аб’ёмы вытворчасці такімі тэмпамі, якіх не было ні ў 70-ыя, ні ў 80-ыя годы. За 10 гадоў, з 1950 г. па 1960 г. выпуск прадукцыі ўзрос больш чым у 4,5 разы, г.зн. з 9066 т.р. у 1950 г. да 41373 т.р. у 1960 г. (у коштах 1955 года), а колькасць ППП - толькі ў 1,75 раза (з 870 чалавек у 1950 г. да 1523 чал. у 1960 г), г.зн. за лік росту прадукцыйнасці працы ў цэлым за 10 гадоў забяспечана 62 % павелічэння аб’ёмаў вытворчасці.

Людзі імкнуліся хутчэй загаіць раны вайны не толькі фізічныя, але і душэўныя. І шкляная казка дапамагала ім у гэтым, бо кожны ўдзельнік вытворчага працэсу праз разнастайнасць форм вырабаў у спалучэнні з колерам выкарыстанага шкла і наступным дэкараваннем прылучаўся да свету прыгожага.

Працаўнікі завода, дасягнуўшыя высокіх паказчыкаў у працы, заносіліся ў “Кнігу пашаны” *(гл. Дадатак).*

Першымі з іх былі Паўлоўскі Я.Ф., Мардашкін З.П., Каламыцкі І.І., Рафаенкава Н.І., Ціханава А.К.

На заводзе атрымаў гарачы водгук рух за званне “Ударнік камуністычнай працы”, які зарадзіўся ў краіне. Аб тым, якое важнае значэнне першапачаткова надавалася гэтай падзеі, гаворыць той факт, што кожная кандыдатура на прысваенне звання ўсебакова абмяркоўвалася на цэхавым сходзе, разглядалася кіраўніцтвам завода, а канчатковае зацверджанне спісаў праходзіла на паседжанні бюро раённага камітэта партыі.

Першымі гэтым званнем у 1966 годзе былі ўганараваны Навумаў Я.Р., Валеўскі А.І., Шыманскі Б.І., Клімаў Г.Я., Кіеня Д.А., Кісляк П.Я., Мітрафанаў І.Ф., Салянкоў Я.П. і інш. *(гл. Дадатак).*

У перыяд свайго зараджэння рух сапраўды служыў справе развіцця працоўнага спаборніцтва ў калектывах і сродкам маральнага заахвочвання лепшых працаўнікоў.

Гэта потым дзеяннямі службоўцаў ён быў фармалізаваны і дыскрэдытаваны, і ўжо ў сярэдзіне 70-ых гадоў пазбавіўся арганізацыйнай сутнасці, хоць працягваў фармальна існаваць, аж да 1987 года.

Характэрная для вытворчасці гатункавага посуду разнастайнасць форм і дэкораў патрабавала прыцягнення прафесійных мастакоў для іх распрацоўкі. На заводзе ў пасляваенны перыяд першым прафесійным мастаком была Даніэль-Бек Кіра Іванаўна, якая працавала з верасня 1951г. па кастрычнік 1952 года.

З прыняццем рашэння аб стварэнні на заводах гатункавага посуду эксперыментальна-мастацкіх аддзелаў і ўвядзеннем пасады галоўнага мастака, з арганізацыяй мастацкай рады пры вышэйстаячай арганізацыі, праз якую ў абавязковым парадку павінен быў прайсці кожны новы выраб, ствараліся ўмовы для планамернай працы па абнаўленні асартыменту выраблянай прадукцыі.

Першым галоўным мастаком завода ў 1957 годзе была прызначаная Растоўцава Ніна Мікалаеўна.

У далейшым, з прыходам на завод маладых мастакоў Мурахвера У.С. і Мягковай Л.М., а затым Раудвеэ С.Я., Вакс К.А., Жохава Ў.П., Дзівінскай У.Г., Малышавай Т.І., Сазыкінай В.Ю. і Анішчыка А.А., склаўся працаздольны творчы калектыў, які вызначыў фармаванне асартыментнай праграмы і дэкаратыўны стыль на некалькі наступных дзесяцігоддзяў.

Нараўне з мастакамі распрацоўкай і фармаваннем новых вырабаў займаліся таксама выдатныя гутныя майстры Шыманскі Б.І., Лінкевіч Г.Б. Пятрэнка І.Г., Федаркоў А.Ф., Багінскі Р.І., Гладкоў Я.К. і інш.

У склад эксперыментальнай брыгады ўвайшлі лепшыя майстры гутнай працы. А ўзначальвалі яе ў розныя гады Шыманскі Б.І., Пятрэнка І.Г., Шыманскі Я.Б. і вось ужо каля 20 гадоў Пухоўскі І.М. Калектыў брыгады першым знаёміцца з распрацоўкай мастака і пад яго кіраўніцтвам выблабляе першыя ўзоры вырабаў. Па ходу працы, зыходзячы з практычнага доследу майстроў, часта ўносяцца нейкія змяненні і карэктыроўкі, асабліва калі гэта звязана са складанымі гутнымі формамі.

Выкананне арганізацыйна-падрыхтоўчых работ вядуць Казлоў М.С., Тарас У.У., Шатава С.С.

А нанясеннем дэкору на новыя вырабы займаліся лепшыя майстры-шліфоўшчыкі Аўраменкаў А.А., Бартосік І.С., Навумаў Я.Р., Чылек М.А. і інш.

У 1958 годзе на Міжнароднай выставе “Экспа-58” выраблены на заводзе набор “Аметыст” (аўтар Ісаевіч Г.А.) быў адзначаны бронзавым медалём.



***Туалетны набор “Аметыст” (аўтар Ісаевіч Г.А.)***

Гэта быў паспяховы пасляваенны дэбют і прадвеснік шматлікіх узнагарод прадукцыі завода ў будучыні. Бо кожная ўзнагарода выяўляе інтэгральную сукупнасць мастацкай вартасці, тэхналагічнай сталасці і кваліфікацыйнага ўзроўню персаналу, датычнага да вырабу прадукцыі.

Усё нарастальная патрэбнасць насельніцтва ў вырабах гатунковага посуду, нягледзячы на высокія

тэмпы штогадовага прыросту, не магла быць задаволеная на аднаўленых па часовай схеме вытворчых магутнасцях, разбураных у гады вайны. Памяшканне гуты яўна не адпавядала санітарна-тэхнічным нормам і патрабаванням часу па забеспячэнні нармальных умоў працы. Працаваць даводзілася ў вельмі цесных умовах: бо на плошчы 1500 м2 былі размешчаны дзве ванныя і дзве гаршковые шкловарныя печы; 8 перакладных газавых і паветраных клапанаў; цягун, лер і 22 апечкі; тры тэмперныя печы для абпалу гаршкоў; 24 "зязюлі"; устаноўка для ірызацыі; 21 ручны прэс; 23 пераносныя вентылятары і ўчастак навядзення форм. У нейкай меры, асабліва ўлетку, уздзеянне высокіх тэмператур згладжваў фантан, які дзейнічаў у памяшканні .

Акрамя таго, выклікала боязь надзейнасць эксплуатацыі апорных драўляных канструкцый, замена якіх патрабавала шмат сродкаў і часу.

Пасля неаднаразовых абмеркаванняў у міністэрстве было прынята рашэнне правесці рэканструкцыю завода з павелічэннем яго вытворчай магутнасці.

Пры гэтым прадугледжвалася:

1) правесці карэнную перапрацоўку генплана завода са зносам або рэканструкцыяй часткі існага будаўнічага фонду і будаўніцтвам новых будынкаў і будынкаў з абсталяваннем прампляцоўкі інжынернымі сеткамі;

2) будаўніцтва каналізацыйна-ачышчальных будынкаў у складзе адстойнікаў, палёў фільтравання і мулаватых пляцовак.

3) абсталяванне пасёлка сеткамі цепла- і электразабеспячэння, вадаправоду і каналізацыі.

2 красавіка 1957 года міністр лёгкай прамысловасці Беларускай ССР Г. Семяніхін зацвердзіў заданне ГПІ-3 (г. Ленінград) на распрацоўку праекту рэканструкцыі завода.

Магутнасць завода вызначалася ў 47,0 млн.руб. гатункавага посуду ў год з бясколернага, каляровага, накладнога і крыштальнага гатункаў шкла, а арыентыровачны каштарысны кошт работ - 15 млн. руб.

Пры распрацоўцы ТЭА за зыходныя дадзеныя былі ўзятыя паказчыкі працы за 1956 год. Асноўныя з іх: выпуск таварнай прадукцыі ў аптовых цэнах - 32,1 млн. руб., гатункавы посуд у натуральным выразе - 7644 т. шт., у т. л. выдзіманы - 5427 т. шт. і прасованы - 2217 т. шт.; плафоны - 60,0 т. шт., ізалятары - 455 т. шт.; выпуск вырабаў па тыпах шкла: з крышталю - 419 т. шт.; накладных - 311 т. шт.; з каляровага шкла - 973 т. шт. і з бясколернага шкла -5940 т. шт.; сярэднегадавая колькасць персаналу - 1468 чал.; у т. л. ППП - 1419 чал., і непрамгрупа - 49 чал.

У параўнанні з 1956 годам намячалася павялічыць аб'ём вытворчасці больш чым на 45%, каб больш поўна задавальняць усё нарастальную патрэбнасць насельніцтва ў вырабах гатункавага посуду.

Так быў пакладзены пачатак доўгаму перыяду рэканструкцыі завода, які працягнецца каля 30 гадоў, аж да 1989 года, калі загадам МПСМ БССР № 56 ад 17.04.1989 г. будзе закрыты зводны каштарыс па яго пашырэнні.

Праектнае заданне на рэканструкцыю завода зацвердзіў намеснік старшыні Саўнаргасу БССР 9 верасня 1959 года пратаколам № 30/59.




***Генплан завода, 1957 г.***

Генплан (схема)

м-1:1000

Гончарка

Цех обработки

Силовая

Примечание:
Составлен ГПИ-3 (г.Ленинград)
18 июля 1957 года

*Генплан (схема) завода, 1957 г.*




*Састаўны цэх, 1957 г.*



*Цэх адрэзкі, 1957 г.*



*Цэх апрацоўкі, 1957 г.*

Звесткі аб забудове прампляцоўкі па стане на ліпень 1957 г. дае складзены ГПІ-3 генплан завода, а таксама генплан-схема і выкананыя ў адпаведнасці з ім абмерныя чарцяжы адзначаных там памяшканняў: састаўны цэх, цэх адрэзкі, цэх апрацоўкі, цэх паліроўкі, ганчарны цэх, механічны цэх, сілавая станцыя і гараж. Частка з іх разам з памяшканнем гуты падлягала поўнай разборцы (састаўны цэх, цэх апрацоўкі, сілавая станцыя), другая частка - рэканструявалася (механічны і ганчарны цэх), а гараж захоўваўся для далейшай эксплуатацыі.

Працуючы над праектам рэканструкцыі завода, ГПІ-3 нанава праектуе:

- двухпавярховыя, злучаныя паміж сабой галярэямі, карпусы №1 і №2 з размешчанымі ў іх шкловарнымі, адпальвальнымі і тэмпернымі печамі, участкамі першаснай апрацоўкі і дэкаравання вырабаў з простага шкла;
- састаўны цэх прадукцыйнасцю 30 тон шыхты ў суткі;
- цэх апрацоўкі (дэкараванне крышталю і накладу);
- кацельню;
- кампрэсарную;



***Цэх паліроўкі, 1957 г.***



***Ганчарны цэх, 1957 г.***

- зарадную акумулятарную станцыю;
- воданапорную вежу;
- градзірню;
- склад ПЗМ;
- трансфарматарныя падстанцыі (3 шт.);
- супрацьпажарныя вадаёмы (2 шт.);

Акрамя таго, прадугледжвалася будаўніцтва газагенератарнай станцыі з устаноўкай чатырох механічных газагенератараў з выкарыстаннем торфу Дакудаўскага радовішчы ў якасці асноўнага паліва. Але ў сувязі аб тым, што ў снежні 1961 года завод і пасёлак былі падключаныя да лініі забеспячэння прыродным газам, адпала патрэба ў яе будаўніцтве.

Вышэйпрыведзены пералік праектаваных аб'ектаў будаўніцтва сведчыць аб поўнай перапланіроўцы прампляцоўкі завода з улікам дасягненняў таго часу ў вобласці вытворчасці гатункавага посуду. Першапачатковы варыянт забудовы прадстаўлены на малюнку. У працэсе далейшай працы над праектам ён зведаў значныя змяненні. У прыватнасці, карпусы №1 і №2 былі перанесены на месца, якое адводзілася пад газагенератарную станцыю, а на паўднёвы ўсход ад іх - састаўны цэх,



*Механічны цэх, 1957 г.*



*Сілавая станцыя, 1957 г.*



*Сілавая станцыя, 1957 г.*




***Гараж, 1957 г.***

Магутнасць завода па выпуску прадукцыі ў аптовых цэнах праектам вызначалася ў 48,0 млн.руб. пры наступным яе размеркаванні па відах шкла і метадах фармавання *(Табліца 3)*.

***Табліца3.***

| № | Найменне | Кольк, тыс.шт. | Вага, т | Кошт, тыс.руб |
|---|---|---|---|---|
| | Выдзіманыя вырабы | | | |
| 1 | З бясколернага шкла | 5935,0 | 1027,12 | 20863,55 |
| 2 | З каляровага шкла | 135,0 | 95,55 | 2251,60 |
| 3 | З накладнога шкла | 380,0 | 194,36 | 9565,72 |
| 4 | З крыштальнага шкла | 181,0 | 50,75 | 3836,40 |
| | РАЗАМ | 6631,0 | 1467,78 | 36517,27 |
| | Прасованыя вырабы | | | |
| 1 | З бясколернага шкла | 1329,0 | 910,76 | 4675,64 |
| 2 | З каляровага шкла | 1058,0 | 388,61 | 2261,38 |
| 3 | З крыштальнага шкла | 360,0 | 252,58 | 512,80 |
| | РАЗАМ | 2747,0 | 1551,95 | 9449,82 |
| | Усяго гатунковы | 9378,3 | 3019,73 | 45967,09 |
| | Іншыя вырабы | | | |
| 1 | Плафоны | 60,0 | 30,0 | 1056,00 |
| 2 | Ізалятары | 455,0 | 188,82 | 1001,00 |
| | РАЗАМ | - | 218,82 | 2057,00 |
| | УСЯГО | - | 3238,55 | 48024,09 |

Будаўніцтва аб'ектаў пачалося ў 1960 годзе. Усе пытанні, якія ўзнікалі, як у працэсе праектавання, так і будаўніцтва каардынаваў намеснік дырэктара завода па капітальным будаўніцтве Аўцоў Міхаіл Васільевіч.

Падчас праектавання і будаўніцтва завод не стаяў на месцы, а актыўна нарошчваў аб'ёмы вытворчасці на старых плошчах за лік павышэння прадукцыйнасці шкловарных печаў, укаранення перадавых метадаў арганізацыі працы, усталёўкі дадатковага абсталявання і ўдасканалення прыёмаў фармавання вырабаў. Вельмі важную ролю пры гэтым сыграла падключэнне ў 1959 годзе да цэнтралізаванага электразабеспячэння ад пабудаванай паніжальнай падстанцыі 35/10 кв, а таксама пераход на выкарыстанне прыроднага газу замест генератарнага.

З мэтай больш рацыянальнага выкарыстання працоўнай сілы ў 1958 годзе пачалі скарыстоўваць металічную баначку пры вытворчасці дробных вырабаў. Гэта дазваляла абыходзіцца ў брыгадзе без такой традыцыйнай прафесіі як баначнік без паніжэння дзейных норм выпрацоўкі, г.зн. у брыгадзе па вытворчасці вырабаў чаркавай групы замест пяці чалавек на варштаце можна было абыйсціся чатырма, захоўваючы ранейшы тэмп працы. У 1959 годзе металічную баначку пачалі таксама выкарыстоўваць пры вырабе графінаў для віна.

У гэты перыяд праглядаецца асабліва вялікая актыўнасць у распрацоўцы і ўкараненні тэхналагічных навінак, звязаных з выкарыстаннем новых энерганосьбітаў. Так, у 1962 годзе Зуеў Іван Сцяпанавіч і Гукаў Юры Мікалаевіч распрацавалі, вырабілі і ўкаранілі ў эксплуатацыю карусельную апальную машыну для агнявой паліроўкі верху вырабаў. Прапанаваная канструкцыя з невялікімі зьмяненнямі выкарыстоўваецца на заводзе да цяперашняга часу.

Пераход на выкарыстанне прыроднага газу замест нізкакаларыйнага генератарнага забяспечыў высокую надзейнасць вядзення працэсу шкловарэння, павысіў эфектыўнасць працы шкловарных, адпальных

і тэмперных печаў і стварыў умовы для належнага ўзроўню прамсанітарыі, як на тэрыторыі завода наогул, так і паляпшэння мікраклімату ў зоне працы брыгад.

Адказным за захаванне правілаў бяспечнага выкарыстання прыроднага газу быў прызначаны галоўны энергетык завода Сталяроў Л.Ф., а створаную газавую службу ў розныя гады ўзначальвалі Сцяпанаў І.Г., Ядлоўскі А.П., Вазняк Ю.У., Стромскі А.С., а ў апошні час Анацка Ў.А.

З прыходам устойлівага рэжыму электразабеспячэння пачаўся пераход у цэху апрацоўкі крышталю і накладу да канвеерызацыі, і таксама быў сканструяваны, выраблены і ўведзены ў эксплуатацыю ў 1959 годзе першы электрамуфель для абпалу керамічных фарбаў і золата, выкарыстаных для дэкаравання паверхні вырабаў.

Параўнальныя паказчыкі працы завода ў гэты перыяд характарызуюцца наступнымі дадзенымі *(Табліца 4).*

*Табліца 4.*

| Найменне паказчыкаў | Адз. вым. | 1956г. | 1963г. | Тэмп росту % |
|---|---|---|---|---|
| Выпуск ТП у аптовых цэнах з улікам дэнамінацыі | тыс.руб | 3214,5 | 4191,0 | 130,4 |
| Выпуск прадукцыі ў натуры | тыс.шт. | 7644,0 | 11258,0 | 147,2 |
| у т.л. выдзіманая | тыс.шт | 5427,0 | 7744,0 | 142,7 |
| прасованая | тыс.шт | 2217,0 | 3514,0 | 153,5 |
| Вырабы з крышталю | тыс.шт | 419,2 | 583,0 | 139,0 |
| Колькасць ППП | чал. | 1419 | 1670 | 117,6 |

У якасці параўнання ўзятыя 1956 і 1963 гады таму, што першы папярэднічаў пачатку рэканструкцыі завода, а другі - у сувязі з уводам у эксплуатацыю ў лістападзе месяцы вытворчага корпуса №1 па вырабу гатункавага посуду, які з'явіўся яе першынцам. Ва ўведзеным корпусе былі размешчаныя ванная печ бесперапыннага дзеяння прадукцыйнасцю 12 т/суткі і 14-гаршковая печ прадукцыйнасцю 4,2 т/суткі.

Камплектацыя брыгад вялася, як за лік пераводу кваліфікаваных рабочых з старога цэха ў ізноў пабудаваны, так і прыцягненнем дадатковых рабочых з боку. Колькасць ППП у 1964 годзе ўзрасла ў параўнанні з 1962 годам на 357 чалавек.

Першым начальнікам уведзенага ў эксплуатацыю новага цэха быў прызначаны Камар Мікалай Макаравіч.

Разам з корпусам №1 былі ўведзеныя ў эксплуатацыю кампрэсарная, кацельня, воданапорная вежа, станцыя перапампоўкі сцёкавых вод, дзве трансфарматарныя падстанцыі і матэрыяльны склад.

Працягвалася будаўніцтва корпуса №2, складовага цэха, цэха апрацоўкі і іншых аб'ектаў.

У сувязі з шырокім размахам жыллёвага будаўніцтва ў краіне і ростам матэрыяльнага дабрабыту людзей узрастае патрэбнасць насельніцтва ў таварах народнага спажывання, у тым ліку і ў гатункавым посудзе. Таму 15 сакавіка 1963 года прымаецца Пастанова СМ СССР №299 і следам за ёй Пастанова СМ БССР ад 30 сакавіка 1963 года №138 па павелічэнні на заводзе выпуску мастацкіх вырабаў і сувеніраў, на падставе якіх было выдадзена ГПІ-3 (г. Ленінград) заданне на праектаванне, зацверджанае намеснікам старшыні СНГ БССР Батурыным С.Г. 26 красавіка 1963 года.

Тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне было распрацавана ГПІ-3 да кастрычніка 1963 года і зацверджана СНГ БССР 4 лютага 1964 года пратаколам №1/64-ТЭА.

Зводны каштарысна-фінансавы разлік на рэканструкцыю завода быў зацверджаны 22 красавіка 1964 года ў суме 3138,4 тыс. руб.

Асноўнымі аб'ектамі другой чаргі былі вытворчы корпус №3, перавалачная база ў г. Лідзе і пашырэнне кацельні.

Ацэньваючы рашэнне аб будаўніцтве перавалачнай базы ў г. Лідзе, цяжка нават выказаць здагадку, якімі перадумовамі пры яго прыняцці кіраваліся праектная арганізацыя і дырэкцыя завода. Бо яшчэ эксплуатавалася вузкакалейная чыгунка, якая злучае завод са станцыяй Нёман, і цалкам паспяхова функцыянавала размешчаная там перавалачная база. Вядома, там трэба было пабудаваць новыя складскія памяшканні, бо старыя "пазнасіліся", але там для гэтага мелася досыць месца. Арыентацыя на аўтатранспарт, як адзіны від перавозкі грузаў, зусім не апраўдвае яго, бо адлегласць у 6 км да ст. Нёман і 26 км да размяшчэння перавалачнай базы ў г. Лідзе навочна паказвае эканамічную "мэтазгоднасць" падобнага размяшчэння. Але гэтыя вызначальныя меркаванні праектыроўнікамі і дырэкцыяй завода чамусьці да ўвагі прынятыя не былі. Дапушчаны прынцыповы промах з размяшчэннем базы ўжо неўзабаве цяжка адгукнецца на ўзроўні рэнтабельнасці прадукцыі.

Перавалачная база была ўведзеная ў эксплуатацыю ў чэрвені 1967 года. Ужо ў 80-ых гадах яе тэрыторыя апынулася ў кольцы іншых аб'ектаў, і калі ў будучыні паўстане неабходнасць яе пашырэння, такая магчымасць папросту адсутнічае. У далейшым, а асабліва з 1991 года, калі цэны на бензін і дызельнае паліва рэзка пайшлі ўверх, гэтае аддаленне перавозак яшчэ больш адмоўна сказалася на павелічэнні выдаткаў на вытворчасць.

У бліжэйшай перспектыве не праглядаецца магчымасць вяртання перавалачнай базы на ст. Нёман, аднак калі завод будзе інтэнсіўна развівацца, гэта абавязкова здарыцца.

Але вернемся да корпуса №1. Запраектаваная канструкцыя ваннай печы з папярочным кірункам полымя і дзвюма парамі гарэлак у эксплуатацыі аказалася няўдалай. Для размяшчэння рабочых брыгад, здольных зняць 12 тон шкломасы ў суткі пры ручным фармаванні вырабаў гатункавага посуду патрабуецца вельмі вялікі перыметр вырабатачнай часткі, што, натуральна, патрабуе і яе вялікай плошчы. Праекты-




Первый проектный вариант застройк

1- корпус №1; 2- корпус №2; 3 - галереи между корпусами №1 и №2; 4 - составной ц
8 - газогенераторная станция с наклонной галерееей, приемным бункером топлива, у
устройством сбора золы; 10 - компрессорная станция; 11 - механические мастерские
15 - станция канализационных стоков; 16 - зарядно-аккумуляторная станция; 17 -
22 - материальный склад; 23 - мотовозное депо; 24 - станция приготовления реагента
цикла чистой воды; 27 - склад материалов, кислот и оборудования; 28 - водонапорн
газогенераторной станции; 31 - площадки складирования торфа; 32 - п




## и промплощадки стеклозавода “Неман”

ех; 5 - цех картонной тары и медпункт; 6 - цех обработки; 7 - склад готовой продукции; стройством золоудаления, скруберами (8 шт.) и галереей к котельной; 9 - котельная с , электроцех и столярная мастерская; 12 - силовая станция; 13 - формовая; 14 - гараж; лесопилка; 18 - гончарный цех; 19 - сушилка; 20 - пожарный пост; 21 - склад ГСМ; ; 25 - станция нейтрализации кислых стоков и фильтрования; 26 - градирня оборотного ая башня; 29 - трансформаторная подстанция (3 шт.); 30 - градирня оборотного цикла ротивопожарный водоем ( 4шт.); 33 - проходная; 34 - заводоуправление

роўнікамі памеры варачнай і вырабатачнай частак былі вызначаны адпаведна 19,8 і 11,9 м2 Аўтаномнага ж абагравання вырабатачнай часткі не прадугледжвалася, г.зн. забяспечыць неабходную тэмпературу шкломасы меркавалася за лік цеплавыпраменьвання паходні з варачнай часткі. А гэта ў сваю чаргу не давала магчымасці ўсталяваць рашэцісты экран, які падзяляў іх па палымянай прасторы, што пры найменшым змяненні атмасфернага ціску і наяўных нешчыльнасцях у кішэні і заклінку прыводзіла да траплення незгарэўшых часціц паліва ў вырабатачную частку, якія, дагараючы там, выклікалі з’яўленне павярхоўных бурбалак. Праца па падборы дыяметра соплаў, вуглоў сустрэчы газавага струменя з паветрам і суадносіны газ:паветра не прыводзілі да жаданых вынікаў. Толькі пасля рэканструкцыі печы з папярочнага на паўпадковападобны кірунак полымя з устаноўкай падзяляльнага рашэцістага экрана была забяспечаная ўстойлівая праца печы па якасці шкломасы.

***Табліца 5***

| Найменне матэрыялу | Адз. вым. | Рэцэптура рэзінатаў | | | | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Рэзінат жалеза | Рэзінат вісмута | Рэзінат тытана | Рэзінат медзі | |
| Каніфоль | кг | 1,5 | 0,6 | 0,4 | 1,0 | З 1976 г. замест нітрабензола пачалі скарыстоўваць цыклагексанол |
| Жалеза хлорнае | кг | 0,25 | - | - | - | |
| Вокіс медзі | кг | - | - | - | 0,25 | |
| Вісмут азотнакіслы | кг | - | 0,3 | - | - | |
| Тытан чатыроххлорысты | мл | - | - | 80 | - | |
| Спірт этылавы | мл | - | - | 400 | - | |
| Шкіпінар | мл | 1500 | 1500 | 420 | 1400 | |
| Нітрабензол | мл | 750 | - | 420 | 300 | |

Каб размясціць на варштаце больш брыгад, было прынята рашэнне аздабляльнікаў вырабаў чаркавай групы размясціць побач з варштатам. Гэта стварала некаторыя нязручнасці пры прыёмцы порцыі шкла для аздаблення донца ад наборшчыка, а таксама пры перадачы трубак ад выдзімальніка аздабляльніку і назад, але дазваляла больш рацыянальна выкарыстаць плошчу варштата. Аднак больш, чым з 35-гадовага досведу эксплуатацыі дадзенай печы хачу сказаць, што для ручной вытворчасці гатункавага посуду, дзе пераважаюць вырабы чаркавай групы і шклянкі малых ёмістасцяў, нельга праектаваць шкловарныя печы прадукцыйнасцю больш за 9 т/суткі. А лепш за ўсё ў практыцы работы завода зарэкамендавалі сябе шкловарныя печы з падкovападобным кірункам полымя прадукцыйнасцю 5-6 т/суткі.

Ужо ў 1965 годзе побач з ваннай печчу ў корпусе №1 была пабудавана двухгаршковая печ-спадарожнік для варэння марблітавага шкла, якое выкарыстоўвалася для фармавання донца вырабаў. У наступныя гады для гэтых мэт былі пабудаваныя дзве малагабарытныя ванныя печы, размешчаныя па абедзвюх яе баках. Трэба сказаць, што камбінаваныя вырабы з чорным донцам і бясколернай чарай, якая ў большасці выпадкаў дэкаравалася жоўтым люстрам, вельмі эфектыўна глядзеліся на белым абрусе стала і карысталіся павышаным попытам.

Датычна люстровых фарбаў, хачу сказаць, што іх пачалі выкарыстаць на заводзе ў 1961 годзе. Адным з ініцыятараў і распрацоўнікаў іх рэцэптуры была начальнік базавай лабараторыі Садчанка Н.П., а падрыхтоўкай рэзінатаў і люстровых фарбаў займаліся Сурмач Н.Г., Сенатар Р.А. і Лысёнак Г.Н. Выкарыстаныя для гэтага матэрыялы прыведзеныя ў Табліцы 5:

Злучэнні металаў уводзілі ў расплаўленую каніфоль невялікімі порцыямі пры тэмпературы 180-200°C пры пастаянным памешванні, а затым падвышалі тэмпературу на 30-40°C і вытрымлівалі на працягу 20-25 хвілін. Да гэтага часу раствор павінен стаць аднастайным.

Толькі чатыроххлорысты тытан папярэдне змешвалі з этылавым спіртам і атрыманы эфір уводзілі ў расплаўленую каніфоль.

У атрыманыя такім чынам рэзінаты тонкім струменем пры пастаянным памешванні пры тэмпературы 170°C дадавалі сумесь шкіпінару з нітрабензолам, пасля чаго яны адстойваліся на працягу сутак, а затым фільтраваліся праз капронавую сетку з 6400-10000 адт/см2, разліваліся ў бутлі з цёмнага шкла і захоўваліся пры тэмпературы 5-8°C .

Для ўвядзення ў золатаўтрымальныя люстры рыхтаваўся рабочы раствор золата па наступным рэцэпце: бензол - 152 мл; хлараформ - 152 мл і 12%-ны раствор золата - 122 мл.

Для атрымання люстраў розных колераў рэзінаты змешваліся ў наступных суадносінах *(Табліца 6.)*:

Люстр наносіўся пэндзлем на сухую чыстую паверхню выраба і замацоўваўся ў электрамуфелі пры тэмпературы 560-580°C.

Дэкараванне вырабаў люстравымі фарбамі ў вялікіх аб’ёмах праводзілася да канца 70-х гадоў.

18 сакавіка 1965 года быў уведзены ў эксплуатацыю новы складовы цэх магутнасцю 30 т/суткі шыхты пры дзвюхзменнай працы. У цэху была механізаваная лінія па падрыхтоўцы шыхты для бясколернага шкла з аўтаматычнымі вагамі тыпу ДВС і талерчатым змешвальнікам. Збор кампанентаў шыхты крыштальных, накладных і каляровых гатункаў шкла праводзіўся ў кантэйнер на паўмеханізаванай лініі з перасоўным электравазком з усталяванымі платформеннымі вагамі і

*Табліца 6*

| Колер люстра | Складнікі, у аб'ёмах, % | | | | | | | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Рэзінат вісмуту | Рэзінат жалеза | Рэзінат тытану | Рэзінат медзі | Рабочы раствор золата | Лавандавы алей | Разбаўляльнік | |
| Блакітны | 15,2 | - | 22,4 | - | 10,7 | - | 51,7 | 1) склад разбаўляльніка для люстр: шкіпінар - 300 мл; бензол - 175 мл; лавандавы алей - 35 мл. 2) у абмежаваных колькасцях на аснове резинату марганца рыхтавалі дымчаты люстр |
| Жоўты | 9,1 | 45,5 | - | - | - | - | 45,4 | |
| Ружова-бэзавы | 10,4 | - | - | 34,6 | 7,0 | 9,6 | 38,4 | |
| Бэзавы | 7,5 | - | 36 (крэменю) | - | 15,0 | 5,5 | 36,0 | |

наступным мяшаннем на адмысловай установцы.

У наступныя гады ў сувязі з уводам у эксплуатацыю карпусоў №5 і №4 плошча састаўнога цэха была пашыраная за лік прыбудовы і былі зманціраваныя яшчэ дзве механізаваныя лініі, на адной з якіх рыхтавалася шыхта для машыннай вытворчасці вырабаў на ножцы, а на другі - для крыштальных гатункаў шкла. Магутнасць цэха была даведзена да 40 т/суткі шыхты.

Састаўныы цэх адкрывае пачатак вытворчага працэсу. Менавіта тут шляхам дакладнай дазіроўкі складнікаў кампанентаў і іх дбайнага мяшання закладваюцца перадумовы да наступнага нараджэння новага матэрыялу так непадобнага па візуальным успрыманні і па сваіх фізічных і хімічных уласцівасцях на сваіх "бацькоў".

Што ж гэта за матэрыялы?

Першым чынам, кварцавы пясок, які складаецца больш чым на 99% з двуаксіду крэменю, ён з'яўляецца асноўным структураўтваральным кампанентам будучага шкла.

Асноўная яго фракцыя (дыяметр зерняў 0,4-0,6 мм) складае 60-70%, колькасць зерняў меней 0,4 мм - 30-35% , а больш за 0,6мм - да 6%.

Адным з галоўных шкодных дамешкаў у пяску з'яўляюцца жалезістыя злучэнні, змест якіх не павінны перавышаць 0,025 % для бяскалернага шкла і не больш 0,015% - для свінцовага крышталю.

Пясок высушваецца практычна да нулявой вільготнасці, прасейваецца, праходзіць праз магнітны сепаратар для вымання жалезістых злучэнняў і паступае ў расходныя бункеры.

Завод выкарыстоўвае кварцавыя пяскі Навасёлаўскага радовішча (Харкаўская вобл.).

Былі апрабаваныя пяскі, якія залягаюць у Добрушскім раёне Гомельскай вобласці. Пры ўмове будаўніцтва там лініі па іх узбагачэнні, яны могуць быць выкарыстаныя для вытворчасці гатункавага посуду.

Каб знізіць выдаткі энергарэсурсаў на плаўленне зерняў кварцавага пяску, у склад шыхты ўводзіцца шэраг шчолачных кампанентаў. У першую чаргу гэта сода і паташ. Для простага натрый-кальцый-сілікатнага шкла пераважае ўвод соды, а для свінцовага крышталю - паташ, бо аксід калія павышае празрыстасць, бляск і чысціню шкла.

Сода паступае на завод са Стэрлітамака, Беразнікоў, Данецка, Крыма, а паташ - з Волхава і Пікалева.

Па тэхналагічных меркаваннях частку соды замяняем сульфатам натрыю і натрыевай салетрай, а частку паташу - салетрай каліевай. Паступаюць яны на завод, у асноўным, з Беразнікоў, Паўночнаданецка, Магілёва і Светлагорска.

Каб надаць шклу механічную трываласць і хімічную ўстойлівасць ад уздзеяння розных вадкасцяў і іх параў (за выключэннем фтрыстых злучэнняў), у склад шыхты ўводзіцца мел. Прывозіцца ён з Ваўкавыскага раёна Гарадзенскай вобласці, а раней выкарыстоўваўся Белгарадскі.

У працэсе падрыхтоўкі да шыхтавання мел сушыцца да вільготнасці 8-12%, здрабняецца ў малатковай драбнілцы, прасейваецца і паступае ў расходныя бункеры.

Каб дасягнуць больш высокага паказчыка праламлення і ўзмацніць бляск шкла ў склад шыхты ўводзяцца сумесна або паасобку свінцовы сурык і глет. Яны паступаюць на завод з Усць-Каменагорска, Чымкента, Яраслаўля і іншых месцаў.

Цынкавыя бялілы дадаюцца для павышэння тэрмічнай і хімічнай устойлівасці шкла і ўзмацнення светлапраламлення. Гэта адзін з асноўных кампанентаў пры варцы селенавага лалу. Атрымліваюць іх, у асноўным, з Кірава і Растоўскай вобласці.

Борная кіслата або бура ўводзяцца для паніжэння схільнасці шкла да крышталізацыі і павышэння яго хімічнай і тэрмічнай устойлівасці. Паступаюць з Прыморскага краю і Кастрамской вобласці.

Вуглякіслы барый дадаём для павышэння бляску і каэфіцыента святлапраламлення шкла. Паступае са Стэрлітамака.

Трыаксід мыш'яку ўводзім у шыхту крыштальнага шкла як хімічны абясколервальнік. Паступае з Урала і Грузіі.

У працэсе працы скарыстоўваецца мноства іншых матэрыялаў. Гэта, у асноўным, фарбавальнікі: злучэнні кобальту, нікелю, медзі, кадмію, хрому, жалеза,

марганцу; вокіслы цэрыю, няодыму, празеодыму і эрбію, а таксама селен.

Для атрымання малочнага шкла выкарыстоўваецца крыяліт і крэмнефторысты натрый; пры варцы асобных гатункаў шкла, якія патрабуюць павышанай тэрмаўстойлівасці і хімічнай устойлівасці, дадаецца гліназём.

Для паляпшэння працэсаў шкловарэння пры неабходнасці ў шыхту дадаецца павараная соль.

Усе матэрыялы перад шыхтаваннем прасейваюцца з мэтай выдалення як выпадковых механічных забруджванняў, так і буйнай фракцыі самога матэрыялу.

Для схільных да камякавання матэрыялаў сканструяваныя і вырабленыя непасрэдна на заводзе адмысловыя фрэзы і працірачныя сіты.

У 1998 годзе ў цэху была зманціравана аўтаматычная дазіровачна-змешвальная лінія падрыхтоўкі шыхты для крыштальнага шкла з кампутарным кіраваннем працэсамі дазіроўкі і змешвання.

У 1999 годзе аналагічная лінія ўведзеная ў эксплуатацыю для шыхты бясколернага шкла.

Узважванне праводзіцца на электронна-тэнзаметрычных вагах, падача матэрыялаў на якія ажыццяўляецца шнэкавымі сілкавальнікамі, а падача пяску рэгулюецца засланкай.

Галоўныя перавагі зманціраваных ліній у параўнанні з тымі, якія дзейнічалі раней:

1) высокая дакладнасць дазіроўкі матэрыялаў;

2) паніжэнне запыленасці рабочай зоны за лік надзейнай герметызацыі дазіруючых прылад;

3) павышэнне прадукцыйнасці за лік скарачэння часу зборкі ўваходзячых у рэцэпт кампанентаў;

4) дасягнуты высокі ўзровень навочна інфармацыйнага забеспячэння працэсу шыхтавання.

Актыўны ўдзел у выкананні работ па мантажы новых ліній прынялі Сцяпанаў У.А., Пенда Э.Б., Чайка М.І., Лаўскі А.Ю., Кулікоў А.У., Шэшка Ў.П., Санюк А.У.

Хутка асвоілі новую тэхніку Міхалькевіч М.Н., Ваўчок В.І., Дудзіч А.Д., Лішко Г.А., Спургяш У.С., а таксама Апановіч Я.А., Сакевіч І.Г., Смаляк М.Б., Пугацэвіч У.П.

Гэта ўжо практычна новае пакаленне працаўнікоў састаўнога цэха. Але і ранейшыя, працуючы ў значна горшых умовах, добра спраўляліся з заяўкамі цэхаў выпрацоўкі па своечасовай падрыхтоўцы шыхты патрэбнай якасці. Яны ўжо сыйшлі з завода, перадаўшы свой дослед і разуменне важнасці якаснай працы цэха для ўсяго наступнага тэхналагічнага ланцужка атрымання высакаякаснага шкла. Гэта Шулейка П.У., Сапега Б.А., Говар А.К., Быстрыцкі І.А., Лянцэвіч І.А., Сагайдак Ю..М., Галайдзюк С.Г., Карабач К.К., Ліхарад У.І., Жукоўскі С.С., Міхновіч Б.Б., Калясінскі Т.М., Зноска Ч.Б., Кохан І.А., Кудла М.М. і інш.

Адважаныя матэрыялы транспарцёрнай стужкай падаюцца ў змешвальнік, дзе на працягу 2,5-3,0 хвілін адбываецца іх мяшанне з наступнай разгрузкай прыгатаванай шыхты ў бункер або непасрэдна ў кантэйнер.

Пасля правядзення хімічнага кантролю шыхта дастаўляецца да шкловарных печаў.

Першым начальнікам новага састаўнога цэха была прызначана Пяткевіч Маргарыта Аляксандраўна.

У сакавіку 1966 года пачаў працаваць корпус №2, у якім размясціліся ванная печ бесперапыннага дзеяння з падкovападобным кірункам полымя прадукцыйнасцю 5т/суткі шкломасы і 14-ці гаршковая печ прадукцыйнасцю 4,2 т/суткі пры наступным размеркаванні гаршкоў:

- для варэння крыштальнага шкла - 6 шт., у т.л. для вытворчасці выдзіманых вырабаў - 4 шт.
- для варэння каляровых гатункаў шкла - 7 шт., у т.л. для фармавання прасованых вырабаў - 6 шт.
- для працы брыгады эксперыментальна-мастацкага аддзела - 1 шт.

У парадку падрыхтоўкі корпуса № 2 да пачатку працы побач з ваннай печчу былі пабудаваныя тры малагабарытныя печы-спадарожнікі на 2 гаршкі кожная для арганізацыі вытворчасці накладных вырабаў і рассейвальнікаў.

Для вонкавага накаляроўвання варылі ў асноўным селенавы лал, кобальт, “бэз” і зялёнае шкло, а для вырабу рассейвальнікаў (унутранае накаляроўванне) - малочнае і зрэдку бэзавае ды жоўтае.

У новы корпус з старога былі пераведзеныя ўсе пакінутыя брыгады па вытворчасці гатункавага посуду. Нейкі час у старым корпусе працягвала працаваць ванная печ перыядычнага дзеяння, на якой выраблялася ізалятары, але неўзабаве і яна была зачыненая. Для працаўладкавання гэтых брыгад на першым паверсе пячнога аддзяленні ў корпусе № 2 была пабудавана ванная печ бесперапыннага дзеяння, на якой быў арганізаваны выраб ізалятараў, а ўжо ў 1967 годзе - чорнай абліцовачнай пліткі. У печы пераварвалася шкло з крыніц гаршковых печаў і змешаны шклобой ад накладу. Афарбоўванне вялося з выкарыстаннем пірытных недагаркаў.

Стары корпус годна адслужыў свой рабочы перыяд.

З яго спыненнем адышла цэлая эпоха прафесіяналаў-практыкаў, калі варыць шкло і праводзіць адпал вырабаў было сапраўдным мастацтвам, бо недахоп кантрольна-вымяральнай апаратуры трэба было пакрываць прафесійным нюхам.

Ва ўмовах сучаснай працы ён заменены шырокай разнастайнасцю сродкаў аўтаматычнага кантролю і рэгулявання тэхналагічных параметраў шкловарных і адпальвальных печаў і іншага абсталявання. І хоць аўтаматыка значна больш надзейна кантралюе і вядзе працэс, усё-такі мы заўсёды з вялікай павагай успамінаем шклавараў высокага класу, якія ў дасканаласці валодалі тэхналогіяй варкі ў пасляваенныя гады. Гэта Бартосік С.І., Келмуць І.Ч., Бабкоў М.М., Кострыц М.І., Урбановіч Б.С., Буяк С.М., Субота І.П., Рэвяшка І.К., Смаляк Д.Н., Духоўнік Ю. У., Шумскі Л.Г., Несцер У.С., Кумпяк М.У., Бічэль К.Я., Захараў М.Я., Пуціла А.А., Кашко С.І., Малько П.М., Каравайка А.А. і інш.

Многія з іх яшчэ доўгі час працавалі на гаршковых і ванных печах карпусоў № 1, 2 і 3, перадаючы свой досвед пачынаючым шклаварам. Але гэта ўжо была



***Стары корпус, сілавая станцыя, тартак і іншыя аб’екты***

праца ў іншых умовах: па рэгламентавальных нармалях з сталым аўтаматычным кантролем устаноўленых тэхналагічных параметраў. Прафесійная інтуітыўнасць паступова саступала месца інструментальнаму аб’ектывізму.

Прафесія “шклавар” заўсёды была і застаецца вельмі прэстыжнай. Бо па вялікім рахунку гэта асноўная фігура на гуце, таму што вырашае галоўную задачу -ператварыць прыгатаваную шыхту ў якасную шкломасу. Кожны з іх звычайна пачынаў працу на заводзе засыпшчыкам шыхты і пры жаданні, толькі пасля праходжання адпаведнай падрыхтоўкі па тэхналогіі шкловарэння, будове і эксплуатацыі шкловарных печаў і паспяховым праходжанні праверкі атрыманых ведаў кваліфікацыйнай камісіяй, мог стаць шклаварам. А атрымаўшы гэтую прафесію, стараўся ўдасканальваць свой практычны досвед у разуменні таямніц гэтага складанага рамяства.

Добрымі шклаварамі зарэкамендавалі сябе Буднікаў У.П., Літвінаў С.М., Хомітаў Е.І., Пекар П.І., Сіўчук. М.Ф., Гуц М.М., Камар У.А., Турлюк З.П., Шумскі У.І., Найдзен С.Л., Манкевіч І.І., Драздоў У.Ф., Касямук І.І., Скобля І.І., Карвіга Ў.А., Ёда Ў.С., Абізур І.І., Шаўлоўскі М.А., Бухцінаў У.І., Трафілаў А.П., Малько Г.М., Мядзведзеў П.М., Панятаў У.А., Кіслы І.П., Курачкін У.П., Цяплінскі І.К., Анікевіч Н.А.

Побач са шклаварамі ў кожным цэху працуюць муляры. Калі праца першых ацэньваецца якасцю шкломасы і захаваннем нормаў і правілаў эксплуатацыі шкловарных печаў, то ацаніць працу другіх можна зыходзячы з стану цеплаізаляцыі, герметычнасці і эстэтычнага выгляду печаў. Асабліва значнай была іх роля пры працы на генератарным газе, калі кожная няшчыльнасць на шляху яго руху магла прывесці да выбуху.

Добрымі адмыслоўцамі-мулярамі зарэкамендавалі сябе Іванюк У.І., Жыгала А.У., Пантус С.А., Урбановіч У.Л., Цыбуль У.А., Здановіч У.А., Курчэйка Ў.П., Раманюк І.У.

З уводам другога корпуса набыла сваё сталае месцазнаходжанне цэнтральная завадская лабараторыя. Упершыню з часу заснавання завода была забяспечана магчымасць размясціць яе аддзелы на плошчы, годнай яе ролі ў вытворчым працэсе.

А гэта ўваходны і аператыўны кантроль усіх сыравінных матэрыялаў і кіслот па ўстаноўленых паказчыках, аналіз хімічных складаў сыравіны і гатункаў шкла, аператыўны кантроль якасці шыхтаў і падрыхтаваных да шыхтавання матэрыялаў, аналіз заганаў, якія з’яўляюцца ў шкле і вызначэнне прычынаў, што іх выклікаюць, кантроль аптычных і фізічных характарысатык шкла, праца з рэцэптамі шыхтаў і гатункаў шкла і інш.

У дапамогу хіміку-аналітыку з яго класічным наборам сродкаў хімічнага кантролю і аналізу прыйшлі полымевая фотаметрыя, электрафотакаларыметрыя, спектрафотаметрыя, патэнцыяметрыя і іншыя сучасныя метады аналізу.

У 1985 годзе праведзена першая атэстацыя ЦЗЛ, а ў 1994 годзе атрыманы “Атэстат акрэдытацыі” аб яе адпаведнасці патрабаванням сістэмы акрэдытацыі паверачных і выпрабавальных лабараторый як выпра-

бавальных цэнтраў.

У розныя гады ЦЗЛ узначальвалі Лянчэўскі А.У., Вінаградава І.Д., Герасімовіч М.Ф., Кушнярова С.С., Трубач Н.А., а ў апошні час Шаль В.К.

Нараўне з кіраўнікамі забяспечвалі ўкараненне перадавых метадаў працы ЦЗЛ Пятрова А.У., Сурмач Н.Г., Пенда Л.Л., Клюкевіч К.Б., Шаль Я.Б., Табенка Л.А., Бушэйка А.Ю.

З уводам у снежні 1966 года ў эксплуатацыю новага цэха апрацоўкі была скончана першая стадыя рэканструкцыі завода.

Струхлелыя будынкі і пабудовы былі замененыя новымі, адпаведнымі дзейным санітарна-тэхнічным нормам і патрабаванням.

Уведзеныя цэхі - састаўны, выработкі і апрацоўкі-ахоплівалі ўвесь вытворчы цыкл вытворчасці вырабаў.

А, гаворачы аб старым корпусе, былыя яго працаўнікі часцей за ўсё ўспамінаюць аб басейне з дзейным фантанам, які знаходзіўся ў ім, і ў які гарачымі днямі часам акуналіся найболей гарэзныя рабочыя.

У новым цэху апрацоўкі ў 1969 годзе была пабудаваная першая механізаваная ўстаноўка хімічнай паліроўкі крышталю па тыпу ЛЗХС. Яна складалася з двух ваннаў - з паліровачнай сумессю і прамывачнай вадкасцю - і праграмнага механізму пачарговага апускання ў іх касет барабаннага тыпу з аўтаматычнай вытрымкай у часе і зададзеным лікам цыклаў. Канчатковае чыставое прамыванне праводзілася ў размешчанай побач ванне, куды касеты перамяшчаліся ўручную.

На месца карамысла, на адным канцы якога падвешвалася карзіна з размешчанымі ў ёй крыштальнымі вырабамі для правядзення хімічнай паліроўкі, а на другім - супроцьвага для палягчэння яе перамяшчэння і пачарговага акунання ў паліровачную сумесь і прамывачную вадкасць, прыйшоў паўаўтамат, што забяспечвае вядзенне працэсу па азначанай праграме. Ручнымі заставаліся толькі аперацыі па загрузцы і разгрузцы.

Вядома, гэта была далёка не дасканалая ўстаноўка, як і ўсякія першыя ўзоры новай тэхнікі, але гэта быў першы крок, зрабіўшы які, трэба было ісці далей, канструктыўна яе ўдасканальваючы.

Ужо ў 1972 годзе працаўнікамі завода Вярбіцкім А.П. і Мураўёвым Р.У. была распрацавана і зроблена механізаваная ўстаноўка хімічнай паліроўкі з кручэннем і сектарным перамяшчэннем касет з паліраванымі вырабамі. Яна складалася з трох радыяльна размешчаных ваннаў (адна - якая паліруе, другая - для міжцыклавай прамыўкі і трэцяя - для канчатковага прамывання), у якіх у адпаведнасці з азначанай праграмай і праходзіў увесь працэс паліроўкі.

Для паніжэння пераносу вадкасцяў з ванны ў ванну пасля пад'ёму ў абавязковым парадку праходзіла вытрымка касет над ваннай спачатку ў вярчэнні, а затым спыненымі. Гэты прынцып выкарыстоўваецца і ў далейшым ва ўстаноўках іншай канструкцыі.

Па ўдзельным выдатку кіслотаў яна была больш эканамічнай у параўнанні з вышэйапісаным варыянтам, але не валодала дастатковай прадукцыйнасцю, каб справіцца з рэзка нарастаўшым аб'ёмам вытворчасці крышталю ў сувязі з укараненнем бесперапыннай тэхналогіі яго варэння і выработкі. Справіцца з гэтым на той перыяд маглі толькі шматкасетныя барабанныя ўстаноўкі, зробленыя па тыпу ўстановак Дзяцькаўскага крыштальнага завода. І яны на заводзе былі пабудаваныя. Гэта ўжо, па сутнасці, быў трэці варыянт механізаваных паліровачных прылад, але праца над іхнім ўдасканаленнем працягвалася.

У 1986 годзе па распрацоўках Чылека М.П. была зроблена ўстаноўка поўнапагружнога паліравання, з размяшчэннем вырабаў у ячэйках карзіны, вытворчыя выпрабаванні якой далі дадатныя вынікі. У адрозненне ад касет барабаннага тыпу, у якіх вялікая частка іх дыяметру заўсёды находзіцца над паліровачнай сумессю і працуе, як свайго роду выпарнік, у сувязі з высокай тэмпературай працэсу хімічнай паліроўкі (да 70° С), карзіна поўнасцю знаходзіцца ў паліровачнай сумесі і таму страты ад улятучвання HF у некалькі раз ніжэй за кошт змяншэння паверхні выпарэння, што выяўляецца ў паніжэнні ўдзельных выдаткаў кіслот на 20-30% у параўнанні з барабаннымі ўстаноўкамі.

Для атрымання высокай якасці паліравання вырабы павінны свабодна размяшчацца ў ячэйках, каб забяспечвалася магчымасць іх мікраперамяшчэнняў пры ваганнях карзіны для лепшага змыву соляў. Калі ж ячэйка дэфармаваная або выкананая не ў патрэбных памерах і выраб пазбаўлены магчымасці перамяшчацца, то на яго паверхні ўтвараюцца так званыя "прыціскі", ухіляць якія ў большасці выпадкаў прыходзіцца механічным спосабам.

Пытанне павышэння эфектыўнасці працэсу хімічнай паліроўкі, як за лік скарачэння ўдзельных выдаткаў кіслот, так і павышэння прадукцыйнасці ўстановак, заўсёды быў актуальным. Адным з шляхоў у гэтым кірунку з'яўляецца выкарыстанне рознапалярнага імпульснага току, які, будучы ўведзеным у паліровачны, раствор актывізуе ход іёнаабменных працэсаў паміж паліраванай паверхняй шклавырабаў і паліровачным растворам. Навінка была ўкаранёная на шматкасетных установках у цэхах выработкі № 3 і апрацоўкі з прыцягненнем "Расаўтаматбуду" (г. Чэбаксары) у якасці выканаўца.

Дадзеная тэхналогія дазваляе выпрацаваць які паліруе раствор да ўтрымання фтор-іёна 0,5% і ўжо шматлікія гады выкарыстоўваецца на заводзе.

Удзельная вага выдаткаў на хімічную паліроўку крышталю на ўстаноўках завода ў 1997 годзе складала 16,7% у агульнай яго сабекошце пры наступным узбуйненым размеркаванні па асобных складніках: кіслоты і іншыя матэрыялы - 73%, зарплата - 9% і іншыя выдаткі -18%, пры ўдзельным выдатку на тону гатовай прадукцыі:

- кіслата серная 92% -ая - 1521 кг/т.г.п.
- кіслата плавікавая 40% -ая - 314,7 кг/т.г.п.
- вапна - 1534,8 кг/т.г.п.

Адмыслоўцы завода працягвалі пошук найболей дасканалых тэхналогій паліроўкі, і ў 1997 г. быў падпісаны кантракт з фірмай Нойтра (Нямеччына) на пакупку дзвюх установак з камп'ютарным кіраваннем працэсам паліравання.

Асноўныя іх адрозненнія ад установак, выкарыстованых заводам на той час:

1) вядзенне працэсу ў герметычна закрытым аб'ёме;

2) пачарговая змена ў ванне паліровачнай сумесі і прамывачнай вадкасці замест перамяшчэння вырабаў ад ванны да ванны

Склад паліровачнай сумесі:

- серная кіслата - 62-63%;
- плавікавая кіслата - 2,25-3,5%.

Прамыванне вядзецца ў 62-64% -най сернай кіслаце, а пры завяршэнні цыклу - у вадзе.

Паліроўка вядзецца пры тэмпературы 60-65°С, для падтрымкі якой выкарыстоўваецца гарачая вада, што цыркулюе па пракладзеных у ваннах трубах з паліэтылену.

Вырабы ўкладваюцца ў круглыя касеты, якія навешваюцца на вал і змацоўваюцца адпаведным чынам у барабан, які электратэльферам апускаецца ў рабочую ванну, пасля чаго вечка зачыняецца, і ванна запаўняецца прамывачнай вадкасцю для правядзення першапачатковага падагрэву вырабаў на працягу 45 сек. Затым прамывачная вадкасць зліваецца і ванна запаўняецца паліровачнай сумессю.

Адзін цыкл уключае чатыры кантакты вырабаў з паліровачным растворам рознай працяглаcці: першы - 45 сек, другі - 120 сек, трэці і чацвёрты - па 600-700 сек; працяглаcць кантакту з прамывачнай вадкасцю - 45 сек, а прамыванне ў вадзе ў канцы цыклу - 90 сек, пасля чаго вечка ванны адчыняецца і барабан тэльферам пераносіцца ў ванну фінішнай прамыўкі вырабаў, якая доўжыцца 180-360 сек.

Барабан па чарзе верціцца па гадзіннікавай і супраць гадзіннікавай стрэлкі.

24 красавіка 1998 г. быў падпісаны сумесны акт аб прыёмцы ўстановак у эксплуатацыю. Пры правядзенні прыёма-здатачных выпрабаванняў былі атрыманыя наступныя велічыні ўдзельных выдаткаў кіслот:

- кіслата серная 92%-ная - 393 кг/т.г.п.
- кіслата плавікавая 70%-ная - 134 кг/т.г.п.

Прадукцыйнасць адной устаноўкі пры паліроўцы вырабаў球 рознага асартыменту характарызуецца наступнымі паказчыкамі *(Табліца 7)*:

***Табліца 7***

| Найменне паліраваных вырабаў | Памеры вырабаў, мм | К-сць вырабаў у касеце, шт | К-сць вырабаў у барабане, шт | Прадукцыйнасць за суткі, шт/кг |
|---|---|---|---|---|
| Кілішак | О 58х140 | 280 | 1400 | 29400/3820 |
| Фужэр | О 90х185 | 68 | 310 | 7140/2037 |
| Куфель | О 72х210 | 116 | 464 | 9744/2541 |
| Ваза для кветак | О 80х195 | 52 | 156 | 3276/6510 |

Наладчыкам установак працуе Махнач М.М.

Многія гады старэйшымі і зменнымі тэхнолагамі на ўчастках хімпаліроўкі цэхаў выработкі №3, №4 і апрацоўкі працавалі Беспалава Р.П., Урбановіч І.П., Сапега Ў.А., Міхалькевіч Г.Г., Сянюта Л.У., Сокал Н.Р., Авакімян З.А., Пудзіноўская Т.І., Ліхарад Г.А., Аўчыннікава С.М., а хімпаліроўшчыкамі - Козел У.М., Мікалаеў У.П., Бурдун П.К., Тарашкевіч А.А., Пікта І.Б., Карабач С.М., Шэўчык С.Р., Грыб М.М., Беспалаў С.А., Баяроўскі А.Б., Чылек У.М., Карзюк У.С., Юрцэвіч У.І., Гурскі У.У., Пракапенка А.П., Савельеў П.П.

З павелічэннем аб'ёмаў выпуску крышталю, натуральна, узраслі і аб'ёмы газавых выкідаў ад установак хімічнай паліроўкі.

Вялікую працу па пошуку шляхоў іх нейтралізацыі і наступнаму вырабу і запуску ў работу апаратаў першай, а потым і другой ступені ачысткі выканалі Карзюк С.Л., Пашук М.Ф., Сафранюк А.І., Комар М.М., Кушнярова С.С., Пракапеня М.А., Рунец Б.Б., Пагодскі У.М., Герасімовіч М.Ф., Трубач П.У., Кушняроў Ф.Ф., Махнач М.М., Рагоўскі М.У., Мураўёў Р.У., Турык М.М., Сталяроў Л.Ф., Бяспалава Р.П., Шэўчык Л.М., Хвашчэўскі Л.С., Стукачоў Г.Ю., Сокал М.Р.

У 1975 годзе была складзены дамова з інстытутам НІПІОТСтром (г. Наварасійск) на распрацоўку апарата для гэтых мэт і ўжо ў 1976 годзе на заводзе па яго распрацоўках брыгадай у складзе Ігнаткава П.І., Кетрыка А.У. і Гурскага Ў.У. быў выраблены і зманціраваны першы пенны абсорбер тыпу ПВПр 10-1-50К, якімі пасля з невялікімі канструктыўнымі змяненнямі пад маркай АП-10М былі абсталяваны ўсе ўстаноўкі хімічнай паліроўкі.

**Тэхнічная характарыстыка пеннага абсорбера:**

| | |
|---|---|
| прадукцыйнасць па вычышчаным паветры | - 10 т.м.3/гадзіна |
| ступень ачысткі пры максімальнай загазаванасці | - 96-98 % |
| разрэджанне ў апараце | - да 3000 Па; |
| гідраўлічны супраціў | - не больш 1800 Па; |
| вышыня пеннага пласта | - 200-400 мм. |

Ачыстка адбываецца дзякуючы рэакцыі ўзаемадзеяння фтoрыстых злучэнняў з вадой у пенным пласце, які забяспечвае неабходную для гэтага вялікую паверхню іх судотыку.

Перад пускам у работу вада ў абсорберы павінна знаходзіцца на ўзроўні рашоткі.

Найболей уразлівым звяном у гэтай сістэме былі вентылятары высокага ціску, крыльчатка і корпус якіх разбураліся ад уздзеяння параў і кропель кіслаты на працягу трох-чатырох месяцаў, і таму даводзілася пастаянна трымаць адмысловую службу для іх рамонту. І хоць рэшткавая канцэнтрацыя фторазмяшчальных злучэнняў пасля пеннага абсорбера складала, 23-30 мг/м3 і знаходзілася ў межах допуску, трэба было шукаць рашэнне па іх паніжэнні, укараняючы другую ступень ачысткі.

Ужо ў 1989 годзе быў выраблены і зманціраваны для гэтых мэт першы 4-х секцыйны апарат з выкарыстаннем у якасці іёнаабменнага фільтра матэрыялу

“Фібан АК-22”.

“Фібан АК-22” поліфункцыянальны, усе яго іёнаабменныя групы (NH2, NH-2, N-3, COOH-), слабаасноўныя, што забяспечвае яго выкарыстанне пры сорбцыі газаў, параў і аэразоляў слабых і моцных кіслот.

**Тэхнічная характарыстыка іёнаабменнага фільтра:**

| | |
|---|---|
| прадукцыйнасць па газе | - да 10 т.м3/гадзіну |
| канцэнтрацыя HF на ўваходзе ў фільтр | - 10-40 мг/м3 |
| ступень ачысткі | - 91-96% |
| час рэгенерацыі | -1,5-2,0 гадзіны |
| расход вады | - да 1,0 м 3/гадзіну |

Для пазбягання запакоўкі рамак крэмнефтарыднымі і крэмнеземістымі солямі павінна надзейна працаваць аўтаматычная сістэма рэгенерацыі.

У цяперашні час усе дзейныя ўстаноўкі хімічнай паліроўкі забяспечаны дзвюмя ступенямі ачысткі газавых выкідаў ад фторыстых злучэнняў.

Канцэнтрацыя фторыстых злучэнняў у газавых выкідах перад пенным абсорберам па дадзеных розных замераў вагаецца ў межах ад 150 да 2300 мг/м3 на ўстаноўках завода і ад 50 да 1150 мг/м3 на ўстаноўках фірмы Нойтра. Утрыманне фтарыдаў пасля іёнаабменнага фільтра было практычна аднолькавым і складала ад 1,17 да 2,55 мг/м3.

Выраблялі і абслугоўвалі першыя абсорберы і іёнаабменныя фільтры Яварэц І.І., Кетрык А.У., Шапуцька Ч.У., Сушчэўскі А.С., Стэфановіч М.І., Кіеня М.І.

У 1969 годзе ўведзены ў эксплуатацыю цэх металаформаў з аддзяленнямі ліцця і халоднай апрацоўкі металаў. Вытворчая магутнасць цэха вызначаная ў 500 т/год па выплаўцы чыгуну і 50 т/год па выплаўцы сталі.

Цэх прызначаўся, як для забеспячэння шклоформамі непасрэдна завода “Нёман”, так і пяці іншых гут МПСМ БССР. У лепшыя гады тут выплаўлялася па 600 і больш тон чыгуну і да 100 тон сталі.

Плаўка металу вядзецца ў дзвюх высокачастотных плавільных печах, а адліўка - як у фармовачную зямлю па драўляных мадэлях, так і ў кокіль. Засвоеная тэхналогія ліцця з дакладным узнаўленнем гравюры, а таксама атрыманне легіраваных чугунов з вермікулярным і шарападобным графітам.

За мінулыя гады ў цэху склаўся калектыў высокакваліфікаваных працаўнікоў і назапашаны вялікі досвед у вырабе розных формакамплектаў, як для ручнога, так і механізаванага фармавання вырабаў з шкла.

Прыкладам дасягнутага высокага майстэрства ў поўнай меры можа служыць выраб формакамплектаў для адначасовага прасавання 18 шт. шатонаў з дзвюмя скразнымі адтулінамі дыяметрам 2 мм у кожным. Формакамплект складаецца з верхняй і ніжняй матрыц і пуансона. У кожнай матрыцы ўстаноўлена па 18 уставак з нержавеючай сталі маркі 40Х13 з адбіткамі адпаведна верхняй і ніжняй паверхні шатона, атрыманымі метадам пластычнай дэфармацыі.

Формаўтварэнне адбываецца шляхам запаўнення выцісканай пуансонам расплаўленай шкломассы праз літніковыя адтуліны ва ўтвораныя паражніны самкнуўшыхся паверхняў верхняй і ніжняй матрыц, у якіх і адбываецца іх зацвярдзенне. Пры гэтым павінна забяспечвацца дакладнае супадзенне ўсіх супрагальных геаметрычных кропак шатона.

Пасля заканчэння прасавання пуансон разам з верхняй матрыцай падымаюцца, а з ніжняй здабываецца шклонарыхтоўка з 18 адпрасованнымі шатонамі.

Для забеспячэння патрэбнай якасці пры вырабе форм неабходна выконваць шэраг правілаў і патрабаванняў.

Вось некаторыя з іх:

1) прэсавыя ўхілы па цыліндрычных участках фармуючых паверхняў пуансонаў, кольцаў і нераскрыўных матрыц павінны быць у межах 2±0,5°;

2) непаралельнасць і перакос восяў шарніра і плоскасці сутыку раскрыўной формы не павінны перавышаць 0,1мм на ўсёй яе вышыні. Парушэнне гэтага патрабавання выклікае ўзнікненне пасечак і ўвагнутасцяў на паверхні вырабаў у зоне швоў;

3) непаралельнасць кантактуючых тарцоў на кольцах, матрыцах і пуансонах не павінна перавышаць 0,05мм для памераў да 100мм і 0,1мм - звыш 100мм;

4) калі дно вырабу плоскае, то на пуансоне неабходна прадугледзець сферу крывізной 0,01 ад яго дыяметра;

5) формакамплект для вырабу прасованых вырабаў - матрыца, кольцы і пуансон - лепш за ўсё вырабляць з чыгуну адной да той ж плаўкі і адпалу.

Адпаведны ўклад у станаўленне і развіццё цэха ўнеслі Воўк У.І., Кохан І.М., Сабалеўскі І.К., Федарэнка Ў.Л., Дзерваедаў М.Г., Рагоўскі М.У., Сафранюк А.І., Шмыгалёў К.Я., Пракапеня М.А., Стукачоў Г.Ю., Ганчарэнка М.І., Бічэўскі С.М., Сталяроў Л.Ф., Фядотаў С.Ф., Пазняк С.П., а таксама Бобрык У.У., Бурдун А.П., Грышкевіч М.У., Кірэль І.У., Кіеня Ў.М., Мазала А.А., Капцюк Ч.М., Радчанка Ў.У., Грос Я.С., Лысёнак А.С., Калановіч І.У., Чаркоўскі С.К., Яновіч У.М., Шэшка К.Д., Цяліцын Р.К., Гірыновіч Л.С.

У 90-х гадах у сувязі са скарачэннем аб’ёмаў вытворчасці на шэрагу заводаў шкляной галіны рэспублікі знізіўся попыт і на прадукцыю цэха, што прывяло да памяншэння аб’ёмаў выплаўленага чыгуну, а выплаўка сталі практычна спынілася. З-за фінансавых цяжкасцяў не абнаўлялася абсталяванне, якое састарвалася маральна і фізічна. Пры гэтым кіраўніцтва завода ў меру наяўных магчымасцяў спрабавала арганізаваць працу цэха так, каб захаваць кваліфікаваны персанал і набыты ім досвед працы за мінулыя гады.

Такім чынам, з уводам цэха металаформаў, з пераходам на выкарыстанне прыроднага газу, падключэннем да закальцованай сістэмы забеспячэння электраэнергіяй, пабудовай новых цэхаў вырабаткі, апрацоўкі і састаўнога, рашэннем пытанняў водазабеспячэння і каналізацыі, з пабудовай шламазбіральніка і глеевых пляцовак быў створаны ўвесь новы неабходны комплекс інжынерна-тэхнічнага ўладкавання па стварэнні ўмоў для стабільнай працы пры вытворчасці гатункавага посуду. Старая вытворчасць поўнасцю заменена новай.

*Дадаткі*

# Кіраўнікі завода, галоўныя спецыялісты і начальнікі асноўных цэхаў у пасляваенны перыяд (1944-2002 гг.)

**Дырэктары шклозавода "Нёман"**

Брыль Іван Міхайлавіч, 1944 г.
Крэнь Васіль Іосіфавіч з 08.1944 па 04.1948 гг.
Шульгін Іван Васільевіч з 04.1948 па 07.1953 гг.
Леановіч Лаўрэн Антонавіч з 08.1953 па 03.1958 гг.
Каштанаў Ніканор Фёдаравіч з 04.1958 па 03.1962 гг.
Карзюк Сяргей Лук'янавіч з 03.1962 па 02.1981гг.
Пашук Мікалай Фёдаравіч з 03.1981 па 01.1995 гг.
Жыгала Анатоль Лявонцевіч з 01.1995 па 07.2002 гг.
Рунец Браніслаў Браніслававіч з 07.2002г і далей.

**Намеснікі дырэктара**

**па капітальным будаўніцтве:**
Аўцоў Міхаіл Васільевіч з 03.1961 па 10.1967 гг.
Davidovich Маручак Васіль Арцёмавіч з 04.1968 па 07.1988 гг.
Вárановіч Генадзь Карлавіч з 01.1995 па 08.1995 гг.

**па агульных пытаннях, кадрах і побыту:**
Гарэлік Яўген Сяргеевіч з 06.1969 па 01.1984 гг.
Сафранюк Апанас Іванавіч з 07.1984 па 09.1994 гг.
Сокал Георгій Ігнацьевіч з 01.1995 па 06.2002 гг.
Пагодскі Уладзімір Мікалаевіч з 06.2002г і далей.

**па камерцыйных пытаннях:**
Жыгала Анатоль Лявонцьевіч з 09.1979 па 01.1995 гг.
Урбановіч Зігмунд Паўлавіч з 01.1995 па 01.1996 гг.
Запольскі Уладзімір Анатольевіч з 02.1996 па 05.1998 гг.
Мядзведзь Аляксандр Васільевіч з 05.1998 па 04.2001 гг.
Афанасенкаў Уладзімір Леанідавіч з 07.2001 па 10.2002 гг.

**па якасці:**
Аўраменкава Валянціна Лявонцьеўна з 08.1986 па 11.1997 гг.
Сарокіна Ганна Мікалаеўна з 12.1997 і далей.

**па інфармацыі:**
Пагодскі Уладзімір Мікалаевіч з 10.1998 па 06.2002 гг.

**па фінансах і камерцыйных пытаннях:**
Несцер Генадзь Мікалаевіч з 12.2002 і далей.

**Галоўныя інжынеры шклозавода "Нёман"**

Шаль Станіслаў Германавіч з 1944 па 03.1945 гг.
Панкевіч Іван Максімавіч з 03.1945 па 06.1950 гг.
Жучкоў Іван Якаўлевіч з 06.1950 па 02.1952 гг.
Лянчэўскі Альфонс Уладзіміравіч з 02.1952 па 05.1952 гг.
Карзюк Сяргей Лук'янавіч з 05.1952 па 03.1962 гг.
Навагран Яўген Рыгоравіч з 03.1962 па 11.1963 гг.
Пашук Мікалай Фёдаравіч з 11.1963 па 03.1981 гг.
Драздоў Міхаіл Фадзеевіч з 09.1981па 01.1986 гг.
Рунец Браніслаў Браніслававіч з 01.1986 па 07.2002
Бондар Васіль Аляксандравіч з 08.2002 і далей.

**Намеснікі галоўнага інжынера:**

**па ахове працы, тэхніцы бяспекі і пажарнай бяспецы:**
Сакін Міхаіл Сцяпанавіч з 03.1961 па 11.1970 гг.
Камар Мікалай Макаравіч з 04.1972 па 08.1982 гг.
Сталяроў Леанід Філіпавіч з 09.1982 па 08.1996 гг.
Арэхва Аляксандр Аляксандравіч з 12.1996 па 08.1999 гг.
Пагодская Ніна Мікалаеўна з 09.1999 і далей

**па новай тэхніцы:**
Сафранюк Апанас Іванавіч з 08.1982 па 07.1984 гг.

**па вытворчасці:**
Кушнярова Соф'я Станіславаўна з 02.1985 па 12.1996 гг.

**ГАЛОЎНЫЯ СПЕЦЫЯЛІСТЫ**

**галоўны тэхнолаг:**
Лам Беніцыян Аронавіч з 11.1966 па 01.1969 гг.
Герасімовіч Мікалай Фёдаравіч з 01.1969 па 11.1976 гг.
Салаўёў Франц Львовіч з 12.1976 па 07.1980 гг.
Трубач Пётр Уладзіміравіч з 07.1980 г. і далей

**галоўны канструктар:**
Сафранюк Апанас Іванавіч з 03.1965 па 03.1982 гг.
Пракапеня Мікалай Аляксандравіч з 03.1982 і далей.

**галоўны мастак:**
Растоўцава Ніна Мікалаеўна з 12.1957 па 08.1959 гг.
Мурахвер Уладзімір Сямёнавіч з 01.1960 па 11.1973 гг.
Мягкова Людміла Міхайлаўна з 12.1973 па 06.1987 гг., з 02.1994 па 12.1997 гг.
Сідарэвіч Галіна Майсееўна з 12.1991 па 02.1994 гг.
Самахвалаў Васіль Дзмітрыевіч з 06.1987 па 11.1991 гг., з 12.1997г і далей

**галоўны эканаміст:**
Гужва Міхаіл Сцяпанавіч з 04.1965 па 05.1968 гг.
Сямёнаў Ярміл Іосіфавіч з 03.1971 па 06.1981 гг.
Герасімовіч Мікалай Фёдаравіч з 03.1982 па 09.1984 гг.
Ладных Георгій Іванавіч з 09.1987 па 07.1990 гг.
Сямёнава Тамара Іванаўна з 10.1991г. і далей

**галоўны бухгалтар:**
Мацкевіч Канстанцін Канстанцінавіч з 09.1944 па 10.1945 гг.
Дзерваедаў Рыгор Трафімавіч з 11.1945 па 10.1960 гг
Вініцкі Георгій Сцяпанавіч з 10.1960 па 09.1980 гг.
Кіеня Людміла Аляксандраўна з 09.1980 па 06.1996 гг.
Пашкоўскі Мячыслаў Станіслававіч з 07.1996 г. і далей

**галоўны энергетык:**
Сталяроў Леанід Філіпавіч з 04.1962 па 09.1982 гг.
Арэхва Аляксандр Аляксандравіч з 09.1982 па 12.1996 гг.
Сушчэўскі Васіль Іосіфавіч з 01.1997 г. і далей

**галоўны механік:**
Тэрасані Эдуард Лук'янавіч з 03.1945 па 05.1946 гг., з 09.1947 па 07.1949 гг.
Хадкоў Павел Пятровіч з 06.1946 па 08.1947 гг.
Маціеўскі Іосіф Людвікавіч з 07.1949 па 03.1952 гг.
Зуеў Іван Сцяпанавіч з 03.1952 па 09.1959 гг.
Рагоўскі Мечыслаў Уладзіміравіч з 09.1959 па 10.1992 гг.
Ганчарэнка Мікалай Іванавіч з 10.1992г і далей

**галоўны метролаг:**
Радзевіч Ігар Аляксандравіч з 02.1977 па 02.1981 гг.
Махнач Міхаіл Мікалаевіч з 02.1985г і далей

## НАЧАЛЬНІКІ АСНОЎНЫХ ЦЭХАЎ

**Састаўны цэх:**
Кострыц Максім Іванавіч з 07.1949 па 10.1951 гг.
Духоўнік Юлій Віктаравіч з 10.1951по 08.1955 гг.
Вінаградава Іраіда Дзямідаўна з 08.1955 па 01.1956 гг.
Паўлоўскі Яўген Фаміч з 02.1956 па 02.1957 гг.
Дамяшчонак Дарафей Дарафеевіч з 02.1957 па 04.1958 гг.
Карвіга Аркадзь Васільевіч з 05.1958 па 10.1959 гг.
Сакін Міхаіл Сцяпанавіч з 11.1959 па 03.1961 гг.
Пяткевіч Маргарыта Аляксандраўна з 03.1961па 01.1986 гг.
Драздоў Міхаіл Фадзеевіч з 01.1986 па 04.1990 гг., з 07.1995 па 04.1996 гг.
Кушняроў Хведар Хведаравіч з 04.1990 па 07.1995 гг.
Міхаяьковіч Марыя Мікалаеўна з 05.1996 г. і далей.

**Цэх выпрацоўкі (стары корпус):**
Панкевіч Іван Максімавіч з 03.1946 па 03.1949 гг.
Тэлінг Іосіф Антонавіч з 03.1949 па 03.1950 гг.
Гайдук Аркадзь Пятровіч з 03.1950 па 04.1956 гг.
Паўлоўскі Яўген Фаміч з 01.1957 па 03.1966 гг.

**Цэх выпрацоўкі №1:**
Камар Мікалай Макаравіч, з 06.1963 па 11.1967 гг.
Драздоў Міхаіл Фадзеевіч, з 09.1967 па 09.1981 гг.
Курачкін Пётр Пятровіч з 09.1981 і далей.

**Цэх выпрацоўкі №2:**
Курачкін Пётр Пятровіч з 04.1971 па 05.1971 гг.
Паўлоўскі Яўген Фаміч з 05.1971 па 03.1980 гг.
Кісляк Пётр Пятровіч з 04.1980 па 04.1995 гг.
Лецка Пётр Пятровіч з 04.1995 г. і далей.

**Цэх выпрацоўкі №3:**
Пагодскі Уладзімір Мікалаевіч з 09.1974 па 07.1982 гг.
Рунец Браніслаў Браніслававіч з 07.1982 па 01.1986 гг.
Гарэлік Уладзімір Канстанцінавіч з 01.1986 па 10.1988 гг.
Сучкоў Аляксандр Віктаравіч з 10.1988 па 04.1995 гг.
Кісляк Пётр Пятровіч з 01.1995 г. і далей.

**Цэх выпрацоўкі №4:**
Салаўёў Франц Львовіч з 07.1980 па 01.1984 гг.
Шаль Станіслаў Францавіч з 01.1984 г. і далей.

**Цэх апрацоўкі:**
Сцефановіч Казімір Андрэевіч з 10.1944 па 11.1953 гг.
Караджаеў Аляксандр Гедгіевіч з 11.1953 па 08.1954 гг.
Гукаў Юрый Мікалаевіч з 08.1954 па 12.1956 гг.
Панкевіч Іван Максімавіч з 01.1957 па 02.1962 гг.
Драздоў Міхаіл Фадзеевіч з 03.1962 па 10.1964 гг.
Афанасенкаў Леанід Ягоравіч з 10.1964 па 06.1966 гг.
Кабыленка Мікалай Іванавіч з 06.1966 па 08.1969 гг.
Кушняроў Хведар Хведаравіч з 08.1969 па 03.1986 гг.
Гарэлік Любоў Канстаўцінаўна з 03.1986 па 09.1988 гг.
Бондар Васіль Аляксандравіч з 09.1988 па 08.2002 гг.
Ігнаткаў Пётр Іванавіч з 08.2002 г. і далей

**Цэх металаформаў:**
Гулецкі Леанід Уладзіміравіч з 08.1968 па 11.1969 гг.
Воўк Віктар Іванавіч з 11.1969 па 05.1971 гг.
Шмыгалёў Кантанцін Ягоравіч з 06.1971 па 08.1973 гг.
Кохан Іван Мікалаевіч з 08.1973 па 02.2000 гг.
Пазняк Сяргей Пятровіч з 03.2000 г. і далей

# КНІГА ПАШАНЫ

За дасягненне высокіх вытворчых паказчыкаў у працы ў "Кнігу пашаны" завода былі занесеныя наступныя працаўнікі:

**1951 год.**
Паўлоўскі Яўген Фаміч, начальнік змены цэха выпрацоўкі.
Мардашкін Стратон Прахоравіч, брыгадзір-аздабляльнік.
Каламыцкі Іван Іосіфавіч, брыгадзір-выдзімальнік.
Рафаенкава Ніна Іванаўна, алмазчыца.
Ціханава Ганна Кірэеўна, алмазчыца.

**1952 год.**
Валеўскі Аляксандр Іванавіч, выдзімальнік.
Кострыц Максім Іванавіч, шклавар.
Марчанкава Кацярына Іванаўна, алмазчыца.
Бабкоў Марцін Нічыпаравіч, шклавар.

**1954 год.**
Суднік Іосіф Іванавіч, брыгадзір-алмазчык.
Бобрык Уладзімір Браніслававіч, токар.
Савельеў Сцяпан Фёдаравіч, выдзімальнік.

**1955 год.**
Шыманскі Баляслаў Іванавіч, брыгадзір-выдзімальнік.
Шэўчык Раман Станіслававіч, шліфоўшчык.
Казлоўская Ірына Яўхімаўна, шліфоўшчык.
Тарасаў Іосіф Антонавіч, брыгадзір-шліфоўшчык.

**1956 год.**
Казлоўскі Ўладзімір Аляксандравіч, алмазчык.
Чылек Мікалай Аляксандравіч, алмазчык.
Меркулаў Адольф Хведаравіч, алмазчык.

**1957 год.**
Валеўскі Мікалай Іванавіч, выдзімальнік.
Шэўчык Хведар Іванавіч, брыгадзір-выдзімальнік.
Кісляк Пётр Якаўлевіч, выдзімальнік.
Мінчанкоў Мікалай Андрэевіч, прасоўшчык.
Жукаў Мікалай Хведаравіч, выдзімальнік.
Савельеў Віктар Філіпавіч, алмазчык.
Афанасенкаў Леанід Ягоравіч, гравіроўшчык.

**1958 год.**
Пятрэнка Іван Рыгоравіч, выдзімальнік.
Бялецкі Іосіф Андрэевіч, выдзімальнік.
Лысёнак Сямён Іосіфавіч, выдзімальнік.
Каламыцкі Лук'ян Лук'янавіч, прасоўшчык.
Каравайка Аляксандр Аляксандравіч, шклавар.
Мацявіна Раіса Фёдараўна, алмазчыца.
Аўраменкаў Мікалай Аляксандравіч, алмазчык.
Касцюкевіч Аляксандр Іосіфавіч, гранільшчык.
Праторскі Аляксандр Аляксандравіч, алмазчык.
Санюк Іосіф Сцяпанавіч, складальнік шыхты.

**1959 год.**
Шыхава Раіса Сцяпанаўна, алмазчыца.
Юргель Уладзімір Браніслававіч, алмазчык.
Кончык Іосіф Іванавіч, гранільшчык.
Бартосік Іван Станіслававіч, гранільшчык.
Зязюля Сяргей Васільевіч, выдзімальнік.
Анацкі Аляксандр Мікалаевіч, выдзімальнік.
Салянкоў Яўген Пятровіч, выдзімальнік.
Кіеня Зміцер Аляксандравіч, выдзімальнік.
Казак Ірына Міхайлаўна, адносчыца.
Каламыцкі Ігар Лук'янавіч, выдзімальнік.
Тэрасані Эдуард Лук'янавіч, чаканшчык.
Хаджаеў Іргаш, засыпшчык.
Абдрахманаў Аляксандр Аляксандравіч, гравіроўшчык.
Пенда Іван Антонавіч, гранільшчык.
Дудэк Іван Францавіч, брыгадзір-алмазчык.
Урбановіч Павел Іванавіч, слесар.

**1960 год.**
Манкевіч Аляксандр Рыгоравіч, прасоўшчык.
Каламыцкі Мікалай Іванавіч, выдзімальнік.
Савельеў Сямён Хведаравіч, брыгадзір-выдзімальнік.
Радзецкі Расціслаў Якаўлевіч, баначнік.
Мурын Міхаіл Іосіфавіч, брыгадзір-выдзімальнік.
Шэўчык Аляксандр Дзмітрыевіч, складальнік.
Германовіч Ірына Аркадзеўна, працаўніца склада.
Глейзер Іван Іванавіч, алмазчык.
Клімаў Генадзь Еўдакімавіч, гравіроўшчык.
Літвінаў Сяргей Мацвеевіч, алмазчык
Барташэвіч Алена Мар'янаўна, адрэзчыца каптурка.
Сідар Іван Уладзіміравіч, слесар.

# Першыя ўдарнікі камуністычнай працы

4 красавіка 1960 г. бюро Наваградскага РК КПБ зацвердзіла рашэнне першаснай партарганізацыі завода ад 24 сакавіка 1960 г. аб прысваенні звання "Ударнік камуністычнай працы" наступным працаўнікам:

Кіеня Зміцер Аляксандравіч, выдзімальнік.
Шыманскі Баляслаў Іванавіч, выдзімальнік.
Шэўчык Хведар Іванавіч, выдзімальнік.
Іванюк Ніна Васільеўна, адносчыца.
Мачахіна Галіна Канстаўцінаўна, адносчыца.
Валеўскі Аляксандр Іванавіч, выдзімальнік.
Пятрэнка Іван Рыгоравіч, выдзімальнік.
Кісляк Пётр Якаўлевіч, выдзімальнік.
Салянкоў Яўген Пятровіч, выдзімальнік.
Мітрафанаў Іван Фёдаравіч, выдзімальнік.
Духоўнік Міхаіл Мечыслававіч, выдзімальнік.
Барысаў Яўген Якаўлевіч, выдзімальнік.
Канавалава Людміла Іванаўна, повяртальшчык.
Казлоўскі Ўладзімір Аляксандравіч, алмазчык.
Сцяпанава Тамара Хведараўна, алмазчык.
Гучко Вера Ўладзіміраўна, паліроўшчык.
Літвінаў Сяргей Мацвеевіч, алмазчык.
Касцюкевіч Аляксандр Іосіфавіч, гранільшчык.
Велікашынскі Карл Францавіч, алмазчык.
Кацек Анатоль Кірылавіч, алмазчык.
Гладкоў Васіль Васільевіч, гравіроўшчык.
Яраш Наталля Антонаўна, шліфоўшчыца.
Сечка Аляксандр Віктаравіч, шліфоўшчык.
Савельева Антаніна Сцяпанаўна, нармоўшчыца.
Рабцаў Іван Сяргеевіч, дэкаратар пад чаканнае золата.
Клімаў Генадзь Еўдакімавіч, гравіроўшчык.
Сцяпанаў Анатоль Максімавіч, нумарны шліфоўшчык
Навумаў Яўген Расціслававіч, гравіроўшчык.
Навуменкава Любоў Васільеўна, павяртальшчыца.
Дудэк Іван Францавіч, алмазчык.
Жукава Раіса Фёдараўна, сартоўшчыца.
Шаль Ірына Францаўна, нумарны шліфоўшчык.
Казлоўская Любоў Лаўрэнаўна, алмазчыца.
Сініца Раіса Аркадзеўна, шліфоўшчыца.
Шатава Вольга Іванаўна, паліроўшчыца.
Абдрахманава Леанарда Браніславаўна, шліфоўшчыца.
Джавоўская Ганна Іосіфаўна, сартоўшчыца.
Сідар Іван Уладзіміравіч, слесар.
Урбановіч Павел Іванавіч, слесар.
Анікеенкава Ева Іосіфаўна, ганчар.

ЗАЦВЯРДЖАЮ
Міністр лёгкай прамысловасці Беларускай ССР
Г. Семяніхін
2 красавіка 1957 г.

**ЗАДАННЕ НА ПРАЕКТАВАННЕ**
Рэгістрацыйны №18

1. Найменне аб’екта праектавання - рэканструкцыя шклозавода “Нёман”
2. Месцазнаходжанне - пас. Бярозаўка, Наваградскага раёна, Гарадзенскай вобласці.
3. Характар будаўніцтва і падстава для праектавання-будаўніцтва новых цэхаў выпрацоўкі, апрацоўкі і прыстасаванне цэха апрацоўкі пад склад гатовых вырабаў. Рашэнне пытанняў водазабеспячэння, каналізацыі, цеплафікацыі і энергазабеспячэння, паводле пратаколу ад 1 сакавіка 1957 года.
4. Магутнасць завода - 47,0 млн. рублёў гатункавага посуду ў год.
5. Асартымент вырабаў - гатунковы посуд з бясколернага, каляровага і накладнога шкла, таксама вырабы з крышталю.
6. Рэжым працы - кругласутачны.
7. Арыентыровачны каштарысны кошт - 15 млн. рублёў.
8. Праектаванне - двухстадыйнае.
9. Тэрмін вырабу праектнага задання - 15 верасня 1957 года.

Нач. вытв.-тэхніч. кіравання МЛП БССР - Л. Казючыц.
Начальнік планава-эканамічнага кіравання МЛП БССР - Л. Троняк.
Начальнік аддзела капітальнага будаўніцтва МЛП БССР - Я. Клясторны.
Начальнік аддзела шкляной прамысловасці БССР - Г. Каўтуненка.

---

# ХАРАКТАРЫСТЫКА І ПАКАЗЧЫКІ ПРАЦЫ ЗАВОДА НАПЯРЭДАДНІ РЭКАНСТРУКЦЫІ (1956 - 1957 гг.)

1. Плошча тэрыторыі - 11,14 га, у т.л. плошча забудовы - 1,66 га.
2. Кошт асноўных сродкаў прамысловага прызначэння па стане на 1.06.1957г. - 11016 тыс.руб.
у т. л. будынкі - 5370 тыс. руб.
збудаванні - 719,0 тыс. руб.
вытворчае абсталяванне - 3035 тыс. руб.
электрасілавое абсталяванне - 766 тыс.руб.
транспартныя сродкі - 1024 тыс. руб.
інвентар - 102,0 тыс. руб.
3. Электраэнергіяй завод забяспечвае ўласная сілавая станцыя на газавых рухавіках.
Па плане на 1957 год выпрацоўка электраэнергіі складзе 1150 тыс.квт/гадзін.
4. Газагенератарная станцыя складаецца з 13 самадуўных газагенератарных шахт.
5. Рамонтна-механічныя майстэрні маюць 4 такарныя, 2 стругальныя і 2 свідравальныя станкі.
6. Працуюць 2 ванныя і 2 гаршковыя шкловарныя печы.
Ванныя печы: адна - перыядычнага дзеяння магутнасцю 2,4 тн/суткі;
другая - бесперапыннага дзеяння з плошчай варачнай часткі 10м2; прадукцыйнасць- 6,5 тн/суткі.
Гаршковыя печы: адна - на 10 гаршкоў;
другая - на 4 гаршкі;
ёмістасць гаршка - 300 кг.
7. Адпал вырабаў ажыццяўляецца ў цягуне і 22 апечках.
8. Спажыванне сыравіны і паліва па плане на 1957 г.:
пясок кварцавы - 1883 тн
мел камяковы - 350 тн
паташ - 78 тн
сода кальцыяваная - 536 тн
сурык свінцовы - 46 тн
салетра натрыевая і каліевая - 24 тн
Выдатак умоўнага паліва - 11717 т.у.п. ,
у т.л. дровы - 4500 м3
вугаль - 12810 тн

9. Цэнтралізаваных водазабеспячэння і каналізацыі завод не мае. Вада для вытворчых патрэб і гаспадарча-пітнога спажывання падаецца з артэзіянскай свідравіны.

**10. Паказчыкі выпуску прадукцыі за 1956 год:**

| Найменне паказчыкаў | Адз. вым. | Колькасць |
|---|---|---|
| 1. Гатунковы посуд у натуральным выразе, Усяго | т. шт. | 7644,0 |
| у т.л. а) выдзіманая | т. шт. | 5427 |
| з яе - з б/колернага шкла | т. шт. | 4857,1 |
| з каляровага шкла | т. шт. | 110,7 |
| з накладнога шкла | т. шт | 311,0 |
| з крыштальнага шкла | т. шт. | 148,2 |
| б) прасованая | т.шт. | 2217,0 |
| з яе - з б/колернага шкла | т. шт. | 1083,4 |
| з каляровага шкла | т. шт. | 862,6 |
| з крыштальнага шкла | т. шт. | 271,0 |
| 2. Ізалятары | т. шт. | 455,0 |
| 3. Плафоны | т. шт. | 60,0 |
| 4. Таварная прадукцыя ў аптовых коштах | т. руб. | 32145,0 |

11 .Завод злучаны са станцыяй Нёман вузкакалейнай чыгункай.
12. Сярэднегадовая колькасць персаналу за 1956 год складае 1468 чалавек
у т. л. а) прамгрупа - 1419 чал.
з іх: рабочыя - 1346 чал.
ІТР - 43 чал.
службоўцы - 30 чал.
МАП - 2 чал.
ПСА - 12 чал
б) непрамгрупа - 49 чал.
13. Завод валодае жылым фондам у памеры 7419м2 з колькасцю жыхароў - 1176 чал.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Валеры Сліўкін***

# Гісторыя партызанскага атрада "Іскра"
## *напісаная па успамінах партызан і жыхароў Лідскага раёна*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

### 46. З'яўленне дэсантных груп і партыйных органаў

Увесну ў Заходнюю Беларусь былі накіраваныя групы партыйных работнікаў для стварэння падпольных партыйных органаў, для кіраўніцтва ўсенароднай барацьбой, для ўзмацнення кіраўнічай ролі партыі ў партызанскім руху. У канцы сакавіка ў Налібоцкую пушчу прыбыў упаўнаважаны Цэнтральнага штаба партызанскага руху і ЦК КП(б)Б У.Я. Чарнышоў, а таксама Е.Д. Гапееў, Г.А. Сідарок і С.П. Шчупеня, якія працавалі перад вайной сакратарамі заходнебеларускіх райкамаў партыі. З іх прыбыццём быў створаны Баранавіцкі падпольны абкам КП(б)Б на чале з У.Я. Чарнышовым. 25 красавіка 1943 г. прыступіў да працы Лідскі міжрайпартцэнтр.

**Зямскоў Х.А.** - камісар партызанскага атрада "Іскра" з траўня па верасень 1943 г.: *"Увесну 1943 г. у Ліпічанскую пушчу прыбыў упаўнаважаны ЦК КПБ па Шчучынскім міжрайцэнтру Шчупеня Сцяпан Пятровіч. З прыбыццём упаўнаважанага ЦК былі створаныя падпольныя райкамы КПБ і ЛКСМБ. У Шчучынскі міжрайцэнтр уваходзіла Ленінская партызанская брыгада, а атрад "Іскра" падпарадкоўваўся гэтай брыгадзе.*

*Падпольныя райкамы партыі і камсамолу кіравалі ўсёй масава-палітычнай працай і баявымі аперацыямі атрадаў і брыгад, выпускалі падпольныя газеты, стваралі сетку падпольных партыйных і камсамольскіх арганізацый, антыфашысцкія групы, якія аказвалі партызанскім атрадам неацэнную дапамогу ў выведцы, забяспечвалі ўзбраеннем, рыхтавалі рэзервы для папаўнення атрадаў, праводзілі вялікую агітацыйна-масавую працу сярод мясцовага насельніцтва".*



**Пралыгін І.А.**

Нараўне з гэтым партыйныя кіраўнікі прыступілі да сваёй упадабанай працы - фармавання і расфармавання. З 5 чалавек быў сфармаваны атрад "Балтыец" на чале з Пралыгіным І.А. У першай дэкадзе траўня сарок партызан атрада "Іскра" былі пераведзены ў атрад "Балтыец". У канцы траўня была выдзелена група старэйшага палітрука Георгія Іванавіча Бязлюдова, якая была ператворана ў самастойны дыверсійны атрад "Арол". З прыбылай з-за лініі фронту групы ст. лейтэнанта Рашчынскага быў створаны партызанскі атрад "Рошча".

**Рэпнікаў А.М.** : *"У траўні 1943 г. у нашыя месцы прыбыў атрад парашутыстаў у колькасці 32-34 чалавек пад камандаваннем Мікалая Калістратавіча Вайцахоўскага. Атрад быў добра ўзброены і меў дзве рацыі, зваўся "Кузнецкія металургі". Гэты атрад даў ведаць праз свае рацыі Цэнтральнаму штабу партызанскага руху аб існаванні партызанскіх фармаванняў у Заходняй Беларусі. Па дамоўленасці камандзіраў атрадаў Рэпнікаў і Фамін былі пераведзеныя ў атрад Вайцахоўскага".* Абодва пасля партызанілі пад Ваўкавыскам і Гародняй у складзе атрада, пераназванага ў студзені 1944 г. у атрад "Камсамол Беларусі".

За А. Рэпнікавым меўся, па апровядзе Ў.А. Дзямідава, сур'ёзны грашок: *"разам з Паўлам Пятроўскім ён дэзертыраваў з атрада. Гэта было першае дэзертырства. Сыйшлі ў Воранаўскі раён."* Дзямідаў разам з Туруткіным і Коннавым адправіліся на іх пошукі. Дазналіся, што абодва хаваюцца на хутары Аніська панад лесам. *"Засядлалі коней, выехалі да хутара і зрабілі там засаду. Леглі недалёка ад хутара пад кустамі побач з прасёлачнай дарогай. Ідуць - размаўляюць: "Давай заб'ем Коннава і Дзямідава, забярэм у іх аўтаматы". "Што-што?" - яны ледзь не пападалі. " Ідзіце сюды, - абшукалі іх, яны без зброі. Адправілі Пятроўскага на хутар: "Пайдзі, прынясі папіць". Чакаем, чакаем - няма. Гаспадар хаты распавёў - як пачасаў па лубіне, і ўцёк. Рэпнікаў застаўся, мы яго абмеркавалі, далі дыхту, а Пятроўскі ўцёк. Потым прыйшоў".*

6 траўня прыйшла выведгрупа Калінінскага фронту. Група дэсантавалася 29 студзеня 1943 г. у Віцебскай вобласці. Легалізавацца ў раёне Докшыц не атрымалася, і групе было загадана перабрацца ў раён Ліды. Праз тры месяцы небяспечнага і пакутлівага перамяшчэння на захад група прыбыла ў раён размяшчэння атрада "Іскра".

**Навумава Я.Н.** *"Нас было чацвёра. Камандзір групы Вася Рыбіноўскі, яго памочнік афіцэр Андрэй Панарын, сувязная Ўласава Аляксандра і я, радыстка Навумава Яўгенія Мікалаеўна. Выкінуліся ўзімку. Вопратка была цывільная. Выкінулі ўначы да ўзыходу месяца. Усю ноч правяла адна ў ляску. Спачатку сыйшліся з Андрэем. Шуру знайшла па маленькіх слядах*

*на снезе. Васю знайшлі на трэці дзень. Ён завіс у дрэвах. Абмарозіўся. Страціў валёнак. У мяне не працавала рацыя. Мы пайшлі ў партызанскі атрад. Наша група павінна была выйсці да г. Апочкі на Пскоўшчыне. Паколькі пераход чыгуначнага палатна зацягнуўся, то мы атрымалі новае заданне - перадыслакавацца ў раён Ліды. Наша мэта была легалізавацца і весці агентурную выведку. Па шляху ў Ліду было нямала цяжкасцяў. Прабрацца да мэты нам дапамагалі партызаны. Затрымоўвацца не выпадала, Вася прыспешваў. Пасля прыгод мы ў канчатковым выніку патрапілі на Лідчыну. Дабіраліся месяцы тры. 6 траўня 1943 г наша група атабарылася ў раёне Ліды. Падпарадкоўваліся толькі штабу Заходняга фронту".*

**Коннаў А.А.:** *"Мне, як камандзіру партызанскага атрада, было дадзена ўказанне аказваць усебаковую дапамогу спецгрупе В. Рыбіноўскага. Заданне ў іх было сваё, адмысловае. Са з'яўленнем спецгруппы ў нас з'явілася магчымасць атрымліваць свежыя паведамленні Саўінфармбюро, распаўсюджваць улёткі сярод насельніцтва".*



**Навумава Я.Н.**

**Навумова Я.Н.:** *"Прыбылі сюды ў той момант, калі Кісілеўскі ўзяў афіцэра з аэрадрома. У нашай групе была дэсантавана Ўласава Шура. Яна адмовілася з намі працаваць, і мы яе перадалі ў атрад. Сама яна з Ленінграда, там загінулі яе муж, сын. Звесткі перадаваліся ў штаб Заходняга фронту. Мой начальнік Вася Рыбіноўскі па мянушцы Велікан быў чалавекам замкнёным, строга выконваў правілы канспірацыі".*



***Рыбіноўскі В.А.*** *нарадзіўся 13 (26) лістапада 1918 г. Скончыў сямігадовую школу і агранамічны тэхнікум. У 1938 г. прызваны ў шэрагі ЧА, служыў у войсках НКУС. Скончыў палітычную вучэльню МУС, атрымаў званне малодшага палітрука. У 1940 г. уступіў у ЎКП(б). З сакавіка 1941 г. працаваў у Вялікалукскім гараддзеле міліцыі.*

Афіцыйны адказ камандзіра часткі, да якой належала спецгрупа, досыць дакладна тлумачыць, хто такі Рыбіноўскі і якія задачы былі пастаўленыя перад групай.

*"На Ваш запыт паведамляю:*

*Рыбіноўскі Васіль Аляксандравіч, 1918 гн., выхадзец в. Новая Азярэцкага сельсавета Вялікалукскага раёна Калінінскай вобласці, у снежні 1941 г. быў прыцягнуты да выведработы і да студзеня 1943 г. знаходзіўся ў распараджэнні выведаддзела Калінінскага фронту. 28 студзеня 1943 г. старшы лейтэнант Рыбіноўскі В.А у якасці камандзіра групы быў перакінуты ў тыл праціўніка ў раён населенага пункта Докшыцы з задачай весці выведку залогі праціўніка ў гор. Ліда і здабываць звесткі аб перавозках войскаў і вайсковай тэхнікі праціўніка па чыгунках Ліда-Вільня, Ліда-Баранавічы і Гародня-Ліда-Маладзечна.*

*Камандзір в/ч 44388-А (У. Кудраўцаў.)"*

## 47. Паланенне обер -лейтэнанта Лекнеры

23 траўня 1943 г. група партызан атрада "Іскра" у в. Ёдкі захапіла ў палон з дакументамі інжынера авіяцыйнай часткі обер-лейтэнанта Матэвуса Іосіфа Лекнеры. У паланенні нямецкага афіцэра прымалі ўдзел Іван Кісілеўскі, Міхась Марозаў, Хведар Балыкін, Станіслаў Капачэль.



***І. Кісілеўскі***

**Сасноўскі Р.Ю.:** *"Нямецкі інжынер на аэрадроме выходзіў у Ёдкі да насельніцтва і добра з імі абыходзіўся. Вёў гешэфт. Цыгарэты мяняў. Ён быў інжынерам, будаваў аэрадромы па ўсёй Еўропе. Яго падсачылі Кісялеўскі з хлопцамі, застукалі, узялі, ён не супраціўляўся. Узялі яго ў нейкай хаце, ён пажылы, з сабакам. "Калі мяне хочаце расстраляць, то першым расстраляйце сабаку. Ён пойдзе і прывядзе людзей". Ён яго абняў. Прывезлі ў Дакудава на хутар. Зрабілі допыт. Добра гаварыў па-французску, па-італьянску. Вучыўся ў Парыжы, канчаў Сарбону. Лекар зубны, дантыст. Яго разам з сабакам павезлі ў пушчу, і адправілі ў Маскву на самалёце".*

Загадам упаўнаважанага Цэнтральнага штаба партызанскага руху пры стаўцы Вярхоўнага Галоўнакамандавання і ЦК КП (б) Б па Баранавіцкай вобласці Платона (Чарнышова) № 018 ад 30 траўня 1943 г. гэтым партызанам, а таксама камандаванню атрада была абвешчаная падзяка і даручана партызан, якія захапілі ў палон афіцэра з важнымі дакументамі прадставіць да медаля "Партызан Айчыннай вайны".

Не ўпэўнены ў тым, што героі гэтай аперацыі атрымалі медалі, але дакладна ведаю, што Іван Кісілеўскі і Станіслаў Капачэль былі расстраляныя, першы за

*“марадзёрства, п’янства і сувязь з белымі бандамі”, другі “за адкрыты выступ з братам супраць партызан”.*

## 48. Прыгоды падрыўніка Багатырова

**Багатыроў М.М:** *“У траўні 1943 г. кіраўніцтва атрада накіравала мяне з заданнем падарваць фашысцкі цягнік на чыгунцы Ліда - Гаўя. Са мной былі тры чалавекі, я быў старшым групы. У групу ўваходзілі камандзір аддзялення Паніч Андрэй і яшчэ тры партызаны. У начны час мы прабраліся да чыгуначнага палатна. Агледзелі падыход да месца задання, ахову каляі, пасля чаго я расставіў таварышаў, аднаго партызана з правага флангу, другога - з левага, а трэці назіраў за аховай каляі. У нас былі два ручныя кулямёты і вінтоўкі, сам я пайшоў мінаваць чыгуначную каляю. Хутка заклаў міну на каляю паміж рэйкамі спрошчаным спосабам. Да гэтага мы падрыхтавалі пакет з толу 13 кг. Набліжаўся фашысцкі цягнік да замінаванай каляі, калі падыйшоў да гэтага месца, адбыўся выбух. Цягнік з грукатам пайшоў пад адхон з ваеннай тэхнікай, жывой сілай фашыстаў. Сам я ледзь паспеў адбегчы ад чыгуначнага палатна, наганяў цягнік. Падбегшы да ўмоўленага месца, я не знайшоў сваіх таварышаў. Ад пагоні застаўшыхся ў жывых фашыстаў мне прыйшлося схавацца ў балотнай глухмені, у хмызняку па грудзі ў вадзе. Праседзеў я некалькі гадзін, пакуль не спыніўся агонь па балоце. Пасля гэтага пачаў прабірацца па балотных хмызняках на выхад. Заўважыў агонь у кустах, ля вогнішча знаходзіўся селянін з дзяўчынкай 11-12 гадоў. Я падышоў да іх, распытаў аб становішчы і папрасіў яго, каб ён вывеў мяне з балота па кірунку да хутара, дзе жылі знаёмыя. Селянін маю просьбу выканаў, вывеў да хутара. Я зайшоў да знаёмага, які распавёў, што мае таварышы пайшлі ў атрад.*

*У атрад я прыйшоў толькі праз два дні. У дарозе меў вялікія цяжкасці. Мае таварышы, прыйшоўшы ў атрад раней за мяне, даклалі аб выкананні баявога задання і распавялі аб тым, што нічога не ведаюць аб маім лёсе, бо бачылі, што немцы стралялі па мне. Камандаванне было задаволена выкананнем задання, але засмучанае маёй адсутнасцю”.*

## 49. Гібель Сяргея Мамонава

**Сляткоў П.Я.**: *“У пачатку чэрвеня 1943 г. група партызан пад камандаваннем Сляткова выйшла на падрыў цягніка паміж Воўкаўцамі і Кадоўбамі. “Сеня-масквіч”, як звалі яго ў партызанскім атрадзе, прыбыў да нас са спецгрупай маёра “Вераніка”. Гэта быў адзін з самых актыўных падрыўнікоў, на яго ліку было сем падарваных цягнікоў, ішоў на падрыў восьмага. Сенька хварэў малярыяй. Пры падыходзе да чыгункі зрабілі прывал, каб абгаварыць, як падарваць цягнік. У гэты час у Сенькі паднялася высокая тэмпература. Яму было прапанавана не ўдзельнічаць у аперацыі. Сенька ад прапановы адмовіўся. Калі група падыходзіла да чыгункі Сенька трохі адстаў і выйшаў прама на нямецкі бункер, блізка ад якога меркавалася падрываць цягнік. Немцы яго ўбачылі і адкрылі агонь. Каля пяці хвілін ён крычаў: “Дапамажыце!”, але дапамагчы яму было немагчыма.*

*Немцы павесілі Сеньку ўверх нагамі на пераездзе Воўкаўцы. Аперацыя ў той дзень правалілася. Толькі ўвечар наступнага дня пасля дбайнай выведкі група падарвала варожы цягнік з жывой сілай”.*

## 50. Адгон статку

**Лазавы З.Т.:** *“У чэрвені 1943 г. групу партызан пад камандаваннем камандзіра звяза Міхаіла Нікіфарава, якая ішла на баявое заданне, сустрэлі мясцовыя жыхары і распавялі, што з маёнтка Бердаўка фашысты зганяюць рагатае быдла ў Ліду для адпраўкі ў Нямеччыну. Нікіфараў прыняў адважнае рашэнне. Абстралялі нямецкіх салдат, гнаўшых статак. Фашысцкія салдаты, перапуджаныя раптоўным кулямётна-аўтаматным агнём, кінуліся ва ўцёкі, пакінулі быдла. З дапамогай сялян і партызан быдла, якое падлягала вывазу ў Нямеччыну, стала здабычай партызан. Да 200 галоваў быдла былі часова размеркаваныя сярод мясцовых жыхароў як харчовыя запасы сілкавання, партызанскіх патрэб у далейшым.*

*Потым ПА “Іскра” і брыгада стварылі жывёлагадоўчую харчовую базу ў Налібоцкай пушчы, куды былі адпраўленыя каровы. Там быў пабудаваны партызанскі шпіталь. Партызаны, якія знаходзіліся на лячэнні ў партызанскім шпіталі ў пушчы, сілкаваліся малаком, смятанай, тварагом, частка малочных прадуктаў дастаўлялася ў бочках у атрады на фурманках. Гэта ажыццяўлялася гаспадарчым звязам, які займаўся пытаннямі забеспячэння прадуктамі атрада”.*

## 51. Акружэнне групы Сцяпана Лупашчанкі

**Сляткоў П.Я.:** *“Пад камандаваннем малодшага лейтэнанта Лупашчанкі група партызан у чэрвені 1943 г. была накіраваная на баявое заданне ў Літву. Пры вяртанні група змушаная была правесці дзень у раёне в. Беняконі, на адным з хутароў з трох хат размешчаных у гаі. Гаспадыня хаты прасіла Лупашчанку пусціць яе да лекара, нібы ў яе баляць зубы. Лупашчанка катэгарычна адмовіў. Тады гаспадыня ўгаварыла партызанку Бялянскую, каб тая яе правяла праз пасты аховы. Калі Лупашчанка заснуў, Бялянская падвяла да вартавога гаспадыню хаты і сказала, што камандзір дазволіў ёй адлучыцца. Не прайшло і дзвюх гадзін, як немцы акружылі хутар. Пры падтрымцы бронемашын яны атакавалі групу. У няроўным баі загінуў Сцяпан Лупашчанка і яшчэ двое партызан. Як пасля высвятлілася, у гэтай жанчыны два сыны служылі ў паліцыі”.*

**Дзямідаў В.А.** распавёў мне, што Сцяпан

Лупашчанка загінуў пры падрыве маста ў Беняконях. *“Не спрацавала выбуховая прылада, іх акружылі. Загінуў адзін Лупашчанка, ён затрымаўся, каб аказаць супраціў. Здаў групу воранаўскі мужычок, ён іх бачыў”.*

## 52. Арышт Васіля Рыбіноўскага

Камісар атрада **Зямскоў Х.А.**: *“У чэрвені 1943 г. начальнік спецгрупы Васіль Рыбіноўскі пайшоў у Ліду з мэтай атрымання дадзеных для нашай выведкі і патрапіў у фашысцкую турму, дзе яго назвалі галоўным партызанскім камісарам”.*

**Жукаў П.У.:** *“Для знаёмства з нашымі людзьмі і з горадам Васіль, начальнік спецгрупы, паехаў са мной у Ліду. Ён меў дакумент, што з’яўляецца жыхаром в. Пятры на імя Буйніцкага Аляксея. Гэта было ўлетку перад самай аблавай немцаў на партызан. Мы прыехалі ў Ліду да Анацкі Андрэя. Мы прайшлі з ім па горадзе, пабывалі ў Сарокі Мікалая Васільевіча, Качана Гаўрыіла, Кальфа Міхаіла, сабраўшы дадзеныя, ён з гэтым заданнем адправіў мяне назад да радысткі, а сам застаўся начаваць у Анацкі Андрэя, сказаўшы, што прыедзе сам заўтра. Раніцай ён пайшоў сам на сувязь да Рыбака, начальніка аховы турмы, вяртаючыся ад турмы, ён быў арыштаваны паліцыянтам, дагнаўшым яго. З Рыбаком ён гаварыў, але аб чым - невядома”.*

Камандзір атрада **Коннаў А.А.:** *“Было атрымана заданне: вызваліць людзей з фашысцкай турмы. Камендант турмы (з мясцовага насельніцтва) даў згоду на сустрэчу з нашым чалавекам. На гэтую сустрэчу пайшоў сам В. Рыбіноўскі. Сустрэча прайшла нармалёва, але пасля Васіль быў затрыманы і адпраўлены ў турму. Нам адразу ж стала аб гэтым вядома. Немцы нічога не ведалі аб спецгрупе, а падазравалі Рыбіноўскага ў сувязях з партызанамі”.*

Намеснік камандзіра спецгрупы **Панарын А.І**.: *“Групе было загадана вызваліць палітычных зняволеных, змешчаных у турме ў г. Лідзе. Начальнікам гэтай турмы быў чалавек па імені Міхаіл. Мы дамовіліся з ім, і быў нават прызначаны дзень і гадзіна вызвалення зняволеных. У прызначаны дзень я і Вася адправіліся ў турму, але па дарозе вырашылі, што ў турму ўвойдзе толькі адзін з нас, і Вася загадаў мне застацца і ва ўмоўленым месцы чакаць яго вяртання. Нягледзячы на тое, што гэты Міхаіл быў правераны намі, і мы самі неаднаразова начавалі, пілі і елкі ў яго на кватэры, а яго сям’я (жонка, дзеці і бацькі) знаходзіліся ў партызанскай зоне, ён здрадзіў нас, і Вася, які ўвайшоў у турму, быў арыштаваны і збіты. Прыператрусе ў яго былі ўзятыя нямецкія грошы, якія ён павінен быў перадаць начальніку турмы, а той - ахове, а таксама яго і мая фатаграфіі.*

*Аб тым, як Вася ўстанавіў сувязь з Міхаілам, мне вядома наступнае. Начальнік турмы Міхаіл, якога завербаваў Вася і хацеў прыцягнуць да вызвалення палітычных зняволеных, жыў з сям’ёй у вёсцы. Але адначасова ён меў кватэру ў г. Лідзе. У гэтай жа вёсцы жыў поп. А служыў ён у царкве ў г. Лідзе. Міхаіл і поп ведалі адзін аднаго. Міхаіл быў рэлігійным і штотыдзень наведваў царкву. Для таго, каб устанавіць з ім сувязь, Вася таксама пачаў хадзіць у гэтую царкву, пазнаёміўся з папом, а поп пазнаёміў Васю з Міхаілам. І Міхаіл даваў Васі каштоўныя звесткі аб г. Лідзе. Вася шмат раз сустракаўся з ім у вёсцы і штотыдзень - у царкве. Мы з Васям некалькі раз бывалі ў яго на кватэры ў г. Лідзе і нават начавалі там.*

*Нам неабходныя былі пропускі далёкага перамяшчэння, а пропускі, якія мы мелі, былі сапраўдныя толькі для перамяшчэння на адлегласці не больш 7-10 км. У сувязі з тым, што тэрмін гэтых пропускаў мінаў, неабходна было перазняць нашыя фатаграфіі для атрымання пропускаў на далёкае перамяшчэнне, а таксама для пашпартоў. Таму падчас яго арышту і былі знойдзеныя ў яго яго і мая фатаграфіі. Каб не хадзіць да фатографа, лішні раз не выклікаючы гэтым падазрэнняў, Вася і насіў пры сабе карткі маю і сваю, каб пры выпадку перадаць фатаграфістцы для перазняцця.*

*Пасля вызвалення з турмы Вася распавядаў мне, што адразу ж, як толькі яго арыштавалі, начальнік турмы Міхаіл, які быў ім завербаваны для вызвалення палітычных зняволеных, і які прадаў яго, загадаў зняць з яго допыт як з партызанскага камандзіра атрадаў. На гэтым допыце Вася нічога не сказаў, пасля чаго быў жорстка збіты - яму далі 75 розг. Пасля збівання ён быў заключаны ў камеру № 11. Амаль два тыдні не мог ён не толькі ўстаць, але нават павярнуцца на іншы бок. Потым, ужо знаходзячыся ў камеры, ён таксама падвяргаўся допытам. Яго прызнавалі не як начальніка спецгрупы, а як камандзіра партызанскіх атрадаў, у сувязі з чым і патрабавалі ў яго звесткі аб размяшчэнні гэтых атрадаў, колькасці людзей у іх і ўзбраенні гэтых атрадаў. Сам жа сябе на гэтых допытах ён выдаваў за ўцякача з палону, і вядома ніякіх дадзеных яны ад яго не атрымалі, за што яго збівалі і пасадзілі на такі строгі рэжым - 100 грам хлеба і шклянка вады ў суткі”.*

**Навумава Я.М.:** *“У Васі быў рэкамендацыйны ліст да начальніка, але ад каго не ведаю. Па эфіры я гэтага не атрымлівала. У горадзе ён сустракаўся, яму абяцалі зрабіць фота. Ён хацеў зрабіць нам фота, каб мы выйшлі на легалізацыю. Пасля сустрэчы ён адышоў 2-3 кварталы, і яго арыштавалі. У яго была граната, але ён не паспеў ёю скарыстацца. У яго знайшлі фота маё, Шуры Рудзько і Веры Сімановіч. На наступны дзень была на кірмашы аблава, і шукалі ўжо па фатаграфіях. Легалізавацца пасля гэтага ўжо было нельга”.*

**Дзямідаў В.А.:** *“Міхаіл Рыбак - не начальнік турмы, а камендант. Вася пайшоў на сувязь з Рыбаком. Я яму гаварыў - хай Рыбак сюды прыйдзе, і ты з ім тут сустрэнешся. Не, пайшоў, а Рыбак яго ў турму. Не зразумела, навошта Рыбіноўскі пайшоў на сустрэчу з Рыбаком”.*

**Хітрун У.І.:** *“Рыбіноўскі асабіста сам хацеў уручыць ліст Рыбаку Міхаілу з в. Дакудава. Рыбак быў камендантам турмы, у яго падначаленні была варта.*

*Што было ў лісце Рыбіноўскага, я не ведаю. Рыбак, Лапата Мікалай і Крыпец Пётр (усё з Дакудава, сябры Рыбака) арыштавалі Рыбіноўскага. Рыбіноўскі аддаў ліст і вяртаўся. Яны дагналі яго на раварах і арыштавалі".*

**Панарын А.І.:** *"Аб арышце Васі Рыбіноўскага мною было паведамлена ў Выведкіраванне на 5-ы дзень. Я марудзіў з гэтым паведамленнем, спадзяючыся на тое, што начальнік турмы выпусціць яго. Пасля таго як я паведаміў у Выведкіраванне аб арышце Васі, мне быў дадзены загад аб яго вызваленні з турмы. Аб выкананні гэтага загаду мяне запытвалі па рацыі з Выведкіравання штодня па два разы. Але ў сувязі з тым, што адразу пасля правалу Васі мне вельмі цяжка было аднавіць сувязь з турэмнымі работнікамі, ён быў вызвалены з турмы толькі пасля амаль двухмесячнага зняволення".*

Многія засталіся ва ўпэўненасці, што Рыбіноўскі быў арыштаваны з-за падробленага пашпарта.

**Буйніцкі А.Т.:** *"Увосень 1943 г. пад маім пашпартам ён ішоў на заданне ў г. Ліду, дзе немцамі быў затрыманы і кінуты ў турму"*

**Жукаў П.В.:** *"Павел Таўлай па нашым заданні вырабляў пашпарты. Так, напрыклад, ён вырабіў пашпарт для Рыбіноўскага Васіля на імя Буйніцкага Аляксея, мясцовага жыхара в. Пятры. Пры арышце Рыбіноўскага ў яго быў выяўлены гэты пашпарт. Паліцыянт Рыбак з в. Дакудава, ведаў усіх мясцовых жыхароў і асабіста Буйніцкага Аляксея. Тут Рыбіноўскага выкрылі, што ён хаваецца пад чужымі дакументамі".*

Мне, таксама як і В.А. Дзямідаву, не зразумела - навошта В. Рыбіноўскі пайшоў у Ліду. Амаль двухмятровы малайчына з афіцэрскай выпраўкай - ды яго за квартал у Лідзе відаць. Задача франтавой спецгрупы ясна акрэсленая - вайсковыя перавозкі па чыгунцы. Што мог паведаміць важнага камендант турмы? Выратаванне нейкіх зняволеных - гэта са сферы сюжэтаў для чытачоў дэтэктыўнай літаратуры.

## 53. Стварэнне брыгады імя Кірава

У чэрвені 1943 г. была створаная партызанская брыгада імя Кірава. Загад аб яе арганізацыі падпісаў 2 чэрвеня ўпаўнаважаны ЦК КП(б)Б і Цэнтральнага Штаба партызанскага руху па Баранавіцкай вобласці Ў.Я. Чарнышоў (Платон). Брыгада была сфармаваная шляхам вылучэння з Ленінскай брыгады партызанскіх атрадаў "Іскра" (6 чэрвеня), "Кастрычніцкі" (12 чэрвеня), імя Варашылава і "Балтыец". 19 чэрвеня з партызан другой роты атрада "Кастрычніцкі" быў сфармаваны атрад імя Арджанікідзэ. Камандзірам брыгады быў прызначаны капітан Сінічкін Хведар Міхайлавіч, камісарам - Кондакоў Сяргей Макаравіч, начальнікам штаба - Смірноў Пётр Іванавіч. Мабыць своечасова. У пачатку ліпеня немцы накіравалі супраць партызан рэгулярныя часткі.



**Сінічкін Х. М.**

## 54. Аперацыя "Герман". Аблава

Аперацыя "Герман" - аблава на партызан у Налібоцкай пушчы - працягвалася 40 дзён, праводзілася ў Валожынскім, Іўеўскім, Івянецкім, Лідскім і Навагрудскім раёнах з 1 ліпеня па 11 жніўня 1943 года. З самалётаў бамбавалі партызанскія вёскі, у тым ліку Альхоўку.

Партызаны атрада "Іскра" аб гэтай аблаве ўспамінаюць вельмі рэдка і нявызначана. Прызнаюся, перачытаўшы яшчэ раз успаміны, я так і не зразумеў, дзе быў партызанскі атрад у ліпені -жніўні 1943 г.

**Дзямідаў В.А**.- начальнік штаба атрада "Іскра" у траўні - жніўні 1943 г.: *"Улетку 1943 г. падчас блакады сыйшлі ў Налібоцкую пушчу пад Чорнае возера".*

**Сляткоў П.Я**.- нам камандзіра па выведцы: *"Рэгулярныя часткі фашысцкіх войскаў з усёй тэхнікай абрынуліся на нас. Каб адарвацца ад немцаў, звяз, якім я камандаваў, рабіў некалькі засад, бо быў добра ўзброены. На рацэ Бярэзіна мяне тэрмінова выклікалі ў штаб. Камісар атрада Зямскоў паведаміў мне: "Загадам камандавання ПА "Іскра" ты, таварыш Сляткоў, прызначаны нам. камандзіра атрада па выведцы. Ад імя камандавання загадваю прыняць выведку і прыступіць з гэтай гадзіны да сваіх абавязкаў. Трэба ў першую чаргу знайсці выхад з акружэння. На наступныя суткі выхад быў знойдзены, абдурыўшы немцаў, мы перайшлі чыгунку Ліда-Маладзечна і сыйшлі ў бок Трабы -Суботнікі" .*

**Пятроўскі У.:** *"У часы ваеннай аблавы партызаны праявілі хітрасць. Калі вораг сцягнуў буйныя сілы з Ліды і Іўя і шукаў нас у лесе, асобныя атрады перабраліся цераз Нёман у гэты бок. Наша група выведнікаў затрымлівала прасоўванне немцаў. Поўнасцю спыніць іх, вядома было немагчыма. Таму што ў аперацыі з варожага боку ўдзельнічала некалькі тысяч. Аднак трапныя выстралы па немцах на некаторы час затрымлівалі ворага, што давала партызанам - асноўным сілам - з узбраеннем і прадуктамі без асаблівай мітусні дабірацца ў*



**Пятроўскі У.І.**

*Налібокскую пушчу. Нашай групе прыходзілася страляць па захопніках і самім знаходзіцца пад градам куль. Вельмі частая трапялі ў складаныя сітуацыі. Выручалі і дапамагалі людзі. Адны падказвалі нам, дзе немцы, другія давалі магчымасць схавацца, трэція дапамагалі харчамі. Мы ўмела арыентаваліся на мясцовасц, а захопнікі адчувалі сябе асабліва ў балоцістых мясцінах не зусім дабра. Здарылася так, што абодва ланцугі немцаў рухаліся на нас. Удалося нам схавацца ў лазовым кусце на лузе, залітым вадой. Немцы праходзілі ў 5-6 метрах ад куста, але нас не прыкмецілі, таму што мы па шыю былі ў вадзе. Галовы замаскавалі травой. Пасля праз дзесяткі варожых засад на Іўеўшчыне нам удалося вырвацца на Лідчыну і там далучыцца ды сваіх"* (Пятроўскі У. Партызанскімі сцежкамі. // Уперад № 73 (6881) ад 9 траўня 1980 г.)

За 40 блакадных дзён атрад страціў двух партызан: 23 ліпеня загінуў начальнік асобага аддзела Даньшын Барыс Міхайлавіч і ў жніўні Рабаконь Іван, і двух сувязных: у ліпені былі расстраляныя Кудзі Яўген Іванавіч і Маркевіч Іван Мікалаевіч.

## 55. Вызваленне з турмы Рыбіноўскага

Начальнік спецгрупы Васіль Рыбіноўскі праседзеў у турме 52 дні. Турма ў ваенныя гады знаходзілася на вул. Сыракомлі (цяпер Труханава). Будынак захаваўся, размяшчаецца ён на тэрыторыі мэблевай фабрыкі.

Коратка і дакладна дзеянні ўдзельнікаў аперацыі па вызваленні Рыбіноўскага выклаў **Зямскоў Х.А.**: *"Тав. Жукаў узяў на сябе ініцыятыву, звязаўся з паліцыянтам Хітруном, а потым і з Хартом, пры актыўным удзеле слесара-рабочага тав. Анацкі Андрэя начальнік спецгрупы на 52 суткі быў вызвалены з фашысцкай турмы. Пётр Васільевіч Жукаў разам з Хартом вывелі яго з горада Ліды, прыйшлі ў атрад "Іскра", а Хітруну было дадзена заданне працягваць працу".*

Падрабязныя аповяды аб аперацыі пакінулі яе ўдзельнікі - П.В. Жукаў, А.І. Панарын і Ў.І. Хітрун.

**Жукаў П.В.:** *"Камбрыг брыгады імя Кірава Сінічкін паслаў сваякоў з в. Сяглы, Мелегава і Дакудава да паліцыянтаў (Рыбака і інш.) з тым, каб яны за адпаведныя сумы грошай дапамаглі вызваліць Васіля з турмы. Высветлілася, што такім шляхам нічога не атрымаецца. Тады я заявіў Зямскову і Сінічкіну, што вазьмуся за гэтую аперацыю сам. Я прыбыў да паліцыянта Хітруна на кватэру ў Лідзе па вул. Лётнай, і пачалі дамаўляцца, як вызваліць Васіля. Я перадаў Хітруну ліст Сінічкіна і Зямскова для Васіля, які сядзеў у адзіночнай камеры. Хітрун перадаў ліст Васілю і даў яму паперы, каб ён напісаў адказ. Васіль спачатку сумняваўся, лічачы правакацыяй. Але калі я яму праз Хітруна перадаў яго ж пісталет, ён пераканаўся і напісаў адказ, у якім прыкладна было: "Я не прызнаўся ні ў чым, нікога не выдаў і не выдам. Прымайце меры да вызвалення".*

*Наша спроба вызваліць спачатку зводзілася да выразкі кратаў нажоўкай. Андрэй Анацка зрабіў нажоўку з некалькімі запаснымі палотнамі, якую Хітрун перадаў Васілю ў камеру. Але пілаваць краты было немагчыма, бо на дзяжурстве заўсёды знаходзілася двое паліцыянтаў. На дзяжурстве з Хітруном быў заўсёды ў пары Хорт. Вырашылі прылучыць да справы Харта. Хітруну Ўладзіміру далі грошы, на якія б ён мог запрасіць у госці Харта пасля дзяжурства. З Хітруном было дамоўлена аб часе спаткання. У 10 гадзін раніцы (яны дзяжурства скончылі ў 8 гадзін) я з Баброўскім заявіліся на кватэру Хітруна, Хорт быў там. Мы з Баброўскім закамандавалі ім падняць рукі ўверх. Іх вінтоўкі віселі на сцяне. Мы з Баброўскім назвалі сябе - савецкія партызаны. Хорт заявіў, што ён рускі, свой. Мы ў парадку літасці прапанавалі ім загладзіць сваю віну і працаваць на карысць Радзімы. Аб гэтым узялі ў іх падпіскі. Тутака ж ім было дадзена заданне па вызваленні Васіля. На наступнае іх дзяжурства ў начны час Васіль пачаў пілаваць краты. Адзін бок кратаў за адну ноч ужо быў перапілаваны і замаскаваны. Але раніцай, зняволены з суседняй камеры, які чуў гук трэння, паведаміў немцам. Васіля страшна катавалі, але нічога не выявілі і пакінулі яго ў ранейшай камеры. На наступны дзень я вырашыў зрабіць ключы. Хітрун на мыле зрабіў адбіткі, па якіх я прапанаваў Анацку Андрэю зрабіць ключы - тры ключы ад трох дзвярэй. Праз суткі ключы былі гатовыя і былі перададзеныя Хітруну для праверкі. Ключы былі зроблены выдатна.*



*Жукаў Пётр Васільевіч, 1915 г.н., з в. Садовічы Бранскай вобласці. Скончыў Рослаўскі мехтэхнікум (1938). Працаваў загадчыкам інструментальнай майстэрні ў Паўднёвым гарадку (1940-43), 13 лютага 1943 г. з жонкай і дзецьмі з'ехаў у партызанскі атрад "Іскра". З красавіка 1943 г. камандзір аддзялення агентурнай выведкі атрада "Іскра".*

*У прызначаны час Хітрун і Хорт спаілі астатніх паліцыянтаў аховы, для чаго ім было перададзена 5 літраў самагонкі, і пачалі адчыняць дзверы калідора, які вёў да камер. У спешцы зламаўся ключ. Я стаяў з Баброўскім каля вышкі. Хорт спытаў: "Што рабіць? Ключ зламаўся". Я загадаў пілаваць краты, якія ўжо раней была прыгатаваная. Яны з Хітруном пачалі дапамагаць Васілю пілаваць. Гэта доўжылася хвілін 20. Краты адхілілі, але Васіль не мог пралезці ў адзежы. Ён распрануўся да бялізны і з дапамогай Хітруна і Харта быў выцягнуты праз краты. Хітрун і Хорт праводзілі яго да вышкі і спусцілі яго з вышкі ў нямецкім шынялі Харта. Мы з Баброўскім прынялі яго і Харта. Мы загадалі і яму ісці з намі. Хітрун павінен быў застацца далей на службе. Хітрун пабудзіў змену*

*і пайшоў спаць у лазню. Уцёкі былі выяўлены толькі раніцай. Уся віна легла на Харта, але ён ужо быў у нас. Раніцай жа мы вывезлі і яго сям'ю".*

**Панарын Андрэй Ігнацьевіч ("Баброўскі")** - намеснік камандзіра спецгрупы. Першы ўспамін: *"У выніку подкупу паліцыянтаў, а таксама дапамогі сяброў, мне ўдалося вызваліць Рыбіноўскага з турмы, але ён быў так змучаны і знясілены, што без дапамогі не мог нават вылезці з перарэзаных кратаў акна. І толькі, дзякуючы высілкам людзей, прыцягнутых да гэтай справы, удаалося перакінуць яго праз трохмятровы плот турмы. На працягу трох месяцаў пасля турмы ён не мог хадзіць, і толькі, дзякуючы нашым клопатам і догляду, устаў на ногі".*

Другі ўспамін: *"У вызваленні Васі з турмы прымалі ўдзел Пеця і Іван. Галоўную ролю ў вызваленні Васі выканаў Іван. Ён працаваў у турэмнай ахове. Ён быў завербаваны Пецям. Гэтым жа Іванам быў прыцягнуты да справы вызвалення Васі з турмы начальнік варты, які дзяжурыў у тую ноч. Для вызвалення Васі з турмы былі прыгатаваныя тры слясарныя нажоўкі, а таксама былі знятыя турэмныя ключы на мыла і выраблены ключы ад яго камеры, ад калідорных дзвярэй турмы і ад прахадной будкі. Але ключамі скарыстацца не прыйшлося, паколькі начальнік варты, які дзяжурыў у будцы, не даў згоды адчыняць замкі, а толькі пагадзіўся на тое, што мы перарэжам краты і пераправім Васю праз плот турмы. Краты пілаваў Іван, а ўся астатняя ахова распівала два вядры самагонкі, закусваючы салам, прынесенымі мной і Пецям. Гэтую самагонку паднёс ахове начальнік варты турмы як у гонар яго дня нараджэння. З акна камеры былі выпілаваны 4 ячэйкі. Але паколькі Вася фізічна быў вельмі слабы, і Іван не мог адзін выбавіць яго з акна, то мне прыйшлося перал езці праз плот турмы, каб дапамагчы Івану выбавіць Васю з перарэзаных кратаў акна камеры. Падыйшоўшы з Васям да 3-мятровага плоту турмы, я стаў у напаўсагнутую позу, а Вася забраўся мне на спіну, а са спіны на плечы, а я выпрастаўся. Іван жа ў гэты час падтрымліваў яго, каб ён з мяне не зваліўся. Такім чынам, стоячы на маіх плячах ва ўвесь рост, ён свабодна дастаў рукамі край плота і знайшоў у сабе сілы, трохі падцягнуўшыся, пераваліцца на той бок плота. Казырок жа калючага дроту быў перарэзаны загадзя. А на другім баку плота, г.зн. ужо на волі, стаяў Пеця і чакаў, каб дапамагчы яму лягчэй апусціцца на зямлю. Усё гэта адбывалася ў гадзіну ночы. А ў 4 гадзіны раніцы мы ўсе дайшлі да Сімановіча на хутар. Адначасова Іван забраў сваю сям'ю, бо працаваць у турме ён ужо больш не мог. Начальнікам варты турмы была паднятая трывога, у сувязі з уцёкамі зняволенага партызана, і пачаліся пошукі Васі і Івана. Хутар, дзе Іван жыў з сям'ёй, быў спалены. На гэтую ж раніцу быў прызначаны і расстрэл Васі Рыбіноўскага.*

*Аб тым, на які час быў прызначаны расстрэл Васі, я ведаў загадзя. Аб гэтым мне паведаміў Пеця, а яму - Іван.*

*Пасля таго, як Іван зняў на мыла адбіткі ключоў ад камеры Васі і калідорных дзвярэй турмы і перадаў праз Пецю мне, я гэтыя адбіткі перадаў Паўлу Іванавічу, які зрабіў у майстэрні дэпо не толькі ключы, але і тры слясарныя нажоўкі. Выраблены турэмныя ключы і слясарныя нажоўкі мною былі перададзеныя праз Пецю - Івану загадзя. Але паколькі начальнік варты, прыцягнуты Іванам да справы вызвалення Васі з турмы, не даў згоды адчыняць дзверы ключамі, Івану прыйшлося пілаваць краты акна звонку, што ён і зрабіў. Ён таксама загадзя перарэзаў казырок калючага дроту плота турмы. Камера Васі знаходзілася на першым паверсе (№ 11). Для таго, каб дапамагчы Івану выбавіць Васю з акна камеры, мне таксама прыйшлося перал езці праз плот турмы, з дапамогай Пеці".*

**Хітрун Уладзімір Іосіфавіч**, мянушка "Смешны" - селянін в. Ёдкі, паліцыянт у 1942-44 гг.: *"У турме я пачаў працаваць незадоўга да таго, як Рыбіноўскі патрапіў у турму. Мы там дзяжурылі на вартавых будках. Было тры вышкі. На вышках уначы не дзяжурылі. Дзяжурылі толькі на тэрыторыі. Былі дзве змены варты. Дзяжурылі пасутачна. У змене было 7 чалавек. Начальнік варты ў маёй змене быў Астроўскі Вацлаў з в. Навасёлкі, а другі - Заяц Яўген, жыў на Лётнай вуліцы. Рэжым для зняволеных быў вельмі цяжкі. У хлебе было пілавінне. Суп з гнілой бульбачкі, бручкі.*

*На другі або трэці дзень Жукаў і Баброўскі прыйшлі да мяне на кватэру і сказалі: "Наш чалавек патрапіў у турму. Трэба ратаваць". Жукаў напісаў ліст і сказаў мне перадаць Рыбіноўскаму. Я перадаў ліст. Рыбіноўскі даў адказ. Адказ Рыбіноўскага я перадаў Жукаву. Далі мне ўказанне - вызваліць Рыбіноўскага ў што б тое ні стала. Жукаў прынёс мне нажоўку і бутэлечку алею. Мне трэба было гэта перадаць Васю. Жукаў прынёс мне гарэлкі. Паліцыя напілася. Мы ўмовіліся з таварышамі, якія чакалі за плотам Рыбіноўскага так: калі будзе поспех у вызваленні, то я кідаю за плот адзін каменьчык, а калі няўдача - два. За плотам чакалі Пеця Жукаў, Баброўскі, а астатніх не ведаю. Нажоўку я перадаў Рыбіноўскаму. Ён сам пілаваў. У суседняй камеры з Рыбіноўскім сядзеў правакатар Кандрашоў (пасля яго за гэта судзілі ў 1945-46 гг., далі 15 гадоў). Кандрашоў падняў шум. Пачаў крычаць, што рэжуць краты. Пачуў Астроўскі і прыбег туды. Рыбіноўскі шмат ужо перарэзаў кратаў. Нажоўку Рыбіноўскі схаваў за акенца ў камеры. У сцяне быў нейкі праём. Пад дошкі засадзіў нажоўку і сказаў, што выкінуў на вуліцу. Рыбіновского перавялі ў іншую камеру.*

*Назаўтра прыехала жандармерыя. Зрабілі допыт. Пыталі, хто прынёс нажоўку. Рыбіноўскі паказаў на паліцая Базіса Валяр'яна, які збіваў Рыбіноўскага на допытах. Немцы не паверылі, што Базіс перадаў Рыбіноўскаму нажоўку. Базіса немцы перавялі на іншы ўчастак у горад. Там ён і працаваў. Базіс добра размаўляў на нямецкай мове. Жыў да вайны ў Лідзе. Меў жонку, дзяцей. Яго продкі былі немцы.*

*Я заўсёды насіў ежу Васі ў камеру. Ежу прыносіў Жукаў. Прыносіў сала, мяса, хлеб. Другі раз нажоўку прынёс таксама Жукаў. Перадаў мне, а я -*

*Рыбіноўскаму. Гэта было праз пару дзён пасля першай спробы вызваліць Рыбіноўскага. Уначы Вася пілаваў, а Кандрашоў чуў і ўжо на гэты раз не замінаў. Пасля першага прапільвання кратаў на акне, мы вырашылі вызваляць зняволеных праз дзверы, г.зн. усіх іх вызваліць. Аб вызваленні ўсіх зняволеных мне даў указанне Жукаў. Ключы ад дзвярэй турмы рабіў Анацка Андрэй. Я зняў на мыле адбіткі ключоў. Пеця мне прынёс тры кавалкі мыла і сказаў зрабіць адбіткі. Я перадаў адбіткі Жукаву, а Жукаў - Анацку Андрэю. Зробленыя ключы Пецяаддаў мне. Было ключоў 12 - 13. Хорт Іван пачаў адмыкаць замок цэнтральных варот. Ключ паламаўся. Тады мы выкарысталі нажоўку. Нам было сказана: у выпадку няўдачы з ключамі перадаць Рыбіноўскаму нажоўку. Нажоўку я захоўваў пад студняй. Каля студні была падлога. Там ляжала нажоўка.*

*З акна Рыбіноўскі апускаўся на зямлю па жэрдцы, якая была прыстаўлена да акна другога паверху, дзе сядзеў Рыбіноўскі. Пасля спуску з камеры Рыбіноўскі на тэрыторыі турмы апрануўся, бо ён вылазіў праз акно толькі ў споднім бялізне. Я даў Рыбиновскому шынель, вінтоўку, боты. З імі ён і сыйшоў. Перадаў яму наган. У мяне было 2 наганы. Мне прынёс іх Жукаў. Побач з вялікімі варотамі была брамка, якая таксама замыкалася на замок. Я адчыніў брамку і Рыбіноўскі выйшаў праз яе. За турэмным плотам Рыбіноўскага чакалі Жукаў і Баброўскі. Хорт Іван пайшоў адразу ж з Рыбіноўскім у атрад. Спачатку яны зайшлі ў вёску Шайбакі да цесця Харта. Хорт забраў жонку і дзяцей і з'ехаў у атрад".*

Аповяды трох дзейных асоб супадаюць у цэлым, але адрозніваюцца ў дэталях. У аповядах Жукава і Панарына камера Рыбіноўскага знаходзілася на першым паверсе, у аповядзе Хітруна - на другім. У Хітруна Рыбіноўскі выходзіць праз брамку, у Жукава - яго спускаюць з вышкі, у Панарына - перавальваюць цераз трохмятровы плот.

Панарын яўна перабольшвае сваю ролю ў гэтай аперацыі, асноўнай дзейнай асобай у яго з'яўляецца Іван, а начальнік варты, якога ён не называе, толькі забараняе і замінае. Хітрун найпадрабязным чынам выкладае свае дзеянні па вызваленні Рыбіноўскага, але пра напарніка Харта ўспамінае толькі тады, калі ламаецца ключ. Аповяд Жукава ўяўляецца досыць аб'ектыўным, але пазбаўленым дробязнай канкрэтыкі.

**Дзямідаў В.А.** *"Калі б не Хітрун, яго б расстралялі. Яны самі ўцяклі - у іх ключы былі. На Васі ні адной драпіны не было. Прыйшлі Даўлюд, Хорд і Рыбіноўскі".*

**Навумава Я.М.**- радыстка спецгрупы: *"Васіля ў атрад прывёў паліцэйскі Тхор (Хорт). Васю каб вярнуць, куплялі золата, вазілі вяпрукоў, шмат гналі гарэлкі".*

## 56. Усталяванне сувязі з прапагандыстамі з гэбітскамісарыяту

У канцы ліпеня 1943 г. партызаны звязаліся з групай былых афіцэраў Чырвонай Армі беларускага паходжання, якія падчас знаходжання ў нямецкіх лагерах былі завербаваныя і пагадзіліся супрацоўнічаць з немцамі. Пасля адпаведнай падрыхтоўкі ў якасці прапагандыстаў яны былі накіраваныя ў Лідскі гэбітскамісарыят.

**Жукаў П.В.:** *"У ліпені 1943 г. Барыс Сягла сказаў мне, што ў Лідзе пры гэбітскамісарыяце працуюць рускія афіцэры і хочуць пазнаёміцца з партызанамі. Аб гэтым яны часта гаварылі грамадзянцы Пазняк. Рускія прапагандысты пры гэбітскамісарыяце пазнаёміліся з грамадзянкай Пазняк наступным чынам: сын грамадзянкі Пазняк быў прызваны прапагандыстамі ў "Саюз моладзі" і праз яго дазналіся аб тым, што гр-ка Пазняк мае сувязі з жыхаром в. Пятры Сяглам і, наогул, з вёскай, якая ўваходзіла ў партызанскую зону.*

*Аб гэтым я далажыў Зямскову і Рыбіноўскаму. Рыбіноўскі сказаў, што трэба ўстанавіць сувязь, а Зямскоў гаворыць: "На які чорт яны табе патрэбныя. Яны позна спахапіліся. Мы абыйдземся без іх". А я адказаў: "Рызыкну ўстанавіць сувязь, можа і будзе якая-небудзь карысць".*

*У канцы ліпеня я прыбыў разам з Сяглам Барысам, Вялічкам Паўлам на кватэру да Пазняк, якая жыла на Расляках. Па-гаварыўшы з намі, Пазняк сказала: "Я пайду прывяду начальніка прапагандыстаў". Мы засталіся ў кватэры, а яна пайшла. Прыкладна хвілін праз трыццаць мы ўбачылі праз акно, што ідуць Пазняк і з ёй адзін мужчына ў цывільнай вопратцы. Жыхары в. Пятры пры гэтым спалохаліся і ўцяклі з кватэры, а я застаўся адзін. Пазняк пазнаёміла мяне з чалавекам, якога прывяла. Ён назваўся Мікалаенка".*



**Мікалаенка М. С.**

Прапагандысты размеркавалі абавязкі, Мікалаенка ажыццяўляў агульнае кіраўніцтва, а кантакты з партызанамі павінен быў ажыццяўляць Сяргей Нягрэй. 30 ліпеня С. Нягрэй прыбыў у в. Пятры для сустрэчы і кансультацыі з партызанамі. Вёў перамовы з камандзірам партызанскай брыгады капітанам Сінічкіным. Сінічкін прапанаваў усім прапагандыстам пакуль заставацца на службе ў немцаў.



**Нягрэй С. А.**

Увечар Нягрэй сустрэўся з упаўнаважаным штаба фронту Васяй (Рыбіноўскім) і камандзірам атрада "Балтыец" Іванам (Пралыгіным). Прынялі рашэнне аформіць падпольную групу з умоўнай назвай "Світанак", яе кіраўніком прызначыць Нягрэя. 11 жніўня Нягрэй ізноў прыязджаў у Пятры па далейшыя ўказанні і заданні. Такія сустрэчы сталі штомесячнымі, адбываліся яны ў Пятрах.

## 57. Змена кіраўніцтва брыгады

5 жніўня 1943 г. загадам упаўнаважанага ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху па Шчучынскім міжрайцэнтры Шупені С.П. капітан Васільеў Сяргей Філіпавіч быў прызначаны начальнікам штаба брыгады імя Кірава. Начальнікам выведкі брыгады быў прызначаны камандзір другой роты атрада "Іскра" В.А. Дзямідаў.

21 кастрычніка Васільеў С.Ф. стаў камандзірам Кіраўскай брыгады, капітан Сінічкін Х.М. быў вернуты на пасаду камандзіра Ленінскай брыгады. Начальнікам штаба брыгады стаў ст. лейтэнант Сяргей Дабравольскі, у лістападзе яго змяніў Пракаповіч Міхаіл Аляксандравіч, камісарам застаўся Кандакоў С.М.



***Васільеў Сяргей Філіпавіч*** *1944 г.н., нарадзіўся ў Вязьме ў сям'і паравознага машыніста. Скончыў чыгуначную школу і вячэрні рабфак (1921). Рабочы ў службе каляі пры ст. Вязьма. Чырвонаармеец (1926-27). Агент наркамзема па перасяленні (1928-32). У 1932 г. скончыў бранетанкавыя курсы начскладу, залічаны ў РККА як "трыдцацітысячнік". Камандзір звяза, камандзір роты ў асобным танкавым батальёне. Памочнік начальніка (1939), начальнік тэхнічнай часткі 56-ага карпуснога артполка (1940). Начальнік аўтабранятанкавага аддзела 21-га стралковага корпуса (1941). Палон з 6 ліпеня 1941г. па ліпень 1942 г., уцёк з лагера Бушафаберг. З жніўня 1942 г. - камандзір групы, затым камандзір партызанскага атрада ў Ленінскай партызанскай брыгадзе.*

**Васільеў С.Ф.:** *"Я быў прызначаны на пасаду начальніка штаба брыгады імя Кірава. Неўзабаве прыняў гэтую партызанскую брыгаду. Брыгада знаходзілася ў непасрэднай блізасці ад Ліды. Размяшчалася брыгада па вёсках Крывічы, Альхоўка, Дакудава і на хутарах уздоўж ракі Нёман па абодвух яго баках.*

*У склад брыгады імя Кірава ўваходзілі: атрад "Іскра"- камандзір Коннаў А.., атрад "Кастрычніцкі" - камандзір Панчанкаў У., атрад "Балтыец" - камандзір Пралыгін І., атрад імя Арджанікідзэ - камандзір капітан Ляшэнка М., атрад "Арол" - камандзір Бязлюдаў, атрад "За Савецкую Беларусь", арганізаваў пасля прыёму брыгады (19 снежня), камандзір Канашэвіч.*

*Брыгадны шпіталь быў мною арганізаваны ў Налібоцкай пушчы. Цяжка параненых на самалётах адпраўлялі праз лінію фронту. Габрэйскае насельніцтва, выведзенае з гета або ўцякачы, адпраўляліся ў Налібокі, за Чорнае возера. Там для іх былі арганізаваныя: сталоўка, пякарня, рамонтныя майстэрні абутку і вопраткі. Маладыя накіроўваліся ў атрады. Пры брыгадзе была радыёстанцыя".*

Штаб Кіраўскай брыгады і атрад "Іскра" размяшчаліся ў Альхоўцы, атрад "Балтыец" - у ляску паміж Альхоўкай і Атмінава, у Атмінаве на пастоі быў атрад "Арол". Партызаны атрада "Іскра" пачынаюць атрымліваць загады ад камандавання брыгады, і ўся наступная дзейнасць атрада шмат у чым вызначалася непасрэдна камбрыгам С.Ф. Васільевым.

Так, С. Лазавы пасля акрыяння ў верасні быў адкамандзіраваны ў распараджэнне спецгрупы і накіраваны ў раён Аўгустоўскіх лясоў за Шчучын на сувязь з партызанскай брыгадай "За Савецкую Беларусь", якой камандаваў Станкевіч. Пасля выканання задання ў кастрычніку быў прызначаны на пасаду начальніка боезабеспячэння і інструктарам падрыўной дыверсійнай справы ПА "Іскра".

Уладзімір Пятроўскі і Іосіф Лернер былі адпраўленыя пад Васілішкі на сувязь з атрадам "Ленінскі Камсамол".

**Пятроўскі Ў.І.:** *"У 1943 г. мне і Віктару (Іосіфу) Лернеру было дадзена заданне далучыць людзей з разбітага атрада "Ленінскі камсамол". Па шляху туды мы начавалі ў в. Паперня, дзе я пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай, якая праводзіла нас да р. Лебяда, і там мы пераправіліся. У "Ленінскім камсамоле" прабылі 54 дні, наладзілі барацьбу супраць фашыстаў. Намі двума і іхняй групай у 16 чалавек былі разбітыя: спіртзавод Мала-Мажэйкава, маслазборачны завод у Вішнева, 19 фурманак прызначаных для фашыстаў. Быў узяты жандар з Астрыно, побач з Васілішкамі ўтрох узялі 5 паліцаяў, адабралі адзін аўтамат, 4 чэшскія вінтоўкі, 15 гранат. Паколькі я з'яўляўся старшым групы, то мы забралі аўтамат і 9 гранат, а паколькі з іхняга боку не было згоды на пераход, то мы пайшлі ў свой атрад. На зваротнай дарозе паміж Васілішкамі і Смалярняй зрабілі засаду на машыну фашыстаў, якая везла з Васілішак яйкі, алей і сала. Машына, два паліцаі і адзін фашыст былі знішчаныя. Пасля гэтага мы пераходзілі чыгуначную каляю недалёка ад в. Тарнова, па палатне хадзіла ахова. Мы заселі ў сакрэт, заўважылі, што з боку Ліды ад маста цераз Дзітву рухаецца дрызіна. Мы вырашылі яе знішчыць, так і зрабілі. Знішчылі 5 фашыстаў, перайшлі чыгунку і падаліся далей у свой раён. Аб трафеях не думалі, у нас былі трафеі. Прыкладна праз гадзіну фашысты адкрылі з моста ўраганны агонь. Прыбыўшы ў свой раён в. Бенявічы мы зайшлі з Лернерам у адну хату, на пасты паставілі*

*грамадзян з вёскі. Праз 30-40 хвілін нас акружылі белапалякі, мы не разгубіліся, закідалі гранатамі праз акенца і ўцяклі".*

## 58. Трэпанацыя чэрапа ў палявых умовах

Увосень 1943 г. лекар-тэрапеўт Кальман Гордзін у палявых умовах зрабіў трэпанацыю чэрапа. Падчас рукапашнага бою ў в. Дакудава партызан Міхаіл Кулеш быў цяжка паранены ўдарам прыклада ў галаву. *"Ен страціў мову, дрэнна адрозніваў навакольныя прадметы. Для выратавання жыцця параненага патрабавалася тэрміновая аперацыя. У шпіталь даставіць хворага не было магчымасці. Тады К.Гордзін рашыў сам зрабіць аперацыю. Акрамя скальпеля і пінцэта, нічога ў доктара не было. Каб выратаваць чалавека, урач звярнуўся па дапамогу ды каваля з вескі Альхоўка. У гэтага чалавека ен узяў долата, малаток, шчыпцы. Аперацыю зрабілі ў сялянскай хаце. Гордзіну дапамагалі яго жонка, медсястра атрада, таксама камісар Г. Цімафееў і брат параненага партызана. На шчасце, усё абышлося дабра."* (Вальчук Э. На нябачным фронце. // Уперад. № 74 ад 9 траўня 1974 г.)

## 59. Падпал Іўеўскага тартака

**Лазавы С.Т.:** *"10 кастрычніка 1943 г. С. Лазавы, Мацвей і Цалій Гінзбургі, Мацвей Гумянец падарвалі паравую турбіну на лесапільным заводзе ў Іўі і падарвалі лакамобіль-зязюлю які ішоў ад ст. Гаўя-Іўе і дастаўляў шпалы, выраблены на тартаку ў Іўі. Немцам востра патрабаваліся ў той час шпалы, таму, што пры падрывах цягнікоў вялікая партыя шпалаў поўнасцю выходзіла з ладу".*

**Коннаў А.А.:** *"На асабліва важную дзвюхкалейную чыгунку Ліда-Маладэчна немцы прывозілі рэйкі і шпалы з іншых раёнаў Беларусі. Часткова шкоду кампенсавалі за лік Іўеўскага лесозавода (тартака), адтуль вяла вузкакалейка.*

*Група партызан пад камандаваннем Цімафеева Рыгора, у складзе Лазавога, братоў Гінзбургаў Мотка і Цалія і інш. атрымалі заданне падарваць, вывесці з ладу вузкакалейку і іўеўскі тартак.*

*З лесу рухаўся цягнік - 5 платформаў з лесам на лесазавод, дарогу хутка замінавалі і пачалі чакаць. Паравоз "зязюля" узляцеў у паветра. Да вечара група дабралася да завода. Там пры дапамозе лакамабіля працавалі піларамы. Вывелі ўсіх рабочых з завода, заклалі 8 кг толу з бікфордавым шнуром і капсулем дэтанатарам у гарэльню лакамабіля, праз 12-15 хвілін раздаўся выбух, усё патанула ў грукаце, дым і пара пакрылі ўсё. Іўеўскі тартак спыніў сваю працу на акупантаў".*

## 60. Восеньскія падрывы чыгуначных мастоў і цягнікоў

У жніўні - лістападзе было падарвана некалькі чыгуначных мастоў і спалена некалькі драўляных мастоў.

**Багатыроў М.М.:** *"У жніўні 1943 г. кіраўніцтвам атрада было дадзена заданне групе партызан у колькасці 3-х чалавек: Багатырову Мікалаю - старшы групы, Лазавому Сямёну і Гінзбургу замінаваць і падарваць мост, размешчаны на чыгунцы Ліда-Баранавічы за 6 км ад г. Ліда. Мы падрыхтавалі пакет з толам у 15 кг і ўсё неабходнае для аперацыі. Уначы ўтрох подкраліся да маста, заклалі міну, падпалілі бікфордаў шнур, які быў злучаны з капсулем і пакетам толу, а самі адышлі ў схованку. Праз некалькі хвілін раздаўся выбух, і мост узляцеў у паветра, рух цягнікоў на ўчастку Ліда-Баранавічы быў спынены на некалькі гадзін, былі затрыманыя цягнікі з вайсковай тэхнікай, рыштункам і жывой сілай, якія рухаюцца на лінію фронту. Выканаўшы заданне, вярнуліся ў размяшчэнне атрада, аб выкананні задання далажылі кіраўніцтву. Быў складзены дыверсійны акт. За паспяховае выкананне баявога задання кіраўніцтвам атрада групе перад шыхтам была абвешчаная падзяка".*

1.10.43 г. Падарваны жалезабетонны мост на шашэйнай дарозе Беліца - Зентала даўжынёй 3 м. Падарваны драўлянай мост даўжынёй 15 м на шашэйнай дарозе - Беліца-Зентала. Удзельнікі Лукашэвіч, Мулінскі І.М.

2.10.43 г. Падарвана чыгуначнае палатно Ліда-Баранавічы, выведзена з ладу 3 звяны. Удзельнікі: Гаўрыленка Павел, Зубрылаў, Бондар Уладзімір, Жагер (Жыгар), Перасыпкін.

Не заўсёды мінаванне дарог заканчвалася шчасліва для мясцовага насельніцтва. Увосень сяляне па загаду немцаў пачалі пілаваць лес вакол Дакудава, Біскупцаў, Бурносаў. Лазавому С. было даручана замінаваць дарогу, па якой на машынах ездзілі немцы. Рана раніцай дакудаўскі селянін вёз з лесу дровы і наехаў на партызанскую міну.

10.10.43 г. Падарваны цягнік на чыгунцы Ліда-Маладзечна, знішчана 3 вагоны з жывой сілай, пашкоджаны паравоз і 8 вагонаў з жывой сілай. Удзельнічалі: Гаўрыленка Павел, Устэкліца, Зубрылаў, Тухалін Міхаіл, Іваноў Іван, Фёдараў Рыгор.

25.10.43 г. Падарваны цягнік на чыгунцы Ліда-Маладзечна ў раёне Жыжма - Меляшы, раўбіты 4 вагоны сельгасінвентару, 8 вагонаў сыйшлі з рэйкаў, рух затрыманы на 10 гадзін. Удзельнічалі: Бажко Мікалай, Кажамяка, Зубрылоў, Сідарэнка.

4.11.43 г. Лазавы, Дзёмушкін, Дабралежа, Яншын, Ушыўцаў, Паніч, Крысько Васіль падарвалі цягнік з боепрыпасамі ў раёне ст. Наваельня.

7 лістапада ў в. Крывічы адбыўся ўрачысты сход.

9 лістапада ў адзін дзень загінулі 4 партызаны: Іваноў Іван Георгіевіч, Кузьміч (Кузьмін) Пётр Міхайлавіч, Немцаў Зміцер Андрэевіч і Тухалін Міхаіл Уладзіміравіч. Пахавалі іх у в. Бурдукі. Прычына гібелі невядомая, пра гэта ніхто не ўспамінае.

Колькасць людзей у атрадзе, нягледзячы на страты, пастаянна ўзрастала за лік ваеннапалонных і мясцовых жыхароў.

**Віннічак В.Я.** *"Увосень 1943 г. з цягніка ля пераезда Хутныя ўцяклі 9 чалавек ваеннапалонных, я*

*іх даставіла ў партызанскі атрад в. Мелегава. Уцяклі яны ад пераезда Хутныя ля в. Чароўкі, дзе як раз была я, былі яны ў вайсковай форме."*

### 61. Уцёкі з нямецкага шпіталя

У снежні ў атрад з нямецкага шпіталя, размешчанага ў Лідзе на вул. Школьнай (цяпер Кірава), на двух аўтамабілях уцяклі 50 ваеннапалонных санітараў і санітарак.

*"Акт ад 7 снежня 1943 г.*

*Гэтага дня ў атрад "Іскра" прыбыла група ваеннапалонных у колькасці 51 чалавека, якія працавалі ў нямецкім вайсковым лазарэце № 4-605 г. Ліда. Група была на працягу двух месяцаў звязаная з атрадам і перадавала атраду патроны, медыкаменты, перавязачны матэрыял і сыйшла з лазарэта па загадзе камандавання атрада. Сувязь з групай ажыццяўлялася ... праз выведнікаў Нягрэя Сяргея і Малеўскага Ал.*

*Група, якою кіраваў Мартыросаў, пры сыходзе зрабіла наступнае:*

*а) ваеннапалонныя Галенчік Г. і Мартыросаў Г. забілі нямецкага ўнтэр-афіцэра, прыстаўленага ў якасці аховы ваеннапалонных;*

*б) група ваеннапалонных пад кіраўніцтвам Сапожнікава Сямёна на месцы вывяла з ладу 4 аўтамашыны;*

*в) Вараб'ёў Пётр знішчыў у гарадской лазні помпавую сістэму і электраматор.*

*Група пры сыходзе ўзяла з сабой каля 2000 розных патронаў, 8 нямецкіх вінтовак, 8 пісталетаў, аўтамат (штурмавік), 3 акумулятары, хірургічныя прылады, некаторую колькасць перавязачнага матэрыялу.*

*Група ... па загадзе камандзіра брыгады была размеркаваная ў наступным парадку: Атрад "Іскра" - 28 чалавек, атрад "Балтыец" -23 чалавекі.*

*Камандзір атрада лейтэнант Коннаў.*
*Камісар мал. палітрук Цімафееў.*
*Ад групы Мартыросаў.*

Уцёкло 51, удалося ўстанавіць прозвішчы 21: Бадалян Павел, Вараб'ёў Пётр, Варонін Рыгор Дзмітрыевіч, Галенчык Рыгор, Данілюк Піліп Лук'янавіч, Дзянісава Зіна, Епанешнікава Валя, Камарова Клава, Левін Іван, Ляўкоў Аляксей, Мартыросаў Гурген Амірханавіч, Мароз Васіль, Новікаў Мікалай (Аляксей), Раманаў (Мікіта), Сямён Сапожнікаў, Цярэшчанка Ганна, Тулай Зіна, Фралоў Мікалай, Шланг (Шлаг)-Банкова (Мартыросава) Вольга Браніславаўна, Ельчанінава Таня, 4-гадовая дзяўчынка.

З данясення маёру дзяржаўнай бяспекі Валерыю ад ўпаўнаважанага Р.Ю. Сасноўскага:

*"8 снежня ў атрад "Іскра" прыбыла група (50 чал.) ваеннапалонных, якія працавалі ў Лідскім вайсковым шпіталі. Некаторыя з чальцоў групы асабліва старэйшы Мартыросаў і Раманаў шукалі сувязі з партызанамі. Зусім выпадкова адзін вазак пазнаёміў іх з нашымі працаўнікамі Сяргеем (Нягрэй) і Сашам. Пачалася падрыхтоўка да пераходу ўсёй групай у партызанскі атрад, але да гэтага некаторыя чальцы групы забяспечвалі наш атрад медыкаментамі, бінтам і інш. Калі план быў гатовы - старэйшы групы адправіў некалькіх рабочых да нямецкага афіцэра сказаць яму, што ў інтэрнаце з'явіліся вошы. Афіцэр неадкладна даў загад адправіць усіх рускіх у лазню разам з пасцельнай бялізнай. Ні адзін з рабочых не меў зброі, але пры шпіталі быў маленькі зброевы склад. Увечар 7 снежня ўсе з'язджаюць у лазню, 4 чалавекі застаюцца ля склада, а электраманцёр Раманаў выключае святло. Пакуль наладзілі святло - машына са зброяй была каля гарадской лазні. Афіцэр, які суправаджаў групу, быў тут жа забіты. А група, забраўшы ўсе рэчы, на дзвюх машынах выехала з горада. Каля ракі Жыжма машыны былі знішчаныя. Акрамя таго, тая ж група, якая адчыніла склад з вінтоўкамі, значна пашкодзіла астатнія машыны, пакінутыя ў гаражы, чым зрабіла немагчымым пераслед.*

*9.12.1943*

*Упаўнаважаны Р.Ю. Сасноўскі."*



**Дзянісава З.**



**Мартыросаў Г. А.**

***"Спецпаведамленне.***

*Упаўнаважанаму Цэнтральнага штаба партызанскага руху і ЦК КП(б)Б па Баранавіцкай вобласці генерал-маёру Платону і пам. упаўнаважанага т. Данскому.*

*8 снежня ў атрад "Іскра" прыбыла група ў 50 чалавек ваеннапалонных, якая раней працавала ў*

*Лідскім вайсковым шпіталі. У момант пераходу група вывела 5 аўтамашын, забрала склад боепрыпасаў і здзейсніла забойства афіцэра.*

*У ліку тых, якія перайшлі на наш бок Мартыросаў Гурген Амірханавіч 1912 г.н. Да вайны працаваў дацэнтам у інстытуце філасофіі АН СССР г. Масквы. У Чырвоную Армію ўступіў апалчэнцам. З 6 кастрычніка 1941 г. па 7 снежня 1943 г знаходзіўся ў палоне ў немцаў. Працаваў у немцаў санітарам у лазарэце і перакладчыкам. У асабістай гутарцы Мартыросаў распавёў, што ён ведае рускую, армянскую, татарскую, нямецкую і слаба французскую мовы. Жанаты, мае жонку і двух дзяцей, якія жывуць у в. Цімашова Куйбышаўскай вобласці, куды эвакуяваныя ў ліпені 1941 г. з Масквы. За перыяд знаходжання ў палоне ў г. Арол Мартыросаў ажаніўся на медсястры габрэйцы Шланг Вользе Баніславаўне - нараджэнцы г. Варшавы. У 1939 г. яна нелегальна перайшла мяжу з тэрыторыі Нямеччыны ў СССР і да вайны пражывала ў г. Беластоку, дзе працавала ў вайсковым шпіталі. Разам з шпіталем Шланг адыходзіла з часткамі Чырвонай Арміі да г. Арла, дзе іх шпіталь, у тым ліку яна, былі ўзятыя ў палон. Знаходзячыся ў палоне, працавала ў нямецкім шпіталі. Пазнаёмілася з Мартыросавым і пасля выйшла за яго замуж.*

*Мартыросаў аб становішчы ў г. Лідзе распавёў, што немцы выключна разгубленыя, усюды можна чуць незадаволенасць вайной і нявер'е ў перамогу Нямеччыны. Працуючы ў шпіталі, ён неаднаразова вымаў з кішэні параненых салдат і афіцэраў нямецкага войска савецкія ўлёткі з пропускам аб пераходзе на бок Чырвонага Арміі.*

*17 снежня 1943 г.*

*Сакалоў.*

*Маёр дзяржбяспекі Валеры."*

*"Цалкам сакрэтна.*

*Упаўнаважанаму ЦК КП(б)Б*
*па Лідскім межрайцэнтру*
*Баранавіцкай вобласці.*

*11.12.1943 г.*

***Рапарт***

*Даношу, што з 7 на 8 снежня выведкай арганізаваны ўцёкі рускіх ваеннапалонных з г. Ліды, якія працавалі ў нямецкім шпіталі, на абслугоўванні якіх знаходзілася да 700 чалавек параненых немцаў. Пры ўцёках імі знішчана 5 аўтамашын, адзін матацыкл, забіты адзін нямецкі ўнтэр-афіцэр, узята зброя: нямецкіх вінтовак 8 шт., да іх патронаў 1000 шт., адзін нямецкі аўтамат і 700 штук да яго патронаў, 8 пісталетаў і шэраг іншых гаспадарчых і медыцынскіх матэрыялаў.*

*Камандзір брыгады ім. Кірава*
*капітан Васільеў.*
*Камісар брыгады палітрук Кандакоў.*
*Нам. кам. брыгады па выведцы Дзямідаў.*

Пры ўцёках, па аповядзе Дзянісавай З., нямецкага афіцэра ў лазні не забілі, а толькі аглушылі, ён *"ачухаўся, вылез на вуліцу і пачаў крычаць"*. Яго дабілі. Кіраваў уцёкамі Сямён Сапожнікаў. Праваднік Аляксандр Малеўскі быў звязаны з "палякамі", і яны павінны былі сустрэць палонных. Чакалі трое сутак, сыйшлі за паўгадзіны да таго, як яны прыехалі. Зламалася машына. Малеўскага потым расстралялі.

## 62. Снежаньскія аперацыі

Выпіска з справаздачы аб баявой і дыверсійнай дзейнасці партызанскіх атрадаў Лідскай зоны за снежань 1943 г.

*"Атрад "Іскра".*
***Колькасны склад:***
*1. Колькасць партызан - 218 чал.*
*2. Членаў ВКП/б/ - 9.*
*3. Кандыдатаў у чл. ВКП/б/ - 11.*
*4. Членаў ВЛКСМ - 61.*
***Дыверсійная праца:***
*1. Спушчана пад адхон варожых цягнікоў - 6.*
*2. Разбіта і пашкоджана паравозаў - 6.*
*3. Вагонаў з жывой сілай і тэхнікай праціўніка - 34.*
*4. Пры крушэнні забіта гітлераўцаў - 100 чал.*
***Баявая праца:***
*1. Праведзена баёў і засад - 2.*
*2. Забіта гітлераўцаў - 11 чал.*
*3. Захоплена трафейных вінтовак - 11 шт.*
*4. -"- аўтаматаў - 1 шт.*
*5. -"- асабістай зброі - 8 шт.*
*6. Знішчана аўтамашын - 7 шт.*
*Стратаў у асабовым складзе не маецца.*
***Узбраенне партызан:***
*1. Вінтовак - 120.*
*2. Ручных кулямётаў - 8.*
*3. ППД і ППШ - 5.*
*4. Вінтовак СВТ - 15.*
*5. Ручных гранат - 15."*

1 снежня група партызан у колькасці 6 чалавек пад камандаваннем Лазавога С.Т., замінавала чыг. палатно Ліда - Маладзечна ў раёне паўстанка Баркоўшчына Іўеўскага раёна. У выніку выбуху знішчана: 1 паравоз, 5 вагонаў з боепрыпасамі. Забіта 30 (36) і паранена 15 гітлераўцаў. Рух на гэтым участку дарогі быў затрыманы на 32 гадзіны. Удзельнічалі: Мезенцаў, Кісілеўскі, Сіланцеў, Капачэль, Глухароў. Вызначыліся мінёры Лазавы і Глухароў.

У той жа дзень група партызан у колькасці 18 чал. арганізавала засаду на гасцінцы Дакудава-Мінойты. У выніку бою знішчана 1 аўтамашына, забіта 7 і паранена 2 гітлераўцы. Узята 3 вінтоўкі і 100 патронаў.

11 снежня група партызан у колькасці 8 чал., старшы Янышаў, замінавала чыг. палатно Ліда- Маладзечна ў раёне станцыі Гаўя. У выніку выбуху знішчана 2 паравозы, 3 вагоны з жывой сілай, 2 вагоны з боепрыпасамі. Рух цягнікоў быў затрымана на 15 гадзін.

13 снежня група партызан 3-яй роты ў колькасці 7 чалавек: старшы Нікіфараў, Сцепаненка, Говар, Чыркоў, Бакіноўскі, Гаўрыленка, Бялундзі замінавалі

чыг. палатно Ліда - Маладзечна. У выніку выбуху разбіта 6 вагонаў з прадуктамі, пашкоджаны 1 паравоз і 9 вагонаў з прадуктамі. Рух прыпынены на 12 гадзін.

14 снежня група партызан у колькасці 8 чал., старэйшы Дзёмушкін, замінавала чыг. палатно Ліда-Маладзечна на перагоне ст. Гаўя. У выніку выбуху знішчана: 4 вагоны з жывой сілай, 1 платформа, пашкоджаны 1 паравоз і 4 вагоны. Рух цягнікоў прыпынены на 15 гадзін.

21 снежня 1943 г. група партызан у колькасці 9 чал., старэйшы т. Рудзько, замінавала чыг. палатно Ліда-Маладзечна, у раёне ст. Гутна. У выніку выбуху знішчаны 1 паравоз, 6 вагонаў з боепрыпасамі, рух затрымана на 13 гадзін.

26 снежня падарваны цягнік на чыг. Ліда-Маладзечна, разбіта 5 вагонаў з жывой сілай: 50 забіта, 173 паранена. Удзельнічалі Туруткін, Чыркоў, Кісілеўскі, Сцепаненка, Бакіноўскі, Зенчык.

**Козел Т.А.:** *"У нас быў умоўны сігнал. Па ім я перапраўляўся на той бераг Нёмана і перавозіў партызан на гэты. Лодка мая была надзейная, змяшчальная. Звычайна яны ішлі ўзрываць чыгунку ці на якое іншае заданне. Вельмі часта яны прасілі, каб я іх падвёз туды на возе. Гэта было пераважна ноччу. Я запрагаў свайго Гнядога - і ў дарогу. Такім жа чынам пасля выканання задання вярталіся назад, зноў на лодку і на той бераг. Партызаны падбіралі звычайна дрэннае надвор'е (дождж ці завіруху), каб бачнасць была меншай".*

**Дзікевіч М.М.:** *"На працягу вайны паміж раз'ездам Ганчары і станцыяй Нёман супраць жамойдскіх могілкаў чырвоныя партызаны узарвалі адзіночны паравоз. Другім разам быў узарваны таварны цягнік на падыходзе з горкі да станцыі Нёман. Тады пятнаццаць двухвосных пустых вагонаў падняліся ўверх і ўтварылі вялікую гару. З машыністаў ніхто не пацярпеў. Немцы хутка аднавілі рух на гэтым адрэзку: расштурхалі вагоны па бакам, уклалі рэйкі. Праз некаторы час вагоны і колы пагрузілі на платформу і завезлі ў Ліду.*

*У канцы 1943 года партызаны правялі аперацыю "Чыгуначны канцэрт". Па адзінаму сігналу на палатне ад жамойдскага пераезда ў бок станцыі Нёман працягласцю1300-1500 метраў пачуліся выбухі. Праз адзін сутык былі закладзены ўзрыўныя шашкі. Рэйкі былі дабра пашкоджаны. Немцам хапіла двух дзён, каб узнавіць рух цягнікоў. Прывезлі новыя рэйкі і ўклалі. З узарваных зварылі зноў такія ж".*

## 1944 год

### 63. Сутыкненні з 1V батальёнам 77 палка Арміі Краёвай

У пачатку студзеня 1944 г. паміж лідскім гэбітскамісарыятам і групоўкай "Поўдзень" Арміі Краёвай было складзена перамір'е. Дамовіліся аб тым, што на тэрыторыі паміж Нёманам і Лідай не будзе ніякіх узаемных ваенных дзеянняў. З гэтага моманту падраздзяленні АК істотна абмежавалі баявыя аперацыі супраць нямецкіх ахоўных частак і пачалі пашыраць свой уплыў на поўдні Лідчыны. Чацвёрты батальён 77 палка АК пад камандаваннем паручніка Заянчкоўскага "Рагнера" перакрыў занёманскім савецкім партызанскім атрадам выхад на правабярэжжа Нёмана.

**Зямскоў Х.А.:** *"... узброеныя белапольскія банды выступілі супраць савецкіх партызан. Таму атраду "Іскра" і іншым атрадам прыйшлося весці лютыя баі з гэтымі бандамі".*

Сутыкненні партызан атрада "Іскра" з узброенымі фармаваннямі Арміі Краёвай пачаліся ў першыя дні студзеня 1944 г. IV батальён 77 палка, якім камандаваў паручнік Заянчкоўскі "Рагнер", высунуўся па правабярэжжы ў раён Дакудава.

2 студзеня ля маёнтка Дакудава перадавы дазор "рагнераўцаў" быў абстраляны. У адной з стадол *"была акружаная і ліквідаваная група бальшавікоў колькасцю ад 5 да 8 чалавек"*. На наступны дзень была занятая вёска Дакудава. 4 студзеня *"ліквідаваны 5 конных бальшавікоў, якія не зарыентаваныя ў сітуацыі пад'ехалі да вёскі"*. Затым батальён прасунуўся да Бурносаў, дзе таксама справа дайшла да сутыкнення. *"Адзін з бальшавікоў здолеў на лодцы пераплысці на левы бераг Нёмана"*. Рагнераўцы прыціснулі яго агнём да зямлі, адзін з іх пераправіўся на другі бераг і *"зняў бальшавіка"*. Аказаўся ён сувязніком і меў пры сабе партфель з дакументамі.

Па дадзеных атрада "Іскра" перастрэлкі мелі месца 4 і 5 студзеня ў Борках, 9 студзеня ў Бурносах. Атрад "Іскра" у гэтыя дні страціў трох партызан: Лучко Міхаіла Сідаравіча, Нямцова Васіля Валянцінавіча і Мядзведскага Ў.Ю.

Затым адзін з плутонаў "Рагнера" здзейсніў вылазку ў Пятры праз Мяльхова. *"У адным з хутароў захапілі знянацку савецкага функцыянера, які быў забіты пры спробе ўцёкаў. Пры ім былі знойдзеныя дакументы, якія тычацца выведвальнай сеткі савецкіх партызан на Лідчыне. Наступствам гэтай здабычы была ліквідацыя тройкі інфарматараў у в. Пятры". (Krajewski K. Armia Krajowa na Ziemi Lidzkiej.// Ziemia Lidzka. № 39. s.20-21).*

### 64. Гібель Васіля Рыбіноўскага і сям'і Сымановіч

Савецкім функцыянерам быў Васіль Рыбіноўскі, а тройкай інфарматараў - Сымановіч Іван Міхайлавіч, яго жонка Маланння Якімаўна і іх дачка Вера.

Афіцыйная версія гучыць наступным чынам: *"10 студзеня 1944 года пры выкананні баявога задання Рыбіноўскі В.А. быў забіты антысавецкай бандай. Праз некалькі дзён цела выведніка было пахавана на могілках вёс. Пятры Лідскага раёна".*

**Панарын А.І.:** *"Гэта здарылася 13 студзеня 1944 года. Васіль Рыбіноўскі пайшоў на сустрэчу з сувязной - адной полькай на хутар. Сустрэча павінна была адбыцца ў хаце ў дзядзькі Янкі Сымановіча. Пасля таго, калі прыйшла сувязная, а Вася ўжо знаходзіўся*

*ў хаце, хутар быў акружаны белапольскай бандай, і бандыты, якія ўварваліся ў хату запатрабавалі прад'явіць дакументы. Замест дакументаў Вася выцягнуў з кішэняў два пісталеты і стрэліў у дваіх. Яму ўдалося выскачыць на двор, але схавацца не ўдалося, ён быў расстраляны з кулямёта. А дзядзьку Янку Сымановіча, яго жонку і старэйшую дачку Веру - расстралялі, пашкадаваўшы толькі двух малагадовых дзяўчынак. Хутар быў спалены. Старэйшы сын Сымановіча - Валодзя ў гэты час знаходзіўся на іншым хутары, дакладней хаваўся, таксама вельмі шмат дапамагаў нам у нашай працы, як і яго бацькі, якія аддалі за гэта жыццё. Так загінуў Васіль Рыбіноўскі. Мы пахавалі яго ў адной магіле з сям'ёй Сымановіча на могілках, недалёка ад хутара".*



**Сымановіч У. І.**

**Лазавы С.Т.:** *"7 студзеня ў в. Пятры на хутары Івана Сымановіча белыя зрабілі засаду, акружылі хату па выведдадзеных, данесеных правакатарамі, якія працавалі ў атрадзе, дазналіся, што начальнік спецгрупы Васіль "Велікан" прыйдзе на хутар да Сымановіча для сустрэчы са сваімі агентурнымі работнікамі. Упусцілі яго ў хату Сымановіча, забілі Васіля, фізічна знішчылі самога гаспадара хаты Івана Сымановіча, яго жонку і дачка Веру. Спалілі хату".*

**Сасноўскі Р.Ю.** - начальнік асобага аддзела атрада "Іскра": *"Я ехаў тады да дакудаўскага святара айца Мікалая Галянкевіча. Са мной быў адзін партызан.*

*З дакудаўскіх могілак далі па нас чаргу. Зразумеў, што белыя занялі Дакудава. Да гэтага хадзілі чуткі, што белапалякі рыхтуюцца. Завярнулі коней у Пятры.*

*Там Васька Рыбіноўскі ў Сымановічаў. Усе п'яныя, Новы год сустракаюць.*

*Прашу: "Давайце сыйдзем за Нёман". Мальвіна з мяне куртку сцягнула: "Садзіся за стол". Вера ёй гаворыць: "Мама, што вы прычапіліся, дзядзька Роберт не п'е".*

*- Хоць налію́кі. Я адмовіўся, Вера правяла мяне да іншага хутара, там жыла Жэня Навумава, радыстка. Бярэм рацыю і да Пудзіна. Бачна, у Пятрах гарыць. Вера мяне з Женяй адправіла, і вярнулася, яе каля плота забілі.*

*Прыйшоў у Залейкі, Жэню адправілі на Морына. А я да Нёмана, студзень месяц - крыгі плывуць. Бег - бег. Бачу адна крыга далекавата. Прыйшоў увесь мокры ў Альхоўку ў штаб".*

**Буйніцкі Віталь Дзянісавіч,** 1923 г.н., выхадзец з в. Пятры: *"Восьмага студзеня 1944 года я разам са сваім бацькам, братам і яшчэ 5-6 жыхарамі в. Пятроў, сыйшоў на хутар Марыі Зубовіч. Нас папярэдзілі аб тым, што атрад "белых" рухаецца з в. Дакудава ў в. Пятры. Асцерагаючыся "белых" мы і атуліліся на хутары, які быў на краі лесу, ля балота. Расставілі вартавых. Я быў у дарозе, калі пачуў крык Івана Сымановіча з суседняга хутара: "Паночкі! Я ні ў чым не вінаваты.."- крычаў ён. Стрэлы абарвалі яго крык. "Ваньку Сымановіча забілі", - сказаў я сваім, увайшоўшы ў хату.*

*Мы пайшлі ў бок балота. Уначы ў завею начавалі ў стозе сена. На раніцу разышліся. Я вярнуўся ў в. Пятры. Ад родных і суседзяў дазнаўся, што ў тую ноч у нашай хаце начавалі двое, родам з-за Нёмана, уцякачы з работ ад немцаў. Белыя забілі іх проста ў хаце. Маці маю, пусціўшую збеглых начаваць у хату, "белыя" моцна збілі. Дазнаўся і аб тым, што Івана Сымановіча, яго жонку Мальвіну, і старэйшую дачку Веру "белыя" забілі за тое, што яны хавалі ў сябе Рыбіноўскага Васіля, а хутар Сымановічаў спалілі. Я пайшоў у Морына паведаміць партызанам аб тым, што здарылася. Вярнуўшыся адтуль, я разам з пятроўскімі жыхарамі адправіўся на хутар Сымановіча Івана і ўбачыў забітага Рыбіноўскага, які ляжаў каля згарэлага хлява. Валасы і ногі ў яго былі абгарэлымі. Вясковыя жыхары зрабілі дзве дамавіны. У адну паклалі Рыбіноўскага, у другую - Івана, Мальвіну і Веру Сымановічаў. Назаўтра іх усіх пахавалі на вясковых могілках".*

**Буйніцкі Георгій Дзянісавіч** 1926 г.н., выхадзец з в. Пятры: *"Асцерагаючыся нямецкіх аблаў з аднаго боку, і бясчынстваў "белых" з іншага, я разам з іншымі пятроўскімі хлопцамі хаваўся на хутарах. 7 студзеня я і яшчэ 6-7 аднавяскоўцаў былі на хутары Зубовіч Марыі. Разам з намі быў і Ўладзімір Сымановіч - сын Сымановіча Івана з суседняга хутара. Выставілі дазорцаў. Пад вечар адзін з іх прыбег і сказаў, што на хутары Сымановіча чутныя крыкі. Усе, хто хаваўся ў Зубовіч у хаце, выскачылі ў двор. З суседняга хутара даносіліся жаночыя крыкі, плач: "А паночкі!!!.. А паночкі!!!" Мы пачулі і стрэлы.*

*Напалоханыя гэтым шумам, мы схаваліся ў ляску, каля хаты Зубовіч Марыі. Змерзнуўшы, адправіліся на хутар Сымановіча Казіміра Сямёнавіча. З гэтага хутара перад нашым прыходам Сасноўскі Роберт павёз радыстку. У Казіміра Сымановіча прабылі да відна. Досвіткам убачылі падпаленую хату Сымановіча Івана і ўцяклі ў Коўкелі. Туды, у Коўкелі, неўзабаве прыйшоў мой малодшы брат - Буйніцкі Васіль Дзянісавіч і распавёў аб тым, што на хутары Сымановіча Івана "белыя" забілі Васіля Велікана і Сымановіча Івана, яго жонку і старэйшую дачку, хату спалілі. Мы вярнуліся ў Пятры, а адтуль разам з усімі жыхарамі вёскі адправіліся на месца гібелі Васіля. Там мужыкі ўжо збівалі дамавіны. Васіль ляжаў каля хлява, ногі ў яго былі абгарэлыя. Відаць, яго забілі каля хлява, які "белыя" потым падпалілі. У той жа дзень чацвярых забітых на хутары Сымановіча Івана пахавалі на вясковых могілках".*

**Чалавек, які пажадаў застацца невядомым:** *"На рускія каляды там піў. Падказаў солтыс. Пайшлі*

*з Дакудава, акружылі. Рыбіноўскі - давай уцякаць. Ваньку і Мальвіну забілі, астатнія ўцяклі, начавалі ў стозе. Фотка Веры ў яго была, вярнуліся ў 6 раніцы, забілі яе і запалілі хату".*

**Сымановіч Галіна Іванаўна**, 1930 г.н.: *"Мы жылі на хутары ў вёсцы Пятры недалёка ад невялікага ляска. Бліжэйшыя хаты былі ад нас за паўкіламетр. Наша хата, такім чынам, была зручным месцам для розных нелегальных явак і сустрэч. Да нас з самога пачатку з'яўлення партызан вельмі часта заходзілі Іван Шарага* (Феактыстаў)*, Глухароў. А калі з'явіўся Вася, мы яго прозвішча не ведалі, і яго намеснік Андрэй, яны вельмі часта былі ў нас і сустракаліся з нейкімі людзьмі. Наш бацька Іван Міхайлавіч і брат Валодзя выконвалі розныя даручэнні Васі і Андрэя. Бацька часта ездзіў у Ліду. Брат часта хадзіў запрашаць да нас па просьбе Васі нейкіх людзей. Белапалякі відавочна ведалі аб сувязі нашай сям'і з чырвонымі партызанамі і аб сустрэчах, якія праходзілі у нас у хаце. Яны яшчэ ўвосень 1943 г. аднойчы заявіліся ў нашу хату, вывелі бацьку і брата, паклалі іх на волкую зямлю і жорстка білі шомпаламі, дапытваючыся звестак аб партызанах. У брата пасля гэтага збіцця некаторы час ішла кроў з горла. З тых часоў мы не начавалі дома, а сыходзілі то ў лес, то да суседзяў, дадому вярнуліся толькі на калядныя святы. Ды і ў тую ноч, відавочна, не начавалі б дома, калі б Вася не запэўніў, што баяцца зараз не варта, таму што вакол размешчаныя нашы партызаны. На гэты вечар брат Валодзя, па даручэнні Васі, запрасіў на сустрэчу з Васям гр-ку Шамрэй, якая жыла дзесьці ля самога аэрадрома. Мне гэтае прозвішча Шамрэй памятаецца да гэтага часу. Гадзін у 10 вечара Вася і гр-ка Шамрэй сядзелі каля стала. Дома былі ўсе, акрамя брата Валодзі. Раптам адчыняюцца дзверы, і на парозе з'явіўся ўзброены чалавек. Вася, хутка ўскочыўшы, схапіў яго за грудзі і выкінуў за парог, схаваўся і сам разам з ім. Стрэлы пачуліся яшчэ ў калідоры, а на дварэ раздаваліся доўгія аўтаматныя чэргі.*

*Неўзабаве ў хату ўвялі двух параненых, адзін з якіх вельмі моцна енчыў. Гэта былі параненыя белапалякі. Іх распранулі да пояса. У аднаго была вялікая рана пад ключыцай, і відаць было, што ён не выжыве. З ложка знялі прасцін і перавязалі іх. Узялі таксама дзве падушкі, абклалі імі параненых у калёсах або санках і павезлі. Потым хтосьці распавядаў, што адзін з іх памёр па дарозе. У гэты час, пакуль у хаце адны займаліся з параненымі, іншыя вывелі тату з мамай на двор. Калі бандыты з'ехалі, старэйшая сястра Вера выйшла на двор і ўбачыла, што тата і мама забітыя. Ля адрыны ляжаў забітым і Вася Рыбіноўскі.*

*Каб не палохаць малодшай сястры Лены і двух маленькіх дзяцей Канашэвіч, якія ў гэты час знаходзіліся ў нас, Вера сказала, каб я ім нічога не гаварыла. Як і калі выйшла Шамрэй, або яна ўцякла, або яе вывелі, я не памятаю, вядома толькі, што яна пазней выехала ў Польшчу. Неўзабаве бандыты вярнуліся і ўсё ператрэслі ў хаце. Нас з малодшай сястрой Ленай вывелі да фурманак, а калі ўслед за намі спрабавалаісці і Вера, яе пхнулі назад у хату і зачынілі дзверы. Былі чутныя крыкі, валтузня. Праз некаторы час дзверы з хаты, здаецца, адчынілася, пачулася некалькі стрэлаў, а Вера так і не выйшла. Яе забілі ў хаце ля парога. Ноч была месячная, нас адвезлі на нейкім кульгавым кані з паўкіламетра, і мы ўжо бачылі, што наша хата і адрына загарэліся. Нам потым распавядалі, што труп Веры так і застаўся ў падпаленай хаце, і яго знайшлі раніцай суседзі зусім абгарэлым, але яны неяк вызначылі, што ў яе былі выкручаныя рукі.*

*Бацька і маці пахаваныя на могілках ля вёскі. Пятры".*

Галіна Іванаўна праз доўгія гады адважылася паведаміць, што сярод тых легіянераў, якія нападалі, былі браты Чарнякі з в. Былінскія і ўдакладніла: сястру Веру забілі раніцай наступнага дня.

**Сымановіч Алена Іванаўна**, 1939 г.н.: *"8 студзеня 1944 г. увечар тата, мама, сястра Вера, Рыбіноўскі з нейкай жанчынай нешта разглядалі і гутарылі паміж сабой. У гэты час я пайшла спаць. Былі яшчэ Канашэвіча дзяўчынка і хлопчык са мной разам. Самая цяжкая хвіліна праходзіла, я нічога не бачыла. Толькі па апавядзе старэйшай сястры, што прышлі, пастукаліся і адразу ўрываюцца ў хату. У хаце ішла страляніна, былі 4 забітыя і 3 параненыя, з іх адзін забіты ляжаў на ложку на мне соннай. Рыбіноўскі з татам пачалі ўцякаць. Але паколькі ім не ўдалося, тату злавілі жывым, а Васю забілі каля самога хлява.*

*Потым узялі нас з сястрой Галяй, пасадзілі на нейкі воз. Конік кульгавы, кульгавы. Адвезлі метраў 10 ад двара, як глядзім, гарыць усё. Пайшла страляніна. Яны сабраліся і з'ехалі. А нас далей і конь не павёз. Прыбег з вёскі народ, выратавалі нас. Жыхары вясковыя папрыносілі, хто што апрануць крышку, збілі нейкую скрынку ў выглядзе дамавіны, так іх і пахавалі ўсіх разам".*

**Канашэвіч Іван Андрэевіч,** камандзір партызанскага атрада "За Савецкую Беларусь": *"У тую ноч з вечара мне перадалі, што прыедзе былая мая гаспадыня Шамрэева, яна была выведніцай па Паўднёвым аэрадроме, паведамляла ў спецгрупу. Сказалі, што мяне і жонку маю хоча бачыць, але атрад пакінуць не было на каго, ды і цёмная ноч была, я з жонкай падышоў да Нёмана і назад вярнуўся. Днём пачулі стрэлы і зарыва, так маё сэрца і жонкі, думалі, што нашых дзяцей пазабівалі, але нашы дзеці засталіся ў жывых, а Васю камандзіра спецгрупы забілі, галаву спалілі. Наша сувязная Шамрэева Анастасія, яе ўзялі, але яна неяк уцякла і засталася ў жывых".*

У падпольнай газеце "Уперад" ад 20 сакавіка 1944 г.: *"Па-зверску выразалі нямецкія паслугачы сям'ю Сымановіча Івана з хутара каля в. Пятры. Старому Сымановічу і яго жонцы двухногія звяры, перш чым забіць, выламалі рукі і ногі, а іх дачка Веру жыўцом кінулі ў падпаленую хату" (Памяць. Ліда. Лідскі раён. Мінск. 2004. З.256).*

**Паслямова:**

За ўзорнае выкананне заданняў камандавання ў тыле праціўніка і праяўленыя пры гэтым доблесць і мужнасць Указам Прэзідыюма Вярхоўнага Савета СССР ад 4.02.44 за № 216/120 Рыбіноўскі Васіль Аляксандравіч узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені.

Пры гэтай "узорнай" дзейнасці загінулі:

Сымановіч Іван Міхайлавіч (1900- 8.01.1944) - селянін в. Пятры.

Сымановіч Малання Якімаўна (1905, Чарэшля- 8.01.1944) - яго жонка.

Сымановіч Вера Іванаўна (1925 - 8.01.1944) - іх дачка, працавала ў гаспадарцы бацькоў, сувязная брыгады ім Кірава.

Засталіся трое дзяцей.

Уладзімір Іванавіч Сымановіч (1922 - 1948) партызан брыгады ім. Кірава, памёр ад сухотаў.

**Галіна Іванаўна**: *"Мне было 14 гадоў, калі адбылася гэтая трагедыя. Нас забраў да сабе дзядзька па бацьку ў вёску Князікоўцы, дзе мы і жылі з сястрою Ленай да канца вайны. Пасля вайны, вярнуўшыся ад дзядзькі ў сваю вёску, працавала ў калгасе "Іскра" да 1965 г. У 1965 годзе паступіла на працу на Лідскі малочна -кансервавы завод тэхнічкай.*

*Брат Валодзя, з партызанамі ён быў звязаны таксама як і бацька з самага пачатку з'яўлення партызан. Пасля гэтай трагедыі сыйшоў зусім у групу намесніка Васі - Андрэя. У 1945-46 гг. ён ажаніўся на сяброўцы Веры. Захварэў сухотамі і ў 1948 г. памёр. Жонка яго таксама памерла. У іх засталіся дзве дачкі.*

*Дакументы, якія былі ў нас і захоўваліся ў брата Валодзі, у 1946 годзе ўзяў Канашэвіч з тым, каб выклапаціць нам якую-небудзь дапамогу і выслаў іх у Гомель. Адтуль яны і не вярнуліся".*

**Алена Іванаўна:** *" Пасля вайны былі ўласаўскія банды, якія ўвесь час палявалі на брата Ўладзіміра Іванавіча, былі спробы забіць яго. І яму не ўдаалося працягнуць жыццё. Пакінуў дзвюх дзяўчынак, якіх прыйшлося выхоўваць Гарадзенскаму дзетдому.*

*Вучылася ў пачатковай школе ў Пятрах, вучылася добра. Улетку пасвіла кароў. З 5 класа хадзіла ў школу за 4-5 км. Скончыла 7 класаў. У калгасе працаваць бессэнсоўна, і прытым я думала, што я ў чыгунку пайду. Паступіла я працаваць у Гархарчпрамгандаль у 1959 г. Спачатку кухонным, потым працавала заг. буфета, потым у сталовай № 4 кандытарам".*

**Буйніцкі А.Т.** *"У 1967 г. у кастрычніку ў пярэдадзень 50-годдзя Савецкай улады рэшткі Васіля Рыбіноўскага былі перавезеныя і пахаваныя ў в. Дакудава, дзе збудаваны помнік і на мемарыяльнай пліце высечана яго імя і іншых партызан загінулых у баях".*

Афіцыйна Рыбіноўскі Васіль Аляксандравіч - палітрук п/п 38729 пахаваны ў брацкай магіле ў Бердаўцы з датай смерці 11.02.1944 г. *(Памяць. Ліда. Лідскі раён. Мінск. 2004. З.339).* У гэтай жа кнізе на стар .252 паведамляецца, што парэштакі героя перапахаваныя ў брацкую магілу ў в. Дакудава.

## 65. "Лазневы дзень"

У сшытку ўліку дыверсійна -падрыўной працы атрада "Іскра" аб гэтай аперацыі напісана некалькі радкоў: *"Зроблена засада ў складзе брыгады на паліцэйскі пастарунак Гуты. У выніку бою забіта 8 гітлераўцаў, 20 паліцыянтаў, узята ў палон 4 паліцыянты. Спалены 2 легкавыя аўтамашыны. З боку партызан параненыя Буланаў, Яромін і Красько. Узятыя трафеі: 6 вінтовак, кулямёт, пісталет, розных патронаў 211, граната. Пад камандаваннем Коннава ўдзельнічала 60 чалавек. Вызначыліся Васільеў М, Сасноўскі Р., Сляткоў П., Кучкін, Багмут, Кіеня, Малецін, Кудзінаў, Чыркоў, Фёдараў, Алейнік, Сапешка."*

У дзённіку 3-й роты яшчэ карацей: *"Зроблена засада ў складзе атрада "Іскра" у раёне Гуты, забіта 8 гітлераўцаў, 20 паліцыянтаў, узята ў палон 4 паліцыянты, трафеі: 6 вінтовак, кулямёт, пісталет, 211 патронаў, граната. Вызначыліся Чыркоў, Фёдараў".*

Гэта самая эфектыўная засада партызан у Лідскім раёне. Была знішчана Бярозаўская залога, у тым ліку начальнік залогі обер-лейтэнант Курт Фідлер па мянушцы "Белы фрыц". Аперацыя была выдатна спланавана і бездакорна выканана. Але нешта або не так было дакладзена, або не так асветлена, і асноўныя ўдзельнікі аперацыі засталіся без узнагарод.

Па-рознаму распавядалі аб гэтай аперацыі яе кіраўнікі - камандзір Кіраўскай брыгады Васільеў С.Ф., камандзір атрада "Іскра" Коннаў А.А і начальнік асобага аддзела "Іскры" Сасноўскі Р.Ю.

**Васільеў С.Ф.:** *"Начальнікам залогі ў пасёлку Бярозаўка быў маёр Курт, у першую Сусветную вайну ён быў у гэтым жа пасёлку ў чыне жандара. Курт быў жорсткі з насельніцтвам: вешаў, забіваў, рабаваў. Залога быў добра ўмацавана агнявымі пунктамі ў бетоне, і была добрая сувязь з залогай г. Ліды. Трэба было наладзіць ёй засаду. Але як прывабіць яго і ўсю залогу ў засаду? Ён асабліва пераследваў габрэяў. Я вырашыў у бліжэйшую в. Васілевічы накіраваць групу партызан-габрэяў, каб яны прыбылі туды да 11-12 гадзін дня і размясціліся ў хатах, нядобранадзейных для партызан. З літровых бутэлек, узятых з сабой і налітых вадой, яны пілі як моцную самагонку, рабілі выгляд, што дужа падвыпілі, замовілі, каб ім падрыхтавалі лазню да 14 гадзін. Праз некаторы час у залогу пабег мужчына з дакладам Курту аб тым, што ў вёску прыбылі жыды і замовілі сабе лазню на 2 гадзіны дня.*

*Адначасова я загадаў начальніку асобага аддзела атрада "Іскра" тав. Сасноўскаму Роберту праз сваіх давераных асобаў, якія маюць сувязь з залогай, у прыватнасці з начальнікам залогі маёрам Куртам, накіраваць яму шнапс і яйкаў, і каб ён з гэтай перадачай паведаміў, што ў в. Васілевічы прыбылі жыды і замовілі сабе лазню на 2 гадзіны дня. Што і было зроблена.*

*У дзень аперацыі, рана раніцай, маючы рэкаг-*

*насцыроўку месца засады, я сабраў камандзіраў атрадаў, растлумачыў задачы і паказаў камандзіру атрада месца і час засады і растлумачыў сігналы агню і яго спынення. У 7 г. раніцы брыгада выйшла на месца засады таемнымі дарогамі, якія не паказвалі, куды накіроўвалася брыгада. Да месца засады брыгада прыбыла дакладна, атрады таемна размясціліся на паказаных месцах. Усталявана было назіранне за нямецкай залогай.*

*Мы ляжалі мокрыя на мокрым снезе. Але былі ўпэўненыя, што ляжым нездарма. Курт абавязкова выедзе з свайго логава на паляванне на жыдоў. Так яно і выйшла. Камандзір звяза сувязі тав. Макуненка далажыў, што з залогі выйшлі танкі. Я яму не паверыў і сказаў: "Там танкаў няма, глядзі лепш". Пасля ён далажыў, што ідуць легкавыя аўтамашыны, а за імі шмат фурманак з немцамі і паліцаямі. Амаль уся залога ўвайшла ў лагчыну. Я галаву калоны падпусціў на адлегласць 40 м ад мяне. Маёр Курт спыніў сваю машыну і вырашыў наперад сябе прапусціць калону. У гэты момант я даў сігнал чырвоная ракета - агонь. Бой доўжыўся нядоўга. Ураганны агонь партызан зваліў адразу ўсё. Жывымі засталіся толькі тыя, якія паднялі белыя сцяжкі, якія азначаюць "не бі - свае", гэта з тых, якіх мы засылалі ў нямецкую залогу. Другі сігнал - зялёная ракета - спыніць агонь. Маёра Курта партызан Балбатуноў распрануў нагала, паставіў яго ракам у кірунку на сваю пабітую залогу, куль аказалася ў ім 40. Так была знішчана нямецкая залога ў пасёлку Бярозаўка".*

**Коннаў А.А.:** *"Было вырашанае нанесці ўдар па нёманскай залозе, якая знаходзілася на шклозаводзе. Разбіць яе ў логаве ў нас не было магчымасці. Добра ўмацаваная і ўзброеная, праз завод праходзіла шашэйная дарога Ліда -Наваградак, адтуль магло прыбыць хутка падмацаванне. Трэба было неяк выбавіць іх з логава. Начальнік нёманскай залогі гаўптман Курт быў нам вядомы як "майстар" весці баі з бяззбройнымі людзьмі, асабліва з дробнымі групамі габрэяў, уцякачоў з Лідскага гета да партызанаў. Гэтую яго любоў весці бой з бяззбройнымі мы і выкарысталі.*

*На адзін з хутароў у Васілевічы мною была накіраваная невялікая група партызан-габрэяў без зброі з задачай грэць лазню (сушню для льну), нібы мыцца пасля ўцёкаў з гета. Спачатку гаспадар не пускаў паліць лазню, але ўмяшаўся начальнік асобага аддзела Сасноўскі і разззлаваны хутаранец дазволіў паліць лазню. Сасноўскі з'ехаў, а гаспадар лазні неўзаметку выехаў у нямецкую залогу, партызаны ўсё гэта бачылі. Нам як раз гэта і было трэба. Яшчэ з вечара было асабліва прыдзірліва праверана зброя, боепрыпасы і рыштунак ва ўсіх партызан, якія ішлі на заданне. Вядома, ніхто не ведаў куды, за выключэннем камандавання атрада. Уначы падняў атрад па трывозе - каля 120 чалавек - і зрушыўся з Альхоўкі па лесе і балоту, абходзячы ўсе населеныя месцы (х. Васілевічы, в. Васілевічы, в. Пудзіна) і вывеў атрад паміж в. Пудзіна і шклозаводам, на загадзя выведанае месца. Размясціў людзей падковападобна, а акрамя таго група 20 чалавек прасунулася наперад нас, яна павінна была прапусціць немцаў і зачыніць выйсце, каб не выпусціць ні аднаго фашыста або паліцыянта.*

*У Нёманскую залогу раніцай, адразу ж як з'ехаў гаспадар лазні, быў накіраваны наш сувязны-выведнік камуніст Юрась (з в. Пудзіна, пасля працаваў старшынём сельсавета), выведаць і дазнацца ад нашых паліцыянтаў аб выездзе немцаў на аперацыю і папярэдзіць, каб яны як-небудзь не ехалі. Юрась прыбыў і далажыў аб зборах на аперацыю Нёманскай залогі. Прыкладна праз паўгадзіны пачулі гуд матораў, а затым смех і крык паліцыянтаў, якія ехалі на фурманках, ігру на губных гармоніках і весялосць. Машыны, трохі не даехаўшы да месца засады, выехалі наперад. Я знаходзіўся з партызанамі, якія павінны адкрыць агонь па маім сігнале першымі. Падпусціўшы машыны на 80-100 метраў, я даў сігнал, і ўсё заглушыў шквальны агонь з трох бакоў з аўтаматаў, кулямётаў і вінтовак. А затым з крыкам "ура" кінуліся ў атаку, праз 15-20 хвілін усё было скончана. Было знішчана 3 аўтамашыны, 10 фурманак, забіта 70 немцаў і паліцыянтаў, 5-6 паліцыянтаў узята ў палон, забралі ўсю зброю і боепрыпасы. Праз в. Пудзіна, Васілевічы вярнуліся ў в. Альхоўка.*

*На наступны дзень з г. Ліды прыбыла на бронетранспарцёрах і машынах дапамога. На месцы ўчорашняга бою тырчалі шкілеты машын і валяліся трупы заваёўнікаў. Трупы пачалі грузіць у машыны і тады заўважылі труп гаўптмана - начальніка Нёманскай залогі, кінуліся да яго і толькі пачалі падымаць - раздаўся выбух, гэта спрацавала партызанская міна і знішчыла яшчэ 6 фрыцаў.*

*Немцы праваждаліся цэлы дзень з трупамі. У гэтым баі партызаны паказалі адвагу духу і знаходлівасць. Асабліва вызначыліся "іскраўцы" - Даўлюд Віктар, Кушаль Валодзя, Кудзі Міхась і Аляксандр, Сінеў Віктар, Уласаў Уладзімір, Пятроўскі Ўладзімір, Алейнік Рыгор, Глухароў Аляксей, Нікіфараў Міхаіл, Дзмітрэнка Сцяпан, Васільеў Мікалай, лекар атрада Гордзін Кальман, мед. сястра Гордзіна Эсфіра, Бажко Мікалай, Воўкаў Мікалай, Сляткоў Пётр, браты Гінзбургі Мотка і Цалій, Туруткін Іван і шэраг іншых партызан. Страт не было. Партызаны - Алейнік Рыгор і Нікіфараў Міхаіл атрымалі лёгкія раненні. А мінавалі дарогу выдатныя нашы мінёры - Яншын Пётр і Лазавы Сільвестр. Гэта іх міна забрала яшчэ 6 фрыцаў".*

**Сасноўскі Р.Ю.:** *"Сяляне в. Васілевічы скардзіліся на сямейны габрэйскі атрад Туўі Бельскага. Я дамовіўся, каб туды паўтара месяцы ніхто не заходзіў, пусцілі слых, што сыйшлі на Літву. 27 студзеня ўзяў з атрада Бельскага шэсць габрэяў і паслаў іх у Васілевічы. Яны павінны былі наладзіць дзень нараджэння Бельскага. Мясцовыя жыхары пабеглі скардзіцца да немцаў: "Заўтра ў нас габрэі праводзяць дзень нараджэнні Бельскага". Мы сачылі, хто пабяжыць. Курт Фідлер - бандыт, хадзіў заўсёды з палкай - не ведаў каго слухаць. Дамовіліся з адным палякам, што ён дасць сігнал, калі прыедуць габрэі. Прозвішча яго Заяц, ён потым 10 гадоў адседзеў за*

*тое, што нам дапамог. Жыў у Наваградскім раёне, пасля турмы прыязджаў да мяне. Немцы яго таксама саджалі.*

*Раніцай наш атрад "Іскра" з Альхоўкі высунуўся на месца засады. Гэтае месца назвалі потым Робертава горка. Вакол лес на 1,5 кіламетры. Заселі абапал дарогі. Мароз. Камандзір брыгады атрымаў звесткі, што немцы едуць на танках: "Я цябе б-ь Самара, навучу, як ваяваць".*

*- Страляй,- гавару,- але танкаў там быць не можа.*

*Неўзабаве высветлілася: 2 машыны з немцамі і паліцыянты на вазах едуць лавіць габрэяў. Пад'ехалі, метраў 50 заставалася, затрымалася машына. Сядзім ціха як мышы. "Белы фрыц" Курт Фідлер устаў. Бегам з фурманак, абляпілі машыну. А мы і спераду, і ззаду, і яны перад намі. Намалацілі. Цудам жывымі засталіся двое.*

*Хтосьці прапанаваў: давайце Фідлера замінуем. Распранулі, паставілі голага, міну падклалі. Прыйшлі ў Васілевічы. А мне адзін гаворыць: "Самі не пайдуць, пашлюць насельніцтва". Звяртаецца Васька Брыль - стараста на шкляным: "Едуць, збіраюць насельніцтва". Мы з гэтым Ваською у 4 раніцы размінавалі Курта. Немцы доўга самі яго расстрэльвалі. Ні адзін чалавек з мясцовага насельніцтва не пацярпеў.*

*За гэтую аперацыю, як было сказана на ўрачыстым сходзе, 6 габрэяў, я і Багмут да ордэна "Чырвонай Зоркі" былі прадстаўлены. Потым забылі - і сумленне не грызе".*

**Дакументы:**

***Акт.***

*Удзельнічала 4 партызанскія атрады: ад "Іскры" 50 чалавек пад камандаваннем камандзіра атрада Коннава; ад "Кастрычніцкага" - 52 партызаны пад камандаваннем камандзіра атрада лейтэнанта Панчанкі і камісара лейтэнанта Дзяругіна; ад "Балтыйца" - 45 партызан пад камандаваннем камандзіра атрада лейтэнанта Пралыгіна і камісара старшага палітрука Пяньkоўскага; ад атрада імя Арджанікідзэ -20 партызан пад камандаваннем камандзіра атрада капітана Ляшэнкі і камісара Кіяна. З ліку 20, 10 знаходзілася ў в. Васілевічы пад камандай Р. Сасноўскага, упаўнаважанага атрада "Іскра", вайсковага інжынера 3 рангу.*

*Імітавалася рабаванне 10-ю габрэямі. Быў пасланы чалавек паведаміць у залогу Гуты аб гэтым рабаванні, каб прыехалі навесці парадак.*

*Немцы выехалі на дзвюх легкавых машынах і сямі фурманках. Немцаў было 8 афіцэраў і 26 паліцыянтаў, з ліку немцаў:*

*1. Капітан жандармерыі Вальтар Кельняў.*

*2. Обер- лейтэнант Курт Фідлер ("Белы Фрыц").*

*3. Обер- лейтэнант Генрых Ліхтэнфэльд.*

*4. Лейтэнант паліцыі Эрвін Эмдэ.*

*5. Лейтэнант паліцыі Паўль Ніе.*

*6. Шафёр Длеі і інш.*

*У баі былі забітыя 8 нямецкіх афіцэраў і 22 паліцыянты. Узяты ў палон 4 паліцаі, тры з іх параненыя. Дзве легкавыя машыны спалены. Узята: 2 кулямёты, 3 аўтаматы, 26 вінтовак, 8 пісталетаў, 10 гранат, 1000 патронаў. Страт з боку партызан не было, акрамя трох параненых, двое лёгка і адзін у поласць лёгкіх.*

*У аперацыі вызначыліся лейтэнанты Панчанка, Дзяругін, Коннаў, вайсковы інжынер Р. Сасноўскі. А таксама справіліся з задачай партызаны і камандзіры атрадаў "Балтыец" і "Арджанікідзэ".*

*Камандзір брыгады ім. Кірава*

*капітан Васільеў*

*Начальнік штаба ст. лейтэнант Пракаповіч.*

А гэта кніжны варыянт, пісаны па законах савецкага рэалізму.

*"Камбрыга С.Ф. Васільева і камісара С.М. Кандакова выклікалі ў штаб да Я.Д. Гапеева. Выслухаўшы іх кароткі даклад аб справах у брыгадзе, Яўхім Данілавіч сказаў:*

*- Дыверсіі на дарогах - добра, развівайце і далей гэтую форму барацьбы. Аднак пара і за буйнейшыя аперацыі брацца. Як вы на гэта глядзіце, таварышы?*

*- Гатовыя да любога задання,- быў адказ.*

*Гапееў ухвальльна кіўнуў галавой, даючы зразумець, што задаволены адказам, і запрасіў прайсці ў зямлянку начальніка ваенна-аператыўнага аддзела П.І. Серабракова. Там на шырокім працоўным стале ўжо ляжала разгорнутая буйнамаштабная карта з нанесенай на яе аператыўным становішчам у Лідскай партызанскай зоне. Сінім алоўкам тоўста пазначаныя залогі праціўніка, іх лініі абароны і патрулявання. Да іх цягнуліся чырвоныя стрэлы з лясных масіваў. Пункцірныя ланцужкі паказвалі таемныя сцежкі, па якіх партызанскія выведнікі і падрыўнікі пранікалі ў логава ворага.*

*Піліп Іванавіч Серебряков, кадравы афіцэр, шчыльны, камлюкаваты, гадоў сарака мужчына, азнаёміў камандаванне брыгады з становішчам, выказаў сутнасць будучай аперацыі, якая даручалася брыгадзе імя Кірава.*

*У вёсцы Бярозаўка Наваградскага раёна акупанты аднавілі гуту "Нёман". Партызанская выведка паведаміла, што там наладжваецца вытворчасць лінз для вайсковых аптычных прыбораў, з Нямеччыны прыбылі адмыслоўцы, прадпрыемства ахоўваецца даволі буйной залогай, у суседніх вёсках размясціліся атрады і заставы нямецкіх войскаў. Брыгадзе імя Кірава належала таемна выйсці ў раён гуты, удакладніць сістэму абароны, а затым сілай некалькіх атрадаў раптоўным камбінаваным ударам знішчыць варожую залогу.*

*- Аперацыя не з лёгкіх, рыхтуйце яе абдумана,- развітваючыся, сказаў Я.Д. Гапееў.- Для гітлераўцаў гута мае статэгічную каштоўнасць! Берагуць яны яе. Вунь колькі залогаў вакол Бярозаўкі панаторкана,- паказаў рукой на карту. Паціскаючы рукі, дадаў: -*

*Лічыце, гэтая аперацыя - ваш іспыт на сталасць. Аб яе выніках будзем вышэйшаму камандаванню дакладваць. Не падвядзіце.*

*Вярнуўшыся ў штаб брыгады, камбрыг запрасіў да сабе начальніка штаба і камандзіра брыгаднай выведкі. Параіўшыся, вырашылі выведку раёна Бярозоўкі даручыць выведгрупе Р.Ю. Сасноўскага з атрада "Іскра". Роберт Юр'евіч бываў на шклозаводзе, нядрэнна ведаў гэты раён.*

*Праз тыдзень камандаванне брыгады ўжо мела грунтоўную інфармацыяю, як аб шклозаводзе, яго ахове, так і аб залозе праціўніка. Камандаваў ім маёр - нацыст Курт Фідлер, празваны насельніцтвам навакольных вёсак "белым афіцэрам". Фідлер нядрэнна валодаў рускай моваі, добра ведаў мясцовасць (яшчэ ў Першую Сусветную вайну служыў тут у палявой жандармерыі), адрозніваўся лютасцю і жорсткасцю ў адносінах да мясцовага насельніцтва. Да партызанаў і асобаў, звязаным з імі, быў бязлітасны. Акрамя ахоўнай роты з палявой жандармерыі ў яго падначаленні знаходзілася каля дзесяці невялікіх мясцовых залогаў. Сіла немалая: 400-500 добра ўзброеных галаварэзаў, якія мелі мінамёты і буйнакаліберныя кулямёты. У выпадку неабходнасці Фідлер мог выклікаць падмацаванне з Навагрудка і Ліды.*

*Для разгрому "банды Фідлера", так празвала насельніцтва гняздо карнікаў, вылучылі з складу брыгады атрады "Балтыец", "Іскра" і імя Арджанікідзэ. Аперацыяй кіраваў камбрыг С. Ф. Васільеў.*

*Апоўначы на 28 студзеня 1944 года атрады выйшлі на аперацыю. Рухаліся фарсіраваным маршам, пазбягаючы сустрэч з гітлераўцамі і насельніцтвам. Наперадзе ішлі выведнікі, якія вывучалі маршруты атрадаў. Да світанку партызаны занялі зыходныя пазіцыі і стаіліся, утварыўшы "агнявы мяшок", у які трэба было завабіць фідлераўцаў.*

*Рана раніцай да старасты вёскі Пудзіна на некалькіх санках-развальнях пад'ехала група партызан, узначаленая Р.Ю. Сасноўскім. Партызаны павялі сябе бестурботна: запатрабавалі напаліць для іх лазню, замовілі абед з гарэлкай і курацінай, разбрыліся па вёсцы, "забыўшы" выставіць на выхадах з яе ахоўныя пасты. На ўсю падрыхтоўку Сасноўскі адвёў старасту тры з паловай гадзіны. Расхаджваючы па вёсцы, партызаны заходзілі ў хаты тых жыхароў, якія, па звестках падпольшчыкаў, мелі сувязі з акупантамі. Роберт Юр'евіч адразу ж паслаў у Гуту (пасёлак поруч шклозавода), дзе размяшчаліся ахоўная рота і штаб маёра Фідлера, падпольшчыка з мясцовых жыхароў з паведамленнем аб з'яўленні партызан у Пудзіне, якія збіраюцца парыцца ў лазні. Партызанскія сакрэты, схаваныя ўздоўж дарогі ад Пудзіна на Гуту, засеклі некалькіх жанчын і падлеткаў, якія спяшаліся ўлегцы ў бок Гуты. Іх не чапалі: маёр Фідлер павінен атрымаць "пэўную" інфармацыю таксама з уласных крыніц.*

*Камендант выслухаў паведамленне аб з'яўленні партызан у Пудзіне, падрабязна распытаў аб іх колькасці, узбраенні. Неўзабаве да Фідлера прыбылі і яго людзі. Апытаўшы іх паасобку, ён пераканаўся ў пэўнасці атрыманых звестак і аддаў распараджэнне падняць па трывозе роту. Рассадзіўшы салдат па машынах, Фідлер, упэўнены ў шчаслівым зыходзе аперацыі, не выслаў наперад нават выведку. Карнікі накіраваліся ў Пудзіна, прадчуваючы забаву: як яны будуць браць голых партызан у лазні, а потым наладзяць сытны абед, замоўлены для іх партызанамі. Вось ужо над чым можна будзе пасмяяцца ўдосталь! Заўзятыя фатографы назапасіліся плёнкамі, а ротны каптэнармус прыхапіў шанцавы інструмент і вяроўкі з гатовымі петлямі: маёр загадаў пасля завяршэння аперацыі палонных партызан падвергнуць "спецапрацоўцы" - некалькіх павесіць голымі каля лазні, а астатніх расстраляць. Дзве грузавыя машыны, набітыя карнікамі, заехалі на груд, спыніліся. Да партызанскай засады заставалася метраў 50-60, а да Пудзіна з паўкіламетра. Салдаты саскоквалі з машын і вышыхтоўваліся пазвязна. Прайшло каля паўгадзіны. Партызаны, лежаўшыя ў засадзе, з нецярпеннем чакалі чырвоную ракету - сігнал да бою. Да машын пад'ехала дзесяткі паўтара фурманак з салдатамі і паліцыянтамі. Пачуліся гартанныя выкрыкі-каманды, зшыхтованыя ў звязавыя калоны салдаты крануліся да вёскі, расходзячыся веерам так, каб перад самой вёскай разгарнуцца ў шырокі ланцуг, ахапіць яе з флангаў. Раптам у неба ўзвілася чырвоная ракета. І ў адно імгненне груд ажыў: дружна, амаль ва ўпор выцялі партызанскія кулямёты, запрацавалі аўтаматы, хвостка разанулі прыцэльным агнём карабіны і вінтоўкі. Пачаўся бой. Гітлераўцы змяшаліся, кінуліся назад, да машын. Бязладная страляніна, крыкі, енкі параненых. Астаткі карнікаў збеглі ў Гуту.*

*Выт партызан аказаўся настолькі раптоўным і ашаламляльным, што гітлераўцы не паспелі арганізаваць як след абарону, пакінулі на поле бою шмат зброі, боепрыпасаў і нават трупы забітых салдат і афіцэраў. У гэтым баі знішчана больш за 30 гітлераўцаў, у тым ліку 8 афіцэраў - два маёры, капітан і малодшыя чыны. Партызаны спалілі 2 легкавыя аўтамашыны, разбілі 8 вазоў, узялі трафеі: 2 кулямёты, 3 аўтаматы, 26 вінтовак, 10 гранат і больш за 10 000 вінтовачных патронаў.*

*... На наступны дзень у Пудзіна прыбылі танкі. Гітлераўцы забралі трупы забітых салдат і афіцэраў, правялі следства. Добраахвотаў з мясцовых жыхароў, якія паведамілі маёру Фідлеру аб з'яўленні партызан, арыштавалі. Іх абвінавацілі ў дапамозе партызанам і расстралялі.*

*Мабыць, асцерагаючыся паўторнага нападу партызан, немцы згарнулі вытворчасць аптычнага шкла на шклозаводзе "Нёман". "Банда Фідлера", панёсшы значныя страты, зараз залізвала раны і сядзела спакойна, нікуды не паказвала носу". (Гарбачэўскі І.І., Пянькоўскі І.К. Атрад зваўся "Балтыец". Мінск, 1991 з.104-108).*

Паколькі гэтая партызанская аперацыя была адлюстраваная ў паведамленні нямецкага камандавання ахоўных войскаў у Беларусі стаўцы ОКВ, то маецца магчымасць параўнаць сапраўднае з надуманым:

*"Паліцэйскі звяз на поўнач ад вёс. Бярозаўка напароўся на партызанскую засаду. У выніку забіта 6 немцаў, 17 паліцыянтаў, 5 паліцыянтаў зніклі без вестак. Партызаны захапілі 2 ручныя кулямёты, 2 аўтаматы, 27 вінтовак, 2 санак з абмундзіраваннем" (Усенародны партызанскі рух у Беларусі ў гады ВАВ. Мінск. 1982. Том 3. С.54)*

Назаўтра, 29 студзеня быў падарваны цягнік у р-не ст. Гаўя, разбітыя паравоз,16 парожніх платформаў, разбуранае чыг. палатно 120 м, рух затрыманы на 30 г. Удзельнічалі: Гаўрыленка, Кудла, Бажко, Бондар, Говар, Рудзінскі, Курылаў, Зубрылаў, Слесар, Жаўнерчык, Бялундзя.

31 студзеня камандзір брыгады Васільеў С.Ф. просіць дапамагчы патронамі: *"Засталося па 5 штук на вінтоўку".*

23 лютага камандзір атрада "Іскра" Коннаў А.А., нам. камандзіра атрада па выведцы Сляткоў П.Я., памочнік Ўпаўнаважанага ЦК КП(б)Б па камсамольскай працы Зямскоў Х.А. і намеснік камісара брыгады па камсамольскай працы Шубін У.І.былі прадстаўленыя да ўзнагароджання ордэнамі Чырвонай Зоркі.

## 66. Баі за Філонаўцы

З сярэдзіны студзеня 1944 г. у Філонаўцах была размешчана залога АК у сіле адной роты. Вёска была абнесеная равамі і калючым дротам. "Умацаваны лагер" у Філонаўцах, закрыў чырвоным партызанам праход праз Дакудаўскія балоты ўглыб Лідскага раёна.

**Васільеў С.Ф.** *"На тэрыторыі дзеянняў Кіраўскай брыгады дзейнічала сумесна з немцамі буйная група б/п, банда былых б/п афіцэраў пад камандаваннем капітана Рагнера і яго памагатых Крыся і Сібірака. Гэтая банда пад відам партызан у раёне вёсак Пятры, Філонаўцы, Лучкі, Забалаць і інш. рабавалі, забівалі, нацкоўвалі насельніцтва супраць партызан, імкнучыся ўсімі сіламі і сродкамі знішчыць партызан Кіраўскай брыгады. Але насельніцтва разумела, з кім мае справу, і не ішло на вуду. Тады Рагнер прапанаваў мне аб'яднаць нашы высілкі ў барацьбе супраць немцаў і іх памагатых. Рагнер хітрыў, хацеў нас, партызан абдурыць і паціху знішчыць. Я ведаў і разумеў яго намеры, ён толькі рабіў выгляд, што мяняе сваё стаўленне да нас. Аднак я даў згоду і прапанаваў праз сваіх парламенцёраў паказаць сябе на справе і паставіў яму задачу - на працягу тыдня знішчыць Іўеўскую залогу немцаў і паліцаяў. Адначасова я не даў яму згоды дыслакавацца ў раёне Кіраўскай брыгады і выдзеліў яму іншы раён, за мяжу якога ён не мог выходзіць без маёй згоды. Ясна, Рагнер не прыняў маіх прапаноў, наадварот, як я і чакаў, пачаў пераследваць маіх партызан, якія вярталіся з аператыўнага задання, збіваў і знішчаў насельніцтва якое спачувала партызанам.*

*Я быў змушаны прыняць супраць гэтых бандыцкіх груп больш сур'ёзныя меры. Я атрымаў указанне падпольнага райкама партыі тав. Гапеева Я.Д. аб знішчэнні гэтых бандыцкіх групаў. Атрады былі прыведзеныя ў поўную баявую гатовасць. Уначы атрады "Іскра", "Кастрычніцкі", "Балтыец", імя Арджанікідзэ былі перапраўленыя на правы бок р. Нёман і накіраваныя ў раёны засяроджвання в. Бурносы, Мелегава, Дакудава. Досвіткам частка б/п банд і груп была знішчаная, а зброя сабраная".*

Дзённік 3-й роты атрада "Іскра" аб "сур'ёзных мерах" згадвае мімаходзь: *"10 лютага 1944 г. праведзена аперацыя па ліквідацыі белапольскай банды, забіта 7 палякаў".*

У данясенні камандавання брыгады ад 12 лютага вышэйстаячаму кіраўніцтву паведамляецца, што ў аперацыі ўдзельнічалі: ад атрада "Іскра" 110 чалавек, ад атрада "Балтыец" - 40 чалавек, ад атрада "Кастрычніцкі" 60 чалавек, ад атрада ім. Арджанікідзэ - 45 чалавек, 8 чалавек спецгрупы капітана Вераніка і ад Чапаеўскай брыгады - 90 чалавек. Аперацыяй кіравалі камісар брыгады Кірава палітрук Кандакоў і нам. камандзіра брыгады лейтэнант Дзямідаў. *"10 лютага да 8-00 ачышчаныя ад ворага в. Скамен-Бор, Боркі, Дакудава, Біскупцы, і Лучкі. Раён ад белапольскіх банд вызвалены і кантралюецца".*

Супрацьлеглы бок аб гэтай спробе ліквідацыі Філонаўскай залогі паведамляе наступнае: *"10 лютага брыгада Кірава, узмоцненая брыгадай імя Чапаева, перайшла Нёман. Атрады ўвайшлі ў Скаменны Бор і Боркі, "рабуючы вёскі з быдлам і распраўляючыся з людзьмі, падазраванымі ў садзейнічанні атрадам АК. Аднячасова адна з іх груп наладзіла засаду на дарозе Філонаўцы -Сяглы, забіўшы двух салдат АК, якія ехалі на санках па хлеб для партызанскай залогі ў Філонаўцах. Спроба нападу на Філонаўцы была адбітая размешчанай там ротай 4 батальёна. Савецкі напад адбыўся таксама на Лучкі, дзе ў апошні час быў размешчаны па хатах звяз "Кубы" (Тадэвуша Орвіда). Аднак "Куба" выйшаў уначы на вылазку ў паўднёва-ўсходнім кірунку і наткнуўся на савецкіх партызан у ляску каля Мельхава. Падчас сутычкі бальшавікі панеслі значныя страты; выведвальны звяз "Івона" з прычыны перавагі супраціўніка змушаны быў адступіць" (Krajewski K. Armia Krajowa na Ziemi Lidzkiej.// Ziemia Lidzka. № 39. s.22).*

Выбіць залогу АК з Філонаўцаў і "ачысціць Лідскі раён ад белапольскіх банд" не ўдалося.

5 сакавіка 1944 г. атрад "Іскра" у складзе 135 чалавек здзейсніў паўторны напад на вёскі Боркі - Філонаўцы. Забіта 9, паранена 7 чалавек.

**Васільеў С.Ф.:** *"Белапалякі не супакоіліся і праз некаторы час пачалі свае бандыцкія дзеянні ў адносінах да партызанаў і насельніцтва. Я быў змушаны другасна 4 сакавіка паўтарыць аперацыю па знішчэнні астаткаў б/п бандытаў. На гэты раз яны атрымалі сваё заслужанае. Было забіта 50 бандытаў. Захопленыя вялікія трафеі. Вёскі Лучкі, Філонаўцы, хутары Забалаць і Пятроўскі былі поўнасцю вызваленыя ад б/п бандытаў. У сакавіку Дзяржынская і Кіраўская брыгады, перайшоўшы р. Нёман, аб'яд-*

*ными сіламі выбілі белапалякаў з в. Пятры, Лучкі, Філонаўцы".*

**Лазавы С.Т.:** *"Атрад "Іскра" балотамі перабраўся на хутар Забалаць, каб адрэзаць б/п бандытам шлях адыходу да Ліды. Завязаўся бой вакол в. Філонаўцы: запрацавалі кулямёты, аўтаматы, у ход пайшлі гранаты, у паветра ўзляцела драцяная агароджа. З вялікімі стратамі б/п бандыты пакінулі Філонаўцы. Балотамі і багнай адыходзілі, але тут "іскраўцы" далі аб сабе знаць. З балота і кустоў мы пачалі займаць хутар Забалаць, але з некаторых асобных хат б/п бандыты па нас вялі прыцэльны агонь, тады атрады падпалілі пару хат, з якіх б/п вялі агонь, выгналі іх да лесу і кулямётным агнём знішчылі. Кулямётны разлік Івана Дабралежы ва ўпор расстрэльваў б/п бандытаў, ён знішчыў з сваёй засады да 20 б/п. Калі мы занялі хутар Забалаць, выбілі б/п, праверылі ўсе адрыны, гумнішчы, склеп, шукалі бандытаў. На адным з гарышчаў я з хлопцамі набраў два мяшкі мерзлых журавін, паклаў на санкі, сам сеў кіраваць канём і еду па хутарской дарозе. Раптам па маім вазку стукнуў кулямёт, я прылёг у санках, схаваўся за мяшкі з журавінамі. Кулі, якія траплялі ў мяшкі звонку не здолелі дасягнуць майго цела, а пабітыя журавінкі апырскалі мне твар. У гарачцы я не заўважыў. Калі я пад'ехаў да групы сваіх таварышаў усё крыкнулі: "Лазавы паранены, глядзіце ўвесь у крыві, твар які". Да мяне падбег камісар атрада Рыгор Сямёнавіч Цімафеяў, спытаў: "Як ты сябе адчуваеш, ты што паранены?". Я адказаў: "Быццам усё ў парадку, з чаго гэта ты ўзяў ?"*

*- Ты паглядзі на сябе ў люстэрка.*

*- А дзе ж я яго вазьму.- Ён выняў сваю насоўку выцер мне твар, хустка была чырвоная, а твар чысты. Мы потым зразумелі, што гэта пырскі журавінавага соку, а журавіны я захапіў для параненых якія знаходзіліся ў партызанскім шпіталі".*

Пераказ вынікаў бою з пункта гледжання супраціўніка: *"Уначы з 4 на 5 сакавіка некалькі савецкіх партызанскіх брыгад, у тым ліку атрады брыгады імя Кірава, перайшлі Нёман. Бальшавікі ішлі з боку Скаменнага Бору і Боркаў, якія абрабавалі і ў якіх расправіліся з людзьмі, падазраванымі ў садзейнічанні АК. Савецкі рапарт з гэтай аперацыі гаворыць аб ліквідацыі 5 сем'яў "белапалякаў" і рэквізіцыі маёмасці. Раніцай 5 сакавіка падышлі пад Філонаўцы, але спачатку былі хутка спыненыя. У пагоню за адыходзячымі ў кірунку Боркаў саветамі пусціўся звяз "Кубы". Але не атрымаў падтрымкі ад падпаручніка "Аляксандра", досыць хутка заграз у баі з пераважнымі бальшавіцкімі сіламі на дамбе перад в. Боркі. Быў атакаваны абапал дамбы. Выкарыстаўшы момант, калі бальшавікі, якія рыхтаваліся да атакі, панеслі страты ад агню яго звяза, здолеў адступіць балотамі да в. Былінскія і Навіцкія. Страціў 2 забітых і некалькі параненых.*

*Савецкі напад на вёскі, якія ляжаць на захад ад Дакудава - Плябанцы, Нешыкоўшчына і Яськаўцы, быў адбіты звязам Станіслава Харужага "Ваўка". Рускія здолелі на некаторы час уварвацца ў Плябанцы, абрабавалі вёску і спалілі адзін будынак. Змушаныя былі да адступлення, прычым панеслі страты ў людзях.*

*Тым часам рускія партызаны працягвалі атаку на Філонаўцы. Падпаручнік "Аляксандр" быў паранены і не выявіў у гэтым баі неабходнай ініцыятывы. Быў паранены таксама камандзір звяза падхарунжы "Забава".*

*У гэты час "Куба", да звяза якога далучылася група з 20 чалавек, мабілізаваных з ваколіц в. Былінскія, маючы ў распараджэнні 50 салдат, накіраваўся да в. Лучкі, адкуль выцясніў бальшавікоў. Адыходзячы, пакінулі загінуўшых. Дзеянні, прадпрынятыя "Кубай", зменшылі нагрузку на залогу ў Філонаўцах, якой пагражала магчымасць савецкай атакі з поўначы. Затым "Куба" пайшоў на Пятры, дзе ізноў дайшло да бою. Ад куль савецкага снайпера загінулі два камандзіры аддзяленняў капрал Фрачкоўскі "Рысь" і капрал Ф. Натола "Фэлек". "Куба" адступіў з Пятроў.*

*У працяг цэлага дня баёў, якія адбываліся на вялікім абшары, савецкая аперацыя правалілася. Атака на Філонаўцы была адбітая. Загінулі 10 салдат АК, а таксама цяжка азначальны лік цывільных, напэўна больш дзесяці чалавек. Было таксама шмат параненых. Страты савецкай партызанкі можна ацэньваць у некалькі дзесяткаў забітых і параненых. У баях за Дакудава некалькі савецкіх брыгад выдаткавалі запасы боепрыпасаў і ў сувязі з гэтым згубілі здольнасць да далейшых акцыяў. Гэта была апошняя сур'ёзная савецкая аперацыя супраць атрадаў АК" "(Krajewski K. Armia Krajowa na Ziemi Lidzkiej.// Ziemia Lidzka. № 39. s.22-23).*

**Коннаў А.А.:** *"У баі ля в. Боркі, калі на групу партызан зрабіла налёт адна з белапольскіх банд, то першым агонь адкрыў кулямётчык Кудлаў і пасля прыкрываў адыход усёй групы, у гэтым баі знішчыў 5 белапалякаў і 9 раніў".*

У баі за в. Філонаўцы цяжка быў паранены разрыўнай куляй у поласць жывата Сеня - дэсантнік з спецгрупы маёра "Вераніка", яму было 16 гадоў, ён двойчы закідваўся ў тыл, меў два медалі. Памёр у пакутах на другі дзень.

**Сідар** з в. Пятры: *"Гэтая група - капітан Варатнікоў і 12 парашутыстаў выскачылі з самалёта ў в. Крывічы, для іх былі выкладзеныя 6 вогнішчаў, пры сабе мелі рацыю. Высаджаныя былі для сувязі, але дапамагалі. Разам з іскраўцамі хадзілі на Філонаўцы".*

Такім чынам і другая спроба выбіць залогу АК з Філонаўцаў завяршылася няўдала.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Валянціна Цыганец***

# Інсітнае мастацтва – мастацтва другой паловы XX стагоддзя

Тэрмін “insita” уведзены ў карыстанне ў 1966 годзе славацкім даследчыкам Штэфанам Ткачом, арганізатарам міжнародных выстаў-трыенале інсітнага мастацтва ў Браціславе. У перакладзе з лаціны “insitus” азначае “прыродны”, “несфармаваны”, “арыгінальны”. Прымітыў на сёняшні час займае асобнае месца ў мастацтве новага і навейшага часу.

Агульнапрызнана, што мастацтва ХХ стагоддзя развівалася пад знакам прымітывізму. Тэндэнцыі спрашчэння пластычнай мовы асабліва заўважныя напачатку складання еўрапейскага авангарду. Адбывалася гэта пад уплывам традыцыйнай культуры народаў пазаеўрапейскага рэгіёна, эстэтычнага асэнсавання першабытнага мастацтва і творчасці непрафесійных мастакоў, атрымаўшай разнастайныя дэфініцыі, апошняя з якіх - ***інсіта***. Характэрныя для яе прастата і непасрэднасць мовы для рафінаванага глядача стала загадкавай і прыцягальнай каштоўнасцю. Цікавасць да яе прывяла да ўзнікнення моды на мастацтва самавукаў, да фармавання асобнага кірунку мастацтва. На працягу ўсяго стагоддзя ішлі пошукі носьбітаў мастацкай цнатлівасці, у розных краінах збіраліся нацыянальныя калекцыі, вызначаліся лакальныя адметнасці. Паступова адбывалася пераасэнсаванне гісторыі сусветнага мастацтва і разам з класічным мастацтвам пачалі вывучацца ўзоры адыходу ад яго нормаў.

Калі будзем аналізаваць усеагульную гісторыю мастацтва, то абавязкова трапім на перыяды, калі рысы прымітыву дамінуюць. Лепш гэта бачна напачатку і напрыканцы развіцця любой мастацкай традыцыі: этнічнай, канфесійнай, проста лакальнай. Для прыкладу можна ўзгадаць раннехрысціянскае мастацтва альбо разнастайныя формы мастацкай культуры лацінаамерыканскіх краін часу барока ды сённяшнюю Афрыку. Перыяды культуры,адзначаныя рысамі прымітыву, часцей за ўсё разглядаюцца ў дыяхронным аспекце і таму застаюцца тыпалагічна нявызначанымі, закрытымі тым лакальным зместам, які іх напаўняе. Іх памежная яднальная сутнасць устрымаецца як адсутнасць стылістычнага адзінства, як эклектычнае спалучэнне розных традыцый. Аднак гэта паказчык таго, што соцыюм страчвае жорсткі кантроль над духоўнай дзейнасцю чалавека. Як раз адпрацаваны механізм перадачы культурнай памяці страчвае сваю моц і на замену ім прыходзіць асоба, якая на сваю рызыку пачынае ствараць новае.

Аналіз сучаснай культуры дэманструе тыпалагічную самастойнасць інсітнага мастацтва, таму што выяўляе межы функцыянавання кожнага з трох тыпаў творчасці: традыцыйнай (народнай), прафесійнай і памежнай – інсітнай. Негледзячы на тое, што гэтыя межы умоўныя і парушаюцца рознымі дыфузнымі формамі, можна вылучыць кола з’яваў з інсітнай вобразнасцю, грубаватай абагуленай выяўленчай мовай і, галоўнае, неструктураванай сферай функцыянавання. Сінхронны падыход у вывучэнні інсітнага мастацтва раскрывае яго сутнасць - спрадвечную хаатычную спантаннасць, дзе мастацкае праяўляецца не як культурная, а як біялагічная, ад прыроды дадзеная здольнасць да крэатыўнасці. Адсутнасць ясна акрэсленай структуры інсітнага мастацтва з’яўляецца яго ўнутранай стадыяльнай рысай. Вельмі розныя па культурных запатрабаваннях, адукацыйным узроўні і ўмовах жыцця тыя сацыяльныя пласты, якія складаюць яго базу. Сюды адносяцца шматлікія творцы, якія складаюць дзеля “ўнутраннай патрэбы”, усе віды аматарства з рознай ступенню непасрэднага стаўлення да свету і творчасці, некаторыя віды рыначнага мастацтва. Распачыналіся шматлікія спробы распрацаваць дакладную тыпалогію інсітнага мастацтва, але як толькі з’яўляўся новы талент з сваёй асаблівасцю, стылістыка прымушала пераглядзець склаўшуюся сістэму наноў.

Трэба растлумачыць разнастайнасць тэрмінаў інсітуса, каб уявіць у цэлым гэты кірунак. “Прымітыў” падкрэслівае толькі стылістычную блізкасць да традыцыйнага мастацтва пазаеўрапейскіх культур, аднак не адпавядае сутнасці інсітуса, дастаткова індывідуальнага ў параўнанні з калектыўнай традыцыяй. Тэрмін ”наіўнае мастацтва” закранае толькі вобразы, ідэйны лад інсітнага мастацтва і таксама не можа быць вычарпальным. Ён выяўляе характар здумення мастака. Тэрмін “інсітнае мастацтва” (прыроднае, несфармаванае, арыгінальнае) пазбаўлены ацэначнага сэнсу, падкрэслівае аўтаномнасць і самакаштоўнасць кожнай творчай з’явы і разам неструктураванасць усяго тыпу культуры. Само эстэтычнае асэнсаванне інсітнага мастацтва, якое адбылося на працягу ХХ стагоддзя, мае гістарычны характар, але сутнасць гэтага мастацтва знаходзіцца ў біялагічнай прыродзе чалавека, раскрывае кампенсуючы характар творчасці ў сацыяльнай і псіхалагічнай адаптацыі чалавека да прыроды і знешняга атачэння. Формы гэтага мастацтва з’яўляюцца вынікам жыццёвых перамен і сродкам прыстасавання да іх. Для вызначэння спантаных форм творчасці людзей з неураўнаважанай псіхікай скарыстоўваюцца яшчэ два тэрміны: “ар-брут” (неапрацаваны, сыры, шчыры) і мастацтва “аўтсайдэраў”. Вакол межаў у скарыстанні дадзеных тэрмінаў вядуцца бясконцыя спрэчкі і, як правіла, імі вызначаюць узоры маргінальнага мастацтва сацыяльна ізаляваных асоб. Іх творчасць дэманструе крайнюю вынаходлівасць і непаўторнасць.

Адсутнасць уласнай структуры робіць інсітнае мастацтва вельмі неакрэсленым у межах і асноўных кірунках развіцця. Разам з тым, умоўна можна больш дакладна вызначыць тры: аматарства, “наіўных рэаліс-

таў", мастакоў "унутранай патрэбы".

Асоба, якая прыахвочваецца да творчасці, мае поўную свабоду і развіваецца ў залежнасці ад характару свайго таленту, прыродных якасцяў і абраных аўтарытэтаў. У гісторыі савецкага мастацтва гэтая творчасць мела назву "самадзейнай".

Другі кірунак набліжае інсітнага мастака да эвалюцыі, якая адбываецца ў народным, традыцыйным мастацтве. Кожны аўтар мае свой непаўторны характар мастацтва

Трэцюю групу складаюць мастакі розных здольнасцяў і якасцяў. Гэтыя мастакі працуюць толькі для сябе. Спазнаўшы ўваскрасаючую моц творчасці, яе тэрапеўтычныя якасці, яны спажываюць яе як асабісты лад жыцця і спосаб самасцвярджэння. Дзейнасць многіх аўтараў набывае рысы культу, а творы з'яўляюцца духоўнай споведдзю.

Асноўнай вызначальнай рысай інсітнага мастацтва з'яўляецца першаснасць творчага працэсу, але яна мае адносны характар, бо залежыць ад агульнага стану культуры на канкрэтны гістарычны момант. Творчы момант інсітнага мастака зводзіцца да аднаўлення вобразу па памяці, альбо мадэлявання па ўяўленні. Інсітны мастак зрэдку ходзіць на плянэр, а калі і трапляе туды, дык толькі за кампанію. Свае працы ён заўсёды прыдумвае. Большасць твораў наіўнага мастацтва створаны таму, што ў аўтара не было магчымасці рэалізаваць сябе і сваю праўду ў жыцці. Таму ён прыдумвае, мадэлюе, даасэнсоўвае па-своему.

Сёння гэта распаўсюджанае мастацтва, а народнае мастацтва, як пэўны самастойны тып творчасці развіваецца па асобых законах цэласнасці і прадстаўляе сабой фенамен грамадска – гістарычнага і культурнага жыцця народа.

## Майстры інсітнага мастацтва Лідскага краю

На сённяшні дзень вядучымі і вядомымі майстрамі інсітуса Лідчыны з'яўляюцца два чалавекі – гэта Сцяпан Міхайлавіч Пуцко (1877 - 1962 г.г.) мастак-самавучка, у народзе бытуе прозвішча "багамаз" і вядомы мастак па дрэву - Міхась Антонавіч Рышкевіч (1926 - 2007 гг.). Іх імёны вядомы далёка за межамі Лідчыны

***Сцяпан Міхайлавіч Пуцко.***

Нарадзіўся у весцы Бабры Лідскага раёна, Гарадзенскай вобласці. Гэты чалавек быў высокай творчай асобай, якая не ўпісывалася ў рамкі традыцыйнай сельскай культуры з тым ладам жыцця ў той час, у які жыў мастак.

У Голдаўскім Доме культуры сабрана частка твораў мастака, на мой погляд, гэтыя творы дазваляюць нам з вамі думаць не толькі аб моднай ў апошні час праблеме культурнай маргінальнасці, але і таксама аб той ролі, якую інсітны мастак іграў у духоўна-культурным жыцці вёскі. Пуцко маляваў рознае: карціны, дываны-маляванкі, абразы (больш за усё), таму і атрымаў такую мянушку сярод аднавяскоўцаў "багамаз".

На сёняшні дзень у Голдаўскай царкве вісяць абразы рукі майстра: абраз "Успенне Багародзіцы", лікі двух анёлаў у царскай браме, Св. Міхаіл і Св. Сцяпан на бакавых варотах іканастаса, выразаныя па контуру і распісаныя фігуры двух анёлаў, якія стаяць у верхняй часцы іканастаса, фератрон, харугвы. Некалькі год назад адрамантавалі Радзівонішскую цэркву, на сценах царквы быў роспіс анёлаў, якіх маляваў майстар, але доўгі час царква была без даху і роспіс меў вельмі дрэнны выгляд, было прынята рашэнне замаляваць. Жыхары гавораць:" Калі замалёўвалі "Сцяпанавых анёлаў", то ўсе і мужчыны, і жанчыны плакалі, слёзы цяклі самі....", а вось абраз "Дабравесце" ёсць і сёння.

Калі пазіраешь на карціны Пуцко , то бачыш, што гэта тыпічны інсітус па свайму сюжэту. Творчасць мастака – гэта ўзор самабытнасці і непасрэднасці, той незвычайнай сілы, якая мае здольнасць уплываць на людзей, таму што і сёння моляцца тым абразам, якія ён маляваў больш стагоддзя назад. Мастак тонка адчуваў і разумеў прыроду, на яго карцінах яна сакавітая і ўрачыстая.

Нажаль сваіх дзяцей Сцяпан Міхайлавіч не меў, але яшчэ жыве дачка плямянніка – Капылова, яна беражэ партрэт бацькі мастака (картон, алей) і яшчэ некалькі невялічкіх работ. Гэта быў чалавек вельмі добры і вясёлы, таму і памяць яшчэ жыве сярод аднавяскоўцаў. І будзе жыць яшчэ вельмі доўга, таму што жывая "Сцяпанава памяць" у царкве.

***Міхась Антонавіч Рышкевіч.***

Нарадзіўся майстар у вёсцы Бешанкі Лідскага раёна Гарадзенскай вобласці. З дзяцінства цясляр любіў майстраваць разнастайныя мадэлі машын і самалётаў. Пазней, ужо ў сталым узросте, кожную хвіліну аддаваў улюбёнай справе – стварэнню замілаваных вобразаў родных вяскоўцаў, птушак ці звяроў, вырабу цудоўнай драўлянай мэблі. Доўгі час М.А Рышкевіч працаваў сталяром у мясцовай гаспадарцы, таму добра ведаў усе пароды дрэва, тэхналогію яго апрацоўкі. Менавіта таму мэблю ён звычайна робіць з ясеня, скульптурныя вобразы - з ліпы.

Нетаропкае, уважлівае знаёмства з работамі разбяра дазваляе ўбачыць, што ў драўлянай круглай скульптуры майстар асноўную ўвагу звяртае не на адлюстраванне прапорцый частак цела, а на выяўленне ўнутранага стану вобразаў. Некаторыя з іх сваё выцягнутасцю і ўзнёслай духоўнасцю вельмі нагадваюць сярэднявечная гатычныя скульптуры.

Своеасаблівае светаўспрыманне майстра, яго наіўны рэалізм, дазваляюць яму ствараць сапраўдныя высокаштоўныя творы інсітнага мастацтва. Адметнай рысай яго творчасці з'яўляецца яе шматбаковы характар. Ён аднолькава выдатна вырэзвае як звычайныя побытавыя рэчы, так і скульптуру (Паляўнічы, Ксёндз, Жанчына з граблямі, Мядзведзь, Рыбалоў, Салдат, Пісьменнік), мэблю. Дом разьбяра стаў сапраўдным музеем драўляных вырабаў. У М. Рышкевіча ёсць свая выставачная зала - для яе ён адвёў палову сваёй хаты.



**Фрагмент шафы, работы М. Рышкевіча**

Колькасць работ нават цяжка падлічыць, экспазіцыя ўвесь час папаўнялася покуль жыў майстар, частку работ ён дарыў добрым людзям ці тым, хто яму падабаўся.

Міхася Антонавіча добра ведалі навукоўцы і журналісты, пра яго пісалі артыкулы і здымалі фільмы. Гарадзенскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці набыў для свайго музея яшчэ ў 80-я гады лепшыя творы разьбяра. Маюцца яны і ў іншых музеях вобласці і рэспублікі, у калекцыях прыватных асоб. Лідскі раённы аддзел культуры падтрымліваў цесныя сувязі з народным майстрам.

У 2000 годзе было набыта 19 твораў М.А. Рышкевіча для Дома рамёстваў і зняты відэафільмы аб ім. Яго творы дэманстраваліся на раённай выставе народай твочасці, прысвечанай 2000-годдзю Хрысціянства і выклікалі вялікае захапленне ў наведвальнікаў. Пра сябе ён кажа так: ”Як я ўяўляю, так і вырэзваю”. У 1998 годзе майстар прыняты ў пачэсныя члены Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці.

У 2005 годзе Рышкевіч прымаў удзел у выставе прысвечанай 60-ці годдзю Перамогі у Вялікай Айчыннай вайне, негледзячы на хваробу ён здолеў паехаць сам. Апошняя з выстаў пры жыцці, дзе яго вырабы былі выстаўленны, адбылася ў лістападзе 2007 года, прысвечаная 10- ці годдзю абласнога аддзялення пачэсных членаў Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці, пад назвай “Кола рамёстваў”.

На апошняй сустрэчы (травень 2007 года) Міхась Антонавіч сказаў: ”Зараз вельмі цяжка рэзаць, ужо здароў’е не тое, ды і сіл няма, але вельмі хочацца.”

У снежні 2007 года сэрца майстра перастала біцца, ён памёр вельмі ціха, так і не ўспеўшы перадаць свой досвед, “таму, што талент нараджаецца разам з чалавекам” – гаварыў майстар, і я з ім згодная. Яго мастацтва будзе яшчэ доўга чараваць вока, пра яго творчасць яшчэ будзе гаварыць не адно пакаленне.



**М. Рышкевіч на выставе, прысвечанай 60-ці годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне (ліпень 2005 г.)**

***Літаратура:***

*Примитив и его место в художественной культуре нового и новейшего времени. М., 1983.*

*Тевоз М. Арт-Брют. Маргинальное искусство. М., 1999.*

*Інсітнае мастацтва Беларусі. В., 2003.*

*Некрасова М.А. Народное искусство как часть культуры. М. 1983.*

# Таленавіты публіцыст і сапраўдны патрыёт

**(Да 75-годдзя з дня нараджэння Аляксандра Васільевіча Жалкоўскага)**

Аматарам мастацкага слова вядомы уздзенскі Нізок, багаты на паэтаў. На гэтае паселішча падобныя дзятлаўскія Зачэпічы, якія слынны Ул. Калеснік назваў гняздом паэтаў. А вось Валянцін Блакіт у мемуарах "Уваскрасенне ўчарашняга дня" (часопіс "Дзеяслоў" № 6 за 2007 г.) параўноўвае з вёскай Нізок роднае Вострава, бо яно было багатае на рэдактараў, вось радкі з расповеду В. Блакіта: *"Саша Жалкоўскі доўгія гады рэдагаваў адну з лепшых у рэспубліцы лідскую газету "Уперад", Саша Сыч – "Астравецкую праўду", ну і я больш за трыццаць гадоў – "Вожык".*

Аўтар мемуараў прыгадвае, як юныя карэспандэнты з Вострава марылі стаць журналістамі і дасылалі свае нататкі ў розныя рэдакцыі: *"Творчую пальму першынства трымаў старэйшы Саша Жалкоўскі, чые допісы друкавала не толькі раёнка, а часам абласная і нават рэспубліканскія газеты. Навыперадкі за ім гналіся мы, маладзейшыя... Пасля сямігодкі Жалкоўскага ўзялі на работу ў рэдакцыю ў суседнюю Астрыну."*

Летам 1950 года ў тым невялікім мястэчку, якое было цэнтрам Васілішкаўскага раёна, 17- гадовы Саша Жалкоўскі пачаў працаваць адказным сакратаром рэдакцыі раённай газеты "Ленінскі шлях". Так пачалася яго журналісцкая біяграфія даўжынёй амаль шэсцьдзесят гадоў. А сасваталі яго на тую пасаду наборшчык мясцовай друкарні Міхаіл Яропкін, які партызаніў у астрынскай старане ў гады нямецкай акупацыі, і рэдактар Платон Дубовік, таксама былы партызан, толькі з Бярэзіншчыны. Яны ацанілі здольнасці селькара і не памыліліся: пасля атрымання адпаведнай адукацыі іх вылучэнец у розныя гады узначальваў воранаўскую, мастоўскую, лідскую газеты, звыш 15 гадоў працаваў у "Гродзенскай праўдзе". Ды і зараз шаноўны юбіляр супрацоўнічае з такімі выданнямі, як "Звязда" "Беларуская ніва", "Літаратура і мастацтва", "Краязнаўчая газета", "Наша слова", "Настаўніцкая газета", "Прынёманскія весці", "Лідская газета" і інш.



***Алесь Жалкоўскі каля магілы Марылі Верашчакі (Путкамер). Мястэчка Бенякон Воранаўскага р-на. 80-я гады XX ст***



***Ля помніка Цётцы ў Астрыне. Валянціна Коўтун, Алесь Жалкоўскі, Крысціна Лялько. 80-я гады XX ст***

Як грамадзянін і чалавек А. Жалкоўскі займае актыўную жыццёвую пазіцыю. Яго дабрачынная дзейнасць мае свае заслужаныя вынікі. Так у бытнасць рэдактарам газеты "Уперад" яе кіраўнік і яго калегі прымалі ўдзел у донарскім руху і ў дзейнасці Савецкага фонду міру, за што Аляксандр Жалкоўскі ўганараваны званнем "Ганаровы донар СССР" і Ганаровай граматы Савецкага фонду міру за подпісам яго старшыні легендарнага героя мінулай вайны Аляксея Марэссева.



***Першы злева Алесь Белакоз, трэці злева рэдактар мастоўскай газеты “Зара над Нёманам” Алесь Жалкоўскі, далей пісьменнік Аляксей Карпюк. Сярэдзіна 60-х гадоў.***



***Падчас сустрэчы з Нілам Гілевічам у Лідкім педкаледжы. Справа ад паэта яго стрыечны брат Леў Гілевіч - работнік Лідскай архітэктуры, злева Дзінара Мазітава, далей Алесь Жалкоўскі. 14.04.1997 г.***



***Дзень беларускага пісьменства і друку 1 верасня 2000 г. Алесь Жалкоўскі сярод сяброў Лідскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы перад помнікам Францішку Скарыну ў Лідзе.***

скага адрозніваюцца глыбокім зместам, каларытнасцю мовы, асабістым поглядам. Для пацвярджэння вышэй сказанага нагадаю словы Івана Лазуты, былога рэдактара Смаргонскай газеты "Светлы шлях": "Духам здаровага творчага саперніцтва былі прасякнуты нашы рэдакцыйныя будні, працавалася ахвотна, прыемна і лёгка. Такі дабратворны мікраклімат стварыў і падтрымліваў у калектыве наш паважаны шэф – рэдактар лідскай газеты "Уперад", Аляксандр Васільевіч Жалкоўскі. Мы стараліся раўняцца на яго і ў плане творчым: публікацыі рэдактара вызначаліся вастрынёй і дакладнасцю, цікавай формай падачы, былі выразна адметны жывым, вобразным словам. Амаль што сем гадоў пашчасціла мне працаваць пад прафесійнай і бацькоўскай апекай Аляксандра Васільевіча." (Іван Лазута "Пара ісці" з кнігі А. В. Богуша і В. П. Амелькі "Призвание быть журналистом", Гароднія, 2008 г.).

За шматлікія публікацыі аб духоўнай прыгажосці чалавека ён узнагароджаны медалём "2000 год Хрысціянству". Яшчэ хочацца адзначыць такі факт. А. Жалкоўскі адкрыў шматлікім чытачам імя земляка з Варшавы, вядомага публіцыста і збіральніка фальклору Лідчыны. Земавіта Фядэцкага, сына польскага, землеўласніка з маёнтка Лебяда. Трэба адзначыць, што тэматыка публіцыстычных матэрыялаў А. Жалкоўскага даволі разнастойная. Гэта і падзея культурнага жыцця рэгіёна, творчая дзейнасць мастацкіх калектываў і асобных паэтаў, скульптараў, мастакоў, музыкаў, гэта і грамадскія з'явы, праблемы эканомікі, дзейнасць уладных структур, грамадскіх арганізацый, міжнацыянальныя адносіны, жыццё ўстаноў адукацыі...

Аляксандр Жалкоўскі вылучаецца сваёй дабразычлівасцю, увагай да ўсяго і кожнага.

Артыкулы, нарысы, інтэрвію, допісы А. Жалкоўскага адрозніваюцца глыбокім зместам...

Я таксама далучаюся да гэтых слоў і хачу выказаць сваю шчырую ўдзячнасць Аляксандру Васільевічу за яго шматгадовую ўвагу да мяне як паэта і педагога і за тыя змястоўныя публікацыі аб маёй грамадскай, педагагічнай і творчай дзейнасці.

Дык моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця і плёну ў творчасці, шаноўны Аляксандр Васільевіч!

***Міхась Мельнік,***
***выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь.***

*Напрыканы патрэбна маленькае ўдакладненне. Юбіляр нарадзіўся не ў Востраве, сюды сям'ю яго бацькоў перавезлі немцы на прымусовыя работы ў маёнтак Чаляёршчына з ляснога хутара Цёмнае Балота, а пабудовы на хутары знішчылі.*

***Алесь Жалкоўскі***

# НЕЗАБЫЎНЫЯ СУСТРЭЧЫ

*Неяк мне давялося прысутнічаць на вечарыне, наладжанай Лідскім педагагічным каледжам ў гонар 80-годдзя з дня нараджэння Васіля Быкава. За больш чым паўвекавую журналісцкую работу не магу прыпомніць, каб так уважліва і зацікаўлена слухалі выступленні, як было гэта ў будучых настаўнікаў. Кожнае слова пра таленавітага пісьменніка слухачы, здавалася, успрымалі не толькі на слых, а найбольш душою. І навучэнцы, і выкладчыкі, было відавочна, жадалі даведацца аб Рыцары сумлення і свабоды нешта новае, пачуць сведчанні пра Майстра слова ад людзей, якія з ім мелі добрыя стасункі. Вось чаму па прапанове маіх сяброў я вырашыў падзяліцца ўспамінамі пра свае сустрэчы з пісьменнікам.*

## У адным кабінеце

З Васілём Быкавым мяне пазнаёміў у 50-х гадах ХХ стагоддзя Міхась Васілёк, вядомы заходнебеларускі паэт, мой зямляк па скідальска-астрынскай старонцы. Тады я працаваў у Астрыне ў рэдакцыі раённай газеты. А ў верасні 1960 года я амаль месяц працаваў побач з Васілём Уладзіміравічам у адным кабінеце. Было гэта пад час праходжання мною ў "Гродзенскай праўдзе" журналісцкай практыкі. Праўда той верасень быў азмрочаны смерцю Міхася Васілька, у пахаванні якога прымалі ўдзел тысячы гарадзенцаў...

Але вернемся ў рэдакцыйны кабінет. Тады В. Быкаву і мне, практыканту, даручылі прывесці ў парадак справы ў аддзеле лістоў, бо яго загадчык Адам Галагуцкі цяжка хварэў на сухоты і часга знаходзіўся ў бальніцы ці спецыялізаваным санаторыі. Помню, перабіраючы лісты чытачоў, звярнуў увагу на незвычайны зварот-скаргу. Гаворка там ішла пра неабходнасць адкрыць у Гародні польскую школу (яе праца была спынена ўладамі неўзабаве пасля вызвалення Прынёмання ад нямецкіх акупантаў). Паказаў Быкаву, той панёс ліст рэдактару. Калі ж Васіль Уладзіміравіч вярнуўся ад шэфа, то коратка паведаміў: "Галоўны сказаў, што для польскай школы не прыйшоў яшчэ час".

За месяц практыкі мае стасункі з В. Быкавым зблізіліся, сталі таварысцкімі. Мы абодва добра пашчыравалі, працуючы з мноствам лістоў. Адны падрыхтавалі да друку, іншыя паслалі на рэагаванне, многім аўтарам далі адказы. Тады я пераканаўся, што беспартыйны пісьменнік так уважліва адносіўся да лістоў, як, скажам, таго патрабавала партыя. Упэўнены, Васіль Уладзіміравіч ставіўся так да справы, кіруючыся сваёю чалавечнасцю і сумленнем. Галоўнае, мы заслужылі ад рэдактара Андрэя Коласа пахвалу.

Калі я пакідаў рэдакцыю абласной газеты, атрымаўшы неблагі ганарар, запрасіў пісьменніка адзначыць гэтую падзею, як гавораць, замачыць. Старэйшы таварыш падзякаваў, але ад пачастунку адмовіўся. Сказаў, што хоча папрацаваць над чарговым творам, а ў мяне, мяркую, тыя грошы не лішнія: маладой сям'і іх трэба нямала. На гэтым з узаемнай удзячнасцю і развіталіся.

## У Гудзевічах і Гародні

Пазней як рэдактару Мастоўскай, а затым і Лідскай раённых газет мне часта даводзілася бачыцца і размаўляць з В. Быкавым. Добра запомнілася сустрэча ў Гудзевічах у вядомага змагара за беларускую мову настаўніка Алеся Белакоза. Там жа былі Аляксей Пяткевіч, Ларыса Геніюш, маладыя паэткі Вольга Іпатава і Данута Бічэль. Белакоз пазнаёміў нас са створаным музеем. Потым мы схадзілі на вясковыя могілкі, дзе пакланіліся пахаваным там сваякам Л. Геніюш. А пасля была вячэра, як сказаў, здаецца Быкаў, шляхетная і шыкоўная. За гасцінным сталом вялася шчырая гутарка. Ларыса Антонаўна пахвалілася, што не так даўно атрымала ліст ад Максіма Танка. Кіраўнік Саюза пісьменнікаў, па словах Геніюш, запрашаў яе прыехаць ў Менск, абяцаў разам з ёю наведацца ў ЦК партыі да С. Марцалёва, каб услед за першым зборнікам паэтэсы "Невадам з Нёмана", выдадзеным у Беларусі, "прабіць" чарговую кнігу. Пачуўшы такое паведамленне, Васіль Уладзіміравіч кінуў рэпліку: "Едзь, едзь даТанка. Ён цябе зводзіць і да Марцалёва, і да Рудака". Пасля чаго ў некаторых з нашай кампаніі з'явіліся кіслыя ўсмешкі. "А хто такі Рудак?", - запытала пісьменніца. "Адзін з шэфаў беларускага КДБ", - пачула ў адказ былая нявольніца ГУЛАГу і разгублена спыніла размову.

Начаваць у Гудзевічах гарадзенцы не планавалі, таму я зараней дамовіўся са старшынём мясцовага калгаса, Леанідам Драбскім, каб вечарам выдзелілі машыну "казла". На тым старым скалечаным аўтамабілі госці вярнуліся ў Гародню.

Часта прыгадваю сустрэчу з В. Быкавым у красавіку 1976 года. Тады я працаваў у Лідзе



***Сустрэча з пісьменнікамі ў Гудзевічах (Мастоўскі р-н) 14 траўня 1967 г. Праводзілі яе Алесь Белакоз і рэдакцыя раённай газеты "Зара над Нёманам". На здымку злева направа: Валя Жалкоўская, трэцяя Вольга Іпатава, Аляксей Пяткевіч, Данута Бічэль, Вера Белакоз, Алесь Жалкоўскі; на заднім плане ў цэнтры Васіль Быкаў, Ларыса Геніюш, Алесь Белакоз.***

рэдактарам аб'яднанай газеты "Уперад". Прыехаў у Гародню, каб атрымаць санаторнае накіраванне. Іду з ім у кішэні ў добрым настроі па вуліцы Карла Маркса, дзесьці ля сённяшняга паштамта і сустракаю Васіля Уладзіміравіча. Пытае пра навіны. А я паказваю яму накіраванне. "Як добра, што мы спаткаліся, - кажа пісьменнік. - Знайдзі час і з'ездзі ў Ялту, адшукай там на старым пагосце магілку Максіма Багдановіча. Пакланіся яму ад нас і пакладзі кветкі". Просьбу тую я выканаў і ўспамінаю аб гэтым з гонарам. Разам з Ігнатам Ігнатовічам, тадышнім старшынём прафкаму Лідскага райбыткамбіната і наваполацкай журналісткай Святланай (працавала яна ў той час сакратаром гарвыканкаму) мы прывялі ў парадак месца вечнага спачыну класіка, усклалі кветкі і ў тужлівым маўчанні стаялі перад сціплым помнікам, чытаючы моўчкі выбітыя на ім вершаваныя радкі...

## У Лідзе

Ранняя вясна 1974 года. У Лідзе адзначаліся хіба Дні культуры народаў СССР. 23 сакавіка пры ўездзе ў горад з гарадзенскай шашы прадстаўнікі уладных структур сустракалі дэлегацыю творчай інтэлігенцыі суседняй Літвы. Тую групу суправаджалі В. Быкаў, чыноўнікі з Гародні. Народнаму пісьменніку Беларусі ўручыла кветкі загадчыца ідэалагічнага аддзела гаркаму партыі Таццяна Бязлепкіна. Мне выпаў гонар прывітаць такім жа чынам на нашаій зямлі літоўскую артыстку і паэтку Мяйле Кудараўсайце.

На дварэ была халодная раніца. Мы селі ў машыны і паехалі да гасцініцы. На яе ганку я пачуў ад В. Быкава нечаканую прапанову. "Давай заскочым у рэстаран і зробім па чарцы, пакуль там госці ў гатэлі ўладкуюцца". І далей патлумачыў, што напярэдадні гасцей, якіх Васіль Уладзіміравіч суправаджаў, прымалі ў прафілакторыі, здаецца аб'яднання "Азот". Пачастунак там быў слабы. А тут і ўчора, і сёння халадэча. Словам, зайшлі мы ў рэстаран, дзе я бываў рэдка, з нагоды прыезду важных гасцей, і, вядома, нікога з абслугі не ведаў. Таму нам давялося набрацца цярпення пакуль атрымалі па чарцы спіртнога і закуску, хоць у зале рэстарана наведвальнікаў фактычна не было.

Неўзабаве мы далучыліся да агульнай кампаніі. Потым былі сустрэчы ў працоўных калектывах і, канешне, пачастункі. Думаю, лепшыя, чым ў Гародні.



***Васіль Быкаў у Лідзе з 23.03.1974 г. з толькі што атрыманымі кветкамі.***



***Алесь Жалкоўскі ўручае кветкі Генадзю Бураўкіну, крайні справа Васіíь Быкаў. Ліда, 23.03.1974 г.***

Калі ж гаварыць на гастранамічныя тэмы, то варта расказаць пра іншы прыезд В.Быкава на Лідчыну і званы абед у тым жа рэстаране. Нас было мо чалавек з дзесятак, размясціліся мы на другім паверсе ў так званай грэчаскай зале. Васіль Уладзіміравіч сядзеў побач з першым сакратаром

райкаму КПБ Сцяпанам Грывачэўскім. Апошпі па абавязку гаспадара сачыў, каб госці пілі і елі, падтрымліваў шчырую гутарку. С. Грывачэўскі раптам звярнуў увагу, што адзін з прысугных, вядомы беларускі пісьменнік, ігнаруе чарку. І спрабаваў неяк на гэта паўплываць. Але тут слова ўзяў Быкаў. І выказаўся прыблізна так: “Пашкадуйце добрага чалавека. Ён, бедны адлічвае дні, калі, як сказаў доктар, можна будзе прыгубіцца. Іншая натура ў майго сябра Карпюка, які цярпець не можа спіртнога...”

Далей В. Быкаў з цёплай усмешкай распавёў пра стаўленне Карпюка катэгарычна-адмоўнае, да ўсялякіх выпівак. У ліку розных навін, якімі абменьваліся сябры-пісьменнікі, былі і весткі аб смерці знаёмых людзей. У Карпюка, па сведчанні Быкава, на гэта быў адзін адказ-каментар: “Піў, то і памёр”. Аднойчы, расказваў Васіль Уладзіміравіч, ён паправіў сябрука ў яго ацэнцы чарговага нябожчыка: “А вось гэты, Аляксей, то не піў, не тое ты гаворыш”. “Дык курыў, якая розніца”, - не здаваўся Карпюк. Вось, якія аказваецца, бываюць дыялогі між творцамі.

Праклятая многімі гарэлка, віно і выпіўкі часта згадваюцца ў нядаўна выдадзенай кнізе В. Быкава “Доўгая дарога дадому”. А тут і я свае тры грошы ўсунуў. Каб у чытача не склалася памылковая думка, лічу патрэбным падкрэсліць, што шаноўны пісьменнік стрымана адносіўся да выпівак, стараўся іх пазбягаць. Гэта сцвярджаю не толькі на падставе нашых стасункаў, а і сведчанняў знаёмых пісьменнікаў і журналістаў.

## ... і ў Менску

Апошняя мая сустрэча з Васілём Быкавым адбылася ў Менску 7 кастрычніка 1992 года ў Доме дружбы па вуліцы Захарава на канферэнцыі Беларускага таварысгва дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі. Аказаўся я там у якасці дэлегата, будучы старшынём Лідскага аддзялення таварыства “Беларусь-Польшча”.

Пабачыць адзін аднаго ды пагаварыць было для нас радаснай падзеяй. Спачатку мы размаўлялі ў калідоры, што вёў да залы паседжанняў, затым пайшлі ў залу і селі на крэслах. Васіль Уладзіміравіч распытваў мяне пра агульных знаёмых у Гародні, апавядаў пра гарадзенцаў, што атабарыліся ў сталіцы Высока ацэньваў чалавечнасць адных. Іншых характарызаваў як спрытнюг і падхалімаў.

Не абышлася гаворка без палітыкі, нараканняў на гады і здароўе. Са шкадаваннем пісьменнік казаў, што на яго роднай Віцебшчыне слаба развіваецца дэмакратычны рух. Калі зайшла гаворка пра ўзрост, я сказаў Васілю Уладзіміравічу, што рэгулярна адзначаю яго дзень нараджэння. “Як гэга так?” - пачуў ад суразмоўцы. Тады з маіх вуснаў прагучала тлумачэнне, пра тое, што ў адзін дземь з вядомым пісьменнікам, 19 чэрвеня, нарадзіўся мой бацька, таксама Васіль. Я рэгулярна наведваў з гэтай нагоды тату на адзінокім хутары пад Астрыною. Віншаваў дарагога чалавека і разам з ім падымалі чаркі. А потым гаварыў: “Давайце, тата, зробім яшчэ па адной чарцы. Вып’ем таксама за Васіля, вашага цёзку Васіля Быкава”. Татавы вочы пры гэтым свяціліся радасцю. І мы зноў апаражнялі свае чаркі. Пачуўшы такі аповяд, В. Быкаў расчулена мне падзякаваў. Хоць апошняе наша спатканне праходзіла, як кажуць, у казённым доме, яно было надзвычай цёплым і сардэчным. А 16 чэрвеня 2003 года я паслаў цяжка хвораму В. Быкаву ліст-віншаванне да яго 79-х угодкаў з дня нараджэння. Праз 5 дзён вялікі пісьменнік пакінуў наш свет.

Мяркую, шаноўныя чытачы зразумеюць мяне, што я ў сваім артыкуле не стаў даваць ацэнкі творам Быкава і яго творчасці. Гэта зрабілі мільёны сімпатыкаў творчасці таленавітага пісьменніка, рыцара сумлення і свабоды. У часы СССР мне давялося быць сведкам нападкаў, а то і цкавання Васіля Ўладзіміравіча. Але тадышнія ўлады не маглі не лічыцца з яго вялікім талентам. І калі пісьменніку было 50 гадоў, як расказваў мне рэдактар “Гродзенскай праўды” Аляксандр Богуш, тагачасны першы сакратар абкаму партыі Л. Кляцкоў сазваніўся з першым журналістам вобласці і прапанаваў яму разам схадзіць да В. Быкава на кватэру і павіншаваць юбіляра. Далей, наш знакаміты сучаснік неаднаразова выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі. Яму былі нададзены высокія званні Народнага пісьменніка, Героя Сацыялістычнай Працы, ён быў лаўрэатам Ленінскай і Дзяржаўнай прэміі СССР.

Гэты артыкул заканчваю выказваннем свайго колішняга калегі Івана Вераб’ёва, ранейшага рэдактара Навагрadскай раённай газеты, ветэрана вайны. Ён гаварыў так: “Мы сучаснікі Быкава, нашы дзеці і ўнукі будзем з кожным годам ганарыцца ўсё больш, што жылі з вялікім пісьменнікам ў адной краіне, на адной зямлі”. Відавочную ісціну ўсведамляюць мільёмы людзей. А гэта, згадзіцеся, лепшыя кветкі ў вянок незабыўнаму Васілю Уладзіміравічу, нашаму прароку.

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ




У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя”, г. Менск, выйшла кніга “Памяць Беларусі. Рэспубліканская кніга”. 592 ст. Наклад 15000 асобнікаў.




Інстытут беларусістыкі, г. Вільня, выдаў кнігу Юрыя Туронка “Мадэрная гісторыя Беларусі”, 904 ст. Наклад 1000 асобнікаў.




Выдавец І.П. Логвінаў, г. Менск, выдаў кнігу “Найяснейшая Рэч Паспалітая”, укладальнік Алег Дзярновіч, 348 ст. Наклад 1000 асобнікаў.




У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя”, г. Менск, выйшла 1-я кніга 3-га тома кнігі Я.Ф. Карскага “Беларусы”, 584 ст. Наклад 2000 асобнікаў.




Інстытут беларусістыкі, г. Вільня, выдаў кнігу Пятра Краўчанкі “Беларусь на ростанях. Нататкі дыплпмата і палітыка”, 518 ст. Наклад 1000 асобнікаў.




У выдавецтве “Літаратура і мастацтва”, г. Менск, выйшла кніга Анатоля Мяснікова “Сто асоб беларускай гісторыі”, 344 ст. Наклад 2000 асобнікаў.




У Смаленску выйшла кніга Юркі Віцьбіча “Антыбальшавіцкія паўстанні і партызанская барацьба на Беларусі”, выданне другое выпраўленае, 308 ст. Наклад 500 асобнікаў.




***Помнік воінам-інтэрнацыяналістам у Лідзе (вул. Савецкая).***

*Здымак Ігара Пешахонава.*